Пераклад Васіля Раманава 2014 г.

Мітрафан Доўнар-Запольскі

# Нарыс гісторыі Крывічскай і Дрэгавічскай зямель да канца XII ст.

Змест



Quid potui, Feci,
Faciant meliora patentes.

Выпускаючы ў свет гэтую сваю працу лічу неабходным сказаць некалькі слоў pro domo sua.

Не магу не звярнуць увагу крытыкі на тое, што прапаноўваемыя “Нарысы гісторыі крывічскай і дрэгасічскай зямель” былі напісаны мной яшчэ ў 1888 годзе. Выраўшы зараз выдаць гэтую працу, нельга не заўважыць, што яна ў шмат якіх адносінах далёка не дастатковая; але шмат каму вядома, як цяжка перапісаць аднойчы напісаннае, колькі ўяўляе такая праца пакутлівых цяжкасьцей. Пагэтаму я адважыўся толькі на некаторыя перамены.

Прычыны, якія стрымлівалі мяне ад выдання гэтай працы на працягу больш чым двух гадоў, на жаль, дзейсныя да гэтага часу. Мяне стрымлівала тая абставіна, што некаторыя пытанні нашай старажытнейшай гісторыі, у сваёй аснове, яшчэ не распрацаваны, не праяснены; і,  менавіта, тыя пытанні, якія блізка звязаны з гісторыяй нашага Паўночна-Заходняга краю; гэта пытанні аб скандынаўскіх сагах, у якіх не аднойчы згадваецца імя Полацка і Смаленска, як

крыніца для нашай гісторыі, аб адносінах крывічэй да наўгародзкіх славян, аб крывічскай каланізацыі ў вобласьці вугорскіх і літоўскіх плямён і інш.; нарэшце, для праяснення ўнутранага побыту першабытнай эпохі археалагічныя раскопкі, зробленыя да гэтага часу, далёка не дастатковыя. Зыходзячы з таго, што пытанні гісторыі Крывічэй і Дрыгавічэй, таксама як і іншыя, цесна з імі звязаны, патрабуюць больш дакладнай і поўнай апрацоўкі, то мы вырашылі ў цяперашні час выдаць тольку частку задуманнай намі працы, спадзяючыся ў невызначанай будучыні зрабіць і астатнюю. Вось чаму засталіся не выкананымі абяцанні на стр. 62 разгледзець пытанні каланізацыі.

Прапануемую працу мы абмяжоўваем межамі XII ст., прытрымліваючыся двух галоўных задач: разгледзець геаграфічнае становішча Тураўскага, Смаленскага і Полацкага княстваў у дачыненні палітычнага жыцця названых княстваў, наколькі тое і другое магчыма па дадзеных нашых летапісаў.

Алеі ў гэтых вузкіх межах наша праца, думаецца, не з’яўляецца ўрывачнай. Мы заканчваем гісторыю крывічэй і дрэгавічэй як раз у той перыяд, калі ў іх заўважаецца пералом. Незалежнасць Смаленскага княства поўнасьцю здзейснілася і яно імкнецца стварыць із сябе цэнтр на захадзе, падобны да Уладзімірскага на ўсходзе; інтарэсы Полацкага княства паварочваюцца на захад, да немцаў і літоўцаў; апошні элемент, відавочна, пачынае тут занімаць значнае месца, уваходзіць у больш цесныя адносіны з палачанамі, у ім пачынае абуджэнне, якое стала заўважацца ў апошняй чвэрці XII ст., вельмі цяжка адсочваемае па тых крыніцах, якія мы маем, але наступствы якога рэльефна выявіліся ў сярэдзіне наступнага стагоддзя. Нарэшце Турава-Пінская вобласць атрымлівае некаторую самастойнасць, сваю княжацкую лінію, яе інтарэсы таксама паварочваюцца, як наступствы падзення Кіеўскага княства, на захад, да Галіча, цэнтр гэтай вобласьці із Турава пераходзіць у Пінск.

На заключэнне лічу сваім прыемным абавязкам выказаць сваю ўдзячнасць прафесарам: Уладзіміру Баніфацьевічу Антановічу, Уладзіміру Сьцяпанавічу Іконнікаву і Пятру Васільевічу Галубоўскаму, дапамога і парады якіх садзейнічалі паспяховаму ходу маіх заняткаў.

————

*“І зараз жа спадары бацькі і браты, аже ся дзе буду апісаў, ці перапісаў, ці недапісаў, лічыце зроблемым Бога дзеля, а не кляніце, занежа кнігі ветшаны і рзум маладыне дайшоў, слухайце апостала Паўла глаголючага: не кляніце, а благаслáвіце”.*

Пасляслоўе. Лаўрэнціеўскі летапіс.

*“Еліка абретох, толіка любатруна напісах, а еліка сіл маіх немагчыма, то як магу нагадаці, яго ж не бачыўшы перад сабою ляжачага? Не маючы многай памяці, не навучуўшыся дохтарскаму наказанню, ежэ сачыняці повесьці і украшаці прэмудрымі словесамі, як звычай маюць рытары”.*

Цвярскі летапіс, р 142.

# Частка I.
# Геаграфічны нарыс зямлі крывічэй і дрэгавічэй да XIII ст.

Паўночна-заходняя частка Расіі, зараз вядомая пад назвай Беларусь, у старажытнасьці была населена трымя рознымі плямёнамі: *Дрыгавічамі*, *Радзімічамі* і *Крывічамі*; апошнія яшчэ падзяляліся на полацкіх і смаленскіх. Гэтыя плямёны, на пачатку гістарычнага жыцця рускага народу, складалі значную частку тагачаснай Русі. Наколькі роднаснымі яны былі паміж сабой у старажытнасьці цяжка вызначыць у цяперашні час; аднак, калі ўважліва прыгледзецца да ходу іх гісторыі і звярнуць увагу на тое, што потым яны стварылі адну этнаграфічную групу – беларусаў, можна думаць аб іх блізкім этнаграфічным радстве ўжо у той аддалены перыяд, калі складалась Русь. Калі прыгледзецца да гістарычнага жыцця гэтых плямёнаў, то заўважаецца іх абасобленасць ад жыцця астатняй Русі; у іх адбываецца, відавочна, нейкае ўнутранае жыццё, але зараз яго цяжка прасачыць праз недахоп летапісных дадзеных. Выключэнне, як быццам, складае племя радзімічаў, гісторыя якога амаль не заўважаецца ў нашых летапісах; яны ніколі не жылі самастойным палітычным жыццём і належалі Чарнігаўскаму княству. Аднак радзімічы не былі ассіміляваны севяранамі, не гледзячы на доўгае сумеснае жыццё; насупраць, далучыліся да сваіх паўночных суседзей – крывічэй і разам з дрыгавічамі стварылі асобную этнаграфічную групу.

Гісторыя радзімічэй, верагодна, паказвае менавіта на тое, што ўжо ў старажытнасьці пазначаныя плямёны мелі агульныя этнагарафічныя асаблівасьці, якія дапамлі ім зліцца ў адну народнасць, не гледзячы на раздробленасць і знешні ўплыў. Такому зліццю трох плямён у адно этнаграфічнае цэлае, бясспрэчна, дапамагла і тая абставіна, што геаграфічнае становішча іх амаль аднолькавае, таксама як і прырода краіны, якую яны занімалі.

Паўднёвая мяжа дрыгавічэй з палянамі і валынянамі пачыналася амаль у вусьці Прыпяці і ішла далей па ўсяму яе цячэнню вузкай паласой па паўднёвым беразе, прыблізна па цяперашняй Валынскай і Менскай губерній. Далей на захад ад верхавін Прыпяці па яе прытоку Піне, мяжа пераходзіла да Заходняга Бугу, які перасякала недзе каля Брэста-Літоўскага, старажытнага Бярэсця. Ад Бярэсця мяжа, пакінуўшы напрамак з усходу на захад, ішла на паўночны-захад па Бугу, па цяперашняй мяжы Гродзенскай губерніі. На гэтай паўднёвай мяжы мы бачым ужо да XIII ст. наступныя гарады: Мазыр, зараз уездны горад Менскай губерніі, Тураў, зараз мястэчка Мазырскага ўезду, Пінск (Пінеск), зараз уездны горад Менскай губерніі, Бярэсце, зараз уездны горад Гродзенскай губерніі.

Паўднёва-заходнняя мяжа, верагодна, не заходзіла далей Дарагічына, зараз мястэчка Гродзенскай губерніі на рацэ Заходні Буг, аддуль яна накіроўвалася да Гародні, зараз губернскі горад. Затым, пераходзячы ў цяперашнюю Віленскую губернію, адразала яе паўднёва-усходнюю частку на поўдзень ад гарада Вільня, захопліваючы усю верхавіну ракі Вілія, і пераходзіла нарэшце да Дзвіны, у цяперашнюю Віцебскую губернію. Рубеж перасякання Заходняй Дзвіны, верагодна, праходзіў крыху на поўночны-захад ад Полацка, прыблізна па сучаснай мяжы Полацкага ўезда з Дрысненскім і Себежскім. Мяжа, захапіўшы верхавіны ракі Вялікай, перамяняла паўночны накірунак на ўсходні і на гэтым напрамку праходзіла па паўночнай мяжы Віцебскай губерніі да рэчкі Ловаць, ніжэй Вялікіх Лук, якія ўжо належлі Ноўгараду. Такім чынам, Полацкая вобласць уключала ўсю азёрную вобласць Себежскага і Невельскага ўездаў, а далей даходзіла да возера Дзвінне.

На гэтай працяглай заходняй і паўночнай мяжы нам вядома у дадзены перыяд вельмі мала гарадоў, а менавіта: памянутыя Дарагічын і Гародня, Заслаўль, Гарадзец, Полацк і Невель, уездныя гарады Віцебскай губерніі, Усвят, Еменец.

Наогул, паказаныя намі межы могуць вельмі прыблізна паказаць этнаграфічную мяжу паміждыгавічамі і палачанамі. За гэтымі межамі былі літоўскія селішчы, гісторыя якіх да XIII ст. амаль невядома. У рускіх летапісах мы знаходзім толькі не выразныя намёкі на літўска-рускія адносіны ў дадзены перыяд. Такая мізэрнасць звестак выявілася таму, што мы не маем менавіта Полацкага летапісу, які, верагодна, змяшчаў патрэбныя нам звесткі. Паміж іншым, адносіны палачан з Літвой адзначаліся вельмі мірным характарам. Пагэтаму, Кіеўскі, Валынскі і Наўгародскі летапісы, якія цікавіліся найбольш значнымі падзеямі сваіх абласьцей, зусім не ведаюць адносін паміж Полацкам і Літвой.

Між іншым, некаторыя іншыя крыніцы, (як, напрыклад, латышскія хронікі) паказваюць, што палітычныя межы Полацкага княства былі значна шырэйшымі: яму падпарадкоўваліся шмат якія літоўскія плямёны.

За Усьвятамі, каля возера Дзвінне, тэрыторыя полацкіх крывічэй сустракалась са смаленскімі крывічамі. Вобласць апошніх, уключыўшы возера Жыажэц і Тарапецкае з горадам Тарапцом, пераходзіла да верхавін Волгі, дзе ў іх быў горад Ржоў і адтуль накіроўвалася на поўдзень да Протвы, прытоку ракі Масква. Усходняя мяжа Смаленскіх крывічэй, уключаючы ў сябе верхавіны ракі Протвы, адтуль накіроўвалася на поўдзень да сярэдняга цячэння Угры; па гэтай рэчцы, абмяжоўваючы верхавіны Бодвы Ў Калужскай губерніі, занімаючы паўднёвую частку Раслаўскага ўезду і, праходзячы па паўднёвай частцы Магілёўскай губерніі, паўночней Чачэрска, старажытнага горада радзімічаў, сустракалась з Дняпром ніжэй горада Рагачова.

Вось агульныя геаграфічныя межы палачан. Потым мы больш дакладна іх вызначым, а зараз разгледзім асаблівасьці краіны населенай імі.

# I.
# Краіна.

Што да паверхні разглядаемай прасторы, то трэба заўважыць, што яна ўяўляе суцэльную раўніну, на якой зрэдку трапляюцца больш высокія мясьціны, якi паднімаюцца, дарэчы, не больш за тысячу футаў над паверхняй мора. Гэтыя ўзвышшы, якія ўяўляюць сабой шэраг пагоркаў на больш высокай паверхні, складаюць адзін шэраг узвышшаў, перасякаючых усю Беларусь у паўднёва-заходнім накірунку. Акрамя таго, уся раўнінная прастора Беларусі не аднолькава ўзнята над узроўнем мора. У агульным Смаленская губернія знаходзіцца значна вышэй чым суседняя Магілёўская. Ад Магілёўскай губерніі паверхня паступова яшчэ больш паніжаецца ў напрамку да Прыпяці, пойма якой, асабліва яе верхняя частка з прытокамі Пінай і Ясельдай, уяўляюць глыбокую катлавіну. Затым гэтая катлавіна паступова павышаецца і заходняя палавіна Гродзенскай губерніі ўяўляе сабой параўнальна узвышаную раўніну.

Горны краж, які праходзіць праз Беларусь, называемы часам Алаунскім, захоплівае паўночна-ўсходнюю частку Смаленскай губерніі, як працяг Валдайскага ўзвышэння. Так, уезды гэтай губерніі: Бельскі, часткова Сычаўскі і Парэчанскі належаць да самай узвышанай часткі губерніі[1].

Адсюль мясцовасць значна паніжаецца на поўдзень, пачынаючы ад Дарагабужа, ва ўездзе якога Філатава ўзвышаецца над паверхняй мора на 896,6 футы[2].

Гэты краж больш вузкай паласой заходзіць ў Магілёўскую губернію, у выглядзе некалькіх пагоркаў. Із Смаленскай губерніі гэты краж уваходзіць у Магілёўскую ў Аршанскім уездзе паміж Мікуліным і Рудняй. Затым далей ён накіроўваецца на м. Бабінівічы, дзе ён, ахопліваючы Верацейскае балота, разыходзіцца ў два бакі: на Клішанкі і Грышаны. Мясцовасць каля Верацейскага балота з’яўляецца самай узвышанай у губерніі: абсалютная яе вышыня над узроўнем мора даходзіць да 800-900 футаў; Бабінічы ўзвышаюцца на 640 футаў[3].

Далей гэты краж праходзіць па Аршанскаму ўезду на Дубенцы, Каменку і амаль па мяжы Свіненскага ўезду, каля мястэчка Смаляны, вёскі Казінай Горкі, за якой губляецца ў працяглых балотах і лясах.

Каля мяжы Магілёўскай губерніі з Менскай, на памежжы Свіненскага ўезду, узвышша робіцца заўважальным, паварочвае па мяжы Менскай губерніі

---

[1] Я Салалаўёў “Сельска-гаспадарчая характарыстыка Смаленскай губерніі”. М. 1865 г. стр. 3. “Смаленская губернія. Спіс неселеных пунктаў па звестках за 1859 год” (Пет. 1888 г.) стр 3. Наогул матэрыяламі для гэтага нырыса паслужылі: Матэрыялы для геанрафіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі генеральнага штабу, па губерніях: Менскай, Віцебскай, Віленскай, Гродзенскай, Смаленскай. Апісанне Магілёўскай губерніі Дэмбавецкага. Сельска-гаспадарчая статыстыка Смаленскай губерніі Салаўёва. Працы Менскага статыстычнага камітэта 1870 года вып.1. Памятная кніжка па Менскай губерніі 1878 год, ч. 2, на 1889 і 1890 г. Памятная кніжка па Віцебскай губерніі за 60-ыя гады . Неаграфічны і статыстычны слоўнік Сямёнава. Słownik geograficzny (Warszawa, выд. Рэд. “Więdrowca”). Жывапісная Расія т.III. Спіс населеных мясцовасьцей Смаленскай губерніі і некатор інш.

[2] “Смаленская губернія. Спіс неселеных пунктаў (Пет. 1868 г.), стр III”

[3] Дэмбавецкі. Нарысы апісання Магілёўскай губерніі т. I, стр.181-182

на поўнач і, ідучы ў такім напрамку да Калодзінец, паварочвае у Менскую губернію на мястэчка Халапнічы[4]. У Менскай губерніі каля Халапеніч горны краж накіроўваецца па мяжы Менскай губерніі з Магілёўскай, у якой каля Рыгаровіч паднімаецца да 925 футаў, потым ад Валасовіч у Віцебскай губерніі яно накіроўваецца да возера Манец, Пельё, Бярэшта, мясцовасць якіх узвышаецца над узроўнем мора на 1000 футаў. Па мяжы Віцебскай і Менскай губерній, дзе краж крыху паніжаецца, даходзячы каля мястэчка Пышнагор'е Віцебскай губерніі да 755 футаў вышыні – накіроўваецца да мяжы Віленскай губерніі, у межах якой - у Кавалях уздымаецца на вышыню 753 футы, у Варганах на 771 футы. Далей узвышша накіроўваецца на паўдзень да мястэчка Докшыцы Менскай губерніі, дасягаючы ў Дамашковічах Менскай губерніі значнай вышыні - 947 футаў[5].

Краж, то паніжаючысь, то павышаючысь, праходзіць на поўдзень шырокай паласой па двум суседніх губернях: па Віленскай губерніі – па частцы Вілейскага ўезду, у якім павышаецца: Кандраты на 1015 футаў, Мядзель на 742 футы, Свянцяцкага і Віленскага, у якіх найвышэйшыя кропкі знаходзяцца пры Медніках - на 1036 футы, Юзафатаве – на 973 футы, Янкаўшчызне – на 959 футы, Забіжы – на 938 футы і інш.; праз Ашмянскі ўезд, у якім вышэйшыя кропкі гэта: Пупішкі – на 1106 футы, Лойцы – на 987 футы, Доукмы – на 721 футы і інш., і, нарэшце, праз Лідзкі ўезд пераходзіць[6] у Гродзенскую губернію. Адпаведна гэтаму і па Менскай губерніі краж цягнецца спачатку у паўднёвым, а потым у паўднёва-заходнім накірунку..

Ад Докшыц ён накіроўваецца на Дамашкавічы, адтуль да мяжы Менскага і Барысаўскага ўездаў і каля Лысай Гары краж дасягае найбольшай вышыні – 1129,8 футоў над узроўнем мора. Адсюль ён ідзе праз Менскі ўезд на Дубраву якая ўзвышаецца на 1117 футаў, Залессе – на 1091 футы, Ракаў, Вольму, Кайданаў і Возера, якое ўзвышаецца на 722 футы. Адсюль краж накіроўваецца на мястэчка Кавалевічы (773 ф.), Кандратовічы (752 ф.), Юшковічы (772 ф.), Міцкевічы, недалёка ад Несвіжа ў Навагрудзкім уездзе (755 ф.), далей на Клецк.

Адсюль уся гэтая ўзвышаная раўніна Менскай губерніі крута паварочвае на захад і, ледзь дасягаючы паўночнай мяжы Пінскага ўезду, накіроўваецца ў Гродзенскую губернію да ўезднага горада Пружаны[7]. Уся паўночна-заходняя частка Гродзенскай губерніі уяўляе суцэльнае ўзвышша, якое паніжаецца ў паўночна-заходнім кутку губерніі, у Кобрынскім уездзе, у пайме рэчак Піны і Ясельды. Па абодва бакі пазначанага кража, на поўнач і на паўдзень, мясцовасць паступова паніжаецца. Паўночны яе схіл паніжаецца па цячэнні Дзвінскіх прытокаў і заканчваецца далінай рэчкі Заходняя Дзвіна, а за ёю краем азёр па паўночнай мяжы губерніі, адкуль бяруць свой пачатак рэчкі Ловаць і Вялікая.

Паўднёвы схіл паніжаецца па цячэнню левых прытокаў ракі Прыпяць, па абодва бакі якой утвараецца нізкая балоцістая даліна, ніжэйшая кропка якой, а

[4] Там-жа.
[5] Зяленскі. Матэрыялы для геаграфії і статыстыкі Расіі. Менская губернія. Стр. 110-112.
[6] Матэрыялы для геаграфії і статыстыкі Расіі. Віленская губернія. Стр. 115-117
[7] Зяленскі. Матэрыялы для геаграфії і статыстыкі Расіі. Менская губернія. Стр. 112-113

значыць і ўсяго краю – узровень вады на рацэ Піна каля горада Пінска, якая ўзвышаецца на 435 футы вышэй узроўню мора. На ўсход паніжэнне ідзе па цячэнню ракі Дняпро. Паніжэнне горнага схілу на захад заканчваецца прыблізна на мяжы Менскай губерніі з Валынскай і Кіеўскай, у паўночнай частцы якіх з'яўляецца шэраг прыгоркаў, якія ўтвараюць карпацкае перадгор'е. На ўсходняй частцы поймы Дняпра павышэнне пачынаецца ў Гомельскім уездзе Магілёўскай губерніі, сярэдняя вышыня якога даходзіць да 550 футаў над узроўнем мора (вёска Плолаўка – 651 футы, Закружжа – 630 футаў, Карма – 537 футаў і г. д.)[8].

Праслаўскі і Ельніцкі ўезды Смаленскай губерніі знаходяцца на вышыні каля 770 футаў над узроўнем мора[9].

Не гледзячы на тое, што вышэй апісаны намі краж толькі ў асобных месцах пераўзыходзіць вышыню 1000 футаў, ён мае вельмі вялікі ўплыў на размеркаванне вады ўсёй Расіі і асабліва Беларускага краю. Гэтым кражам падзяляюцца басейны Заходняга Бугу, Нёмана са Шчарай, Заходняй Дзвіны, правых верхніх прытокаў Волгі і затым усяго верхняга Падняпроў'я.

Такім чынам, ва ўсходняй частцы гэтага кража, у Смаленскай губерніі, бяруць пачатак наступныя рэкі басейна Волгі: Масква, Вазуза з прытокамі Гжаццю і Коснай, Асуга з Лусай, Вугра з Ворай і інш. У Дзвінскі басейн адсюль ідуць рэкі: Межа з Обшай, Лучосай, Бярозай і Каспля з Гобвай. У Дняпроўскі басейн: Вязьма, Вып, Вужа; тут жа пачынаюцца Сож, Дзясна. Мы назвалі толькі самыя значныя рэкі; між іншым іх значна больш.

Усе гэтыя рэчкі, акрамя Касплі, пачынаюцца ў паўночна-ўсходняй частцы губерніі, якая ўяўляе суцэльнае ўзвышша.

Насупраць, рэчкі Менскай і Магілёўскай губерній, часткова і Віцебскай, амаль усе пачынаюцца на вышэйапісанным кражы, які тут праходзіць дастаткова вузкай паласой. З вяршыні гэтага кража ў Заходнюю Дзвіну цякуць: Лучоса з Чэрніцай і Аболлю і Эса – у Менскай. Асабліва шмат вады сцякае з гэтага кражу ў Дняпро і яго прыток Прыпяць: Оршыца, Друць у Магілёўскай губерніі, Бярэзіна са сваімі шматлікімі прытокамі, Гайна з Цной, Ільшай, Ушай і Свіслаччу; затым цякуць у Прыпяць: Пціч, Случ з Мораччу, Лань, Цна, Ясельда і Піна. Тут жа ў Слуцкім уездзе, на паўночны-ўсход ад мястэчка Несвіж, бярэ пачатак Нёман; у яго, у верхняй яго частцы ўпадаюць шматлікія прытокі, якія ўсе бяруць пачатак на ўзвышаных месцах горнага кражу. Правыя прытокі Нёману наступныя: Узенка каля самай верхавіны і Сула, у Менскай губерніі: Быстрая і Іслач у Віленскай губерніі; з левага боку ўпадаюць: Шчара з Ісай, Зельвянка і інш. У сістэму Заходняга Бугу адсюль цякуць: Мухавец, Лясная і інш.

Такім чынам, мы бачым, што амаль усе рэкі Беларусі бяруць свой пачатак на гэтым кражы. Акрамя таго, Прыпяць прымае некалькі прытокаў з паўдня, якія бяруць пачатак у перадгор'ях Карпатаў: Славечна, Убарць, Сцвіга, Гарынь са Случчу, Стыр і Стадох. Рэчка Заходняя Дзвіна з паўначы поўніцца прытокамі, якія бяруць пачатак у азёрнай вобласьці паўночнай часткі Віцебскай губерніі: Таропа,

[8] Дзембавецкі, стр. 188-2.
[9] Спіс населеных пунктаў Смаленскай губерніі, ст. III.

якая пачынаецца недалёка ад Тарапца, Обаль, выцякаючая із азёр пры мястэчку Азярышча, Палота, Дрыса з Ніцай і Солнай і інш.

Што да геалагічнага складу паверхні Беларусі, то гэтае пытанне яшчэ не вельмі даследавана і можна даць толькі асобныя заўвагі. Так, поклады Трацічнай ці Эацэнавай фармацыі сустракаюцца, верагодна, на большай частцы Беларусі. У Смаленскай губерніі яны занімаюць усю яе заходнюю частку, складаючыся з залезістай гліны, мергеля і пяшчанікаў. У Магілёўскай губерніі яны занімаюць басейн ракі Сож і наогул паўднёвую і заходнюю частку губерніі; да гэтай жа фармацыі належаць горныя пароды амаль усёй Менскай губерніі; тут сустракаюцца: сланцавая гліна, крэмністы пяшчанік, вялікazярністы вапняк, мергель, рухлякі і іншыя пароды. Із тых жа парод складаецца ўся Віленская губернія. Залежы горнага вапняку занімаюць усходнюю частку Смаленскай губерніі, сустракаюцца ва ўсходняй частцы Магілёўскай губерніі ва ўездах Чэрыкаўскім і Клімавічскім. Значна часьцей трапляюцца пласты дэвонскай фармацыі; яны занімаюць уезды Сенненскі, Аршанскі, Горыцкі, паўночную частку Магілёўскага і Мсціслаўскага ўездаў, месцамі сустракаюцца ў Клімавічскім, Чэрыкаўскім, Рагачоўскім, Чаусскім, Быхаўскім уездах. Горныя пароды Віцебскай губерніі амаль цалкам складаюцца із пластоў чырвонага пяшчаніка дэвонскай фармацыі і, нарэшце, сустракаюцца на частцы Дзісненскага ўезду Віленскай губерніі. Пласты крэйдавай фармацыі сустракаюцца рэдка і прытым на нязначнай тэрыторыі; так, яны знаходзяцца ў паўднёвай частцы Раслаўскага ўезду Смаленскай губерніі; у Магілёўскай губерніі яны сустракаюцца параўнальна часьцей, менавіта: у пойме ракі Бесядзі, Сажу і Іпуці, у Чаускім уездзе ў пойме ракі Воры, каля Магілёва, Быхава, а таксама ў Быхаўскім і Рагачоўскім уездах; прызнакі Крэйдавай фармацыі знаходзяцца таксама ў Менскай губерніі (у Навагрудзкім і Рэчыцкім уездах) і Гродзенскай губерніі (па Нёману)[10].

На ўсёй паверхні Беларусі, ў агаленнях, сустракаюцца валунныя залежы, а таксама і асобныя валуны фінляндскага і скандынаўскага паходжання. Валунныя залежы звычайна складаюцца із валуннага суглінку, гліны шэрага ці белага колеру; гэты суглінак, агульная таўшчыня якога дасягае 5-10 сажаней і больш, знаходзіцца над раслінным глебай; валунная гліна вызначаецца тым, што яна воданепраходная. Гэта асабліва важная абставіна, якая, верагодна, была адной із прычын утварэння азёр і балот цяперашняй Беларусі.

Валунныя залежы, звычайна, пад сабой ці над сабой маюць так званы валунны пясок. У валунных залежах трапляюцца валуны ці эрратычныя камяні; валун – гэта граніт, які складаецца са слюды, кварцу і артаклаза. Так як валуны належаць выключна горным пародам Альпаў, Скандынавіі і Фінляндыі, то аб з'яўленні іх на вялікім абшары усёй Германіі, часткі Францыі, усёй Паўночна-Заходняй і Цэнтральнай Расіі геолагамі было прапанавана некалькі гіпотэз. У

[10] Слоўнік Сямёнава; Матэрыялы па Стастыцы і Геаграфіі Менскай, Смаленскай, Віцебскай, Віленскай, Гродзенскай губерній; Апісанне Магілёўскай губерніі сп. Дамбавецкага, Сельскагаспадарчая статыстыка Смаленскай губерніі Салаўёва.

апошні час у геалогіі ўсталявалася гіпотэза аб так званым ледніковым перыядзе, які быў на ўсёй прасторы, дзе сустракаюцца валуны. Сутнасць гэтай гіпотэзы ў тым, што ў эпоху да з'яўлення жывёльнага жыцця на пазначанай тэрыторыі, як следства значнага паніжэння тэмпературы, усё было пакрыта леднікамі, якія спаўзалі з Альпійскіх, Скандынаўскіх і Фінляндскіх гор, прынесшых з сабой гэтыя валуны. Пасля павышэння тэмпературы ў Яўропе і раставання ледніко ўтварыліся цэлыя моры прэснай вады, якая з цягам часу знікла. Такім чынам да некаторай ступені можна растлумачыць незвычайную канцэнтрацыю азёрных і балотных вод Беларускага Палесся. Уяўляючы сабой паглыбленне паверхні, гэтая даліна была прыродным басейнам для сцякаючай вады першабытнага мора; паміж іншым, значныя залежы валуновых адкладанняў, якія асабліва частыя і абшырныя на тэрыторыі Палесся (у Гродзенскай, Віленскай і Смаленскай губерніях валунныя тоўшчы сустракаюцца радзей, часьцей асобныя валуны) перашкаджалі глебе прапускаць праз сябе ваду, якая, такім чынам, і стварыла сваім накапленнем балоты і азёры, якія ў той жа час былі крыніцай шматлікіх рэчак і ручаёў.

Накапленне вады на прасторы Беларускага Палесся было значна большым нават ужо ў гістарычны час. На гэта паказвае, між іншым, значная калькасць перасыхаючых рэчак, азёр і балот, абмяленне шматлікіх рэк (напрыклад, Друці, Прыпяці і інш.) і, нарэшце, глеістая глеба, паходзячая ад рачных наносаў, якая дастаткова часта трапляецца ў далечыні ад існуючых зараз азёр і рэчак і, значыць, паказваючых на іх існаванне ў іншых месцах. Да гэтага далучаюцца і народныя паданні аб вялікіх накапленнях прэснай вады ў пайме Прыпяці і іншых месцах. Пласты навейшых адкладанняў, утвараючыя глебу Беларусі, складаюцца звычайна із супесей, мергеля, рэдка торфу і глею; чарназём сутракаецца рэдка, на невялікіх прасторах і, пры гэтым, у выглядзе тонкага слою. Так, такія залежы чарназёму знаходзяцца ў некаторых частках Віленскай губерніі, менавіта ў паўночнай частцы Троцкага ўезду ён ідзе па левым беразе Віліі, пераходзіць на правы бераг і занімае паўночную частку Віленскага уезду, паўночна-усходнюю частку Свенцянскага і частку Дзісненскага. На астатняй тэрыторыі Беларусі не сустракаецца больш менш значных пакладаў чарназёму; насупраць, пераважаюць іншыя малаплодныя віды глебы.

Наогул, пераважае глiністая глеба з большай ці меншай прымессю пяску, кварцу, слюды і інш. і змываючыхся частак, а яшчэ радзей чыста камяністая.

Астатнія віды глебы сустракаюцца рэдка. Торф знаходзіцца ў Бельскім, Смаленскім, Духоўшчынскім і Парэчанскім уездах Смаленскай губерніі, у Рагачоўскім, Быхаўскім і Ашмянскім уездах Магілёўскай губерніі. Велізарныя запасы торфу нам асабіста давялося бачыць на ўсёй прасторы паўночнай часткі Пінскага ўезду: у Целеханскай воласьці каля возера Выганішты, у Пагостцай каля возера Пагосты, вёскі Парахонска, у Дабраслаўскай воласьці і часткова ў Давыд-Гарадокскай такія землі занімаюць дзесяць вёрст. У Рэчыцкім уездзе торф у значных залежах знаходзіцца ў Дёрнавічскай воласьці.

Паміж рознымі фактарамі, уздзейнічаючамі на жыццё людзей і маючымі на яе моцны ўплыў – арашэнню патрэбна адвесьці адно із першых месц.

Не кажучы ўжо аб чыста фізічным уплыве накаплення вады, як, напрыклад, колькасць атмасферных ападкаў, на жыццё людзей рэчкі і азёры здзяйсняюць вялікі ўплыў у палітычных  і гандлёвых адносінах плямён. Рэкі былі адзіным зручным шляхам, як для гандлёвых так і для ваенных і каланізацыйных мэт. Уладкаванне дарог праз непралазныя некранутыя лясы, праз балоты было немагчыма ў старажытныя часы: гэта патрабавала б незвычайных высілкаў з боку племені, так як краіны, занятыя рускімі плямёнамі, былі вельмі працяглымі і пры гэтым мала населенымі. Ва ўсякім разе рэкі былі самым зручным шляхам; падарожжа па іх не патрабавала асаблівых высілкаў: у лёгкім чаўнаку, з невялікай купкай людзей можна было прабрацца із далёкага Полацку ў Кіеў, ці Ноўгарад, ці ў хазарскі Ітыль у вусьці Волгі. Напрамак рэчак Рускай раўніны мае асабліва важнае значэнне ў адносінах шляхоў зносін. Дзякуючы рэчкам злучаюцца самыя аддаленыя часткі Расіі, набліжаючы Каспійскае мора і Уральскія гары дзякуючы Волзе, заходнія прытокі якой раздзяляюцца толькі непрацяглымі валокамі ад прытокаў Заходняй Дзвіны і Дняпра; у сваю чаргу прытокі Дняпра і Заходняй Дзвіны блізка набліжаюцца да прытокаў Віслы і Нёмана. Праз Волгу ідуць шляхі зносін з Белым і Балтыйскім марамі. Што да асабіста зямлі крывічэй і дрыгавічэй, то яна занімала адно із самых выгадных становішч з боку гледжання водных шляхоў зносін: з яе, як з цэнтра, разыходзяцца важнейшыя рэкі, якія злучалі яе з самымі аддаленымі ўскраінамі Вялікай Рускай раўніны.

На паўночным ўсходзе яе межаў бярэ пачатак Волга і Заходняя Дзвіна, недалёка ад іх пачынаецца Дняпро. Гэтыя тры рэчкі разам са сваімі шматлікімі прытокамі збліжаюць Чорнае, Балтыйскае, Белае і Каспійскае моры. Заходняя палавіна разглядаемай вобласьці ўключае ў сябе верхавіны Нёману, сярэдняе цячэнне Заходняга Бугу, амаль усё, акрамя верхавін, цячэнне Прыпяці, два берагі Дняпра з яго шматлікімі прытокамі і паўднёвыя прытокі Заходняй Дзвіны.

Такім чынам, Беларусь занімае вельмі зручнае становішча адносна водных шляхоў зносін. Гэта становішча ў старажытнасьці садзейнічала хуткаму, паспяховаму каланізацыйнаму руху ў асяроддзе фінскіх і літоўскіх народцаў, а таксама развіццю шырокіх гандлёвых сувязей.

Ускраіна крычаўскай зямлі ў старажытнасьці даходзіла да верхавін Волгі. Апошняе бярэ свай пачатак у Асташкоўскім уездзе Цвярской губерніі (пад 57° 10´ паўночнай шыраты) із невялікай крыніцы на Валдайскім узвышшы, якая мае адсалютную вышыню ў 840 футаў; першапачаткова Волга ўяўляе сабой невялікі ручай у 1,5 аршын шырыні, але ўжо каля возера Валга, праз якое яна працякае, яе шырыня дасягае 20 сажаней. На працягу 90 вёрст яна ў цяперашні час не суднаходная. На гэтай пrасторы яна цячэ ў нізкіх балоцістых берагах[11].

Землі смаленскіх крывічэй даходзілі толькі да верхавін Волгі, верагодна, не ніжэй Зубцова.

---

[11] Геаграф – ст. слоў Сямёнава.

Пагэтаму для іх больш важнае значэнне мелі волжскія прытокі, чым яна сама. Із яе найбольш важных прытокаў, працякаючых у зямле смаленскіх крывічэй мы пазначым: Вазуза, якая бярэ пачатак у балатах Вяземскага ўезду каля вёскі Мітрухавай; працягласць яе цячэння 140 вёрст; берагі верхавін высокія і крутыя; із адзначым Касню і Гжаць, із левых Асуга. Далей із рэчак окскага басейну адзначым: Масква з прытокам Протвай, па верхавінах якой праходзіць мяжа смаленскіх крывічэй; больш значная Вугра, якая бярэ пачатак у Ельнінскім уездзе паблізу вёскі Вугрыцы; працягласць яе цячэння 400 вёрст; берагі Вугры крутыя, месцамі абрывістыя; із прытокаў мае значэнне Вора.

У 13 вярстах ад вытоку Волгі, бярэ пачатак другая значная рэчка – Заходняя Дзвіна; яна пачынаецца з невялікага возера Двінца пасярол балот і далей прадаўжаецца на вышыні болей чым 800 рускіх футаў. Спачатку яна цячэ невялікім ручаём па яру, заросшаму кустамі, але на 15 вярсце выходзіць у вялікае (13 вёрст даўжыні) возера Ахват Жадзенне, адкуль выцякае ўжо дастаткова шырокай рэчкай – у 8 сажаней. Дно Заходняй Дзвіны месцамі камяністае, храшчаватае, трапляецца шмат парогаў і водмелей, што робіць яе не зусім зручнай для суднаходства. Яе берагі большай часткай пяшчаныя і камяністыя; яны ў Віцебскай губерніі высокія і абрывістыя; наогул, левы бераг больш высокі чым правы. Працягласць цячэння Дзвіны больш за 900 вёрст, плошча яе басейну складае 3500 квадратных мілі. Із правых прытокаў найбольш значныя: Таропа, Усвяты, якая выцякае із возера той жа назвы, Палота; апошняя бярэ пачатак із азёр Вядзета, Колпіна, Турычына і Неключ: дно яе ямістае, цячэнне павольнае, звілістае; і нарэшце, Дрыса. З левага боку ў Дзвіну цякуць: Межа з Обчай, Каспля, Ула, Дзісна і інш[12].

Зямля дрыгавічэй знаходзіцца ў верхнім панямонні з яго прытокамі: Шчарай, Віліяй, Вусай і інш. і ў пойме Заходняга Бугу. Нёман бярэ пачатак у лясістай мясцовасьці Ігуменскага ўезду Менскай губерніі, недалёка ад вёскі Дагінічы. Працягласць цячэння Нёману даходзіць да 810 вёрст. Спачатку Нёман цячэ невялікай ракой у 18-25 сажаней шырыні (каля Новага Свержаня). Дно ракі наогул пяшчанае; верхні Нёман цячэ па шырокай лугавой даліне, якая перасякае ўзвышша з прыгоркамі; у Лідзкім уездзе ніжэй мястэчка Беліца, правы бераг Нёману круты і ўзвышаны. Із прытокаў найбольш значныя: Вуса, Лоша, Сервеч, Свіслач, Вілія і Шчара; дзве апошнія маюць асабліва важнае значэнне, як зручны каланізацыйны шлях у землі літоўскіх плямён. Вілія бярэ пачатак у Барысаўскім уездзе Менскай губерніі, працягваючыся да ўпадзення ў Нёман каля горада Коўна – 420 вёрст. Дно верхняга цячэння гэтай рэчкі глеістае, берагі плоскія і лясістыя; у Віленскай губерніі яны крутыя і ўзвышаныя. Другі, не менш важны, прыток Нёману – Шчара бярэ пачатак у Навагрудзкім уездзе Менскай губерніі, недалёка ад мястэчка Сталовічы; спачатку яна цячэ па лугавой даліне, але з 62-ой вярсты у нізкіх, балоцістых, большай часткай тарфяных берагах.

Другая важная рэчка, якая знаходзіцца ў вобласьці рассялення дрыгавічэй – старажытнай Берасьцейскай зямлі – Заходні Буг. Ён бярэ пачатак у Карпатах і

---

[12] Слоў. Сямёнава

цячэ на працягу 686 вёрст, упадаючы з правага боку ў Віслу. Важнейшыя із яго прытокаў: Мухавец, Нараў і Нурэц.

Сістэма верхняга Дняпра і галоўнага яго прытоку Прыпяці занімае ўсю сярэднюю Беларусь і мае тую перавагу, што яна аб'ядноўвае ўнутраную частку краіны з акраіннными рэкамі: Волжскай сістэмай, Дзвіной, Нёманам і Бугам.

Дняпро пачынаецца ў Смаленскай губерніі ў Бельскім уездзе із невялікага возера Мшара, якое ляжыць у балотах Воўкаўскага лесу, пад 55° 21´ паўночнай шыраты і 51° 21´ усходняй даўгаты. Працягласць яго цячэння да ўпадзення ў Чорнае мора каля 1700 вёрст; агульны напрамак цячэння – з паўначы на поўдзень. Берагі Дняпра вельмі разнастайныя, але, наогул, правы бераг узвышаны і пануе над левым; амаль усе гарады пабудаваны на правым узвышаным баку, так як яго левы бераг большай часткай затапляецца пад час вясенніх паводкаў, перашкаджаючы правільным зносінам. Верхні Дняпро да Дарагабуша не суднаходны; ён цячэ ў нізкіх берагах, шырынёй ад 3 да 6 аршын. Болей узвышаныя берагі пачынаюцца пасьля ўпадзення рэчкі Жэрдзі, дно ставіцца месцамі пясчаным, месцамі камяністым. Каля ўпадзення Вязьмы шырыня Дняпра дасягае 25 і больш сажаней; берагі на гэтым адрэзку высокія, часта крутыя, перакрыжоўваюцца ярамі і лашчынамі. Ад Дарагабуша Дняпро цячэ па адкрытай даліне вярсты тры шырынёй, якая звужваецца каля вёскі Шэвелева да 1,5 вярсты. Пасьля ўпадзення ракі Вопі дняпроўскія берагі ўяўляюць нізкую балоцістую даліну, пакрытую сенажацямі. Ніжэй Смаленску правы бераг станавіцца пануючым над левым, за выключэннем балоцістых нізкіх берагоў вусця Прыпяці і Цецерава. Із левых прытокаў Дняпра, якія знаходзяцца ў Беларусі, найбольш значнымі з'яўляюцца: Вязьма, Осьма, Сож і Дзясна. Із іх Сож бярэ пачатак у балотах у поўднёвай частцы Смаленскага ўезду. Яго працягласць да ўпадзення ў Дняпро 500 вёрст; не меней важнымі былі яго прытокі: Проня, Бесядзь, Іпуць і інш. Другі важны левы прыток Дняпра – Дзясна, належыць беларускаму краю толькі сваімі верхавінамі і злучае ўсходнюю яго частку з сярэднім цячэннем Дняпра. Дзясна пачынаецца ў Ельнінскім уездзе Смаленскай губерніі, недалёка ад горада Ельня, паблізу вёскі Яраслаўля; агульная працягласць яе цячэння 700 вёрст, але ў Смаленскай губерніі яна праходзіць толькі 100 вёрст: із прытокаў важнейшы - Болва[13].

Правыя прытокі Дняпра мелі велізарнае значэнне для дрыгавічэй; на іх знаходзяцца важнейшыя ў старажытнасьці гарады, па іх ішла сувязь з Літвой, Яцвягамі і Палякамі. Із прытокаў значнейшыя Вып, Воршыца, Друць.

Апошняя бярэ пачатак на мяжы Сенненскага і Аршанскага ўездаў на ўзвышшы; працягласць яе цячэння 250 вёрст. Яна цячэ па нешырокай даліне (вярсты 1.5), пакрытай балотамі і азёрамі; яе ніжняе цячэнне пры ўпадзенні ў Дняпро каля Рагачова, ідзе па шырокай лугавой даліне. У цяперашні час Друць толькі сплаўная рэчка, але ў старажытнасьці была суднаходнай; мноства яе

[13] Сл. Сямёнава

прытокаў высахлі; засталіся толькі ў шмат якіх месцах рады азёр і балот, якія сведчаць аб ранейшых рэчках[14].

Ніжэй Друці, на Мяжы Менскай і Магілёўскай губерній у Дняпро ўпадае Бярэзіна. Яна бярэ пачатак на плоскім узвышшы недалёка ад мястэчка Докшыцы Барысаўскага ўезду і праходзіць да вусьця кал 500 вёрст; на сваіл шляху яна праходзіць праз азёры Мядзіоль і Пялік. Пойма Бярэзіны ўтварае вузкую даліну, надзвычай балоцістую і нізкую; яе палогія берагі пакрыты лясамі[15].

Яшчэ ніжэй Бярэзіны ў Дняпро ўпадае Прыпяць, пойма якой ахоплівае ніжнюю частку Заходняй Беларусі. Яна бярэ пачатак у Валынскай губерніі із азёр і балот каля вёскі Гуполы і ўтвараецца з 15 ручайкоў, якія зліваюцца разам. Сваю назву яна атрымлівае пасьля з ракой Ясельдай каля Пінска. Да гэтага месца яна складаецца з мноства пратокаў, якія цякуць пад рознымі назвамі; яны аб’ядноўваюцца у возеры Любядзь Пінскага ўезду. Ад гэтага возера Прыпяць зноў падзяляецца на некалькі рукавоў, галоўны із якіх носіць назву Парока, і збірае свае воды ў возеры Набель; у прамежку паміж азёрамі Любядзь і Набель у Прыпяць упадае  Стадох; за возерам Набель яна зноў падзяляецца на некалькі рукавоў, галоўны із якіх называецца Струмень, а другі Прыпяццю і цякуць да зліцця з Ясельдай, на працягу 80 вёрст, прыняўшы на гэтым шляху Весялуху і Піну і аб’яднаўшыся адным са сваіх рукавоў са Старру. Пасьля зліцця з Ясельдай Прыпяць ужо вядома пад сваім іменем да самага ўпадзення ў Дняпро; працягласць яе цячэння даходзіць да 740 вёрст. Яе дно ў верхавінах глеістае, далей пяшчанае, а месцамі камяністае; берагі нізкія балоцістыя; толькі месцамі яны ўзвышаюцца, так, напрыклад, каля горада Мазыра левы бераг значна павышаецца, правы ўзвышаецца каля вёскі Загараны Мазырскага ўезду.

Із верхніх прытокаў Прыпяці асабліва важныя Піна і Ясельда; яна пачынаецца ў Ваўкавыскім уездзе Гродзенскай губерніі недалёка ад мястэчка Новы Двор у шырокіх пакрытых лесам балотах. Ясельда цячэ па нізкай балоцістай даліне, праходзячы праз вялікае возера Спораўскае. У сваім далейшым цячэнні Прыпяць прынімае некалькі значных прытокаў, із якіх назавём правыя: Стыр са Стулбай, Гарынь, Зцвіга, Плотніца і Славечна; із левых: Бобрык, Цна, Лань, Случ, Пціч і інш.[16].

## II.
## Шляхі зносін.

Натуральна, што пры такой колькасці вады і яе размяркаванні праз вобласьць, населеную крывічамі і дрыгавічамі, у старажытнасьці праходзілі важнейшыя водныя шляхі. Праз землі крывічэй стасаваўся паўдзень з гандлёвым

[14] Сл. Сямёнава; Апісанне Магілёўскай губерніі Дамбавецкага т. 1.

[15] Сл. Сямёнава. Памятная кніжка Магілёўскай губерніі за 1878 г. стр. 25. Працы Менскага статыстычнага камітэта за 1870 г. вып 1 р. 278.

[16] Ibid.

Ноўгарадам і праз яе ж праходзілі найбольш зручныя шляхі на ўсход, у землі іншародцаў.

Із азёрнай вобласьці ў Падзвінне існавала некалькі шляхоў. Адзін із іх ішоў на Еменец, Полацкі горад і Вялікія Лукі, Наўгародзкі горад[17]. Можна наступным чынам вызначыць Еменецкі шлях. Із Дзвіны ён ішоў па рацэ Обалі, якая злучаецца з возерам Азярышчам, адтуль невялікім волакам да возера Еменец; із яго ў возера Невель, якое праз рэчку Яменку злучалася з Ловаццю. У гэтых мясьцінах захавалася паданне, што воды Невельскага возера некалі зліваліся з Обаллю[18]. Калі гэта так (што вельмі верагодна), то ў азёрную вобласць ійшоў непасрэдны шлях із Дзвіны, без волакаў. Акрамя таго, па ўсяму гэтаму шляху раскіданы прызнакі старажытных паселішчаў, у выглядзе курганаў, гарадзішч і ўмацаванняў. Курганы Гарадокскага ўезда, па паведамленню сп. Семянтоўскага, размешчаны па напрамку старажытных шляхоў зносін горада Невеля з Віцебскам і Дзвіною – уздоўж цяперашняй С. Пецярбургскай шашы, пачынаючыся амаль ад самага горада і заканчваючыся паўночнай часткай уезду і па цячэнню Обалі[19]. Цікава, што менавіта каля азёр Емянца, Невеля, Азярышча і інш. на тым жа шляху знаходзіцца найбольшая колькасць старажытных пабудоў. Аб іх спадар Семянтоўскі ў іншым месцы гаворыць: “Але самая вялікая колькасць курганаў і прытым велічэзных памераў, сабраных больш менш значнымі купамі знаходзіцца ў паўночна-ўсходнім кутку Гарадокскага ўезду, менавіта у той яго частцы, якая размешчана над ракой Ловаццю, паміж Суражскім і Невельскім уездамі, на землях казённага маёнтка Стайкі і частцы Гаркоўскага грамадства”[20]. Акрамя таго, на гэтым шляху мы знаходзім каля возера Азярышча побач вёскі Дубініна гарадзішча[21]. Каля гэтага ж возера, на землях Свірыдаўскага вясковага грамадства, знаходзіца цікавае гарадзішча з рэшткамі ўмацаванняў, ірва і мастоў; народная памяць захавала паданне аб ім, як аб непрыступным месцы[22].

Еменецкім шляхам хадзіў на Полацк у 1185 годзе князь Давыд Расціслававіч з наўгародцамі і смалянамі[23].

Другі шлях із Падзвіння ў азёрную вобласць ляжыць праз Тарапец. Із Дзвіны ён ішоў рэчкай Таропай да возера Тарапецкага; адтуль невялікім волакам

---

[17] “Поиде Давыдъ къ Полотовску съ Новгородци и Смольняны и, умиривъшеся, воротишася на Еменци”, Наўгарод I летапіс пад 1185 г. “Мстиславъ же все то хотя оправити Новгородъскую волость и обиду и пршедшу ему на Лукы съвои Новгородькими”. Ітап, 412

[18] Семянтоўскі, Помнікі старыны Віцебскай губерніі p. 5.

[19] Ibidem, p. 5.

[20] Ibidem, p. 8

[21] Ibidem, p. 7

[22] Ibidem, p. 10 і 11.

[23] Наўгародскі летапіс, p. 160. Аб Еменецкім шляху глядзіце Барс. “Нарысы рускай гістарычнай геаграфіі p. 24-25. Гэты шлях быў самы звычайны, што доказваецца і іншымі сведчаннямі нашых летапісаў: Святаслаў выйшаў із Ноўгараду “на Лукы” (1167 год Наўгародзкі летапіс p. 146), у 1191 годзе Яраслаў хадзіў да полацкіх межаў туды ж (Наўгарод летапіс p. 164), таксама ў паход 1118 г. (Наўгар., p.176).

у рэчку Сярожу, упадаючую ў Ловаць; гэтым шляхам ішоў у 1168 годзе Расціслаў Мсціслававіч на спатканне са сваім сынам у Ноўгарад[24].

Трэцці шлях ішоў па рацэ Судама. Летапіс яго вызначае так: Брачыслаў Ізяславіч паграбіў Ноўгарад і "пайдзе Полацку зноў; і прыйшэдшы яму да Судаміру ракі" - тут ён быў пераможаны дагнаўшым яго Яраславам[25]. Рэчка Судома, прыток Шэлані бярэ пачатак на мяжы Порхаўскага і Пскоўскага ўездаў і ўпадае ў Шэлань каля вёскі Княжыныя Горы[26].

Чацвёрты шлях із Падзвіння ў азёрную вобласць ляжыць, згодна Барсава, із Ловаці ў яе прыток Куню, да возера Жыажыцкага (ці Жэзца-Жывец), дзе знаходзіўся заможны смаленскі горад Жызцы, адтуль да возера Дзвінне із якога выцякае рака Дзвінка, упадаючая ў Дзвіну[27].

Із Полацка існаваў, відаць, прамы шлях у Ноўгарад, што адпавядае шырокім гандлёвым стасункам гэтых гарадоў.

Гэтым шляхам уцякаў із Ноўгараду Святаслаў брат вялікага князя Ўсевалада Ольгавіча[28]. Гэты князь баяўся праходзіць праз землі Смаленска, якім кіраваў варожы яму Расціслаў Мсціслававіч і выбраў больш далёкі шлях праз Полацк. На гэты ж шлях мы маем ўказанні ў летапісу пад 1128 год. Пад час вядомага паходу Мсціслава на полацкіх князёў, наўгародцы таксама выправіліся на іх і дайшлі да Неключа[29]. У цяперашні час існуе возера Неключ із якога бярэ пачатак рака Палота[30]. Значыць, наўгародцы накіроўваліся на Полацк, але спыніліся, таму што закончыліся ваенныя дзеянні.

Такім чынам, із Падзвіння ў азёрную вобласць ішло пяць шляхоў. Нябожчык прафесар Барсаў паказвае яшчэ шлях на Лучын, але, як пабачым ніжэй, смаленскі Лучын ніяк нельга атаясамляць з возерам Лучын у Пскоўскай губерніі, а пагэтаму і існаванне шляху на гэта возера трэба адкінуць.

Зараз звернемся да шляхоў зносін Падзвіння і Падняпроўя.

Дняпро адзяляецца ад Дзвіны толькі невялікім волакам, працягласьцю каля 30 вёрст ад Смаленска да возера Каспля і ракі з той жа назвай, якая ўпадае ў Дзвіну. На жаль, крыніцы не даюць дакладных ўказанняў на шляхі із Падняпроўя ў Падзвінне. Ёсць толькі адзін намёк, які, дарэчы, Барсавым прынімаецца за бязспрэчнае сведчанне аб шляху. Гэта шлях праз рэчку Касплю,

---

[24] Іпат. 362. Барсаў, "Нарысы расійскай гістарычнай геаграфіі", p. 25. Летапіс апавядае, што Расціслаў прыехаў у Тарапец да свайго сына Святаслава, які княжыў у Ноўгарадзе, "велючы яму выяхаць проціву сябе на Лукы... і тут сышліся на Луках з сынам і наўгародцамі". Барсаў лічыць гэтую звестку ці не паўнай ці памылковай (ibid., p. 325) таму, што Расціслаў спачатку прыбыў у Тарапец, а потым выправіўся на Лукі. Але нам справа бачыцца так, як яна паказана ў летапісе: Расьціслаў прыехаў у свой памежны горад, але так як наўгародцы не жадалі весьці з ім перамовы на чужой тэрыторыі, то абодва бакі дамовіліся спаткацца на Луцэ. У падцверджанне існавання шляху із Тарапца на Лукі можна прывесьці сведчанне Наўгародскага летапісу пад 1211 год, p. 193: Мсціслаў із "Тарапца ідзе на Лукы".

[25] Іпат. 102

[26] Вызначэнне Судомы, глядзіце Барсаў, "Нарысы", p. 24 і 23. Барсаў не вызначае гэты шлях, хаця ўказанні летапісу не астаўляюць сумненняў у яго існаванні.

[27] "Нарысы", p. 26.

[28] Іпат. 220. П. С. Р. Л. т. XV, p. 201.

[29] Іпат. 211.

[30] Слоўнік Сямёнава.

праўда, самы натуральны[31]. Ён ішоў з Дзвіны па рэчцы Касплі і із Касплі злучаўся з Дняпром волакам.

Дняпро на сваім шляху із сярэдняга цячэння ў верхняе, г. зн. прыблізна трохі вышэй ад упадзення Прыпяці далей да Смаленску робіць вельмі вялікі выгіб, які пры праездзе, асабліва супраць цячэння, патрабаваў вельмі шмат часу і намаганняў. Пагэтаму із Кіева да Смаленска існаваў больш кароткі шлях. Ён ішоў па Сажу, верхавіны якога знаходзяцца недалёка ад Смаленска. Гэты шлях быў, верагодна, больш мелкаводны ў верхнім цячэнні Сажу, але даваў магчымасць абысьці выгіб Дняпра. Гэтым шляхам ішоў у 1168 годзе Расціслаў із Кіева ў Ноўгарад праз Смаленск; ён праходзіў праз горад Чачэрск. На адваротным шляху ён, вяртаючыся на зыходзе зімы, калі мог чакаць разліву рэк (у сакавіку) таксама трымаўся гэтага шляху і памёр у Зарубе, недалёка ад Сажу.

Звесткі пра гэты шлях трэба прынімаць з некаторымі абмоўкамі. Летапіс апавядае, што Расціслаў пайшоў "на зіму", што можа азначаць, як тое што ён ішоў зімой, так і тое, што ён выйшаў восенню[32]. Але на існаванне гэтага шляху, акрамя яго натуральнага выгаднага становішча, указвае яшчэ і тое, што горад Прупой (на Сажы пры ўпадзенні рэчкі Проня) быў памежным і, верагодна, мытным горадам: устаўная грамата Расціслава Мсціслававіча тут адзначае корчамскую даніну, г. зн. даніну з корчм, уладкаваных для падарожнікаў.

Для абыходу таго ж самага выгібу Дняпра з заходняга боку існаваў прамы шлях із сярэдняга Падзвіння ў сярэдняе Падняпроўе. Гэты шлях праходзіў такім чынам: із Дзвіны ён ішоў па рацэ Улле, якая ўпадае ў Дзвіну каля мястэчка Ўллы, паміж Віцебскам і Полацкам. Па Улле шлях цягнуўся да Лепельскага возера, із якога яна пачынаецца і ў гэта ж возера цячэ рэчка Эсса. Сярэдняе цячэнне Эссы злучаецца з возерам Плаўё, із якога бярэ пачатак прыток Бярэзіны Сергут, невялікім волакам, па якому зараз праходзіць Бярэзінскі канал. Дарэчы, крыху на поўнач ад канала ёсць, пасярэдзіне пазначанага волака, возера каля вёскі Акона, якое злучаецца з Эссаю невялікай рачулкай, так што волак быў зусім не вялікі, вярсты тры. На гэты шлях мы знаходзім указанне ў летапісах пры апісанні ўцёкаў Святаслава Ольгавіча із Ноўгараду ў 1141 годзе. Святаслаў, баючыся варожага смаленскага князя Расціслава Мсціславіча, ўцякаў праз Полацк[33], а з полацкімі князямі яго брат Усевалад, як і ўсе Ольгавічы, у той час знаходзіліся ў сяброўскіх

---

[31] Барсаў "Нарысы", р. 24. Сваё меркаванне ён застоўвае на звестцы Наўгародскага 1-ага летапісу пад 1199 год, дзе апвядаецца, што палачане сустрэлі ійшоўшага на іх з войскам Яраслава Наўгародскага на возеры Каспля. Паважаны навуковец правільна адзначыў, што за возерам Каспля палачане не маглі сустрэць наўгародцаў, а сустрэлі ў вусьці Касплі, але ў згадцы аб возеры ён бачыць заёмства летапісца з Каспляй, як урочышчам, якое знаходзіцца на звычайным шляху із Ноўгараду ў Смаленск. Што ў Ноўгарадзе ведалі аб Касплі няма нічога дзіўнага, але важна тое, што летапіс у гэтым выпадку ўсёж такі не гаворыць, ці ішоў хто-небудзь гэтым шляхам. Здагадка прафесара Барсава бачыцца нам праўдзівай, але зусім не выцякаючай са зместу летапіснага сведчання: ад Касплі да Дняпра невялікі волак, а гэтая рэчка і да гэтага часу суднаходная ў ніжнім сваім цячэнні. У сярэдневеччы вёска Каспля была кропкай складання на шляху з Рыгі, тут знаходзіліся свіраны для захавання хлеба, пабудаваныя з дазволу Сігізмунда. Гл. Салаўёў, Сельскагаспадарчая статыстыка Смаленскай губерніі М. 1855 г., р. 14.

[32] Іпат. 364

[33] Іпат. Р. 220.

адносінах[34]. Разам са Святаславам уцякаў і наўгародзкі пасаднік Якун і яго брат Пракопій. Наўгародцы пагналіся за імі "і яша Якуна на Плісі"[35]. Пліса знаходзіцца ў Менскай губерніі і цячэ ў Бярэзіну праз Бобр, ніжэй Барысава. Відавочна Якун, разам з князем, із Полацка накіраваўся па Бярэзіне, натуральнаму прамому шляху ў сярэдняе Падняпроўе па полацкім уладаннях. Але, ўцякаючы ад пагоні, Якун з братам павярнуў з Бярэзіны на Бобр і Плісу, жадаючы схавацца ў глухіх мясьцінах. Тут ён і быў захоплены наўгародцамі[36].

Усе шляхі із Падняпроўя ў Падзвінне і адтуль у азёрную вобласць і Балтыйскае мора былі вядомы ў старажытнасьці пад назвай шляху "із Вараг у Грэкі". Вось як вызначае яго летапісец: "і бе пуць із вараг у грэкі: і із грэк па Дняпру і ўверх Дняпра волак да Ловаці, а па Ловаці вніці ў Ільмень возера вялікае, із яго ж возера пацячэ Волхаў і ўцячэ ў возера вялікае Нево і таго возера унідзець вусьце ў мра Варажскае"[37]. Сярэднюю частку шляху - ад Дняпра да Ловаці, летапісец уяўляе сабе цьмяна, лічачы, што гэтыя рэчкі злучаюцца толькі волакам, на што ўжо звярнуў увагу праф. Барсаў[38].

Значэнне, як гэтага воднага шляху, так і, наогул, значэнне рускіх шляхоў зносін, усведамлялась яшчэ ў глыбокай старажытнасьці. Летапісец добра ведаў, з якімі краінамі злучаюць Русь водныя шляхі. Ён гаворыць, што шлях даходзіць да мора Варажскага: "па таму морувыйсці нават і да Рыму, а ад Рыму прыйсьці па тамуж мору да Цараграду, а ад Цараграду прыйсці ў Понта мора, у яго ж цячэ Дняпро рака. Дняпро бо цячэ із Вокаўскага лесу і пацячэ на поўдзень, а Дзвіна із таго ж лесу пацячэ і ідзе на паўнач і ўцячэ ў мора Варажскае; із таго ж лесу пацячэ Волга на ўсход і ўцячэ сямідзесяццю джарэламі ў мора Хвалійскае. Таму з Русі можна ісьці па Волзе ў Баўгары і ў Хвалісы, і на ўсход дайсьці ў жарэбій Сімаў; а па Дняпру ў Варагі, а із Вараг і да Рыму, ад Рыма ж і да племені Хамава"[39].

Із прыведзенага летапіснага нарысу відавочна, што ў старажытнасьці добра ведалі не толькі краіны, якія былі размешчаны на шляху на рускай тэрыторыі, але ведалі і аддаленыя краіны захаду і ўсходу, з якімі Русь злучалася гэтымі шляхамі.

Дзвіна і Дняпро сваімі прытокамі сбліжаюцца з Волгай. Можна паказаць цэлы шэраг рэк у Смаленскай вобласьці, збліжаючых яе цэнтральную частку – Падняпроўе з Паволжжам. Так, прыток Дзвіны Межа праз свой прыток Обшу збліжаецца невялікім волакам з Лусай, прытокам Асугі, а гэта апошняя цячэ ў Вазузу, прыток Волгі. Ці можна паказаць на Лучосу, прыток Межы, якая невялікім волакам аддзяляецца ад Асугі. Нарэшце, прыток Дняпра Осма блізка

---

[34] Абедзве княжацкія лініі, пачаўшыя варагаваць, стараліся прыхіліць полацкіх князёў, Усевалад пачаў свае захады раней і замацаваў сяброўства адружаннем. Іпат. 224, Нік. (П. С. Р. Л. т. IX), р. 167.

[35] Наўгар., 133, Цвярская, П. С. Л., т. XV р. 203.

[36] Барсаў сумняваецца ў існаванні паказанага шляху: "На іншыя важныя шляхі із Дзвінскай вобласьці ў Падняпроўе ёсць, дарэчы, цьмяныя ўказанні ў звестках пра паход наўгародцаў (1127) і ў звестках 1141 г." "Нарысы", р. 224.

[37] Іпат, 4.

[38] Гл. "Нарысы".

[39] Іпат., р. 4.

падыходзіць да Вугры, прытоку Акі. Наогул, шляхі ад цэнтра Смаленскай зямлі да Волгі маглі быць вельмі шматлікімі.

Дзвіна магла злучацца з Волгай праз возера Жадзенне, якое злучаецца невялікім волакам з волжскім возерам Пена[40].

Із Падняпроўя ездзілі ў зямлю Растоўскую на Смаленск, праз які хадзіў Уладзімір Манамах, і праз зямлю Вяцічэй; апошні шлях злучаў асабіста Кіеў з Паволжжам. На гэтым шляху знаходзіўся горад Обалв, які пераходзіў то да Смаленскіх князёў, то да Чарнігаўскіх; у гэтым горадзе бралася гасьцінная даніна з праязджаючых купцоў (Грамата Расьціслава Мсціславіча). Шлях ішоў па Дзясьне, яе прытоку Болве, які зблíжаўся з Вуграю, прытокам Акі[41].

Падняпроўе злучалася з Заходнім Бугам вялікім і зручным шляхам, які ішоў па прытоку Дняпра Прыпяці. Аб ім мы маем некалькі указанняў у крыніцах. Так, у 1188 годзе Раман выправіў сваю жонку із Галіча ў Уручы на Пінск[42]. Стрыйкоўскі апавядае, што Яраслаў па смерці Мячыслава хадзіў у Польшчу, пры гэтым частка войска ішла лодкамі да Падляшша[43].

Наогул, шматлікія паходы першых князёў у Ляшскую зямлю і на Яцвягаў, бясспрэчна, ішлі гэтым шляхам.

## III.
## Тэрыторыя і гарады Смаленскага княства да пачатку XIII ст.

Мы вызначылі агульную этнаграфічную мяжу зямель крывічэй і дрыгавічэй; зараз звернемся да больш дакладнага вызначэння палітычных межаў княстваў, утвораных названымі плямёнамі.

Дрыгавічы ўтварылі асобнае княства ўжо пры Уладзіміры Святым, з галоўным горадам Тураў; імі ж была населена на захадзе Берасьцейская зямля ў вобласьці сярэдняга цячэння Заходняга Бугу. Полацкія крывічы вылучыліся яшчэ раней гэтага часу, за імі, пасьля смерці Яраслава Мудрага, ўтварылі сваё княства і смаленскія крывічы. Такім чынам, утварылася тры княствы яшчэ ў ранюю эпоху: Смаленскае, Полацкае і Тураўскае. Першапачатковы летапіс, у сваім геаграфічным нарысе, коратка вызначае месцазнаходжанне гэтых названых плямён. Аб Дрыгавічах ён гаворыць, што яны сядзелі паміж Прыпяццю і Дзвіной; Крывічы сядзелі на верхавінах Дняпра, Дзвіны і Волгі, а іхная частка асела на рацэ Палоце.

Нават на першы погляд гэтыя звесткі летапісу выглядаюць няпоўнымі і не вызначанымі. Пры вывучэнні ж далейшых падзей, пры дапамозе іншых

40 Барсаў, “Нарысы”, р. 26.

41 Гл. “Навучэнні Ўладзіміра Манамаха” у Лаўрэнціеўскім летапісу. Барсаў “Нарысы”, р. 23. Карсакаў “Мера ў Растоўскім княстве”, р. 53. Беляеў, р. 17. Багалей, “Гісторыя зямлі Северскай”, р. 142. Густынскі летапіс (П. С. Л., т.І) р. 324.

42 Іпат. 445.

43 Хроніка, р. 162 (выданне 1862 г.); Васкрэс. Летапіс (П. С. Л. т. VII) р. 331.

указанняў летапісу аб гарадах, можна вызначыць палітычныя межы названых княстваў з большай дакладнасьцю.

Прыступаючы да вывучэння палітычных межаў. Заўважым аднак, што і летапісных дадзеных бывае не заўсёды дастаткова для вызначэння памежных мясьцін. У гэтым выпадку прыходзіцца карыстацца іншымі дадзенымі. Так, вядома тая абставіна, што старажытна рускія князі будавалі памежныя ўмацаванні, якія мелі назвы: гарадок, гарадец, гарадішча, гародня, рубеж, зарубежжа і г. д.[44]. Пры гэтых умацаваннях сяліліся памежныя жыхары, якія ўтваралі вёскі, гарады з такімі ж назвамі.

Ведаючы гэтую абставіну і ўважліва разглядаючы мапу ў тых месцах дзе можна чакаць старажытную мяжу, мы сапраўды знаходзім шэраг пасяленняў з такімі назвамі, якія павінны пераканаць нас, што тут сапраўды праходзіла мяжа.. Больш таго, так як этнаграфічныя межы большай часткай супадалі з палітычнымі, то мы заўсёды знаходзім на памежных месцах пасяленні з назвамі, якія нагадваюць тое або іншае племя. Такімі назвамі народ, верагодна, стараўся пазначыць прыналежнасць жыхароў да таго ці іншага племені. Такім чынам, мы сустракаемся з назвамі, нагадваючымі крывічэй: Крывічы, Крывена і г. д., Радзімічэй: Радзіміч, Радуля і інш., Дрыгавічэй: Дарагічын і г. д.[45]. Памятаючы аб вышэйзгаданым, можна такім чынам правесьці мяжы Смаленскіх Крывічэй.

Часам можна набраць некалькі геаграфічных назваў з падобным гучаннем ці, нават, поўнасьцю аднагучных, між тым як сведчанні крыніц не паказваюць прыблізнага месцазнаходжання гэтай мясцовасьці. Тады, думаецца нам, трэба хутчэй прытрымлівацца назвы рэк і азёр, так як яны больш старажытныя, чым назвы насленых месцаў і самыя іх імёны больш устойліва трымаюцца ў народным асяроддзі. Пры гэтым, усім вядомы факт, што рускія славяне часта называлі паселішчы імёнамі рэк. Гэтых высноў мы і будзем прытрымлівацца ў далейшым апавяданні.

На ўсходзе тэрыторыя Смаленскай вобласьці даходзіла да верхавін Волгі каля горада Вяржаўска (зараз Ржоў Цвярской губерніі), адтуль пераходзіла на верхавіны Протвы[46], Масквы-ракі, на прытоку якой Іскані знаходзіўся горад з той жа назвай; затым мяжа ішла на поўдзень, прыблізна па рацэ Воры, якая ў Юхнаўскім уездзе зліваецца з Вугрой, па якой мяжа цягнулася да яе верхавін,

---

[44] Акрамя розных указанняў рускіх летапісаў на тое, што старажытныя памежныя ўмацаванні называліcь гарадкамі, пакажам цікавае месца із Мартына Гала:Multitudinem ad castram grodek obtinendum congregated, стр. 71 у выданні 1742 г. Ці ў Длугаша:Fabricato autem castro, guod a Polonis Gradek vocabatur г.д. Hist. Pol. Выданне 1711 г., т. I, p. 225.

[45] Такім метадам карыстаўся Барсаў у сваіх "Нарысах рускай гістарычнай геаграфіі". Аднак назва гарадок, гарадзішча і інш. маглі з'явіцца і ў больш познія часы, для пазначэння пазнейшых межаў і, нарэшце, па іншых, нам невядомых, прычынах. Пагэтаму поўнасьцю абапірацца на дадзеныя сучаснай геаграфічнай наменклатуры і на іх аснове рабіць заключэнні не зусім правільна: гэтыя дадзеныя могуць служыць толькі дапаможнікам пры вызначэнні межаў у тых месцах, дзе мы маем станоўчае паказанне летапісных крыніц. Мы карысталіся такімі дадзенымі вельмі асьцярожна.

[46] "Вся людзі Голядзь, верх Парэтвы". Іпат. 240 ст., Нікаў. 172. Воскрес. 333. Іпат. 114.

якія знаходзяцца ў Смаленскай вобласьці[47]. Вугра сваёй верхавінай падыходзіць да рэчак Дзягне і Болве, ці Аболве, на якой у палавіне XII ст мы бачым смаленскі горад Аболв, які, як следства, быў крайнім месцам на паўднёвым усходзе. Адсюль мяжа пераходзіла на рэчку Снопаць і пасля яе ўпадзення ў Дзясну па апошняй, верагодна да ўпадзення ў яе рэчкі Габні ў Арлоўскай губерніі, недалёка ад мяжы Смаленскай губерніі. Па гэтай мяжы мы сустракаем горад Пацын, зараз вёска Рагнедзіна Рослаўскага ўезду, на мяжы гэтага ўезда і Раслаўль. Далей мяжа ішла па водападзелу рэчкі Дзясны і Вараніцы, на поўдзень ад Раслаўля, адкуль мяжа паварочвала на паўднёвы захад да Сажа.

Звяртаючыся да сучаснай геаграфічнай наменклатуры мы бачым на гэтай мяжы: Пагарэлае *Гарадзішча* ў Цвярской губерніі, на ўсход ад Зубцова, *Буйгарадок* на Гжаці ў Смаленскай губерніі і некалькі іншых; далей у вобласьці Вугры: вёска *Рубіхіна*, на мяжы з Маскоўскай губерніяй. На поўнач ад Юхнава, *Гарадзішча* на Вугры, у асаблівасьці – *Зарубежжа*, паміж Вязьмай і Дарагабушам, недалёка ад мяжы апошняга, *Гарадзечна*, у верхавінах Болвы ў Калужскай губерніі, *Гарадок*, у верхавінах Вугры ў паўднёвым кутку Дарабушскага ўезда, *Радулі*, нагадваючыя суседніх радзімічаў, вёска Раслаўскага ўезду, на поўдзень ад Пацына – *Гарадзец*, станцыя на чыгунцы із Бранска ў Раслаўль.

Паўднёвая мяжа Смаленскага княства, пачынаючыся ў паўднёвай частцы Раслаўскага ўезда, адсякала сярэднюю частку Клімавічскага ўезду Магілёўскай губерніі, дзе мы бачым смаленскі горад *Зарай*, і вёску *Дыдзіна* на Астры, у якой можна бачыць старажытныя *Дыдагосцічы*. Вышэй яго на Сажы – *Крэчут* (Крычаў). Далей смаленскія валоданні захоплівалі ўсю сожскую верхавіну, перасякаючы Сож паміж Чачэрскам і Прапойскам, каля ўпадзення рэчкі Добрыча, на якой, верагодна, знаходзіўся *Дабрачкоў*, які згадваецца ва ўстаўной грамаце Расціслава. На гэтай мяжы мы бачым *Прапойск* на Сажы, Рагачоўскага ўезду, старажытны *Прупой* і на поўдзень ад яго *Чачэрск*, пры ўпадзенні Чычэры ў Сож, радзімічцкі горад, які належаў Чарнігаўскаму княству. Па рацэ Добрыч паўднёвая смаленская мяжа накіроўваецца да Дняпра, да якога выходзіла каля *Лучына*, ніжэй Рагачова. Трохі вышэй тут жа знаходзілася смаленскае вёска *Вець*, паміж Новым Быхавым і Рагачовым. А на поўдзень горад *Лучын*.

Звяртаючыся да дадзеных сучаснай геаграфічнай наменклатуры, мы бачым на гэтай мяжы *Гарадзец* Клімавічскага ўезду, на паўднёвы ўсход ад мястэчка Шумяч, прама на поўдзень ад Журавіч, на прытоку Добрыча, на захад ад яго, на верхавіне Добрыча - *Крыўск*, на поўдзень ад апошняга *Гарадок*, затым *Гарадзец* на паўднёвы ўсход ад Рагачова і некаторыя іншыя.

Із суседніх памежных чарнігаўскіх гарадоў, на гэтай мяжы нагадаем: Любінец на Протве і Нерынск, Варотніцы пры ўпадзенні Жыздры ў Вугру, Масальск (зараз уездны горад Калужскай губерніі), Ушчыж на Дзясьне вышэй

[47] Ёсць падставы меркаваць, што валоданні Смаленскага князя на ўсход былі далей пазначанай мяжы: із устаўной граматы Смаленскага япіскапства відаць, што князь Смаленскі атрымліваў даніну із Суздаля-Залесскага, ці, што верагодней, із якой-нібудзь яго вобласьці, стр. 244 у хрэстаматыі Будакова.

Бранску, недалёка ад яго Варабейна і Арміна на Іпуці і, нарэшце, Чачэрск на Сажы[48].

Заходняя мяжа Смаленскага княства ішла ад Веці ўверх па Дняпру, хаця не вядома ці ва ўсіх месцах яна датыкалася непасрэдна Дняпра. Так, на гэтым шляху. Так на гэтым шляху мы бачым кіеўскі горад Рагачоў. Копысь і Ворша належалі Смаленску толькі з 1116 году, калі былі адабраны ў Полацка Уладзімірам Манамахам. Пасяленні смалян, верагодна, у гэтым месцы пераходзілі за Дняпро: сам Дняпро ў гэтых мясьцінах ужо уяўляе перашкоду для нападаючых і пры тым на гэтай мяжы ў смалян было менш за ўсё сутычак з суседзямі. Акрамя названых гарадоў тут жа знаходзіліся: *Дабрацін* (вёска Дабрэйка ніжэй Копысі) і *Баспы* на рацэ той жа назвы. Пагэтаму тут мы заўважаем толькі *Гарадзецкае* на Проні, *Гарадзец*, на мяжы са Смаленскай губерніяй. Ад Воршы, ці трохі вышэй, Смаленскае памежжа пераходзіла за Дняпро і па ўсходняй частцы Аршанскага ўезду пераходзіла ў Парэчскі ўезд Смаленскай губерніі, да рэчкі Хоценка, на мяжы Смаленскай і Магілёўскай губерніі, якая цячэ ў Касплю; на гэтай рэчцы мяркуюць *Хоцьшын*.

Далей па рэчцы Рубежніцы, якая працякае на мяжы Віцебскай і Магілёўскай губерній мяжа даходзіла да Смаленскай губерніі, дзе яна зліваецца з Паляніцай, прытокам Касплі. На Касплі быў горад *Касплі* (вёска Касплі недалёка ад возера з той жа назвай). Акрамя горада Касплі на гэтым адрэзку мяжы мы знаходзім *Жыцічы*, старажытныя Жыдчычы. Ад Касплі мяжа накіроўваецца да Дзвіны, прыблізна каля Усвят, Суражскага ўезду і, верагодна, перараэала Дзвіну на поўдзень ад возера Дзвінне, ад якога мяжа праходзіла па водападзелу паміж рэкамі Кунья, прытокам Ловаці і Таропай, прытокам Дзвіны, заканчваючыся на паўнач ад Тарапца, Пскоўскай губерніі, адтуль мяжа паварочвала на ўсход. На гэтым адрэзку мяжы мы бачым старажытныя Жыжцы каля возера Жіжыцкага Тарапецкага ўезда.

Звярнуўшыся да дадзеных сучаснай геаграфічнай наменклатуры, мы сустракаем: на поўначы, на самой мяжы, *Рубеж*, нарэшце, *Гарадзец*, на поўнач ад Усвят.

Што да паўночнай мяжы Смаленскага княства, то яе вызначэнне абцяжарваецца праз адсутнасць летапісных дадзеных. Смаленскія Крывічы на поўначы межавамі з роднасным племенем Наўгародскіх Славен і пры гэтым гандлёвыя інтарэсы суседніх абласьцей былі настолькі агульнымі, што паміж імі сутычкі былі вельмі рэдкімі. Усё гэта прывяло да таго, што на гэтым адрэзку мяжы менш за ўсё назіраецца слядоў умацаванняў і таму летапісы менш за ўсё маюць нагоду ўспамінаць пра памежныя месцы.

Паўночная мяжа Смаленскай вобласьці з Наўгародзкай пачынаецца на поўнач ад Тарапца, які належаў Смаленску; далей мяжа ішла да возера Селігер, хаця невядома ці быў гэты важны адрэзак воднага шляху ў валоданні аднаго Ноўгараду ці ён валодаў ім разам са Смаленскам[49]. Ад Сялігера мяжа ішла па

[48] Багалей, "Гісторыя северскай зямлі"

[49] Прафесар Барсаў схіляецца да апошняга меркавання, "Нарысы Р. Гіст. Геагр.", стр.190

Волзе да горада Ржова Цвярской губерніі, ад якога яна ў паўднёва ўсходнім накірунку пераходзіць у Гжацкі ўезд Смаленскай губерніі[50]. Такімі былі межы Вялікага Княства Смаленскага на пачатку яго самастойнага жыцця, як асобнага, незалежнага ўдзелу, што адносіцца да палавіны XII ст. да часу кіравання Расціслава Мсціславіча, унука вялікага Манамаха.

Вызначыўшы межы Смаленскай зямлі, звернемся да яе гарадоў.

Для вызначэння межаў Смаленскага княства ў перыяд да канца XII ст. мы маем некалькі ўказанняў у летапісе і, акрамя таго, вельмі значны дакумент – Устаўная Грамата Расьціслава Мсціславіча, дадзеная ім Смаленскай епархіі ў 1157 годзе[51]. Летапіс і пазначаная грамата адзначаюць амаль 60 гарадоў, месцазнаходжанне якіх (па меншай меры тых, якія можна знайсці на сучаснай мапе) даюць магчымасць з дастатковай выразнасьцю вызначыць межы княства.

Найбольш значным геаграфічным дакументам з'яўляецца грамата Расьціслава. Яна пазначае 47 гарадоў, із якіх толькі некаторыя згадваюцца ў летапісах. Перш чым перайсці да апісання гарадоў Смаленскай зямлі, разгледзім склад пазначанай граматы.

Для знаходжання гарадоў, якія пазначаны ў грамаце Расьціслава, на сучаснай мапе, навукоўцы звычайна шукаюць населеныя пункты у межах былога Смаленскага княства з падобным гучаннем, калі няма іншых, больш вызначаных указанняў. Якому із іх аддаць перавагу? Менавіта якое было горадам ці пасяленнем у часы Расьціслава? Так, у грамаце ўпамінаюцца Дабраціна і Дабрачкова. На сучасных мапах Смаленскай і ўсходняй часткі Магілёўскай губерній можна знайсці шмат населеных пунктаў, назва якіх паходзіць ад слова *добры*: Добрае, вёска ў Чаусаўскім уездзе Магілёўскай губерніі, Дабрамысл Аршанскага ўезду той жа губерніі, Добрычкі Рагачоўскага ўезду, а якія паказвае Барсаў[52]. Мы яшчэ дададзім Дабрэйкі на Дняпры, паміж Копыссю і Магілёвым і г. д. Калі падбіраць мясцовасьці непасрэдна па мапе, то кожнае із іх мае аднолькавыя правы быць прызнаным горадам, які ўпамінаецца ў грамаце. Такое становішча мала суцяшальнае. Важна было б вызначыць, ва ўсякім выпадку прыблізна, мясцовасць, дзе трэба шукаць названы горад.

Нам здаецца, што для такога вызначэння некаторыя ўказанні дае сама грамата Расьціслава., калі звярнуць увагу на парадак пералічэння гарадоў, узгаданых у ёй. Натуральна выказаць здагадку, што пісец, які складаў яе, кіраваўся нейкім правілам пры пераліку гарадоў. Наўрад ці ён пералічваў гарады, без усякага парадку, які прыйдзе яму на памяць. Верагодней за ўсё, што парадак пералічэння гарадоў залежаў ад становішча горада на шляху збірання князем даніны. Пісец памятаў, із якога горада ў які князь звычайна накіроўваўся за данінай, меў пад рукой адпаведныя запісы і па іх па парадку пазначаў гарады.

---

[50] Лаўр. 5. Параўнаць вызначэнне Смаленскіх межаў у Барсава, "Нарысы Р. Гіст. Геагр.", стр. 184, 191.

[51] Гэтая Граматы была выдадзенаў спісе XVI ст. у дапаўненні да гістарычных актаў, т. І, №4, у хрэстаматыі па рускай гісторыі Арыстава, стр. 678-681, у хрэстаматыя па гісторыі рускага права Уладзімірскага-Буданава, вып. І, 241-249.

[52] Гл. Слоўнік гістарычнай геаграфіі.

На самай справе. Калі мы звернем увагу на парак пералічэння тых гарадоў, становішча якіх бязспрэчна на сучаснай мапе, то пабачым, што гарады ў грамаце згадваюцца ў вядомай пасьлядоўнасьці.

По свайму складу грамата дзеліцца на тры часткі (уласна тры граматы): у першай пералічваюцца гарады і колькасць належачай япіскапу даніны, у другой (пачынаючы са слоў "Се аз худы і грэшны" і г. д.) зацверджваецца грамата князем і ў трэццяй (са слоў "А се пагароддзе" і г. д. да канца) пералічваюцца гарады, з якіх япіскапу даецца пагароддзе і пачэсце[53]. У апошняй частцы названа 11 значнейшых гарадоў без ясякага парадку.

У першай жа частцы названа 37 мясцовасьцей, за выключэннем вёсак, дадзеных япіскапу ў непасрэднае валоданне (Дросенская, Ясенская і інш.). Вось гэтыя мясцовасьці складальнік граматы, як нам здаецца, і пералічыў у вядомым парадку. Вось пералічаныя гарады:

| | | |
|---|---|---|
| 1-Вяржаўлені Вялікія. | 14-Жыдчычы. | 26-Беніцы. |
| 2-Урочніцы. | 15-Басеі. | 27-Дзедзічы. |
| 3-Таропчы. | 16-Мірацічы. | 28-Копысь. |
| 4-Жыжцы. | 17-Дабраціна. | 29-Прупоі. |
| 5-Касплі. | 18-Дабрачкова. | 30-Крэчут. |
| 6-Хотшын. | 19-Бабраўніцы. | 31-Лучын. |
| 7-Жабачаў (Вата. овічы) | 20-Дзетагосьцічы. | 32-Обаль. |
| 8-Шуйспеі | 21-Заруб. | 33-Іскань. |
| 9-Дзяшпяны. | 22-Жэнні Вялікая. | 34-Суждаль Залескі. |
| 10-Вецкая. | 23-Пацін. | 35-Вержаўск. |
| 11-Былеў. | 24-Саладоўніцы. | 36-Ладзейніцы. |
| 12-Бортніцы. | 25-Путцін. | 37-Тарапец. |
| 13- Вітрын. | | |

Ужо толькі павярхоўны погляд на пералічэнне гарадоў застаўляе ўявіць нейкі парадак: складальнік, пачаўшы з Вяржаўскіх пагостаў і Тарапца, заканчвае горадам Вяржаўскам (каля якога знаходзіліся пагосты) і Тарпцом жа. Больш таго. Із наступнага агляду гарадоў мы пабачым, што 15 мясцовасьцей граматы вызначаюцца дастаткова дакладна. А менавіта: Вержаўлені Вялікія, Таропчы, Жыжцы, Касплі, Вецкая, Басеі, Заруб, Пацын, Копысь, Прупоі, Крэчут, Лучын, Обалв, Іскань, Суждаль Залескі; калі мы разгледзім гэтыя гарады на мапе, то пабачым, што першыя складаюць паўночную групу; Касплі, Вецкая і Басеі – заходнюю; Заруб, Пацын, Прупоі, Крэчут, і Лучын – паўднёвую; Іскань і Суждаль Залесскі – усходнюю. Усе яны на мапе ідуць адзін за адным. Пад агульнае правіла не падпадае толькі Капысь: па яго становішчу ў грамацэ ён адносіцца да паўднёвай групы, тады як геаграфічнае яго становішча дае яму месца ў заходняй. Гэты факт можна растлумачыць выпадковасьцю, але астатнія 14 мясцовасьцей, вядома, не выпадкова знаходзяцца ў такой пасьлядоўнасьці.

Вывучаючы далей гарады граматы, можна з вялікай верагоднасьцю вызначыць месцазнаходжанне яшчэ наступных: Хотшына, Жабачава, Вітрыцы,

[53] З такім падзелам яна выдадзена прафесарам Уладзіміравым-Буданавым.

Дабрачкова (а можа быць і Дабраціна) і зноў такі ж, гэтыя гарады ідуць у такім жа парадку.

Такім чынам, паказаны парадак пералічэння гарадоў у грамаце дае нам магчымасць з вялікай даставернасьцю паказаць на месцазанаходжанне таго ц іншага горада; таксама, калі для аднаго і таго ж горада граматы можна знайсці некалькі сугучных цяперашніх назваў, то перавага аддаецца той, якая больш адпавядае месцу ў спісе граматы: месцазнаходжанне якой, калі і не зусім, то, ва ўсякім выпадку, прыблізна вызначаецца. Для некалькіх жа назваў граматы зусім не знаходзіцца сугучных сучасных назваў; у такім выпадку мы можам хаця б прыблізна паказаць іх размяшчэнне[54].

Зараз пяройдзем да вызначэння становішча гарадоў, якія ўпамінаюцца як у грамаце, так і ў летапісах. Заўважым, што некаторыя навукоўцы (Бяляеў) выказвалі сумненні ў тым, што ўсе пералічаныя ў грамаце месцы былі гарадамі. Але калі прызнаць за горад у тую эпоху ўсякае ўмацаванае месца для ваеннай і гандлёвай мэт, каля якога пасяляліся купцы і земляробы, да якога цягнулася акруга (ўезд), то трэба будзе прызнаць мясцовасьці граматы гарадамі, незалежна ад выплочваемай імі даніны, як гэта і было даказана прафксарам Самаквасавым[55].

*Вяржаўліны Вялікія*, складаліся із дзесяці пагостаў, у якіх жылі істужнікі[56], знаходзіліся бяспрэчна каля горада Вяржаўска, цяперашняга Ржова, уезднага горада Цвярской губерніі у верхавінах Волгі[57], так сказаць у яго акрузе.

Тарапец – уездны горад Пскоўскай губерніі, пры возеры з такой жа назвай. Гэта адзін са старажытнейшых гарадоў; першыя згадкі пра яго мы сустракаем у

[54] Звяртаем увагу гісторыкаў права на тое, што даніна “палюддзе”, згодна граматы, збіралася, верагодна, з памежных, больш менш акраінных гарадоў ,якімі, у большай ці меншай ступені былі пералічаныя гарады; між тым, з унутраных (некаторых) гарадоў збіралася толькі “пагароддзе”, а некаторыя ўнутраныя гарады зусім не названы (Красны, Васільеў, Смаленск).

[55] Вось яго доказы; 1) у пераліку пасяленняў павінных плаціць даніну на карысць япіскапа Смаленскага, у першай устаўной грамаце пазначаны: Тарапец, Копысь, Лучын, Мсціслаўль, Суждаль і Ізяслаўль (?), але што гэтыя пасяленні былі гарадамі нас пераконваюць сведчанні летапісаў і трэцяя грамата Расціслава. 2) Па колькасьці выплочваемай даніны Тарапец, Капысь, Лучын, Мсціслаўль, Суждаль і Ізяслаўль не адрозніваліcь ад іншых пасяленняў. 3) Вяржаўск названы горадам у самім акце: у Вяржаўску ў горадзе 3 грыўны Святой Багародзіцы, а Вяржаўск, па колькасьці выплочваемай даніны, складаў меншы із пералічаных у грамаце населеных пунктаў. 4) 7 із пералічаных у першай грамаце пасяленняў, згадваюцца ў трэцццяй, дзе непасрэдна названы гарадамі. Старажытныя гарады Расіі, стр. 87-88.

[56] Людзі якія падлягалі агульнай выплаце падаткаў. Па тлумачэнні прафесара Ўладзімірскага-Буданава. Гл. прым. 6 да выдадзенай ім граматы.

[57] Бяляеў (Заходне Руская Геаграфія, т. VI, р. 177) выказвае здагадку, што Вержаўск ніжэй Ржова. Барсаў (гл. слоўнік) паўтарае гэтую здагадку з заўвагай, што “яна не сузім даказваецца” і паказвае на пагост Веражую ў Тарапецкім уздзе. Пагодзін (Лекцыі і пр., 31) прама паказвае на Ржоў. Прафесар Буданаў паказвае на вёску Вяржу на рацэ Вяржэц у Бельскім уездзе Смаленскай губерніі (заўвагі да граматы). Гэтая спрэчка, як нам здаецца, з дастатковай вызначанасьцю, вырашаецца прафесарам Сабалеўскім (гл. лекцыі па гісторыі рускай мовы, р.83), які даказвае паходжанне слова Ржоў ад Выржаў, ад корн *врж* (куст): як следства знікнення глухога ь адпаў зычны гук в. Што Вержаўленскія пагосты трэба шукаць каля горада Вяржаўска даказваецца, як нам здаецца, сэнсам самой граматы: пры ўпамінанні самаго гораду грамата гаворыць “у Вяржаўску у горадзе”, супрацьпастаўляючы такім чынам Вяржаўскім пагостам гораду. А між іншым слова горад ні пры адной із назваў астатніх гарадоў няма: відавочна, што складальнік хацеў адасобіць Вяржаўск горад ад пагостаў.

XII ст.; праз яго ў 1168 годзе праязджаў Расьціслаў Мсціславіч на сустрэчу са сваім сынам Святаславам, княжыўшым тады ў Ноўгарадзе[58]. Тарапец узгадваецца ў Пацерыку Пячэрскім у жыццяапісанні пратапопа Ісакія, які быў родам із гэтага гарада[59]. Ён знаходзіўся на адным із адгалінаванняў вялікага воднага шляху, а таму ўжо ў XII ст. быў адным із самых заможных гарадоў: ад яго князю ішло 400 грывен падаткаў – па колькасьці якіх ён значна пераўзыходзіў усе пазначаныя ў грамаце гарады. Тут жа знаходзіліся багатыя княжыя рыбныя лоўлі (гр. Рост.). Кіева-Пячэрскі затворнік Ісаакій называецца заможным тарапецкім купцом[60]. У самым пачатку XIII ст. Тарапец ужо выдзяляецца ў асобны ўдзел і з таго часу набывае асаблівую вядомасць і значэнне. Горад у старажытнасьці быў добра ўмацаваны, так як уяўляў крайні і важны пункт Смаленскага княства на поўначы; каля яго знаходзілася некалькі гарадзішч[61]. У XVI ст. ён быў абнесены драўлянымі ўмацаваннямі[62].

*Жыжцы* – трэба шукаць на берагах возера Жыжэцкага ці Жыажыцкага ў Тарапецкім уездзе. У летапісе гэты горад згадваецца пад 1245 год. Каля яго Аляксандр Неўскі пабіў літоўцаў, парабаваўшых Тарапец. Калі мяркаваць па велічыні даніны (130 грывен), гэта быў дастаткова значны горад. У ім жа былі рыбныя лоўлі (Жыжцы таксама ад усіх рыб, іжэ ідзе да мяне дзесяціна святой Багародзіцы і япіскапу. Грамата Расьціслава)[63].

*Каспля* – зараз існуе ў Парэчскім уездзе Смаленскай губерніі возера Каспля, із якога бярэ пачатак рака з той жа назвай, якая цячэ ў Заходнюю Дзвіну. Гэта адзін із вялікіх гарадоў: з яго князь атрымліваў 100 грывен падаткаў; размяшчаўся ён на гандлёвым шляху із Падняпроўя ў Падзвінне[64].

---

[58] Іпат. 362.

[59] Якаўлеў, Пом. Руск. Літар. XII і XIII ст., р. 79.

[60] Ibid.

[61] Сямёнаўскі “Тарапец”, р.1, апавядае, што каля горада ёсць штучна акапаныя горы, якія народ называе “паклонныя”. Відавочна, ён паказвае на гарадзішча, хаця, можа быць, мы вылучаем вельмі смелае меркаванне.

[62] У спісе гарадоў – Тарапец дравян паказаны ў ліку Літоўскіх П. С. Р. Л. т. VII.

[63] Акрамя граматы аб ім упамінаецца ў летапісу пад 1245 год (П. С. Л., VII, 125), у спісе гарадоў ён пастаўлены ў ліку Літоўскіх (П. С. Л. VII, 241). Бяляеў (176 р.) паказвае на сугучнасць з Сідкі на Волзе вышэй Ржова. Барсаў спасылаецца на яго ў сваім слоўніку, але ў “Нарысах рускай гісторычнай геаграфіі” (р. 26, 190) сам размяшчае яго на названым возеры. Прафесар Буданаў выказваецца, што геаграфічна ён не можа быць вызначаны (заўвагі да граматы). Нам здаецца сугучнасць Жыжцы і возера Жызецкага дастаткова падыходзячай, калі не прама паказвае на месцазнаходжанне горада. З другога боку, сам сэнс летапісу, дзе гаворыцца пра гэты горад, паказвае на яго месцазнаходжанне менавіта каля гэтага возера. Летапіс апавядае, што Аляксандр Неўскі, пагнаўшысь за ўцякаючымі з Тарапца літоўцамі, пабіў іх пад Жыжычам, “а сына свайго поіма із Віцебска”. Значыць, із Тарапца князь накіраваўся пад Жызцы і далей на Віцебск; у напрамку да апошняга горада, натуральна, павінны былі адступаць літоўцы; пагэтаму шукаць Жызцы на Волзе, як гэта робіць Бяляеў, ніяк немагчыма. Між іншым, далей возера Жызецкага і побач з ім знаходзячагася возера Дзвінне, смаленскія валоаданні ніколі не выходзілі. Такім чынам, горад Жыжцы, ва ўсякім разе, можна аднесьці толькі да гэтай мясцовасьці.

[64] Такое вызначэнне, як бяспрэчнае, прынята ўсімі. Барсаў (Слоўнік), Буданаў (заўвагі).

*Вецкая* – на Дняпры ў Быхаўскім уездзе Магілёўскай губерніі паміж Новым Быхавым і Рагачовым ёсць вёска Вець[65]. У старажытнасьці не вялікае паселішча (40 грывен даніны).

*Басеі* – знаходзіліся на рэчцы Басеі, якая цячэ ў Проню ў Чаускім уездзе Магілёўскай губерніі. У старажытнасьці пселішча не вялікае (усяго 15 грывен даніны)[66].

*Пацын* – зараз вёска ў паўднёва-ўсходнім кутку Раслаўскага ўезда, на захад ад Дясны[67]; у старажытнасьці не вялікае пасяленне.

*Копысь* – зараз мястэчка ў Магілёўскай губерніі на Дняпры, ніжэй Воршы. У ім памёр вядомы япіскап Наўгародзкі Лука, на шляху із Кіева ў Ноўгарад у 1059 годзе. Да пачатку XII ст. ён разам з Рэшай (Воршай), належаў Полацку і, верагодна, быў населены гэтымі крывічамі, але ў 1116 годзе Манамах пад час барацьбы з Глебам забраў яго. Насельніцтва гэтага горада было невялікім, так як палюддзя з яго бралася толькі 40 грывен. Але тут знаходзіўся перавоз праз Дняпро, з якога князь атрымліваў 100 грывен. Як прыдняпроўскі горад і памежны, ён меў мытню (збіралася гандлёвая даніна і тут былі пабудаваны пастаялыя двары, збіралася корчменная даніна).

*Прупоі* – зараз Прапойск, мястэчка Магілёўскай губерніі Быхаўскага ўезду на Сажы, пры ўпадзенні ў яго Проні. Таксама маланаселены горад (палюддзя збіралася ўсяго 10 грывен). Гэта першы смаленскі прыпынак на рацэ Сож каля чарнігаўскай мяжы, на шляху із сярэдняга Падняпроўя на Смаленск. Тут знаходзіліся пастаялыя і княжыя двары.

*Крэчут* – зараз мястэчка Крычаў Чэрыкаўскага ўезду той жа губерніі, не вялікі горад[68].

*Лучын* – месцазнаходжанне гэтага значнага горада навукоўцы вызначаюць па рознаму. Аднак, мы думаем, што становішча гэтага горада з найбольшай верагоднасьцю можна аднесці да сучаснай вялікай вёскі Лучын на Дняпры, трохі ніжэй Рагачова[69]. Лучын быў асабістым валоданнем князя Рурыка Расьціславіча,

---

[65] Бяляеў паказвае на Веткі ў Мцэнскім уездзе (178 р.), Барсаў указвае на Ветку Гомельскага ўезду, заснаваную раскольнікамі (Слоўнік). Буданаў бачыць у ёй Ветцы, Гжацкага ўезду на рэчцы Ветчанка (заўвагі). Думаем, што прасьцей спыніцца на назве дастаткова сугучнай (Вець, Вецкая весь), відаць, невядомай названым навукоўцам.

[66] З гэтым вызначэннем згодны Бяляеў (178), Барсаў (слоўнік), Буданаў.

[67] Барсаў, слоўнік. Буданаў, заўвагі.

[68] Так вызначае Беляеў (Весткі рускага геаграфічнага грамадства, т.VI, р. 279). У спісе гарадоў змешчаны ў лік літоўскіх. П. С. Р. Л., т. VII, р. 241.

[69] Барсаў у слоўніку адносіць яго менавіта да гэтай вёскі. Але ў “Нарысах” (р.25) сапастаўляе з вёскай Лучаны на Лучанскім возеры, каля верхавін Балы ў Наўгародскай губерніі і на аснове гэтага сапастаўлення вызначае шлях із Азёрнай вобласьці ў Падняпроўе. Буданаў чамусьці сцвярджае, што гэта. бяспрэчна, вёска Лучань на рацэ Ельшы ў Парэчанскім уездзе Смаленскай губерніі. Для меркавання аб месцазнаходжанні старажытнага Лучына мы маем сведчанне летапісу пад 1172 год: Рурык Расціславіч, ідучы із Ноўгараду, спыніўся ў Лучыне і пабудаваў тут царкву святога Міхала (Іпат. 389). Барсаў і Буданаў шукаюць Лучын паміж Смаленскам і Ноўгарадам на водным шляху, так як у некаторых спісах летапісу гаворыцца, што Рурык ішоў із Ноўгараду і Смаленска, г. зн. г. зн. быў ужо за Смаленскам, калі ў яго нарадзіўся сын, кіруючыся ў на поўдзень у свой Оўручскі ўдзел. Акрамя таго, з меркаваннем Барсава цяжка згадзіцца і таму яшчэ, што ён размяшчае старажытны Лучын на Наўгародскай тэрыторыі; як жа мог князь дарыць свайму сыну горад, які належыў варожаму племені? Больш таго, Лучын, верагодна,

якое ён атрымаў ад свайго бацькі. Калі Рурык пакінуў Ноўгарад у 1172 годзе і вяртаўся з сям'ёю ў свае паўднёвыя валоданні, якія ён перадаў часова брату Давыду, тут нарадзіўся ў яго сын Міхал-Расціслаў. У азнаменаванне гэтай падзеі князь пабудаваў у Лучыне царкву святога Міхала і сам горад падараваў нованароджанаму. Ці меў Лучын нейкае значэнне ў гандлёвым дачыненні, як прыдняпроўскі горад, які знаходзіўся на дастаткова зручным месцы – цяжка вызначыць, таму што колькасць даніны, якая збіралася з Лучына на карысць князя не прачытана выдаўцамі граматы. Як з горада памежнага і прытым знаходзячагася на водным шляху, з яго князю выплочвалася мыта, г. зн. падатак з тавараў, якія праходзілі праз яго і "корчмыты", г. зн. даніна з корчмаў, уладкаваных у ім, верагодна для прыпынку падарожнікаў. Із гэтага зразумела, што ён, ва ўсякім выпадку, служыў у якасьці гандлёвай і мытнай станцыі.

*Обалв* – зараз лёгка вызначаецца прытокам ракі Дзясны рэчкаю Болваю, у Мцэнскім уездзе Калужскай губерніі, верхавіны якой знаходзяцца каля мяжы Смаленскай губерніі; у верхавінах Болвы ў цяперашні час існуе паселішча Болва. Гэта быў невялікі гарадок на шляху із Чарнігаўскай зямлі ў зямлю Вяцічэй і Растоўскую. Ад яго князь не атрымліваў палюддзя, а толькі гасьцінную даніну, г. зн. даніну з падарожнічаючых купцоў, што дае нам некаторае права зрабіць выснову аб тым, што Обалв быў невялікім памежны ўмацаванем, у якім жылі толькі дружыннікі і княжыя чыноўнікі і ў той жа час ён быў мытным гарадком. Обалв і яго наваколле знаходзіліся на зямлі Вятачэй і згадванне пра яго як пра Смаленскі горад мы знаходзім толькі ў грамаце Расціслава 1150 года. Іншыя ж указанні летапісаў, як больш раннія (1147г.), так і больш позния (1159 г.), узгадваюць яго, як Чарнігаўскі горад. Значыць ён належаў Смаленску ўсяго гадоў 10[70].

належаў Рурыку як яго княжы, асабісты горад (бо ў Смаленскай зямлі ўдзелу ён не меў); так як да гэтагу часу ён нават пры бацьку (Іпат. 370, 378) і пасьля меў удзел на поўдні, у Оўручы, Белгарадзе, то, натуральна, чакаць, што яго асабістыя княжыя гарады ў Смаленскай зямлі былі на поўдні яе. А Лучын самая паўднёвы куток ад Смаленска. Заўважым яшчэ, што ў спісе гарадоў (П. С. Р. Л. т. VII р.240-241) Лучын пазначаны ў ліку гарадоў Кіеўскіх, разам з Рагачовым, што зноў такі можа падцвердзіць наша меркаванне. Дабавім яшчэ некалькі слоў аб месцазнаходжанні Лучына. Арцыбышаў паказваў на пагост Лучаны Пскоўскай губерніі Холмскага ўезду. Карамзін бачыў у ім Люцын, уездны горад Віцебскай губерніі. Надзеждзін і Няволін указваюць на тое, што ёсць шмат падобнагучашчых слоў у паўночнай частцы Смаленскай губерніі; Наўгародскай і Цвярской губерніях, а таксама паказвалі на яго становішча сярод гарадоў граматы (Пагодзін, 300, IV).

[70] Вызначэнне Смаленскай Облаві, дадзенае Беляевым (вёска Обальцы ў Капыскім уездзе, 179) не мае значэння. У вызначэнні месцазнаходжання Вятічскага Блове ўсе даследчыкі згаджаюцца: Арцыбашаў (II, 36), Надзеждзін і Няволін (у Пагод. IV, р. 228), Барсаў у "Нарысах" (р. 156), хаця ў слоўніку ён сумняваецца ў гэтым на падставе таго, што вытворчасць слоў абласных назваў ад рэк (р. Болва-Аблоўе) не доказвае паходжанне слова ў дадзеным выпадку (параўнаць Дзясна-Падзясенне). Усе гэтыя меркаванні падрабязна раггледжаны ў Багалея (Гісторыя Северскай зямлі, р. 142). Буданаў, у заўвагах да граматы, лічыць Смаленскую Обалв за аосбны ад Блове Вяцічэй горад, для чаго, як нам здаецца, няма падстаў. Ён упамінаецца як чарнігаўскі у самы разгар вайны Ізяслава і Расьціслава Мсціславічэй з Юр'ем і яго хаўруснікам Святаславам Чарнігаўскім, які ў тым жа годзе ваяваў верхавіны Вугры і Протвы (Іпат. 240, 242). У гэты час Расьціслаў, у сваю чаргу, мог захапіць чарнігаўскі горад. Пасьля 1150 году ён знаў, як следства той жа барацьбы, вярнуўся ў валоданне чарнігаўскіх князёў (1159 г. Т. С. Р. Л., т. VII р.)

*Іскань* – вызначаецца рэчкаю Іскань у Мажайскім уездзе, прытокам ракі Масква. Нязначнае паселішча на ўсходняй мяжы[71].

*Суждаль Залескі* – пад час складання граматы не належаў Смаленску. Грамата гаворыць аб ім: “Суждалі Залеская дань ажэ вараціць Гюргі, а што будзе ў ёй, із таго святой Багародзіцы дзесяціна”; гэта месца паказвае, што не задоўга перад барацьбой Расціслава з Юр’ем Смаленску належалі землі ў самой Суздальскай зямлі, можа быць смаленскія калоніі[72].

*Вяржаўск* – зараз горад Ржоў Цвярской губерніі на Волзе. Згодна з велічынёй падатку (30 грывен) – невялікі горад.

*Хотшын* – да некаторай ступені вызначаецца рэчкай Хоцінкаю на мяжы Парэчскага ўезда Магілёўскай губерніі. Згодна з колькасцю даніны (120) грывен, адзін з вялікіх гарадоў[73].

*Вітрын* – можа быць, можна вызначыць рэчкай Вотра, прыток Вопгі ў Духаўшчынскім уездзе[74]. У яе верхавінах ёсць вёскі Вотра і Вярдзіна.

*Жыдчычы* – зараз вёска ў Парэчынскім уездзе Жычыцы[75].

*Дабраціна* – можа быць, зараз вёска Дабрэйка на Дняпры, ніжэй Копысі, Магілёўскай губерніі[76].

*Дабрачкова* – зараз можа быць вызначаны рэчкай Добрычам, якая зліваецца з Сажом, крыху ніжэй Чачэрска[77].

*Дзетагосьцічы* – можа быць зараз вёска Дзедзін Клімавічскага ўезду Магілёўскай губерніі.

*Заруб* – аб ім мы маем таксама згадкі ў летапісу: Расціслаў Мсціславіч, едучы із Ноўгараду, пасьля спаткання з сынам Святаславам, спыніўся ў Зарубе, у вёсцы Рагнедзіна, дадае летапісец, дзе і памёр. Такім чынам, ён знаходзіўся на шляху із Смаленска. У Раслаўскім уездзе Смаленскай губерніі, на Дзясне, у цяперашні час існуе вялікая вёска Рагнедзіна, якая размешчана на шляху із Смаленска ў Кіеў[78].

*Дросенскае* – вызначаецца рэчкай Дрэсенкаю Саленскага ўезду, недалёка ад гораду на гэтай рэчцы існуе вёска Дрэсенка[79]. Дросенскае разам з другой вёскай Ясенскае (зараз б. м. вёс. Ясенская ў Асташкаўскім уездзе[80]), зямлёю ў

---

[71] Барсаў, Слоўнік

[72] Барсаў, Нарысы, 1

[73] Буданаў (заўвагі) паказвае на вёску Хоцічы ў Бельскім уездзе. Мы, у такіх выпадках, заўсёды прытрымліваемся назвы рэчкі для вызначэння гарадоў.

[74] Бяляеў бачыў у ёй названую Вярдзіну. З ім згодны Барсаў і Буданаў.

[75] Па Буданаву.

[76] Бяляеў суадносіць з вёскай Добрай Чаускага ўезду (178 р.); Барсаў дадае яшчэ Дабрамысл Аршанскага ўезду (слоўнік). На іх спасылаецца Буданаў.

[77] Бяляеў паказвае на Добрычкі ў Рагачоўскім уездзе на Сажу. На яго спасылаецца Барсаў і Буданаў.

[78] Так вызначаюць Заруб Надзеждін і Няволін (Пагодзін, 299). З імі згодзен Барсаў у сваім слоўніку. Але ў нарысах рускай гістарычнай геаграфіі (р. 313) ён паказвае на вёску Зароўцы каля Дняпра, на што спасылаецца і Буданаў. Апошняя выснова не мае значэння; што менавіта ў сучаснай вёсцы Рагнедзіна патрэбна бачыць старажытны Заруб.: 1) поўная сугучнасць назваў і 2) праз яго мог праходзіць зімні кароткі шлях із Смаленска ў Кіеў (Расьціслаў памёр у Зарубе 14 сакавіка); гл. Іпат. 364.

[79] Буданаў у заўвагах да граматы.

[80] Бяляеў, р. 179.

Пагановічах Мойшынскіх, азёрамі і сенажацямі Нямікорскімі, сенажацямі на Свякровых Луках і возерам Каладарскім, былі перададзены ў валоданне япіскапу Расціславам у 1150 годзе. Усе гэтыя назвы цяжка знайсці на сучасных мапах. Бяляеў паказвае на вёску Сваршкоў для вызначэння Свякровых Лук[81]. Акрамя таго, япіскапу быў аддадзены Холм[82].

*Мсціслаў* – зараз уездны горад Магілёўскай губерніі.

*Расціслаў* – зараз уездны горад Смаленскай губерніі.

*Ельня* – зараз таксама ўездны горад Смаленскай губерніі на Дзясне. У геаграфічным апісанні XVII ст. на гэтым месцы пазначана Гарадзішча Ельна[83].

Дарагабуж – зараз уездны горад Смаленскай губерніі.

Мы пералічылі ўсе гарады, згаданыя ў грамаце Расціслава, геаграфічнае становішча якіх ў цяперашні час можа быць вызначана дакладна, або з некаторай даставернасьцю.

Назавём гарады, якія не ўвайшлі ў папярэдні пералік праз недастатковасць звестак у сучаснай геаграфічнай наменклатуры.

Уротніцы
Жабачаў
Жэнні Вялікая
Ватаовічы
Шуйспеі

Усе гэтыя гарады былі із ліку дастаткова вялікіх. Так, першыя тры плацілі по 200 грывен даніны, Ватаовічы – 100 грывен, а апошні – 80 грывен; на жаль, іх месцазнаходжанне можа быць вызначана толькі прыблізна, у сувязі з парадкам пералічэння гарадоў граматы. Менавіта: Урочыцы трэба шукаць у Тарапецкім уездзе, Жабачаў, Ваоцічы і Шуйспеі – недзе ў Прыдняпроўі, паміж Касплю і Веццю і Жэні Вялікую – на поўдні Рагачоўскага ўезду[84].

Акрамя таго, у апошняй грамаце яшчэ ўпамянуты Крупля і Ізяслаўль.

---

[81] Ibidem. Ён жа паказвае на вёску Мошну ў Духаўскім уездзе для вызначэння Мойшынскай зямлі. Барсаў паказвае на Мошава ў Клімавічскім уездзе (Слоўнік). Наўрад ці гэтыя гіпотэзы маюць якое-небудзь значэнне.

[82] У Смаленскай губерніі існуе шмат паселішчаў з назвай Холм, але да якога з іх можна аднесьці Холм граматы – невядома.

[83] Назву Ельня маюць шмат якія мясьціны ў Смаленскай губерніі; ёсць таксама рэчка, якая пачынаецца на мяжы Смаленскай і Магілёўскай губерній і цячэ ў Дняпро, але важным указаннем на наша атаясамленне Елны з'яўляецца яе становішча ў "Кнізе Вялікага Чацяжа" (М. 1838 г. першае выданне, р. 85), дзе на рацэ Дзясна размешчана Гарадзішча Ельна – у той час рэшткі вялікага горада. У гэтай кнізе згадваецца таксама Мсціслаўль і Рослаўль (80-81). У спісе гарадоў: Ельня, Дарагабуж, і Мсціслаўль пазначаны, як належачыя Смаленску. (П. С. Р. Л. т. VII, р. 241).

[84] Дарэчы заўважым, што некаторым гарадам дасьледчыкі спрабавалі знайсьці падобна гучныя словы. Так, для вызначэння Шуйспеяў Барсаў (Слоўнік) паказвае на вёску Шуі ў Масальскім уездзе Калужскай губерніі. Але да гэтай тэрыторыі наўрад ці даходзіла Смаленская тэрыторыя, акрамя таго гэта не адпавядае парадку ў грамаце. Ёсць і яшчэ паселішчы, напрыклад, Шуйскае ў Вяземскім уездзе. Здагадкі Барсава ("Нарысы", р.225) на Жэнні ў Тарапецкім уездзе (Жэлна, Шэйна) не маюць значэння. Для Жабачава можна было б паказаць на вёску Жабін Магілёўскай губерніі на Сажы, ніжэй упадзення Добрыча. Але ўсе гэтыя здагадкі не маюць вялікага значэння.

Спасылаючыся на тое, што яны стаяць сярод дастаткова значных гарадоў (Мсціслаўль, Ельня, Раслаўль і інш.), з якіх збіралі *пагароддзе* і *пачэсьце*[85], можна думаць, што і гэтыя гарады былі больш менш значнымі.

Із дробных гарадоў у грамаце згадваюцца наступныя, месцазнаходжанне якіх вызначаецца толькі адносна: *Дзяшпяны*, *Былеў*, *Бортніцы*, якія знаходзіліся недзе каля Веці ў Прыдняпроўі. *Міpацічы* і *Бабраўніцы* патрэбна шукаць на паўднёвай мяжы, паміж Басяй і Зарубам. Да іх жа па становішчу далучаюцца: *Саладоўніцы*, *Пуцціна*, *Беніцы* і *Дзедзічы*. І, нарэшце, *Ладзейцы*, размяшчаліся недзе ў Ржоўскім ці Тарапецкім уездзе[86].

Мы пералічылі ўсе гарады Расьціслававай граматы. Дададзім гэта пералічэнне гарадоў Смаленскага княства яшчэ тымі гарадамі якія ўзгадваюцца ў летапісах. Іх няшмат, так што калі б мы не мелі граматы Расьціслава, не было б ніякай магчымасьці нават прыблізна вызначыць межы княства.

*Васілеў* і *Красны*. Абодва гарады узгадваюцца ў летапісах, як удзельныя гарады, якія былі вызначаны Расьціславам Мсціславічам Раману ў 1165 годзе[87]. Месцазнаходжанне першага із іх у цяперашні час вызначыць цяжка. Бяляеў паказвае на вёску Васілеўку на мяжы Красненскага ўезда[88] з Раслаўскім, а Барсаў на вёску Васільева ў Дарагабушскім уездзе[89]. І тое і другое вызначэнні не маюць за сабой ніякіх доказаў. Красны – зараз уездны горад Смаленскай губерніі.

*Рыша* – у цяперашні час Ворша, на Дняпры, уездны горад Магілёўскай губерніі. Да 1116 году яна разам з Копысем належала Полацку, але Манамах забраў яе[90].

*Зарой* – яго летапіс узгадвае пад 1156 год[91] з наступнай нагоды: Юры Даўгарукі пайшоў на Смаленск. Расьціслаў выйшаў насустрач да Зарою і тут яны

---

[85] Прафесар Буданаў апавядае: "Ці бралась з гарадоў даніна, ці толькі адно пагароддзе? Хаця некаторыя мясьціны (Тарапец, Вяржаўск, Жыжкі), з якіх бралася пагароддзе ўзгадваюцца ў ліку і такіх, з якіх бралася даніна, але значнейшыя Смаленскія гарады (Мсціслаўль, Крупля, Раслаўль, Ельня, Ізяслаўль) не згадваюцца ў ліку пасяленняў, якія плацілі даніну. Галоўны ж горад Смаленск не плаціў не толькі даніну, але і пагароддзе. Із гэтага можна было б заключыць, што цэнтральны горад зямлі, у якасьці ўдзельніка вярхоўнай улады, сам не падлягаў абкладанню падаткамі. Галоўныя правінцыяльныя гарады, хаця таксама не плацілі пастаяннай даніны, але былі абавязаны ўтрымліваць князя пры яго прыездзе, што потым ператварылася ў акладнае пагароддзе. Трэба заўважыць, што ў Наўгародзкім статуце Святаслава аб даніне са значных гарадоў не згадваецца. Пагароддзе складаецца: 1) із вызначанага ўроку, г. зн. падатку ўжо пераведзенага на грошы і 2) із пачасьця – натуральнага падатку (футраў, рыбы і г. д.)."

[86] Для вызначэння гэтых мясцовасьцяў даследчыкамі былі прапанаваны падобнагучныя назвы: Бяляеў для Міраціч паказвае на Мярчалава на Протве, для Дзедзіч – Дзедава ў Парэчынскім уездзе на Касплі. Барсаў для Беніцы паказвае на вёску Беніца ў Тарапецкім уездзе, для Пуцціна – вёску Путнаўка ў Жыздранскім уездзе на Вараноўцы ў Калужскай губерніі, для Бабраўніц – Бабровую Луку ў Віцебскай губерніі, ці Баброўку каля Ржова. Буданаў для Саладоўніц – вёску Саладоўню Сычашскага ўезду, для Бабраўніц – ажно 11 пасяленняў са словам бобр.

[87] Іпат. 399.

[88] З.Р.Г. Грам., т. VI, р. 177.

[89] Слоўнік.

[90] Іпат. 117, 203. Дасьледчыкі далёка не адразу прыйшлі да згоды бачыць у Ршы Воршу, іх спыняла тая абставіна, што у летапісе сказана: На Ршы каля Смаленска. Атрымлівалася, што на Ршы, як бы на рэчцы паблізу Смаленска. Пагэтаму Пагодзін шукаў рэкі Рсі (IV. 217 І. Л. і інш.), Карамзін паказваў на Аршанскі ям, гл. Барсаў, Слоўнік і Салаўёў, Гіст. Р., т. II, 37.

[91] Іпат. 328.

заключылі пагадненне. Значыць, Зарой знаходзіўся на паўднёвай мяжы княства. У цяперашні час існуе вёска Зарой у Клімавічскім уездзе, у 10-ці вярстах ад Клімавіч, паблізу Іпуці[92].

Акрамя таго, узгадваецца яшчэ адна мясцовасць:

*Сковышын бор*, месцазнаходжанне якога не вызначана[93]; гэту мясцовасць далучаюць да Смаленскага княства[94], хаця ў гэтым можна ўсамніцца. Сковышын Бор у летапісы трапіў у сувязі з наступнай нагодай: Рурык у 1180 годзе паслаў свайго брата Давыда Расьціславіча із Белгарада ў Смаленск да іхнага брата Рамана: "І ўсрэце і весць на Скошыну Бару", - што Раман памёр. Такім чынам, летапіс зусім не паказвае на чыёй тэрыторыі Давыд даведаўся аб смерці брата.

Мы пералічылі ўсе гарады Смаленскай зямлі. Засталося сказаць толькі аб галоўным горадзе – Смаленску[95].

Гэта быў цудоўна збудаваны і прыгожы горад, размешчаны на абодвух берагах Дняпра. Ужо на прыканца XII ст. ён упрыгожваўся мноствам багатых і прыгожых цэркваў. Галоўная частка горада і крэпасць былі размешчаны на левым баку Дняпра, у пагорыстай мясцовасьці, перасякаемай ярамі. Княжы палац, згодна паданню, знаходзішся ў сучаснай Свірскай Слабадзе[96]. Смаленскія князі садзейнічалі ўпрыгожванню горада царквамі. Так Уладзімір Манамах пабудаваў у 1161 годзе сабор Успенскай Багародзіцы; у 1146 Расьціслаў Мсціславіч пабудаваў у задняпроўскай частцы горада царкву Апосталаў Пятра і Паўла; царква святога Іаана Багаслова пабудавана Раманам Расьціславічам у 1180 годзе, а брат апошняга Давыд пабудаваў цудоўную каменную царкву на імя Архангела Міхала, якая ў старажытнасьці лічылася адной із прыгажэйшых і багацейшых[97]. У самым горадзе і яго ваколіцы было некалькі манастыроў: у пяці вярстах ад гораду знаходзіўся Багародзіцкі манастыр, у мясцовасці называемай Селішчам, далей Атрочы манастыр, манастыр святога Храста і, пабудаваны япіскапам Ігнаціем манастыр у гонар пакладзення Рызы Багародзіцы[98].

Недалёка ад гораду была вядома прыстань Смядынь, на адлегласьці ад горада "яко зрыма"[99], дзе загінуў Глеб Мурамскі. Паблізу ад Смаленску знаходзілася вёска Дрэсенская, з 1150 году падараваная Расціславам япіскапу.

Смаленск быў галоўным горадам шырокай вобласьці, працяглага княства Смаленскага; ён размешчаны на вельмі зручным месцы. Праз яго праходзіў шлях із Азёрнай вобласьці ў сярэдняе і ніжняе Падняпроўе, адкуль у Грэцыю, шлях із

---

[92] Пагодзін, 298.

[93] Надзеждзін і Няволін толькі заўважаюць, што ў Магілёўскай, Смаленскай і Чарнігаўскай губерніях ёсць шмат слоў з бор (Пагодзін, 301)

[94] Барсаў, Пагодзін.

[95] Васкр. 31. Ітпат. 215. Іпат 218, Васкр. 32, Іпат 220, 224, Васкр. 41, 42, 44, 45, 51, 53, 242, 252, 333. Нік. 4, 15, 57, 72, 73. 77, 94. 107, 126, 127, 137, 143, 168, 171, 172, 177, 179, 186, 198, 199, 201, 202, 209, і шмат інш.

[96] Мікіцін "Гісторыя горада Смаленска", p.8.

[97] Мітрапаліт Макарый "Гісторыя Рускай Царквы", pp. 64, 65, 66, т . І.

[98] Ibidem., p. 93. Мурзакевіч, "Славутасьці горада Смаленска", Чытанні Маскоўскага Грамадства Гіст. І Стар., 1846 г. т. ІІ; гл. таксама Мурзакевіч, "Гісторыя горада Смаленска", М. 1801 г.

[99] Іпат. 94.

Паволжжа і верхняга Падзвіння. Гэта аб’яднанне трох важных гандлёвых шляхоў паказвае на гандлёвае значэнне Смаленску.

## IV.
## Межы і гарады Полацкага і Тураўскага княстваў.

На захад ад Смаленскіх крывічэй жылі іх родзічы Полацкія крывічы. Яны таксама рана аддзяліліся ў самастойны ўдзел. Межы гэтага княства можна вызначыць наступным чынам.

На ўсходзе Полацкія межы суседзіліся са Смаленскімі; на гэтым баку мы бачым полацкія гарады: Усвяты (Высвят), Віцебск і заходней Лукомль, зараз мястэчка Магілёўскай губерніі Сенненскага ўезду. На поўдзень ад паказаных намі полацкіх уладанняў мяжа ішла па водападзелу паміж Дняпром і Вабічам, прытокам Друці, якая зліваецца з Дняпром каля Рагачова. Мяжа заканчвалася, ва ўсякім разе, на поўдзень ад мястэчка Галоўчын Магілёскага ўезду, у якім бачаць старажытны Галацічаск, пад якім Яраполк пабіў Усяслава Полацкага. На Друці, у верхнім яе цячэнні, на мяжы Магілёўскага і Аршанскага ўездаў мы бачым Друцк, бязспрэчна Друцак, удзельны горад Полацкага княства. Каля вусьця Вабіча мяжа накіроўвалася з усходу на захад.

Із дадзеных сучаснай геаграфічнай наменклатуры на ўсходняй полацкай мяжы яшчэ адзначым: Гарадзец на Лучосе ў Аршанскім уездзе, Новы Гарадзец у Сенненскім уездзе на рацэ Вусіцы, якая цячэ ў Уллу, Гарадзішча на Друці, ніжэй упадзення Вабіча, Гарадзец на Грэзлі, прытоку Друці.

Паўднёвая мяжа пачынаецца каля вусьця Вабіча ці крыху на поўдзень. Адсюль мяжа кіравалася да Бярэзіны, якую перасякаў каляракі Свіслач, дзе знаходзіўся старажытны *Высвіслач*, згадваемы ў XIII ст. і, верагодна, існаваўшы ў XII ст. Далей мяжа накіроўвалася верагодна да верхавін Птічы, прытоку Прыпяці і да ракі Уса, якая цячэ ў Нёман, а потым пераходзіла на верхавіны яго ж прытоку Сулы, прынімаючы паўночны накірунак. На паўднёвай мяжы полацкіх уладанняў, акрамя згаданага Друцку, мы бачым *Барысаў*, зараз уездны горад, *Лагожаск*, зараз Лагойск, мястэчка Барысаўскага ўезду, затым *Менск*, зараз губернскі горад, *Ізяслаўль*, зараз мястэчка Заслаўль Менскага ўезду, *Ноўгарад Літоўскі*. Із дадзеных сучаснай геаграфічнай наменклатуры на гэтай мяжы заўважаем наступныя: Гародна, Барысаўскага ўезду на рацэ Бобр, Гарадзец на рацэ Сума, прытоку Ольсы, Гарадок на Пцічы, на поўдзень ад шляху із Бабруйску ў Слуцк, Гародка ў Бабруйскім уездзе, Гарадок на поўнач ад Менску, паміж ім і мястэчкам Лагойск на рацэ Ўсяж, якая цячэ ў Гайну, якая зліваецца з Бярэзіной на поўнач аб Барысава, на поўдзень ад Менска, на мяжы яго ўзда і Ігуменскага – Рублікі, Рубяжы на рацэ Арэсе ў Бабруйскім уездзе, якая цячэ ў Пціч, на ёй жа паўднёвей Малыя і Вялікія Гарадзяцічы, Гарадзішча на рэчцы Веса, якая зліваецца са Случчу вышэй Слуцку, потым Вялікія Крывічы ў верхавінах нёманскай Бярэзіны, Рубежычы ў Менскім уездзе на Суле, якая цячэ ў Нёман. Заходняя мяжа Полацкага княства пачыналася, верагодна, у верхавінах Нёману і яго прыкаў:

Сула, Быстрая, Ісрач і Бярэзіна, дзе ў XII ст. знаходзім полацкі горад Гарадзец, памежны з Літвой, аб якой дакладныя звесткі маюцца толькі з палавіны XIII ст.; як следства гэтага, вызначэнне Полацкіх межаў на захадзе і паўночным захадзе амаль немагчыма. На гэтай мяжы пастаянна вялася ціхая каланізацыя крывічэй у літоўскую зямлю. Пагэтаму межы часта змяняліся. Да канца XIII ст. літоўцы амаль не мелі гарадоў, пагэтаму і крывічам, са свайго боку, не было патрэбы адгароджвацца ад суседзей, ваяўнічыя сутычкі з якімі пачынаюцца толькі з мяжы XII і XIII ст. Ёсць урыўкавыя звесткі аб існаванні ўладанняў рускіх князёў у Ліцве ў XII ст. Але яны, зноў такі, адносяцца да каланізацыйнага руху крывічскага племені і не складалі пастаяннай тэрыторыі княства. Так, у першыя гады XIII ст. немцы сустрэліся з крывічскімі князямі Весцэке із Какейнаса і Вісевальдзе із Герсікі. У далейшым мы вернемся да каланізацыйнага пытання, а зараз адзначым, што мяжа Полацкіх уладанняў ад пазначаных намі верхавін Нёманскіх прытокаў ішла да верхавін Вялікай у Себежскім уездзе Віцебскай губерніі; цяжка вызначыць дзе яна заканчвалася, але на Вялікай мы бачым пскоўскі горад Востраў. Мяжа магла змяняцца, згодна з каланізацыйным рухам крывічэй. Паўночная мяжа ішла ад верхавін Вялікай да верхавін Ловаці. На гэтай лініі быў полацкі памежны горад Яменец і Вялікія Лукі, Наўгародзкі горад.

Зараз звернемся да вызначэння гарадоў Полацкага княства.

Галоўны горад зямлі Полтэск, Полацк, згадваецца ўжо на першых старонках летапісу [100] як старажытнейшы і значнейшы горад Русі. Ён размяшчаецца пры ўпадзенні рэчкі Палаты ў Дзвіну на ўзвышаным мысе, які ўтвараецца названымі рэкамі[101], што робіць размяшчэнне горада дастаткова прывабным. Яго цэнтральнае становішча ў зямлі полацкіх крывічэй, пры аб'яднанні двух рэк, адна із якіх Дзвіна збліжае яго, праз зямлю Смаленскіх Крывічэй, з аднаго боку з Паволжжам і з шырокай гандлёвай дзейнасцю, якая была ў старажытнасьці характэрна для гэтыга рэгіёну, з другога боку з Кіеўшчынай, а праз яе з Візантыяй; тая ж Дзвіна злучала Полацк з Ноўгарадам і з Балтыйскім морам. МЫ ўжо бачылі, што праз Полацк праходзілі і прамыя шляхі ў Ноўгарад праз Палату і ў Кіеўшчыну праз Бярэзіну. Нарэшце, яшчэ трэба памятаць, што Полацк быў бліжэйным значнейшым горадам да Літвы, а таму, натуральна, рускі і нямецкі гандаль з апошняй адбываўся менавіта праз яго. Слава аб яго багацці ў старажытнасьці выходзіла далёка за межы Русі; ён добра быў вядомы ў Скандынавіі і ў скандынаўскіх сагах вядомы пад назвай Pallteskja[102]. На жаль, нашы крыніцы вельмі бедныя сведчаннямі пра ўнутранае жыццё горада ў той час. Із "Слова аб палку Ігаравым" мы ведаем аб існаванні ў ім царквы Святой Сафіі[103]. А із жыція святой Еўфрасінні аб манастыры святога Спаса, перабудаванага апошняй із драўлянага ў каменны, у прыгарадным

---

[100] Згадваецца Іпат. Лет.: 11, 18, 50, 83, 102, 121, 122, 150, 211, 212, 220, 239, 340, 349, 350, 355, 360, 361, 369, 412, і інш.

[101] Бялінскі, "Staroż. Polska", III, p. 594.

[102] Гл. Эймандаву сагу ў "Antiquitées Russes", т. II p. 170-211.

[103] Аб гэтай царкве гл. Сапуноў "Полацкі Сафійскі сабор", Семянтоўскі "Беларускія старажытнасьці", вып. I, p. 105.

япіскапскім пасяленні, якое мела назву Сяльцо[104]; гэтая мясцовасць знаходзіцца ў двух вярстах ад гораду; у манастыры святога Спаса знаходзіцца знакаміты хрэст яго заснавальніцы. Акрамя таго, ў самім горадзе існаваў жаночы манастыр, у які ўступіла святая Еўфрасінія[105]. Летапіс апавядае, што ў Полацку існавала старая царква святой Багародзіцы 1159 годзе[106], значыць, была і новая. Пры гэтай царкве існавала братчына ўжо ў той аддалены час[107], у Цвярскім летапісе пад 1001 годам значацца звесткі аб перанясенні астанкаў князей Ізяслава і Ўсяслава "у святую Багародзіцу", што, верагодна, і адносіцца да вышэйзгаданай "старой" царквы святой Багародзіцы[108]. Недалёка ад гораду існавала паселішча *Белчыцы*, у ім была рэзідэнцыя князёў Полацкіх[109]. Вось і ўсё, што захавалі нам старажытныя крыніцы аб тапаграфіі старажытнага Полацка[110].

На поўнач ад Дзвіны знаходзіліся наступныя гарады.

*Весвят* – зараз мястэчка Веліжскага ўезду Віцебскай губерніі. У разглядаемы час аб ім узгадваецца ўжо ў 1021 годзе: Яраслаў даў гэты горад і Віцебск Брачыславу Полацкаму[111]. Такім чынам, абодва гарады належалі да 1021 году, верагодна часова, Кіеву, але з гэтага году яны ўжо назаўсёды з'яўляліся часткай Полацкай зямлі.

*Відбеск* - зараз губернскі горад Віцебск на Дзвіне каля ўпадзення Віцьбы[112]. Упершыню згадваецца ў 1021 годзе.

*Стрэжаў*. – У 1151 годзе гэты горад быў выдзелены ў асобны ўдзел: яго, Рогвалад Барысавіч, захапіўшы Полацк, аддаў Усеваладу, які быў прагнаны адтуль[113]. Месцазнаходжанне Стрэжава даследчыкі звычайна лічаць мястэчка Стрэшын Магілёўскай губерніі на Дняпры[114]. Гэта атаясамленне робіцца на той падставе, што пры апісанні паходу 1127-1128 году Мсціслава, сына Манамаха на

---

[104] Stebelski, "Dwa swiatla na horizoncie Połockiem", I, 63; Сапуноў "Полацкі Спаса-Еўфрасінеўскі дзявочы манастыр"; Семянтоўскі "Беларускія старажытнасьці", I, 105; Сапуноў "Віцебская старына", V, 8-13; "Віленскі каляндар", 1889 год арт. "Жыцце святой Еўфрасініі", а таксама ў выдавецтве Бацюшкова "Беларусь і Літва", С-Пет., 1889 – Апісанне названых цэркваў, а таксама крыжа Еўфрасініі мы не даём, так як яны агульнавядомы і жадаючыя могуць знайсці іх малюнкі ў шмат якіх выданнях, распавядаючых аб Полацку.

[105] Stebelski, p.59, I.

[106] Іпат., р. 340.

[107] Ibid.

[108] П. С. Р. Л., т. XV, р. 121.

[109] Іпат., 340.

[110] Агульны нарыс гісторыі Полацку, гл. у Семянтоўскага "Віцебск і ўездныя гарады Віцебскай губерніі", р. 106 і наст. Бяляеў, "Нарысы гісторыі Паўночна-Заходняга краю. Гісторыя Полацку".

[111] Іпат. 102, Нікан. (П.С.Р.Л. т. IX) р. 77. Акрамя таго Высвят узгадваецца пад 1233 і 1225 гадамі – у спісе гарадоў пазначаны як Літоўскі, П.С.Р.Л., т. VII р. 241. – Аб яго старажытнасьцях і гісторыі існуе дасьледванне Сапунова "Усвят (мястэчка Віцебскай губерні)і і яго святыні", Віцебск.

[112] Іпат. 102. Гісторыя гэтага горада выкладзена спадаром Семянтоўскім, гл. яго "Віцебск і ўездныя гарады Віцебскай губерніі", С-Пет. 1864 год. Р. 1-76. Таксама артыкул у скарочаным выглядзе быў змешчаны ў "Памятнай кніжцы па Віцебскай губерніі на 1865 год", выд. пад рэдакцыяў Семянтоўскага, р. 93 і наст.

[113] Іпат. 340.

[114] Так думалі: Арцыбашаў ("Апавяданне пра Расію", т. I, М. 1838 год р. 70), Пагодзін (І.Л. і З., т. IV, р. 161), Барсаў (Слоўнік), Карамзін і Бяляеў (р. 161 "Аб геагр. св."). У спісе гарадоў ёсць Стрэчыў сярод прыдняпроўскіх Кіеўскіх гарадоў: гэта можа быць цяперашні Стрэшын, а не Стрэжаў.

Полацкіх князей летапіс апавядае, што Мсціслаў “Усеваладу Алегавічу павелі ісьці са сваёю брацією на Стрэжаў да Барыса”[115]. Але сугучнасць Стрэжава і Стрэшына мала падыходзячае. Пры гэтым, шукаць яго абавязкова на шляху да Барысава зусім няма някай неабходнасті. Выраз ”на Стрэжаў” – паказвае толькі на напрамак шляху, а не на папутны горад, падобна на тое як мы гаворым: на Маскву, на Кіеў, маючы на ўвазе дадзенае месца не зважаючы на тое, што яно знаходзіцца бліжэй. Між іншым, месцазнаходжанне Стрэжава добра вызначаецца возерам Стрыжавым у Лепельскім уездзе Віцебскай губерніі; на паўвыспе гэтага возера быў пабудаваны замак і насыпаны вялікі курган[116]. Гэта мясцовасць знаходзіцца якраз за Барысавым, значыць, выраз “на Стрэжаў да Барысава” – дастаткова зразумелы.

*Емянец* – праз яго праходзіў Давыд пасля заключэння міру з Палачанамі; месцазнаходжанне вызначаецца возерам Еменец і рэчкаю Ямянкай, у шасьці вярстах ад Невеля[117].

*Неклач* – да яго дайшлі наўгародцы ў 1128 годзе пад час паходу Мсціслава Манамашыча на Полацкіх князёў[118]. У цяперашні час існуе возера Неклач, із якога бярэ пачатак рака Палота[119].

*Гарадзец* – знаходзіўся на мяжы з Літвой, ці нават пасярод саміх літоўцаў. Княжыўшы ў ім Валадар Усяславіч, як апавядае летапіс “хадзяшэ пад Літвою ў Лясах”[120]. Гарадзец складаў у другой палавіне XII ст. самастойнае княжанне[121]. Зыходзячы з таго, што на мяжы з Літвой Гарадкоў шмат, цяжка суаднесьці які-небудзь з іх з летапісным. Звычайна яго суадносяць з цяперашнім мястэчкам Гарадок, на поўдзень ад Маладзечна, у верхавінах нёманскай Бярэзіны, з захаваўшыміся да цяперашняга часу рэшткамі старадаўніх гарадзкіх пабудоў[122].

---

[115] Іпат., 210.

[116] На гэты Стрэжаў ужо паказалі: Семянтоўскі “Помнікі старыны Віцебскай губерніі”, С-Пет. 1867 год р. 47. Турчыніновіч “Агляд гісторыі Беларусі”, р. 265, заўвага 89.

117 Наўгарод. Лет. (выд. С-Пет. 1889 год), р. 160 пад 1185 годам: “А на зіму пайдзе Давыд да Полацку з Наўгародцы і Смальняны, і умірыўшыся варачішася на Еменцы”. Дарэчы із дадзенага паведамлення не зразумела, тут меў на ўвазе летапісец горад ці ўрочышча; у іншых летапісах гэтага паведамлення няма. Вызначэнне Емянца гл. Пагодзін, 309, Барсаў (Слоўнік), Арцыбашаў, І, р. 241, заўваг.

[118] Іпат. 211.

[119] Такое вызначэнне даў яшчэ Арцыбашаў (“Апавяданне пра Расію”, р. 71, заўваг. 426. Т. І.) і яно найбольш вегоднае : гэта была станцыя на прамым водным шляху, які злучаў Полацк з Ноўгарадам. Пры гэтым паселішчаў з назвай Неклач (Лепельскі ўезд), Някловічы ёсць некалькі ў Віцебскай губерніі, а таму больш праўдападобна суаднесьці летапісную Неклач з пазначаным возерам – вытоку Палоты, бяспрэчна, добра вядомаму ў Ноўгарадзе. Барсаў (Слоўнік), аднак, паказвае на вёску Неклач, Лепельскага ўезду. Карамзін вагаецца ў яго вызначэнні (“Гісторыя Дзяржавы Расійскай, ІІ, р.103. заўвага 251, выд. Эйнерлінга”). У Ніканаўскім летапісе (П.С.Р.Л., т. IX, р. 135) пры апісанні таго ж самага здарэння, што і ў Іпацьеўскім, замест Неклачы стаіць “да Нелогажу”; Барсаў выказвае здагадку, што гэта Лагожск (Слоўнік). Але, ва ўсякім разе, да паведамлення Іпацьеўскага летапісу, асабліва ў дачыненні да тапаграфіі , трэба адносіцца з большым даверам: у Ніканаўскім Нелагож не больш чым апіска, пад уплывам папярэдняга Лагожску.

[120] Іпат. 340.

[121] Ibid. 355.

[122] Барсаў, “Нарысы Расійскай гістарычнай геаграфіі”, р. 185. Бяляеў шукае яго на адным із верхніх прытокаў Віліі ў Віленскім уездзе, на паўночны захад ад Ізяслаўля (р. 162). Арцыбашаў (р. 478, І, заўваг.), паказвае на Гарадок, уездны горад Віцебскай губерніі, але сумняваецца ў тым, што ў летапісе гаворыцца менавіта пра яго. Яго памылку заўважае Турчыновіч (“Агляд гісторыі Беларусі”, р. 266). Семянтоўскі,

*Ізяслаўль* – з гэтай назвай звязваецца легендарнае апавяданне аб Рагнедзе і аб пабудове для яе і яе сына Ізяслава гэтага гораду Святым Уладзімірам[123]. Ізяслаўль – зараз мястэчка Менскага ўезду – Заслаўль. Паданні і назвы ўрочышч паказваюць на сувязь Рагнеды з гэтым горадам. Так, паданне гаворыць, што рэчкі Чарніца і Княгінька былі названы так у гонар Рагнеды; каля самога гораду было возера (зараз балота), зваўшаяся "Рогнедзь". У народзе вядома таксама магіла Рагнеды. Каля горада захавалася шмат курганаў; некаторя із іх былі раскапаны Р. Г. Ігнацьевым[124]. У 1128 годзе ён быў паграбаваны пад час паходу Мсціслава на Полацкіх князёў; ужо ў той час ён быў удзельным княжаннем[125].

*Барысаў* – зараз уездны горад Менскай губерніі. Пад час знакамінага паходу Мсціслава Уладзіміравіча на Полацкіх князёў у 1124 годзе на яго быў накіраваны Усевалад Ольгавіч[126]. Гэтаму гораду, не меўшаму ў старажытнасьці вялікага значэння, пашчасьціла на здагадкі пісаўшых аб ім аб часе яго заснавання. Пачатак гэтым здагадкам паклаў Стрыйкоўскі, але ўсе яны, як не падмацаваныя сапраўднымі фактамі, не маюць значэння[127].

---

услед за Пагодзіным, адкідвае меркаванне Арцыбашава і шукае Гарадзец у мясцовасьці, якая называецца Гарадзішча ў Гарадокскім уездзе, у 40 вярстах ад Гарадка на шляху ў Невель, на адной са шматлікіх выспаў возера Азярышча ("Віцебск і уездныя гарады Віцебскай губерніі", р. 83). Аб рэштках старажытных гарадзішч каля возераАзярышча, гл. Без-Карніловіч ("Гістарычныя звесткі аб знакамітых мясьцінах Беларусі", С-Пет. 1885, р. 149), а таксама Семянтоўскі, "Помнікі старажытнасьці Віцебскай губерніі", р. 47.

[123] Гэта паданне агульвядома. Аб становішчы гораду і паданняхглядзіце артыкул Шпілеўскага "Вандраванне па Беларусі", Сучаснік, 1854, № 11, р. 34-35. Тыя ж паданні паўтарыў і спадар Слупскі (гл. яго арт. "Тураў і Ізяслаўль", у "Паўночна-Заходнім календары" на 1888 год, Менск). Сп. Слупскі настойвае на тым, што паданне аб пабудове Ізяслаўля Ўладзімірам Сьвятым уяўляе гістарычны факт; ён надае гораду вельмі вялікае значэнне. Параўнаць нашы мяркаванні аб пабудове Ізяслаўля не Ўладзімірам, а самім Ізяславам і аб яго значэнні, як каланізацыйнага месца у "Кіеўскай старыне", 1888 годзе, жнівень, у крытычным нататку аб "Паўночна-Заходнім календары".

[124] Гл. пазначаны артыкул сп. Слупскага, р. 128.

[125] Іпат. 340, а таксама р. 210. У № 133 "Кіяўляніна" за 1887 годзе ёсць нататка аб Прэабражэнскай царкве ў Ізяслаўлі, пабудова якой прыпісваецца Ўладзіміру Святому. Калі верыць апісанню, царква сапраўды адносіцца да перад татарскай эпохі, але гістарычныя звесткі, выкладзеныя аўтарам, не заслугоўваюць увагі. Бялінскі робіць дзіўную здагадку аб пабудове сучаснага Заслаўля ў больш позні час кім-небудзь із князёў Заслаўскіх. Baliński, Starożytna Polska, t, IIIб р. 823-4.

[126] Іпат., 210.

[127] Стрыйкоўскі прыпісвае яго заснаванне свайму знакамітаму Барысу Гінвілавічу, каля 1194 году. (Chronika, у Zbiór Dziejopisow Polskich we czterech tomach zawazty", Warschawa, 1768 год р.233). За ім пайшлі: Swięcicki, "Opisanie Starożytney Polski", t. II, р. 196; і нават такі сур'ёзны навуковец як Е. Тышкевіч, Opisanie powiatu Borisowskiego, р. 32. Але ўжо Шпілеўскі нават спрчаецца са Стрыйкоўскім па гэтаму пытанню (Вандраванні па Палессю і Беларускаму краю, Сучаснік 1855 год, т. VII, р. 3-4). Тацішчаў (Гісторыя Расійская, II, р. 199), передае паведамленне пра паход Барыса Ўсяславіча Полацкага на Яцвягаў у 1102 годзе і аб тым, што ён, вярнуўшыся з паходу пабудаваў горад Барысаў і засяліў людзьмі. Гэтага паведамлення няма ў іншых летапісах, але яно ўяўляецца верагодным: князі, як вядома, у шматлікіх выпадках, называлі пабудаваныя імі гарады сваімі імёнамі. Тацішчаў мае на ўвазе і Данілавіч, прызнаючы заснаванне горада ў 1102 годзе. (Latopisiec Litwy I Kronika Ruska, Вільня 1827 год, р. 122, заўвага 16). За ім пайшлі Норбут (Dzieje Starożytne narodu Litewskiego, t. III, 276,Вільня 1838 год) і Бялінскі (Staroź. Polska, t. III, h. 715), Турчыновіч ("Агляд гісторыі Беларусі", з. 263), і аўтар артыкула "Паўночна-Заходні край імперыі", Ж. Мін. Унут. Спраў, 1843 год, р. 294, ч. I.

*Лагожск* – зараз Лагойск Барысаўскага ўезду на Гайне. Пад час пахаду Мсціслава Ўладзіміравіча, ён ужо меў удзельнага князя[128].

Лукомль – зараз мястэчка Магілёўскай губерніі Сенненскага ўезду на Улле[129].

Менеск – важнейшы горад Полацкай зямлі, зараз губернскі горад на Свіслачы, якая цячэ ў Бярэзіну. Будучы крайнім значным горадам Полацкага княства на паўднёвай мяжы, ён часта падвяргаўся нападам кіеўскіх князёў. У 1066 годзе ён быў узяты Яраславічамі – Ізяславам. Святаполкам і Ўсеваладам – і парабаваны, усё мужчынскае насельніцтва забіта, а жанчыны і дзеці ўзяты ў палон: Уладзімір Манамах гаворыць, што ён не пакінуў у горадзе “ні чэлядзіна, ні скаціны”[130].

У сувязі з горадам Менескам згадваецца рэчка Няміга. Месцазнаходжанне рэчкі вызначаецца па рознаму. Тацішчаў, Арцыбашаў і Карамзін бачаць у Нямізе – Нёман[131]. Надзеждзін і Няволін думаюць, што Нямігу патрэбна шукаць на поўнач ад Менску і паказваюць на Нёманіцу паблізу Барысава і Нямойку каля Сенна[132]. Барсаў у сваім “гістарычна геарафічным слоўніку” паказвае на Немеж (Niemeź), вёску ў Віцебскай губерніі і ўездзе, у 10 вярстах ад Вільны, на якую яшчэ раней звяртаў увагу Бялінскі[133]. Але той жа Барсаў у “Нарысах рускай гістарычнай геаграфіі” прызнае за Нямізу ручай, які знаходзіцца ў самым Менску[134]. На гэты ручай упершыню паказаў Хадакоўскі[135], але, не гледзячы на падобнасць назваў, не прызнаваў ў ім летапісную Нямізу. Сапраўды, падобнасць назваў летапіснай Нямізы і ручая ў Менску вельмі прывабная, аднак атаясаміць гэтыя дзве назвы вельмі цяжка, калі не выказаць здагадку, што гэты ручай у старажытнасьці быў больш ці менш значнай рэчачкай; зараз ад Нямізы ў Менску засталася амаль што толькі адна назва. Між іншым летапіс апавядае так: Ізяславічы ўзялі Менск “і паідоша да Нямігі; і Усяслаў пойдзе праціву”; 3 сакавіка Ўсяслаў пазнаў паразу і ўцёк. Ізяславічы задаволіліся гэтым, паўшлі адтуль,

---

[128] Іпат. 210, а таксама 419 і ў павучаннях Манамаха. У спісе гарадоў – у ліку Літоўскіх. Яго месцазнаходжанне паказана яшчэ Арцыбашавым, І, 33, заўвага 193. Горад акружаны некалькімі гарадзішчамі, звязанымі рознымі паданнямі: Тышкевіч, Opisanie Pow. Borysowskiego, p. 133-4, адтуль запазычыў і Шпілеўскі, без пазначэння крыніцы (Вандраванне па Палессю і Беларускаму краю, Сучаснік. 1854 год, т. XI, p. 51, 52).

[129] Па навучэнню Манамаха, Лаўрэн. Лет. Гл. Арцыбашаў, І, p. 33, заўвагі. У спісе гарадоў у ліку Літоўскіх. У горада ёсць і возера той жа назвы, на якім ён стаіць, ёсць рэшткі старажытных умацаванняў. Шпілеўскі, Сучаснік. 1854, т. XI, p. 49.

[130] Іпат. 117, 185. 205; павучэнні Манамаха ў Лаўрэн. Лет. Шпілеўскі, які наогул любіў паразважаць аб заснаванні гарадоў, прыпісвае яго пабудову вядомаму па мясцовых паданнях волату-знахару - Мѐнеску. Вандраванні, Сучаснік, 1854 год т. XI, з. 3. Пра гісторыю Менску напісана манаграфія вядомым Сыракомляй, Kronika miasta Mińska Tecie Wileńskiej, 1857 год № 1; на жаль гэтую працу мы не змаглі знайсці. Цікавы артыкул аб ім у Ж. Мін. Унут. Спраў, 1843 год, ч. 1 p. 391 і наст. у артыкуле “Паўночна-Заходні край імперыі”. У пачатку 1890 году сп. Слупскім быў размешчаны шэраг артыкулаў пра Менск і яго старажытнасьці Ў “Менскім Лістку”. Гл. пра Менск таксама: Swięcicki, Opis. Star. P., h. 231 I Baliński, Staroź. Polska, t. III, h. 814 і наст.

[131] Арцыбашаў, І, p. 25, заўвагі, Карамзін, т. II, заўвага 118. P. 48. Тацішчаў, II, 119.

[132] Пагодзін, IV, p. 305-306. Яго паўтарыў Турчыновіч, “Агляд гісторыі Беларусі”, p. 257-258.

[133] Staroź. Polska, III, h. 213.

[134] P. 185.

[135] Рускі гістарычны зборнік, т. I, p. 38.

відаць, у напрамку Дняпра і спыніліся "на Ршы каля Смаленску", як выказваецца летапіс. Ужо ў ліпені яны заманілі да сябе Усяслава: "ён жа, спадзяючыся на цалаванне храста, пераехаў у лодцы праз Дняпро"[136], значыць, яны стаялі за Дняпром, на Смаленскім баку, а Усяслаў вёў перамовы з другога берагу Дняпра. Аб гэтай жа Нямізе і аб адбыўшайся на ёй крывавай бойцы апавядае і аўтар "Слова аб палку Ігаравым": "(Усяслаў) скочы влеком да Нямізы з Дудутак. На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць чэпы: харалужныімі, на таку жывот кладуць, веюць душу ад цела. Нямігі крывавыя берагі не бологом бяхуць пасеяны, пасеяны касьцьмі рускіх сыноў". Із прыведзенага ўрыўку летапісу відавочна: калі б Няміза была б у Менску, то Ізяславічы ўжо былі на ёй і ім не было б патрэбы ісьці да Нямігі; так як цяперашняя Няміга знаходзіцца ў цэнтры Менску, то войскі павінны былі знаходзіцца на ёй пры аблозе. Пасьля бойкі з Усяславам, князі накіраваліся[137] ў Смаленскія валоданні і спыніліся каля Воршы; вельмі магчыма, што яны, зыходзячы з паразы Ўсяслава і надыходзячай вясны, пайшлі прама з Нямізы да Воршы. Такім чынам, нам здаецца, што, ва ўсякім разе, Няміза знаходзілася не ў самым Менску, а, верагодна, дзе-небудзь паміж Менскам, Дпяпром і Дзвіною. Дададзім, што ў спісе гарадоў Нямігі знаходзяцца паміж Друцескам і Ршою, за імі ідуць: Свіслач, Лукомль, Лагоск і г. д.[138]

Не вызначана таксама і месцазнаходжанне *Дудутак*, якія ўзгадваюцца ў "Слове аб палку Ігаравым": "скочы (Усяслаў) влеком да Нямігі з Дудутак". Барсаў лічыць, што гэты намёк Слова адносіцца да вядомых уцёкаў Усяслава із Кіева і, значыць, Дудуткі павінны азначаць апошні кіеўскі горад[139]. Але нам здаецца, што тут гаворыцца не аб уцёках Усяслава, а аб тым, што ён, даведаўшыся аб захопе Менска Ізаславічамі, із Дудутак, дзе ён знаходзіўся з войскам, хутка накіраваўся да Нямігі, дзе і сустрэўся з Ізяславічамі: гэтым тлумачыцца летапісны выраз "паідзе проціву". У такім выпадку, Дудуткі трэба было б шукаць на поўнач ад Менску, каля Полацку, дзе, як у цэнтры зямлі, Усяслаў, верагодна, збіраў апалчэнне з якім і пайшоў на Ізяславічэй.

*Друцеск* – зараз Друцк у верхавінах рэчкі Друць, якая зліваецца з Дняпром каля Рагачова. Упершыню ён узгадваецца ў летапісах пад 1092 год з нагоды цуда, якое ішло з Друцка да Полацка[140]. У 1116 годзе, пад час вядомага паходу на Глеба Менскага, ён быў узяты Давыдам і Яраполкам, пры гэтым усе яго

---

[136] Іпат. 117.

[137] Длугаш апавядае, што Яраславічы накіравалісь versus Polocco, еле Усяслаў сустрэў іх на Niemca. Ioannis Dlugossi Historiae Poloniae Libri XII, Francofurti, Anno 1711, т. I p. 255.

[138] П.С.Р.Л., т. VII, р. 240. Роздумы аб гістарычнай Нямізе ў Менску глядзіце яшчэ Шпілеўскага, Вандраванне па Польскім і Беларусім краі, Сучаснік. 1854 год, № XI, р. 32 і ў Зяленскага (Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, Менская губернія, I, р.6). Апошні прытрымліваецца супрацьлеглага мяркавання і паказвае на тое, што ў цяперашні час гэты паток высах; утвараючыся вясной ад сцякаючай вады ён пачынаецца ў самім Менску (у так званым Старым горадзе), пры гэтым, у паўднёвым яго канцы, цячэ з паўднёвага-захаду ці нават с поўдня на поўнач і зліваецца са Свіслаччу з правага боку, паблізу ад месца, дзе, згодна з паданнем, быў замак.

[139] "Нарысы рускай гістарычнай геаграфіі", р. 185. Бяляеў суадносіць яго з вёскай Дудзічы на Пцічы, на поўдзень ад Менску.

[140] Іпат. 150. Вызначэнне месцазнаходжання Друцку было зроблена яшчэ Тацішчавым, т. II, р. 459, заўвага 362.

жыхары былі ўзяты ў палон і выведзены на поўдзень у Пераяслаўскае княства, дзе Яраполк і пабудаваў ім горад Желды[141]. Пад час пагрому Полацкіх князёў, на Друцеск мсціслаў накіраў свайго брата Расьціслава, хаця невядома, ці быў тады горад узяты[142]. У палавіне XII ст. ён ужо мае значны ўплыў у Полацкіх усобіцах; імкнучыся мець асобнага ўдзельнага князя, дручане выганяюць Глеба, сына Полацкага князя Расьціслава і запрашаюць да сябе Рогвалада[143]. У канцы XII ст. Друцеск, змагаючыся з галоўнымі гарадамі зямлі Полацкай, падпарадкоўваецца пратэктарату Смаленскіх князёў. Барацьба Полацку з прыгарадамі была вельмі сур'ёзная: у ёй бралі удзел і Чарнігаўскія князі[144]; Чарнігаўскія і Смаленскія князі змагаліся за ўплыў над знясільваючымся ад усобіц княствам.

*Галацічаск* – месцазнаходжанне якога зараз не вызначана. Ён згадваецца толькі адзін раз у 1071 годзе: каля яго Яраполк Ізяславіч перамог Усяслава Брачыславіча[145]. Часьцей Галацічаск суадносяць з мястэчкам Галоўчын у 32 вярстах ад Магілёва[146], але гэта мала верагодна.[147]

*Одраск* – згадваецца ў павучэнні Манамаха[148]. Зараз ён вызначаецца рэчкай Одраў, якая зліваецца з Дняпром з правага боку, недалёка ад Копысі[149].

*Ворша* і *Копысь*, абодва на Дняпры, належалі Полацкаму княству да 1116 года.

Нарэшце *Ізборск*, меўшы значэнне яшчэ ў эпоху прызвання варагаў[150], але ў далейшым не згадваецца амаль да палавіны XIII ст.[151]. Барсаў паказвае на вёску Ізборск Пскоўскай губерніі і ўезду на паўднёвы захад ад Пскова[152]. Калі зыходзіць з яго становішча, то можна думаць, што ён яшчэ на пачатку гістарычнага жыцця перайшоў да Наўгародзкіх уладанняў.

Мы паказалі на гарады, якія ў разглядаемы час складалі карэнную тэрыторыю Палачан. Бяспрэчна, некаторыя із пазначаных гарадоў, размешчаных

---

[141] Іпат. 203. Норбут, а за ім і Турчыновіч у летапіснай Жэлдзі, Жэлні бачаць пабудову Наўгародка Літоўскага, на той падставе, што адна частка цяперашняга Навагрудка называецца Жэлна і Норбут бачыў нейкі дакумент ад канца XVI ст., у якім апавядалася, што ён пісаны ў Навагрудку на Жэлненскім падзамаччы. Norbut, "Dzeje", t. III, p. 274. Турчыновіч ("Агляд гісторыі Беларусі", p. 263). Гэтым паказанням не магчыма прыдаваць сур'ёзнага значэння. Яраполк вывеў Дручан, без сумнення, у сваю воласць і там заснаваў гарадок для барацьбы з Полаўцамі, а не з Літвой.

[142] Іпат., 210.

[143] Іпат., 339.

[144] Іпат., 419. У спісе гарадоў Дуцеск у ліку Літоўскіх.

[145] Іпат., 122.

[146] Пагодзін, Г.З. і Л., т.IV, p. 306, Рурчыновіч, p. 260, Кармзін паказвае на Аліту на Нёмане, Гіст. Дзярж. Расійскай, т. II, заўвага 125, p. 50. На Галоўчын першым паказаў Арцыбашаў, т. I, p. 28, заўвага 161. Бяляеў шукае яго на мяжы Тураўскага і Полацкага валоданняў, на поўдзень ад Менску, па цячэнню ракі Бярэзіна і паказвае на Галынку, не далёка ад рэчкі Свіслач. З.Г.Р.Г. Грам., кн. VI, p. 12.

[147] Вядомы род князёў Галоўчынскіх, валодаўшых Галоўчыным (Без-Карніловіч, p. 228. Бялінскі, т. III, p.718); між іншым, Галоўчын не быў удзельным горадам, значыць назва мястэчка магла паходзіць ад прозвішча ўладальніка.

[148] Лаўрэн. Лет.

[149] Першае нагадванне належыць Хадакоўскаму. Р. Гіст. Збор., кн. IV, p. 12, Бяляеў, p. 18, Пагодзін, p. 218, Барсаў, Слоўнік.

[150] Іпат. 11

[151] П.З.Р.Л., VII, 140 пад 1241 годам.

[152] Слоўнік. Хадакоўскі, Рускі Гістарычны Зборнік, I, 12-20.

на захадзе княства, можа быць, уяўлялі сабой спадчыну больш ранейшай каланізацыі, як памежныя Гарадзец, Ізяслаўль, але, па меншай меры ў дадзены перыяд, яны ўжо складалі славянскую тэрыторыю, на якой хаця і былі сляды літоўскага элементу, але ўжо значна ці нават цалкам абрусеўшага. На мяжы XIII ст. і ў першай яго палавіне крыніцы пазначаюць некалькі гарадоў, якія ўяўлялі сабой спадчыну новай каланізацыі ў асяроддзе літоўскіх плямён, адбываўшайся, верагодна, на вачаг гісторыі; такі *Наўгародак Літоўскі*. У XIII ст. гэты горад упершыню згадваецца пад 1255 годам[153], але ў гэты час ён ужо быў значным памежным з Літвой горадам, да якога цягнулася значная тэрыторыя. Пазнейшая гісторыя паказвае, што яго ўзнікненне трэба аднесьці да больш ранняга часу, але прыпісваць яго будаўніцтва Яраславу пад час яго паходу на Літву ў 1044 годзе няма падстаў[154]. Таксама ўзгадваюцца Нясвіж[155], Кукейнас, Герсіке і інш.; аб іх мы скажам у главе пра каланізацыю.

Паказаная тэрыторыя Полацкай зямлі, самастойнасць якой мы бачым ужо на першых старонках летапісу, у сваю чаргу, падзялілася на самастойныя ўдзелы ў вельмі ранні перыяд сваёй гісторыі. Вызначыць межы ўдзелаў няма ніякай магчымасьці, таму што крыніцы ўзгадваюць толькі галоўныя ўдзельныя гарады. Толькі іх мы і пазначым, паказаўшы час з якога становіцца вядомым той ці іншы ўдзел.

*Менскі ўдзел* – вядомы з 1104 году[156].

*Ізяслаўскі ўдзел* - вядомы з 1128 году, да яго ж адносіўся ў той час і Лагожск[157].

*Срэжаўскі ўдзел* – з 1159 году[158].

*Друцкі ўдзел* – з таго ж году[159].

Гарадзецкі ўдзел – вядомы з 1162 году[160].

---

153 Іпат. 549.

154 Напрыклад, Ярашэвіч "Obraz Litwy", Вільня, 1884 год I, p. 36, зрабіў сваю выснову з паведамлення Уваскрасенскага летапісу. (П.С.Р.Л., т. VII, p.332): "Ходзі Яраслаў Літву, а на весну залажы Ноўгарад і садзела ы". Але Наўгародзкі I летапіс дадае: "Уладзімір залажы", што вельмі верагодна, таму што ён княжыў тады ў Ноўгарадзе Вялікім (Наўгарод., p. 90, таксама Тацішчаў, II, 109); але ў Іпацьеўскім пра Ноўгарад не ўзгадваецца (p. 108, а таксама ў Цвярскім лет., П. З. Р. Л., т. XV, p. 148 і Ніканаўскі, p. 82). Норбут прыдумаў казку пра два Ноўгарады – Літоўскі (Neuenpille) і Рускі ("Dzieje", III, p. 271-4). За ім пайшлі і мясцовыя дасьледчыкі: Турчыновіч, "Агляд гісторыі Беларусі", p. 262, Дзьмітрыеў, які напісаў кароткі гістарычны нарыс Навагрудчыны, вельмі павярхоўны і з вялікімі недакладнасьцямі ("Некалькі слоў кароткага гістарычнага агляду руска-літоўскага Навагрудка". У "Веснік Імператарскага Рускага Геаграфічнага Грамадства", 1858 год № 12). Зяленскі (Менская губернія ў Матэрыялах для геаграфіі і статыстыкі Расіі, т. I, p. 10). Для паўнаты яшчэ дададзім, што Тацішчаў думаў, што ў летапісным павдамленні пад 1044 годам апавядаецца пра Ноўгарад Северскі, II, заўваг. 251, што паўтарыла за ім Кацярына II, "Запіскі датыкаючыяся Расійскай Імперыі. Творы Гасуд. Імпер. Кацярыны II, С-Пет. 1801 год", ч. I, p. 187.

155 У змаганні на Калцы быў забіты князь Несвіжскі, Наўгаро., p. 219. Пра Несвіж маецца цудоўная манаграфія Сыракомлі, "Więdrówki po moich negdyś okolicach. Wspomnienia, studia historyczne I obyczajowe", Вільня 1853 год.

156 Іпат. 185

157 Іпат. 210

158 Ibid., 340.

159 Ibid., 339.

160 Ibid., 355.

*Віцебск*, як *удзел* – у 1163 г. належаў Смаленскаму князю[161].

Зараз пяройдзем да вызначэння межаў Тураўскага княства. Яно не занімала ўсёй вобласьці пасялення дрыгавічэй. Толькі паўночная мяжа іх вобласьці з Полацкам заставалася нязменнай, у сваёй аснове, да зліцця абодвух княстваў з Літвой. Гэту паўночную мяжу мы ўжо вызначылі пры апісанні Полацкіх межаў; пазначым толькі гарады *Клечаск* і *Случаск*, узгадваемыя як крайнія месцы Тураўскага княства.

Усходняя палітычная мяжа не дасягала прыроднай мяжы – берагу Дняпра з вусьцямі двух яго значнейшых прытокаў – Бярэзіны і Прыпяці, хаця гэтыя абшары былі населены прадстаўнікамі дрыгавічскага племені. Тут мы сустракаем горад *Брягін* (мястэчка Рэчыцкага ўезду), населены дрыгавічамі, але з паловы XII ст. перайшоўшы пад уладу князёў Кіеўскіх (гл. ніжэй). Другі горад у гэтай мясцовасьці *Рэчыца* (уездны горад Менскай губерніі) належаў, ва ўсякім разе на пачатку XII ст., Чарнігаўскім князям[162]. Магчыма тое ж самае можна сказаць і аб *Рагачове* (уездны горад Магілёўскай губерніі); гэты горад узгадваецца разам з іншымі, бяспрэчна дрыгавічскімі гарадамі: Бярэсцем, Дарагічыным і Клечаскам[163], але належаў Чарнігаўскім князям[164]. Такім чынам, у гэтым невялікім куточку, які утвараецца вусьцем Прыпяці і Дняпром, сутыкаліся тры племені: Паляне, Севяране і Дрыгавічы, апошнія, як больш слабыя, не выпрацаваўшыя політычнай незалежнасьці, адціскаюцца дзвумя першымі. Значная колькасць гарадоў і гарадзішч, якія знаходзіцца менавіта ў гэтай мясцовасьці, паказвае на тое, што сутыкненне трох згаданых плямён, ва ўсякім разе ў старажытны перыяд, адбывалася не без барацьбы[165].

Такім чынам, палітычная мяжа Тураўскага княства на ўсходзе праходзіла ў канцы XII ст. за Мазыром, па водападзелу двух, акружаных балотамі, рэчак Пцічы, якая цячэ ў Прыпяць і Ведрычы, якая цячэ ў Дняпро.

На паўднёвай мяжы не было і токой прыроднай мяжы, якую на ўсходзе ўяўляў Дняпро. Тут паселішчы дрыгавічэй зліваліся з паслішчамі палян і валынян. Мяжа, ва ўсякім выпадку, праходзіла на поўдзень ад Прыпяці, так як гарады Мазыр і Тураў размешчаны на яе паўднёвым беразе. Драўлянскія гарады на гэтай мяжы, такія як: Уручы, Іскорасьцень, Выгашаў, Дубровіца, Небл, Гародня[166], Чартарыеск знаходзяцца значна на паўдзень ад Прыпяці[167].

---

[161] Ibid., 359.

[162] П.З.Р.Л. т. XV, p. 314.

[163] Іпат., p. 223.

[164] Што знаходзіць ускоснае пацвярджэнне і ў паведамленні 1180 году. Іпат., p. 420.

[165] Гл. заўвагу прафесара Ўладзіміра Завітневіча ў “Кіеўскім слове” за 1887 год, №№ 171, 172. У Менскай губерніі даследчык налічвае каля 10 000 курганаў. (Гл. яго артыкул “Аб курганах Менскай губерніі” у “Календары Паўночна-Заходняга краю” на 1890 год выд. пад рэдакцыяй М. Запольскага, p. 10, П; таксама “Із археалагічнай экскурсіі ў Прыпяцкае Палессе”, p. 3). Побач з Брагіным знаходзіцца 12 вялікіх гарадзішч да-хрысьціянскай эпохі. Гл. “Брагінская воласць” у “Каляндар Паўночна-Заходняга краю” на 1899 год, пад рэдакцыяй М. Запольскага.

[166] Андрыяшаў, “Нарысы гісторыі Валынскай зямлі”, p. 79-80.

[167] Барсаў, “Нарысы Расійскай гістарычнай геаграфіі”, p. 144. Андрыяшаў, “Нарысы гісторыі Валынскай зямлі”, мапа.

Пазнейшая барацьба за гарады, якія размяшчаліся па рэчцы Гарынь, паўднёваму прытоку Прыпяці, пераход іх то да Тураўскага то да Валынскага княстваў, як здаецца, падчвярджае здагадку Барсава аб змешанным насельніцтве Пагарыньскіх гарадоў і аб тым, што шмат якія фазісы гэтай барацьбы патрэбна аднесьці менавіта на конт ўмоў гэтай мясцовасьці[168].

На ўсход ад Пінску заканчвалася палітычная мяжа Тураўскага княства, так што яно змяшчала ўсходнюю частку верхавін Прыпяці. Адсюль мяжа ішла на поўнач і аб'ядноўвалася праз верхавіны Шчары з Полацкай мяжой паміж Ноўгарадкам і Клечаскам. На гэтай мяжы ў палове XIII ст. з'яўляюцца ў летапісах гарады *Здзітаў* і *Услонім*[169].

Рэзкага размежавання тут зноў такі не было, так як на захад працягваліся паселішчы дрыгавічэй, якія захапілі вялікую прастору па Заходняму Бугу, дзе крайнім іх месцам быў *Нур*, каля зліцця рэчкі Нурца[170] з Бугам, а на поўначы даходзілі да *Гародні*, зараз губернскага гораду; тут былі дрыгавічскія гарады: *Бярэсце*[171] і *Дарагічын*[172], абодва на Бугу. Але гэтыя вобласці, Берасцейская і Дарагічынская не складалі адной палітычнай цэласьці з асноўнай вобласьцю племені – Тураўскім княствам, пераходзячы пад уладу то Кіеўскіх, то Валынскіх, то Польскіх князёў. Пры гэтым, гэтая мясцовасць у значнай ступені ўяўляе сабой наступствы каланізацыйнага руху ў асяроддзе літоўскіх плямён дрыгавічэй, а потым і валынян.

Закончыўшы з вызначэннем межаў княства, пяройдзем да яго гарадоў.

Із гарадоў Тураўскага княства ў дадзены перыяд згадваецца не вельмі шмат, не гледзячы на значнасць абшараў краіны, занятай дрыгавічамі. Нешматлікасць пазначаных летапісамі гарадоў не можа, аднак, быць сведчаннем маланаселенасьці краіны. Ціхі і мірны ход гісторыі дрыгавічэй, іх нязначны ўдзел у агульным палітычным жыцці Русі, нарэшце тая значная абставіна, што яны большай часткай, у дадзены перыяд, належалі Кіеўскаму княству, а часткова, па сваіх заходніх ускраінах Валынскаму – не давала нагоды летапісцам узгадваць пра іх гарады.

Галоўным дрыгавічскім горадам быў *Тураў*, які ўзгадваецца ўжо на першых старонках летапісу (980 год)[173]. Ён размешчаны на правым беразе ракі Прыпяць, паміж вусьцямі яе паўночнага прытоку Случ і паўднёвага Сцвіга. На пачатку гістарычнага жыцця рускага народу ён быў адным із значнейшых гарадоў Русі. Цесна звязаны з вялікім княжаннем Кіеўскім, ён перадаваўся старэйшаму із сыноў вялікага князя і, значыць, лічыўся важнейшым горадам. Але хутка цалкам страціў сваё значэнне, стаўшы дробным удзельным горадком. Паданні адносна розных урочышч сучаснага Турава, а таксама і назва саміх

---

[168] "Нарысы Расійскай гістарычнай геаграфіі", р. 126-7.

[169] Іпат. р. 542.

[170] Іпат. р. 537.

[171] Іпат. р. 101, 102, 172, 176, 178, 220 і інш.

[172] Іпат. р. 222-3. 524 і інш.

[173] Згадванні Іпат. летапісу. р. 50, 83, 114, 143, 145, 152, 168, 172, 210, 213, 217, 222, 223, 225, 281, 297, 324, 329, 335, 337, 338, 346, 349, 361, 370, 428, 503, 576.

урочышч і рэшткі ўмацаванняў, сведчаць аб яго значнасьці ў старажытнасьці. У самым мястэчку знаходзіцца насыпны пагорак, атачоны равамі[174], які, верагодна, з'яўляецца рэшткамі старажытнага дзяцінца. Гэты пагорак, падзелены равамі на дзве часткі, мае ў даўжыню ½ вярсты, у шырыню каля 3 вёрст. Паданне гаворыць, што на гэтым пагорку стаяў княжы палац, а за пагоркам, на невялікім земляным насыпу, стаяў Барысаглебскі манастыр[175]. За горадам з паўднёвага і ўсходняга боку захаваліся рэшткі валоў і ўрочышча Гарадзішча з рэшткамі каменных сцен[176]; акрамя таго, паданне адзначае мясцовасць Палац – пазагародні княжы палац; нарэшце, мы сустракаем некалькі тапаграфічных назваў са словамі *тур*, *князь*[177]. Паблізу старажытнага Турава "на балонні" вядомы Барысаглебскі манастыр з XII ст.[178].

Значнейшым горадам пасля Турава быў *Пінск* (зараз уездны горад), размешчаны ў балоцістай мясцовасьці ў верхавінах Прыпяці, пры яе зліцці з Пінай. У гандлёвых адносінах ён уяўляў дастаткова выгаднае месца, так як праз яго стасаваліся з Яцвягамі і Польшчай Валынь, Кіеўшчына і Дрыгавічы. Упершыню Пінск узгадваецца пад 1097 годам. Давыд Ігаравіч папераджаў Святаслава Ізяславіча, што Васілька задумвае забраць у яго Тураў і Пінск і што патрэбна нешта рабіць[179]. Наогул, Пінск амаль заўсёды згадваецца разам з Туравам, што паказвае на яго значэнне[180]. Каля палавіны XIII ст. ён вылучыўся ў асобны ўдзел[181] і яго значэнне павысілася пад час барацьбы Галіцкіх князёў з Літвою.

На Прыпяці ж, на ўсход ад Турава, знаходзіўся не вельмі значны гарадок княства - Мазыр, размешчаны на паўднёвым узвышаным беразе Прыпяці. Упершыню ён узгадваецца пад 1155 годам[182].

У кутку, які ўтвараецца Прыпяццю і Дняпром знаходзіўся невялікі Дрыгавічскі гарадок Брагін[183], на рэчцы Брагінка (зараз мястэчка Рэчыцкага ўезду); у палове XII ст. ён бясспрэчна належаў Кіеўскаму княжэнню: Ольгавічы, якія былі ў 1147 годзе ў хаўрусе з Юр'ем Растоўскім і ў варожых адносінах з Ізяславам Кіеўскім, ваявалі Брагінскую воласць[184].

---

[174] Артыкул "Тураўскае княсіва" ў "Менскім лістку" за 1886 год, № 29.

[175] Слупскі "Ізяслаўль і Тураў" у "Паўночна-Заходнім календары" на 1888 год, р. 135.

[176] "Менскі лісток", 1886 год, № 29.

[177] Пазначаны артыкул Слупскага, 136, "Памятная кніжка па Менскай губерніі" на 1878 год, ч. II з апісаннем Турава; а таксама ў Калайдовіча "Помнікі рускай славеснсьці XII ст." у прадмове да твораў Кірылы Тураўскага.

[178] Гл. Сказанне Мартына Мніха ў "Гісторыя Рускай царквы" прасвітара Макарыя, I, р. 300-301.

[179] Іпат., 168.

[180] Вячаслаў гаварыў: "Тураў і Пінск у мяне забраў", Іпат., р. 197; таксама р. 324 і інш.

[181] Іпат., 543.

[182] Іпат., 331. Гістарычныя звесткі пра Мазыр гл. у "Памятная кніжка па Менскай губерніі" за 1878 год, ч. II, а таксама ў артыкуле беларуса Хатомскага, змешчанага ў "Менскім лістку" за 1887 год №№ 85-87 і ў нашых артыкулах "Заўвагі із вандровак па Беларусі", V, "Віленскі лісток", 1890 год, № 232.

[183] Вызначэнне месцазнаходжання Брагіна было зроблена Арцыбашавым, "Апавяданне пра Расію", I, 109, заўвага 403.

[184] Іпат., 253.

У 1187 годзе Рурык Расьціславіч аддаў Брагін сваёй нявестцы, жонцы Усевалада Юр'евіча, з дачкой якога Верхуславай ён адружыў свайго сына Расьціслава[185]. Каля Брагіна раскідана 12 гарадзішч дахрысціянскага часу і 18 груп курганаў, што паказвае на стратэгічнае значэнне дадзенай мясцовасьці[186].

Самымі паўночнымі горадамі Тураўскага княства ў гэты час былі *Клічаск*[187] і *Случаск*, першы ў цяперашні час мястэчка Слуцкага ўезду (Клецк) Менскай губерніі, а другі ўездны горад той жа губерніі. Упершыню Клечаск згадваецца з нагоды праходу Мсціслава Манамахавіча ў 1127 годзе на Полацкіх князёў: із яго са сваёй дружынай выправіўся Вячаслаў Яраполкавіч, які, відаць, меў удзел у Тураўскай зямлі, верагодна, Клічаўскі[188]. У 1142 годзе ён згадваецца ў ліку іншых драўлянскіх гарадоў, якія дараваў Усевалад сваім братам пасьля захопу ім Кіева[189].

*Случаск* у 1116 годзе быў спалены Глебам Менскім[190]. У 1119 годзе ён разам з Клечаскам перайшоў да Святаслава Ольгавіча, пасьля ўзыходу на Кіеўскі стол Юр'я Растоўскага[191]. Каля 1162 году ім завалодаў Уладзімір Мсціславіч, але Тураўскія князі, Рурык і Святаполк Юр'евічы, вымусілі яго сысьці[192].

Гэтыя гарады ў дадзены перыяд часу і складалі тэрыторыю Тураўскага княства.

Мы паказалі карэнную тэрыторыю трох цікавячых нас княстваў: Полацкага, Смаленскага і Тураўскага. У сваім апавяданні мы адкінулі ўсё тое, што адносіцца да акраін гэтых зямель і, як следства, факты каланізацыйнага руху дрыгавічэй і крывічэй. Гэта пытанне мы абмяркуем у адной із наступных глаў, а зараз звернемся да выкладання палітычнай гісторыі трох цікавячых нас княстваў у дадзены перыяд.

# Частка II.
# Гістарычны нарыс.

---

[185] Іпат., 443.

[186] Гл. цікавы артыкул пра Брагінскую воласць у "Календары Паўночна-Заходняга краю", выдадзенага пад рэдакцыяў М. Запольскага, 1889 г., р. 114 і наст.

[187] Арцыбашаў, "Апавяданне пра Расію", І, р. 70.

[188] Іпат., 210.

[189] Іпат., 223.

[190] Іпат., 203.

[191] Іпат., 268.

[192] Іпат., 356. Праф. В. Б. Антановіч Случаск і Клецк далучае да Полацкіх удзелаў("Манаграфіі", т. І, р. 20). Але абодва гарады бяпрэна былі ў зямлі дрыгавічаў і нікалі не належалі Полацку. У 1116 годзе Манамах хадзіў на Глеба: "Глеб бо бяшэ ваяваў Дрэгавічы і Случэск спаліў" (Іпат. 203), а Тураўскае княства належала тады Манамаху, значыць, Случаск быў Тураўскім горадам. У 1127 годзе Клечаск належаў Вячаславу Яраполчычу (Іпат. 210). У 1162 годзе Рогвалад збез з Полацкіх уладанняў у Случаск, ратуючыся і ад Палачан і ад удзельных Полацкіх князёў (Іпат. р. 355) і г. д.

## I.[193]

Плямёны Крывічэй і Дрыгавічэй мелі, асабліва першыя, вялікае значэнне ўжо ў той аддалены час, калі складалася Русь. Але звесткі аб із вельмі няпэўныя, урыўкавыя і недакладныя. Такі характар звестак аб нашых плямёнах прадаўжаецца і далей, так што наўрад ці ў старажытнай Русі было іншае племя, гісторыя якога была б такой цьмянай, не гледзячы на вяліарную тэрыторыю, якую яны насялялі. Прычыны такіх адносін нашых крыніц, бяспрэчна, патрэбна шукаць у тым, што гісторыю Крывічэй і Дрыгавічэй прыходзіцца вывучаць па тых вельмі бедных звестках, якія трапілі ў Кіеўскія, Наўгародзкія і Валынскія летапісы; апошнія крыніцы згадваюць нашыя плямёны ўскосна, толькі пры асабліва значных сутычках Ноўгарада і Кіева са Смаленскам, Полацкам і Туравам. Але гэтыя землі знаходзіліся на ўскраінах, цураліся агульных спраў на Русі, а таму сутычкі іх з першымі рэдкія і нязначныя. Толькі Смаленск і то пачынаючы толькі з палавіны XII ст. больш шчыльна зносіліся з Кіевам і Ноўгарадам і таму звесткі аб ім больш поўныя. Такім чынам, нават знешняя палітычная гісторыя Крывічэй і Дрыгавічэй, бязспрэчна, вельмі старажытная, адрозніваецца ўрыўкавасьцю і не паўнатой, не гаворачы ўжо аб унутранай. Не гледзячы нават на палітычную залежнасць Турава ад Кіева, на іх тэрытарыяльную блізкасць, унутраны стан Тураўскай зямлі немагчыма прасачыць; тое ж самае прыходзіцца сказаць і аб Полацкай і часткова аб Смаленскай зямлі, яшчэ больш аддаленых ад цэнтру нашага летапісання. Асабістыя летапісы нашых плямён не захаваліся, хаця іх урыўкі, па меншай меры Смаленскай, сустракаюцца ў пазнейшых зборах.

Праўдзівыя звесткі аб Крывічах і Дрыгавічах пачынаюцца толькі з X ст. Менавіта да гэтага стагоддзя адносіцца згадка аб Крывічах і Дрыгавічах Канстанціна Парфірароднага. Ён апавядае, што лодкі, на якіх Русы (пераважна Кіеўскія) прыплываюць ў Канстантынопаль, вырабляюцца ў Мілініску (Смаленск), Чарнігаве і Вышгарадзе. Гэтыя Славяне, Крывічы, Люцічы і іншыя, якія плоцяць даніну Русам, зімою гатуюць лодкі на продаж, спускаюць іх у бліжэйшыя азёры і рэкі і вясной на іх выпраўляюцца па сваіх рэчках да Дняпра, адтуль у Кіеў, дзе, выцягнуўшы свае лодкі на браг для агляду, прадаюць іх Кіеўскім Русам[194]. У іншым месцы той жа пісьменнік перадае апавяданне аб тым, што Кіеўскія князі зімой із Кіева выпраўляліся ў гарады плямён, якія плацілі ім даніну, із якіх аўтар называе Дрыгавічэй, Крывічэй, Севяран і, верагодна, Ціверцаў. Там князі жывуць на працягу зімы, а вясной вяртаюцца[195]. У паведамленнях грэчаскага імператара няма нічога, што магло б супярэчыць сапраўднаму становішчу тагачаснай Русі, што зразумела, таму што ён дабра ведаў пабытовае жыццё сваіх небяспечных суседзей. Што ў той час Крывічы і Дрыгавічы былі падпарадкаваны Кіеўскім

[193] Гэтая глава была ўпершыню надрукавана намі ў “Календары Паўночна-Заходняга краю” на 1890 год (Масква), р. 16-35 (і асобным выданнем пад загалоўкам “Нарысы па гісторыі Беларусі. Гісторыя Крывічэй і Дрыгавічэй да канца XI ст.”, М. 1890). Тут гэтая глава даецца ў значна змененым выглядзе.

[194] Monumenta Palonise Historica. Wyd. A. Bielowski. T. 1. Lwów, 1864 год, р. 16. Крывічы - οί ΚριβηταιτΙγςί, Κριβιτ ξοί, Дрыгавічы – Δρςυγςυβιτοί

[195] Ibidem., р. 20.

князям, сведчаць і нашы летапісы, як зараз пабачым; апісаны звычай збірання князямі даніны вядомы і па іншых крыніцах; ён называўся палюддзем.

Ёсць яшчэ адна згадка аб Дрыгавічах у арабскіх крыніцах, дарэчы, дастаткова сумніўная і нічога не тлумачая ў іхнай старажытнай гісторыі. Арабскі пісьменнік паловы X ст. Аль-Масудзізгадвае пра племя *Баранджабін*, якое некаторыя жадаюць атаясаміць з Дрыгавічамі (спасылаючыся на чытанне Транджабінь, Дрангубіты – Другавіты Канстанціна Парфірароднага). Але гэтая здагадка не можа мець сур'ёзнага значэння[196].

Зараз звернемся да першых рускіх паведамленняў. Пачатковы летапіс у сваім этнаграфічным аглядзе паведамляе некалькі ўрыўкавых звестак аб геаграфічным становішчы Дрыгавічэй і Крывічэй. Ён гаворыць, што Славяне, прыйшоўшы з Дуная, насялілі: "друзіі сядоша межы Прыпецію і Дзвіною і нарэкошася Дрыгавічы; а іншыі сядоша на Дзвіне і нарэкошася Палачане, рэчкі радзі, яжэ ўцячэ ў Дзвіну, і іменем Палота, ад сея празвашася Палачане"[197]. У другім месцы летапіс паведамляе, што кожнае племя мае сваё княжэнне: "а Дрыгавічы сваё, а Славене сваё ў Ноўгарадзе, а другія на Палоці, іжэ і Палачане. Ад сіх жа і Крывічы, іжэ сядзяць на верх Волгі, і на верх Дзвіны, і на верх Дняпра, іх жа і горад Смаленэск: туды бо сядзяць Крывічы"[198]. У геаграфічным аглядзе мы ўжо бачылі, якія мясцовасьці былі населены нашымі плямёнамі. Далей летапіс захаваў урывак аб этнаграфічных рысах Крывічскага племені, якія былі вядомы летапісцу толькі па паданнях. Апошні паведамляе, што Радзімічы, Севяране і Крывічы "жывяху ў лесе, якажэ ўсякі звер, ядушчэ ўсё нячыстае і срамаслоўе ў іх перад айцы і снахамі; і бьраці не бываху ў іх, але гульбішчы можу селы" і г. д[199]. Перабольшанае ўяўленне паляніна-летапісца і пры гэтым манаха, аб звярыных звычаях гэтых плямён было ўжо абмяркавана не раз; пабытовыя ж рысы із вобласьці шлюбных адносін і пахавальных звычаяў, апісаныя ім, якія ён, відаць, добра ведаў, так як мог назіраць гэтыя звычаі і ў свой час ("ожэ творацьВяцічы і ныне"), маюць вялікае этнаграфічнае значэнне[200].

Такія вельмі сціплыя геаграфічныя і этнаграфічныя паведамленні нашых крыніц. Але значна большае значэнне маюць іх цьмяныя намёкі на палітычны стан Русі ў той аддалены час.

Першыя гістарычныя звесткі пра Русь паказваюць на тое, што яе розныя плямёны, жывучы розна, робяць спробы да аб'яднання ў адно дзяржаўнае цэлае. З цягам часу, пры Алегу, першым гістарычным князю Русі, гэтыя спробы здзейсніліся і гэты князь аб'яднаў пад сваёй уладай рускія плямёны. Але спробы да такога аб'яднання рабіліся і раней. Аб адной із іх распавядае Аль-Масудзі,

---

[196] Гаркаві. Сказанне мусульманскіх пісьменнікаў аб Славянах і Русах. СПБ. 1870 год, p. 136, 167.

[197] Іпат. летапіс у выданні Археалагічнай Камісіі, 1871 год, p 3-4.

[198] Ibid., p. 6.

[199] Іпат., 8

[200] Этнаграфічныя дадзеныя аб нашых плямёнах могуць быць адноўлены толькі на аснове агульных дадзеных аб усіх рускіх славянах, якія ўтрымліваюцца ў крыніцах; гэтае пытанне не ўваходзіць у нашу задачу і таму мя яго не будзем абмяркоўваць. Індывідуальныя ж рысы побыту Крывічэй і Дрыгавічэй могуць быць канстатаваны археалагічнымі раскопкамі, але яны яшчэ настолькі нязначныя, што вывады із іх – справа будучыні.

быццам бы цар племені Валініна Маджак змог пакарыць суседнія плямёны, але ўтрымаць іх пад сваёй уладай не змог[201]. Пастаянныя ўказанні летапісу на тое, што розныя русскія плямёны жылі “осабе”, “трымалі сваё княжэнне” і г. д. перад прыбыццём Рурыка, мабыць павінны будуць аднесены да гэтага ж: летапіс як бы абмалёўвае стан рэчаў у апісваемы прамежак часу, у параўнанні з болей раннім і з болей познім (пры Алегу).

Такім чынам, калі і былі спробы да аб’яднання рускіх плямён да Алега, то гэтыя спробы былі не вельмі значнымі і не пакінулі пасьля сябе ніякіх слядоў. Летапіс неаднойчы гаворыць, што кожнае племя кіравалася “асобе”, мела сваё “княжэнне”. Больш таго, мы знаходзім указанні на існаванне асобных князькоў у розных плямён нават у больш позні час. Што гэта былі за князі, мы напэўна не ведаем. Але зыходзячы з розных паведамленняў нашых летапісаў, можна, здаецца, зрабіць выснову, што гэтыя старажытныя князі былі не больш за асоб узначальваючых і прадстаўляючых абшчыну. Старажытныя Славяне жылі абшчынамі. Сутнасць абшчыннага жыцця была ў тым, што некалькі сямей ці радоў аб’ядноўваліся для больш зручнай абароны ад непрыяцеля і г. д., выбіралі сабе разам вярхоўнага суддзю, правадыра, князя; абшчына будавала горад для большай бяспекі, выпраўляла гандлёвыя караваны, а часам рабіла і напады на суседнія плямёны. Такімі правадырамі абшчын, як здаецца, і былі згадваемыя летапісам князі старажытнейшага часу. Улада такога князя, як ва ўнутраных так і ў знешніх справах моцна абмяжоўвалася *вечам*, г. зн. народным сходам. Веча складалася з усіх дарослых членаў горада; яно збіралася ў адным вызначаным месцы (у хрысціянскі перыяд звычайна каля сабора святой Сафіі) і тут вырашаліся ўсе справы. Княжаская ўлада была выканаўчай. Аб значэнні веча ў Дрыгавічскіх землях мы не маем дакладных звестак, але аналізуючы ход падзей можна зрабіць выснову, што вечавы інстытут у гэтым племені яшчэ не паспеў зацвердзіцца, як яно трапіла пад уладу Кіеўскіх князёў, якія, бяспрэчна, пастараліся спыніць яго далейшае развіццё. Больш вызначаныя формы развіццё вечавога інстытуту атрымала ў Смаленскай зямлі, дзе яно развіваецца разам з княскай уладай.

У Полацкай жа зямлі мы назіраем моцнае развіццё вечавога інстытуту, нават за кошт княскай улады. У Полацку веча працягвала сваю дзецнасць да канца XV ст., да 1498 году, калі гэты горад атрымаў Магдэбурскае права.

Полацкае веча было настолькі моцным, што яно выбірала і пазбаўляла пасады князёў, зацвярджала саюзы, гандлёвыя дамовы і інш. Яно пры неабходнасьці, не звяртаючы ўвагі на князя, ішло пад уладу іншага князя, болей моцнага, абвяшчала вайну і г. д. Князь нават не жыў у самім горадзе, але недалёка ад яго ў паселішчы Бельчыцы, дзе з ім знаходзілася і яго дружына. Адсюль палачане запрашалі князя на раду ў горад. Наогул, дзяржаўны лад Полацка ўяўляў сабой народапраўства, падобнае да Наўгародскага і Пскоўскага. Аднак князі апошніх гарадоў знаходзіліся ў лепшых умовах, чым Полацкія. Наўгародцы выбіралі сабе князя із усяго рода Яраслава; у выпадку нейкай

[201] Гаркаві, р. 137-8

крыўды з боку наўгародцаў, князь заўсёды мог знайсці сабе абаронцу ў асобе вялікага князя, ці сваіх родзічаў; акрамя таго, пакідаючы Наўгародскі стол, яны пераходзілі ў свае ранейшыя ўдзелы і калі гублялі ад гэтай перамены, то не вельмі шмат. Не так было з Полацкімі князямі; яны былі цалкам адасоблены ад астатняй Русі, шукаць абароны не было ў каго, удзелаў таксама; калі яны гублялі Полацкі стол, то вымушаны былі бадзяцца ў чужых землях без княжэння. Полацкія князі нават ў матэрыяльных адносінах знаходзіліся ў моцнай залежнасьці ад веча. Такім чынам, Полацкае веча мела ўсе выгоды для свайго развіцця і падтрымкі свайго значэння. Ад Полацка, як галоўнага горада вялікай зямлі, залежалі меншыя гарады гэтай вобласьці, якімі былі: Менск, Барысаў, Сірэжаў, Усвят, Ізяслаўль, Віцебск і інш. Ва ўнутраных справах гэтыя прыгарады былі самастойнымі, але ў знешняй палітыцы залежалі ад галоўнага горада.

Такім чынам, да-княжая эпоха характэрызуецца: разрозненнем рускіх плямён, жыццём іх на вечавых пачатках, знаёмых ім спрадвеку, з прадстаўнічасцю племяннога князька.

Пад час усобіц перад аб’яднаннем рускіх плямён пад уладай Алега, Полацкія Крывічы знаходзіліся ў вельмі блізкіх стасунках з Ноўгарадам. Яны ўдзельнічалі ў барацьбе наўгародцаў з Варагамі, а таксама паданне адводзіць ім дастаткова значны ўдзел у прызванні Варагаў, згадваючы нават, што Варагі сядзелі ў Полацку, які быў аддадзены Рурыкам свайму мужу[202]. Так як факт прызвання Варагаў адвяргаецца апошнімі дасьледваннямі нашых навукоўцаў у тым выглядзе, як перадае яго летапіс, то гэтыя паданні патрэбна, верагодней усяго, аднесці на карысць стасункаў Полацку і Нарманаў, якія былі заўсёды цеснымі ў дадзеную эпоху[203]. Да гэтага ж часу патрэбна аднесьці і паседамленне Ніканаўскага летапісу аб тым, што “ваяваша Аскольд і Дзір Палачан і шмат зла сатварыша”[204]. Да ўрыўкавага паведамлення гэтага летапісу няма падстаў адносіцца скептычна. Яно дае нагоду думаць, што гэтыя Кіеўскія князі спрабавалі прыхіліць на свой бок горад, які цягнуўся да Ноўгараду. Тут, можа быць, трэба бачыць тую ж самую палітыку Кіеўскіх князёў Аскольда і Дзіра, якой трохі пазней, адносна таго ж горада, прытрымліваліся Ўладзімір і Яраполк Святаславічы, шукаючы пагаднення з Рогваладам.

Алег, гэты першы гістарычна дакладны князь Русі, але яшчэ акружаны ў паданнях пра яго міфічным арэалам, аб’яднаў пад сваёй уладай плямёны, якія складалі старажытную Русь. Гэта падпарадкаванне, у першую чаргу, вызначалася накладаннем даніны Кіеўскімі князямі на падначаленых: “Алег нача гарады ставіць і ўставі дані Славенам, і Крывічам, і Мерам”[205]. Смаленск падпарадкаваўся Алегу без барацьбы: Алег, сабраўшы войска, у якім былі і Крывічы (верагодна Ізборскія, ці нават Палачане) “і прыдзе да Смаленску і з

---

[202] Іпат., 11

[203] Гл., напрыклад, сагу Эдмунда, згодна з якой Эдмунд валодаў нават Полацкам. Anti quitèes Russes, t. II, p. 171 і наст.

[204] П.З.Р.Л., т. IX, Ніканаўскі летапіс, p.9.

[205] Іпат., 13.

Крывічы і прыя горад Смаленск, і пасадзі ў ім свайго мужа”[206]. Справа абышлася без барацьбы, таму што летапіс супраціўленне амаль заўсёды адзначае[207]. Аб падпарадкаванні Полацку і Дрыгавічэй летапіс не гаворыць нічога, але, бяспрэчна, абедзве вобласьці тады ж былі нейкім чынам звязаны з Кіевам; так, Полацк узгадваецца ў ліку гарадоў, на якія князь браў “уклады” з Грэкаў. Акрамя ўстанаўлення даніны, Алег прызначаў у падначаленыя гарады сваіх мужоў. Але, ў той жа час, у падначаленых гарадах заставаліся і свае мясцовыя князі “пад Алегам сушчэ”[208]. Пагэтаму роля гэтых “мужоў” зводзілася, верагодна, да збірання віры і даніны на карысць князя і інш. Акрамя таго, залежнасць ад Кіеўскага князя выказвалась у тым, што падначаленыя плямёны ўдзельнічалі ў пазодах князёў. Так, Крывічы бралі ўдзел у паходзе Алега на Грэкаў у 907 годзе[209] і ў паходзе Ігара ў 944 годзе[210]. Полацк[211] і Смаленск[212] пры Алегу атрымалі ўклад, г. зн. частку здабычы, што паказвае на тое, што яны былі толькі далучаны да Кіева, а не падначалены.

У такім палітычным становішчы знаходзіліся нашы плямёны і пры наступных княжэннях у Кіеве Ігара, Вольгі, Святаслава. Летапісы не маюць паведамленняў пра іх, але парадак, усталяваны Алегам, відавочна, не быў парушаны, за выключэннем, верагодна, таго што Полацк пасьпеў атрымаць большую самастойнасць. Праўда ёсць паданні ў больш позніх летапісах аб знаходжанні княгіні Вольгі ў Полацкай зямлі і нават аб пабудове ёю Віцебска[213], але гэтыя апавяданні не могуць мець значэння і былі створаны ў пазнейшыя часы.

Пад час княжання Ўладзіміра Святаславіча, у Полацку адзначаецца Рогвалад, які княжыў там самастойна. Летапіс адзначае: “бе бо Ровалад перайшоў із заморра, імяшэ воласць сваю ў Полацку”[214]. Разумець гэты ўрывак дакладна наўрад ці мае сэнс. Рогвалад, верагодна, быў нашчадкам тых мясцовых князёў, пра якіх летапіс гаворыць “пад Алегам сушчэ”. Дастаткова славянскае імя Рогвалада і яго дачкі Рагнеды таксама не гаворыць на карысць яго варажскага паходжання[215].

---

[206] Іпат., 13.

[207] Бястужаў-Румін, Аб складзе рускіх летапісаў, дадатак І, р.7.

[208] Іпат., 18.

[209] Ibid., 17.

[210] Ibid., 28.

[211] Ibid., 18.

[212] П.З.Р.Л., т. XV, Цвярскі летапіс, р.38.

[213] Гэта паведамленне ўтрымліваецца ў так званым Віцебскім летапісу. Сапуноў, “Віцебская старына”, т. І, р. 455. Гэтыж летапіс выдадзены праф Антановічам у “Зборнік летапісаў паўднёвай і заходняй Расіі”, Кіеў, 1888, р. 215.

[214] Іпат., 51.

[215] Сустракаючыяся ў дамове з Грэкамі імёны Нарманаў не падвяргаюцца пераробкам, якія б набліжалі іх да рускіх слоў; пагэтаму выводзіць Рогвалада із скандынаўскага Рінгвальда – падстаў няма. Імя Рогвалад насілі шмат хто із паследуючых Полацкіх князёў, значыць гэта не было выпадковай пераробкай. З павеламленнем аб Рогваладзе Полацкім цесна звязана паведамленне летапісу аб Туры, Тураўскім князі, “ад яго жэ і Тураўцы празвашася”. Але гэтая згадка летапісу не больш чым паданне, на нашу думку, хаця некаторыя гісторыкі на яго аснове хочуць бачыць у Туры першага Тураўскага князя. Так, складальнік “Нарысу гісторыі Турава” (Прадмова ў выданні “Творы святога айца нашага Кірыла, япіскапа

Паданне аб прыходу яго із-за мора патрэбна зноў жа такі аднесьці на карысць паданняў аб зносінах Полацку з Нарманамі: паведамленне аб Рогваладу трапіла ў летапіс, як аддаленае глухое паданне. У апавяданні летапісу пра паход Уладзіміра на Полацк, аб сватаўстве двух князёў да Рагнеды бяспрэчна чуецца паданне, можа быць дружынная песьня, складзеная пра дабыванне Ўладзімірам прыгажуні-маладой, аб перашкодах да гэтага адружання і аб перамозе, якая была атрымана над ганарыстай прыгажуняй. Усё гэта так падобна на песенны эпічны матыў, які сустракаецца і ў нашых былінах, і ў паўночных сагах, і ў ламбадскім цыкле паданняў і інш. Песьня аб гэтым сватаўстве Уладзіміра магла быць створана із паданняў у эпоху жорсткай барацьбы Манамаха і яго сына Мсціслава з Полацкімі князямі, калі дружыннікі спрабавалі па ўсякаму растлумачыць, чаму ж “Рогваложы ўнуцы уздымаюць меч” на племя Яраслава, калі князі спрабавалі па магчымасьці падвесьці законнасць незвычайнай расправе над Полацкімі князямі. Усё гэта прымушае з асцярожнасьцю адносіцца да летапісных апавяданняў. Але, тым не менш, у цяперашні час пытанне застаецца не высветліным і высветліцца яно можа толькі тады, калі даследчыкі народнага эпасу дадуць больш цвёрдыя асновы разумення таго, наколькі вядомае гістарычнае здарэнне ўздзейнічала на песенную паэзію і, наадварот, якое із сведчанняў нашага летапісу можна прызнаць паданнем, якое перайшло із эпасу ў летапіс[216].

По летапісных паведамденнях справа аб барацьбе Ўладзіміра з Рогваладам і аб першым Полацкім князі Ізяславе уяўляецца так.

Калі пачалася вайна паміж Яраполкам і Ўладзімірам Святаславічамі із-за Кіеўскага княжэння, Рогвалад заняў дастаткова выгаднае становішча адносна обоіх спрачаючыхся князёў. Валодаючы вялікім і моцным княствам, якое, пры гэтым, знаходзілася амаль на шляху із Ноўгарада ў Кіеў, ён сваім удзелам у вайне мог значна павялічыць моц свайго хаўрусніка і зменшыць суперніка. Маладыя князі гэта зразумелі і абодва пачалі дамагацца хутчэйшага заключэння, да пачатку вайны, хаўрусу з Рогваладам. Самым натуральным замацаваннем палітычнага хаўрусу было, бяспрэчна, сваяцтва. Пагэтаму абодва князі, Яраполк і

Тураўскага”, выд. япіскапа Яўгена, Кіеў, 1880 год) упарта трымаецца мяркавання аб існаванні варажскага (?) Князя Тура, выводзячы гэта імя ад варажскіх па падобнасьці гучання Турберн, Турбін (у летапісу інакш: Турбрыд (Іпат., р. 29)), Турдаў, Турдува (у летапісе Турдуўн, Ibedem). Але, па-першае - само існаванне варажскіх князёў у родзе Рогвалада (не Рогвалада-князя, а Рогвалада-варага) больш чым сумнеўнае; па-другое – прыведзеныя аўтарам сугучныя імёны вельмі далёкія ад Тура; апошняе слова, у выглядзе назваў рэчак, мясцовасьцей, паселішчаў на Беларусі агульнаўжываемае (напррыклад, Тураў у Віцебскай губерніі, рэчка Турыя ў Мазырскім уездзе і інш.). Пры гэтым, большасць гарадоў, па народных паданнях, заснаваны князямі і героямі, якія давалі ім свае імёны (Кіеў ад Кія): параўнаць, напрыклад, паданне аб заснаванні Рэжыцы, Люціна, Марыенгаузена (“Гісторыя зямлі Варажскай Русі” В. Лызгова Вільня, 1886 год, р. 6) і шмат інш. (у Бялінскага ў творы “Starożytna Polska”, у летапісах і інш.). Калі прыдаць паданню аб Туры гістарычную даставернасць, то прыйшлось бы прызнаць першым князем Менску Мѐнеска, аб якім перадае паданне Шпілеўскі. Ён так і жадае, але ці навуковы гэта прыём?

[216] Даследчыкі нашай быліннай паэзіі зрабілі некаторыя заўвагі аб сувязі сватаўства Ўладзіміра на Апраксії ў былінах з эпізодам аб Рагнедзе. Гл. Арэста Міллера “Ілля Мурамец і асілкі Кіеўскія”, р. 17, 329, 369, 370, 372-3, Халанскі Вялікарускія быліны“ р. 25. Равінскі “Рускія народныя Картнікі”, т. IV, р. 62. Кірпічнікаў “Паэмы Ламбардскага цыклу”, М. 1873. Р. 103 і інш. Але ніводным даследчыкам пытанне прама пастаўлена не было.

Ўладзімір, пажадалі адружыцца з маладой і прыгожай Рагнедай, дачкой Рогвалада.

Маладыя князі амаль адначасова прапанавалі Рогваладу адружыцца. Апошні, верагодна, не могучы вызначыць, з кім заключыць хаўрус, звярнуўся да дачкі з пытаннем, каго із двух сватаючыхся князёў яна хоча бачыць сваім чалавекам. Ганарыстая княжна, ведаючы, што маці Ўладзіміра была нявольніцай, ключніцай у Вольгі, адмовіла прапанову князя Ўладзіміра, сказаўшы: “Не хачу разуці рабыніча, а за Яраполка пайду!” Такое рашэнне, верагодна, адпавядала і планам бацькі, які, перадаючы адказ дачкі Ўладзіміру, мог спадзявацца на паслабленне яго помсты.

Адружанне Яраполка з Рагнедай адначасова азначаў яго хаўрус з Рогваладам, што павінна было значна павялічыць яго магутнасць. Пагэтаму Ўладзімір, са сваім дзядзькай Дабрыняй, не марудзячы вырашылі папярэдзіць пагражаўшую ім небяспеку ад гэтага хаўрусу і ў 980 годзе пайшлі з Наўгародцамі і варажскім войскам на Полацк. Горад быў узяты і парабаваны, Рогвалад і яго два сыны забіты, а Рагнеду Ўладзімір узяў сабе за жонку.

Скончыўшы справу ў Полацку, Уладзімір выправіўся на Кіеў, дзе аблажыў Яраполка. Потым, заманіўшы яго ў Родню, ён забіў брата з дапамогай здрадніка Блуда[217].

У Ўладзіміра ад Рагнеды было чатыры сыны: Ізяслаў, Яраслаў, Мсціслаў, Усевалад, дзве дачкі[218].

Уладзімір Святаславіч поўнасьцю выдзеліў Ізяславу і яго нашчадкам Полацкую вобласць, так што ў будучым яна была цалкам адасобленым, незалежным княствам. Ізяслаў княжыў у Полацку да 1001 году, г.зн., што ён перажыў сваю маці толькі на адзін год. Крыніцы не захавалі нам якіх-небудзь здарэнняў пад час яго княжэння. Аднак пры ім адбылася адна із самых значных падзей у гісторыі Русі – прыняцце хрысціянства. Якім чынам хрысьціянства было ўсталявана ў Полацкай вобласьці мы не ведаем. Але, зыходзячы з таго, што ёсць паведамленне аб прыняцці Ранедаю, маці Ізяслава, манашаства[219], можна думаць, што і гэты князь, знаходзячыся пад яе ўплывам, быў руплівым хрысціянінам і працаваў над пашырэннем новай веры ў сваёй вобласьці. Адзін летапіс апісвае яго так: гэты князь быў ціхім, лагодным, пакорлівым і літасцівым, вельмі любіў і паважаў святарскі і іначаскі сан, рупліва чытаў святое пісанне, адварочваўся ад марных заняткаў і быў доўгацярпялівым[220]. Дарэчы, гэтая характарыстыка перададзена пазнейшым зводам.

Ізяслаў аставіў пасьля сябе двух сыноў: Брачыслава і Усяслава; апошні памёр хутка пасьля бацькі ў 1003 годзе.

Якім чынам хрысціянства пашыралася на зямлях Дрыгавічэй і Смалян – паведамленняў не захавалася.

---

217 Іпат., 51.

218 Наўгародзкі летапіс у выданні 1888 году, р. 30.

219 Цвярскі летапіс, П.З.Р., т. XV, р. 113.

220 П.З.Р.Л. т. IX, р. 68

Уладзімір Сьвятаславіч, згодна звычаю, падзяліў Русь на ўдзелы. Пры гэтым, у Полацку ён пасадзіў Ізяслава, як ужо было сказана, у Тураве – Святаполка, старэйшага сына і, як здаецца, у Смаленску – Станіслава[221]. Гэты падзел на ўдзелы адносены летапісам да 988 году, але, верагодна, вялікі князь раздаваў удзелы па меры падрастання сваіх сыноў.

Пра Ізяслава мы ўжо гаварылі. Станіслаў згадваецца толькі пры раздачы ўдзелаў, ды і то не ва ўсіх летапісах. Святаполк Тураўскі вядомы сваёй доўгай барацьбой з братамі. Для яго гісторыі мы маем тры розныя крыніцы: летапіс, хроніку Мартына Гала і хроніку Цітмара. Із іх толькі першая і апошняя крыніка аддалена выказваецца пра княжанне Святаполка ў Тураве. Апавяданне М. Гала прысвечана апісанню паходу Балеслава на Русь, пры гэтым, матэрыялам для гэтага апісання была ледзь не эпічная песьня; апавяданне поўніцца недакладнасьцямі. У паведамленні рускага летапісу аб’яднана некалькі крыніц: паўночнае паданне пра Святаполка (вегагодна Наўгародзкае), вельмі яму варожае і ўрыўкі з паўднёвага, якое адносіцца да свайго князя з большай сімпатыяй. Апавяданне Цітмара, заснаванае на апавяданнях саксонскіх ваяроў, якія былі ў паходзе Балеслава, мае найбольш даставерны характар[222].

Святаполк нарадзіўся ў 980 годзе. Апавяданне нашага летапісу, жадаючы, па магчымасьці, ачарніць яго, паведамляе, што Уладзімір узяў сабе ў жонкі, жонку Яраполка, грачанку, якая “бы не праздна”; такім чынам Святаполк паходзіў ад “ад грахоўнага кораня”[223]. Святаполк быў жанаты на дачцы польскага караля Балеслава[224]; гэты шлюб адносіцца на канец 1013 года ці пачатак 1014 году[225]. Разам з дачкой Балеслаў прыслаў да зяця япіскапа Калабрэжскага Рэйнберна. Святаполк у гэты час ужо валодаў Туравам, куды і прыбылі Рейнберн і дачка Балеслава. Тураўскі князь, незадаволены прызначэннем яму невялікага ўдзелу і пры гэтым баючыся таго, што бацька прызначыць у Кіеў пасьля смерці не яго, рыхтаваў супраць свайго бацькі паўстанне, у чым прынімалі значны ўдзел яго жонка і япіскап Калабрэжскі. Даведаўшыся пра гэта, Уладзімір пасадзіў усіх траіх у турму[226], із якой Святаполк вызваліўся толькі, па сведчанні рускага летапісу, незадоўга да сьмерці свайго бацькі. Цітмар паведамляе, акрамя таго, што Рэйнберн здзяйсняў місіянерскую дзейнасць да свайго заключэння ў турму (дарэчы, гэта паведамленне такое цьмянае, што яго хутчэй за ўсё трэба аднесьці да дзейнасьці Рейнберга на пасадзе япіскапа Калабрэжскага), а таксама пасьля вызвалення із турмы(In (custodia) pater venerabilis, quod in aperto fiery non potuit,

---

[221] Іпат., 83. Лаўрэн., р. 118; згадка пра Станіслава Смаленскага знаходзіцца толькі ў пазнейшых спісах нашых летапісаў: Цвярская, 113, Ніканаўская, р. 57, Летапіс Даніловіча, р. 119 і інш.

[222] І. Ліннічэнка “Узаемаадносіны Польшчы і Русі да палавіны XIV ст.”, ч. І, р. 99. Ёсць яшчэ адна крыніца, якая паведамляе пра гэту вайну, але ўжо чыста быліннага паходжання – Эймундава Сага “Antiquitèes Russes”, t. II, p. 171. Гэтая крыніца, на жаль, не падвяргалася крытычнаму дасьледванню, яго ігнараваў нават Ліннічэнка ў пазначаным творы. Дарэчы, вельмі старонны крытычны разгляд гэтага твору спрабаваў рабіць Сянкоўскі ў артыкуле “Скандынаўскія сагі”. Бібліятэка для чытання, т. І, 1834 год р. 50 і наст., выдаўшы сагу урускім перакладзе, у тым жа выданні, т. ІІ, р. 80 і стр.

[223] Іпат., р. 52

[224] Mon. Pol. Hist., т. І, р. 264.

[225] Ліннічэнка, р. 47.

[226] Mon. Pol. Hist., т. І, р. 310.

in secredo studiosus in divina laude peregit). Гэтыя факты агульнавядомы. Яны тлумачыліся то ў тым сэнсе, што япіскап спрабаваў пашыраць хрысціянства сярод мясцовых язычнікаў, яшчэ не прыняўшых яго, то ў тым сэнсе, што ён працаваў у накірунку далучэння Тураўскай зямлі да папскага прастолу. Як бы там ні было, але дзейнасць Рэйнберга здзяйснялася пад кіраўніцтвам Балеслава, які хацеў пашырыць сваю ўладу і на Русь і даваў падтрымку свайму зяцю з гледзішча на гэтую мэту.

Як вядома, смерць Уладзіміра прывяла да барацьбы паміж яго сынамі. Святаполк паспеў часова ўсталявацца ў Кіяве. Затым быў прагнаны Яраполкам, яшчэ раз сеў на вялікакняскі стол з дапамогай свайго цесьця Балеслава і, нарэшце, загінуў. Пасьля смерці Ўладзіміра Святога дзейнасць Святаполка ўжо не адносілася да Тураўскай зямлі і таму мы не будзем яе праглядаць[227]. Заўважым толькі, што Святаполк у сваім імкненні на Кіеўскі стол абапіраўся на моцную падтрымку мясцовага насельніцтва, меў значную партыю ў самім Кіяві, без чаго яго поспехі немагчыма было б растлумачыць. Акрамя таго, і Тураўская зямля брала значны ўдзел у яго барацьбе, адкуль ён набіраў войскі: “Святаполк жа сабра воі ў Дереўлян і ў Пінску і сядзе ў Кіяві, мысля ўсю брацію пагубіці”[228]. Такім чынам, ён карыстаўся паслугамі войска са сваёй вобласьці, як галоўнай сілай, з дапамогай якой хацеў утрымацца ў Кіяве.

І так, Святаполк загінуў у барацьбе з Яраславам. Тураў і Смаленск падпарадкаваліся апошняму.

Канчаткова ўсталяваўшыся на Кіеўскім стале, Яраслаў, тым не менш, не разабраўся з усімі сваімі братамі: у аддаленай Цьмутаракані сядзеў смелы і адважны князь Мсціслаў, вядомы сваімі перамогамі над каўвазкімі народамі; у Полацку сядзеў Брачыслаў Ізяславіч. Яны маглі быць незадаволены ўзмацненнем Яраслава і маглі патрабаваць і сабе павелічэння ўдзелаў. Так яно і здарылася.

Брачыслаў Ізяславіч хутка абвясціў свае прэтэнзіі на Рускую зямлю. У 1021 годзе ён пайшоў на Ноўгарад, узяў у палон шмат грамадзян, нарабаваў скарбаў і вярнуўся ў свае валоданні. Але, павядомлены аб гэтым Яраслаў, папярэдзіў яго; праз 7 дзён ён сустрэў Брачыслава на рэчцы Судамір, пабіў яго і забраў назад палонных і нарабаваныя скарбы[229]. Аднак Яраслаў далей не даганяў свайго непрыяцеля, насупраць, ён сам пазваў яго да сябе, заключыў з ім мір, аддаў яму два гарады: Віцебск і Усвят[230]. Відаць, Яраслаў ведаў, што патрабаванні Брачыслава справядлівыя і пры гэтым баяўся, што калі не пойдзе ім насустрач, то Наўгародзкія ўладанні будуць падвяграцца частым нападам з боку апошняга. Пагэтаму ён сам першы прапанаваў мір Брачыславу.

---

[227] Разбор гэтых паведамленняў зрабіў сп. Ліннічэнка “Узаемаадносіны Польшчы і Русі да палавіны XIVст.”, ч. Ір. 83-100. Глядзіце таксама хроніка Дзітмара, як крынцу для рускай гісторыі. Сп. Галубоўскага і сп. Урублеўскага аб хроніцы М. Галла.

[228] Летапісец Пераяслаўля-Суздальскага, выдадзены князям Абаленскім, М. 1851 год, р. 33.

[229] Іпат. лет., 102; Тацішчаў, ІІ, 101. Наўгародскі летапіс, 89. Нікагаўскі, 77. Цвярскі, 142. Уваскрасенскі, (П.З.Р.Л., т. VII р.)

[230] Нікан., 77

Згодна з умовамі мірнай дамовы, можна думаць, што пазначаныя два гарады былі прадметам галоўных дамаганняў Полацкага князя. Абодва гарады, размешчаныя на гандлёвых шляхах, мелі вялікае значэнне для Палачан: валодаючы імі яны кантралявалі шляхі верхняга Падзвіння і самую важную частку шляху із Варагаў у Грэкі – волакі паміж Дзвінай і Дняпром. Мэта вайны, такім чынам, выяўляецца больш важнай. Магчыма з гэтага ж часу да Полацкага княства была далучана частка Падняпроўя з Воршай і Капысам, у далейшым адабраная Манамахам. На самай справе: калі Брачыслаў не валодаў Віцебскам, то верагодна не валодаў і пазначанай вобласьцю, якая знаходзілася на ўсход ад гэтага горада. Бліжэйшыя ж яго нашчадкі гублялі свае землі і наўрад ці маглі набыць новыя.

Брачыслаў Ізяславіч памёр у 1044 годзе[231], аставіўшы пасьля сябе сына *Ўсяслава*. У якім годзе нарадзіўся Ўсяслаў, невядома; але гэтая асоба зрабіла на народ такое моцнае ўражанне, што захавалася паданне, як быццам бы ён нарадзіўся ад валхвавання і як следства гэтага на яго галаве была радзімая пляма меўшая асобую чараўніцкую сілу. Валхвы наказалі яму насіць на галаве асобую павязку, каб прыхаваць гэтую пляму[232]. І наогул Усяслаў мэў рэпутацыю звыш натуральнага чалавека, чарадзея, нават ў асяроддзі больш адукаваных людзей таго часу. Вядомы літаратурны помнік XII ст.[233] так характэрызуе Полацкага чарадзея: “Князь Усяслаў людзям суд даваў, князям гарады прыводзіў да парадку, а сам ваўком рыскаў: із Кіева да спеву пеўняў дабягаў ён да Цьмутаракані, ваўком перасякаючы шлях вялікаму Хорсу (Сонцу). У Полацку звоняць ютрань каля Святой Сафіі, а ён у Кіеве звон чуе. Хаця і вешчая душа ў іншым целе, але часта беды церпіць. Яму (Усяславу) вешчы Баян сказаў прыпеўку (прымаўку): “Ні хітру, ні гаразду суду божага не пазбегнуць”.

Прыведзены погляд старажытнага паэта дастаткова правільна, хаця своеасабліва характэрызуе кіпучую дзейнасць Усяслава: ён быў разумны, хітры і вёрткі, але, ў той жа час, жыццё яго склалася так, што шмат чаго павінен быў перанесьці. Сваім розумам, сваім клапатлівым, прадпрымальным характарам гэты князь застаўся на доўга ў памяці народа; аб ім ужо пачалі хадзіць легенды, як пра чарадзея; гэтыя апавяданні, перадаваўшыяся ў народзе, трапілі ў пісьмовыя крыніцы – летапісы і Слова аб палку Ігаравым.

Пасьля смерці Яраслава ў 1054 годзе, Усяслаў Брачыславіч жыў некаторы час у міры з Яраславічамі, Ізяславам Кіеўскім, Святаславам і Усеваладам і нават браў удзел у справах усёй Русі; так, ён хадзіў з усімі князямі ў 1060 годзе на Торкаў[234]. Аднак гэтая згода хутка парушылася; паміж князямі, невядома з якой нагоды, адбылася сварка. Усяслаў здзейсніў шэраг нападаў на паўночныя рускія

[231] Іпат., 109.
[232] Іпат. лет., 109.
[233] Слова аб палку Ігаравым.
[234] Іпат., лет., 114.

вобласьці, у 1075 заключаў у аблогу Пскоў, хаця безвынікова[235], а ў 1076 годзе[236] прыступіўся да Ноўгараду, захапіў яго і парабаваў. Нагодай да варожых дзеянняў Усяслава, як звычайна спрабуюць растлумачыць нашы гісторыкі, было тое, што Яраславічы пазбавіліся ад ізгоя Расьціслава, з якім яны доўга ваявалі, павялічылі свае ўладанні, нічога не дадаўшы Ўсяславу. Як бы там ні было, але Вялікі Князь Кіеўскі Ізяслаў і яго браты Святаслаў і Усевалад вырашылі разам пакараць Усяслава за напады. Глыбокай зімой 1067 году яны ўтраіх, на чале шматлікага войска, выправіліся на Полацкую Вобласць. Хаўруснікі аблажылі Менск, адзін з важнейшых Полацкіх гарадоў, узялі яго пасьля ўпартага супраціву, пры гэтым амаль усё насельніцтва: мужчыны, жанчыны, дзеці ці былі забіты, ці узяты ў палон. Ад гэтага гораду яны пайшлі далей і на рэчцы Нямізе сустрэліся з войскам Усяслава; 3 сакавіка, не гледзячы на глыбокі снег, адбылася жорсткая бойка, у якой Усяслаў зведаў паразу[237]. Аб гэтай бойцы аўтар Слова аб палку Ігаравым маляўніча выказваецца так: “На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць сталёвымі цапамі, на таку жыцці кладуць. Веюць душу із цела. Крывавыя берагі Нямізы былі ўсцелены не жытам, але касцьмі рускіх сыноў”.

Пасьля гэтай бойкі Ўсяслаў уцёк. Хаўрусныя князі не пагналіся за ім, але выправіліся на ўсходнія валоданні Полацкіх князёў, да Дняпра, і спыніліся каля Воршы. Магчыма, надыйшоўшая вясна перашкодзіла ваенным дзеянням, так як у той час ваявалі выключна зімой. Сабраўшыся каля Воршы, Яраславічы ў чэрвені паклікалі Ўсяслава на перамовы ў свой стан, прычым яны цалавалі хрэст, што не зробяць яму ніякай шкоды. Аднак, як толькі Полацкі князь з’явіўся ў стане хаўруснікаў, ён быў схоплены імі, закаваны і накіраваны Ізяславам у Кіеў у затачэнне[238].

Аднак, Усяславу Ізяславічу не доўга давялося сядзець у затачэнні. Яму дапамог шчаслівы выпадак.

У гэты час Полаўцы напалі на Паўднёвую Русь, пабілі выйшаўшых ім насустрач Яраславічэй і пачалі рабаваць і паліць Рускую зямлю. Калі вялікі князь Ізаслаў вярнуўся пасьля паразы ў Кіеў, кіўляне паўсталі. Яны запатрабавалі ад князя выдаць ім зброю, каб яны змаглі пайсьці абараняць рускую зямлю. Ізяслаў адмовіў гаражанам. Горажане паўсталі. Частка з іх прыйшла на княжы двор і пачала спрачацца з Ізяславам, які ў гэты час сядзеў у сенцах са сваёй дружынай і размаўляў з гараджанамі праз вакно, а другая частка накіравалася да турмы і выпусціла арыштантаў, якія пабачылі незадаволены натоўп. Дружына раіла Ізяславу даслаць мацнейшую ахову Усяславу, нават забіць яго, але ён не згаджаўся. Тады народ кінуўся да цямніцы, дзе знаходзіўся Усяслаў, вызваліў яго

---

[235] Цвярскі, 154. Пскоўскі 2: “Князь Полацкі Усяслаў, сабраўшы сілы свае многія прыйдзе да Пскова і шмат тружаўсяя з многымы замышленнямі і парокамі шыбаў, адыдзе ніштожа паспеў”. Іпат. толькі намякае на гэты паход: “Усяслаў седзе раць пачаў”, р. 115.

[236] Іпат., 117. “узя Ноўгарад з жогамі і з дзецьмі; і колакалы зыма ў Святой Сафіі; о, вяліка бяшэ бяда ў час той і панякадзіла с’іма”, Наўгарод., 97.

[237] Іпат., 117. Наўгарод., 97. Нікан. 93.

[238] Ibidem.

і прывёў на княжы двор. Ізяслаў уцёк са сваімі прыхільнікамі і сынам Мсціславам, а УЎсяслаў быў абраны Кіеўскім князем.

Ізяслаў Яраславіч уцёк да польскага караля Балеслава, свайго родзіча. Тут ён аб'яднаў свае вайскі з каралёўскімі і абодва пайшлі на Кіеў і Усяслава. Кіяўляне не любілі Ізяслава, і таму яны ўсе выйшлі супрац яго пад кіраўніцтвам Усяслава. Аднак апошні не спадзяваўся на ўстойлівасць і моц Кіяўлян, пры гэтым не бачыў магчымасьці доўга трымацца на Кіеўскім стале, а таму, дачакаўшыся спрыяльных абставін, уцёк пад час паходу, із пад Белграду да сябе ў Полацк, аставіўшы Кіяўлян саміх. У Кіяве ён княжыў 7 месяцаў[239].

Учыніўшы расправу над Кіяўлянамі, Ізяслаў адразу ж кінуўся на пераслед свайго ворага, Полацкага князя. Ён выгнаў яго з Полацку і пасадзіў там свайго сына Мсціслава. Апошні хутка памёр і на яго месца сеў другі Ізяславіч Святаполк[240]. Выгнаны Усяслаў Брачыславіч уцёк на поўнач да фінскага племені Водзь. Тут ён сабраў войска і зноў пачаў свае напады на Ноўгарад. У тым жа 1069 годзе ён напаў на Наўгародцаў. Але тыя пад кіраўніцтвам свайго князя Глеба Святаславіча перамаглі яго на Гзене[241] каля самаго Ноўгарада, узялі яго ў палон, але потым выпусьцілі.

Аднак адважны Усяслаў не думаў сумаваць. Ён зноў сабраў войска і ў 1071 годзе напаў на Полацк і выгнаў адтуль Святаполка. Тады Ізяслаў паслаў яму на дапамогу другога свайго сына Яраполка, які і пабіў Палачан у бойцы каля Галацічаску[242]. Не гледзячы на гэта Полацкі стол застаўся за Усяславам, пасьля шматлікіх гадоў упартай і нешчаслівай барацьбы.

На працягу ўсяго перыяду княжання Святаслава ў Кіяві, Усяслаў сядзеў спакойна. Але як толькі памёр Святаслаў (1076), зноў пачаліся безперарыўныя войны паміж Усяславам і Кіеўскімі князямі. Перш за ўсё падвергся нападу Ноўгарад, дзе княжыў Глеб, да якога хадзіў на дапамогу Ўладзімір Манамах. У помсту за гэты напад Уладзімір зрабіў два паходы на Полацк, летам са сваім бацькам Усеваладам, а зімой са Святаполкам, які тады ўжо княжыў у Ноўгарадзе. У гэтым паходзе князі спалілі прадмесьці самаго гораду і, акрамя таго, Уладзімір спуштошыў з Полаўцамі ўсю краіну да Одрску[243].

Усяслаў, у сваю чаргу, пры першым жа зручным выпадку напаў на Смаленск, уладанні Манамаха, скарыстаўшы адсутнасць апошняга. Атрымаўшы ў Чарнігаве вестку аб нападзе, Уладзімір адразу ж накіраваўся з дружынай да

---

[239] Іпат., 119-120; Наўрарод., 103. Даніловіча, 117. Нікан., 115. Лаўрэн., 168. Вось якімі паэтычнымі фарбамі малюе гэтыя здарэнні ў жыцці Ўсяслава Слова аб палку Ігаравым "Той (Усяслаў) клюкамі падпрэся аб коні і скачы да граду Кіева і датчэся стружыем злата стала Кіеўскага. Скачы ад іх лютым зверам да пленачы із Белаграда, абесыся сіне мгле, утрежа вазіі стрыкусы, адчыні врата Новуграду, разшібе славу Яраславу, скачы влекам да Немізы з Дудутак".

[240] Іпат., 122. Наўгарод., 104. Лаўрэн., 169.

[241] Нікан., 96. Наўгарод., 103. Усяслаў знайшоў падтрымку ў Важан (Чудскае племя, Барсаў "Нарысы Расійскай гістарычнай геаграфіі" р. 46) і з імі з'явіўся пад сцянамі Ноўгараду: "вялікая бяша сеча Важанам і падзе іх бязлічная колькасць; а самаго князя выпусцілі Бога дзеля", Наўгарод.

[242] Іпат., 122. Лаўрэн., 169.

[243] Лаўрэн., 239.

Саленску, але не застаў там Усяслава. Тады ён накіраваўся ў Полацкую зямлю і спаліў гарады: Лукомль, Лагойск у Друцку[244].

Але Ўсяслаў, відавочна, і гэта не заставіў без помсты. Ва ўсякім разе, у наступным годзе Уладзімір зноў быў вымушаны накіравацца на Полацкую вобласць. Ён сабраў вялізарнае войска із Полаўцаў, Чарнігаўцаў і Чыцееўцаў і выправіўся на Менск. Яны ўзялі горад і абышліся з ім вельмі жорстка: не засталося ні чэлядзіна, ні скаціны, усё разрабавалі і спалілі[245].

Здаецца, на гэтым паходзе і скончылася бпрацьба Ўсяслава Брачыславіча з Яраславічамі. Ва ўсякім разе, летапісы нічога не адзначаюць. Дарэчы, знакаміты чарадзей быў ужо вельмі стары і, верагодна, поўнасьцю супакоіўся пад канец свайго неспакойнага жыцця. Ён памёр у 1101 годзе, пракняжыўшы 57 гадоў.

Пры Ўсяславе Брачыславічу Полацкае княства дасягнула вышэйшай кропкі свайго росквіту: ні да яго, ні пасьля яго, яно не было такім вялікім і магутным, як пад час яго кіравання. Магутнасць і сіла княства асабліва павялічылася тым, што яно знаходзілася пад кіраннем адной асобы. Сваім узвышэннем Полацк абавязаны розуму і энэргіі Ўсяслава. Пасьля яго Полацкае княства пачынае падаць. Яно падзяляецца на мноства дробных самастойных удзелаў, якія часта спрачаліся паміж сабой. Пачатак удзельнаму парадку паклаў сам Усяслаў, падзяліўшы ўсё княства паміж сваімі 6-ю сынамі.

Пасьля смерці Яраслава Вялікага ў 1054 годзе уся Руская зямля дзеліцца на амаль незалежныя княствы ці ўдзелы. Вонкавая сутнасць удзельнай сістэмы была ў тым, што больш ці менш значны племянны цэнтральны горад атрымліваў, ці запрашаў да сябе князя, які быў поўнасьцю незалежным у справах унутраных, а ў знешніх справах больш ці менш залежным, гледзячы на велічыню і значэнне кіруемага ім удзелу. Па сутнасьці, удзельны парадак старажытна-рускай дзяржавы існаваў яшчэ і да Яраслава. Так, пасьля смерці Святаслава Ігаравіча, Уладзімір стаў адзіным уладальнікам усёй Русі толькі пасьля доўгай і ўпартай барацьбы з братам Яраполкам. Яраслаў Уладзіміравіч таксама быў вымушаны змагацца з братам Святаполкам, пасадзіць другога брата Судзіслава Пскоўскага ў цямніцу і доўгі час кіраваць Руссю разам з братам Мсціславам Цьмутараканьскім да самой смерці апошняга ў 1034 годзе. Толькі тады Яраслаў стаў адзіным уладаром Рускай зямлі. Із гэтага відаць, што звычай падзялення Русі на ўдзелы існаваў яшчэ значна раней Яраслава. Аднак пасьля смерці апошняга яго нашчадкі настолькі размножыліся, што ўжо на шмат стагодзяў падзяліла Русь на ўдзелы. Сам Яраслаў заставіў 5 сыноў і пры гэтым у Полацку кіравала незалежная ад яго лінія Ізяславічэй.

Не гледзячы на дастаткова высокі стан рускай гістарычнай навукі, сутнасць і значэнне ўдзельнага перыяду яшчэ далёка не высветлена гісторыкамі. Ёсць шмат тэорый па гэтаму пытанню, але ні адна з іх не растлумачвае сутнасць гэтай эпохі, засяроджваючы ўвагу на тым, ці іншым яе баку.

[244] Ibidem.
[245] Ibidem.

Не гаворачы ўжо пра аджыўшую тэорыю Карамзіна, якая бачыла ў надзяленні вялікім князем сваіх сыноў валасьцямі – бацькоўскую любоў і турботу пра дзяцей, лічым неабходным нагадаць аб больш значных мяркаваннях з гэтай нагоды. Такія аўтарытэтныя навукаўцы, як С. М. Салаўёў і Кавелін прызнаюць, што ўдзелы пайшлі ад раздачы зямель вялікім князем, як родапачынальнікам княжай сям'і і што. як следства, уся Руская зямля ўяўляла сабой агульнае радавое валоданне княжага дому, а барацьба князёй паміж сабой – звядзенне княжых радавых рахункаў. Далей, існуе тэорыя, якая бачыць ва ўдзельна-вечавым парадку этнаграфічнае падзяленне Русі па плямёнах і, як следства, барацьба князёў тлумачыцца племяннной барацьбой народнасьцей. Такое меркаванне ўпершыню было выказана Кастамаравым. Нарэшце, ёсць яшчэ дастаткова грунтоўнае меркаванне Сергіевіча, які бачыў ва ўдзельна-вечавым пардку – дагаворны пачатак паміж князем і народным вечам[246].

Тут няма нагоды паглыбляцца ў больш падрабязнае дасьледванне гэтых тэорый, няма нагоды таксама весьці з імі палеміку. Але нам, аднак, здаецца, па нашаму канчатковаму разуменню – што ніводная з гэтых тэорый не з'яўляецца задавальняючай. Справа ў тым, што кожная тэорыя разглядае не ўсю савакупнасць праяў народнага жыцця таго часу, а выбірае нейкаторую колькасць фактаў, якія здаюцца ёй важкімі і на іх аснове будуецца сваё меркаванне; тыя ж факты, якія не падыходзяць пад дадзенае меркаванне, тлумачацца нейкімі нацяжкамі ці проста лічацца выключэннямі.

Звяртаючыся да фактаў удзельна-вечавога перыяду Рускай гісторыі, мы заўважаем тры вялікія з'явы: 1) праяўленне і развіццё племяннога жыцця народнасьцей, складаючых тагачасную Русь, 2) барацьбу князёў і 3) зліццё княжых інтарэсаў з інтарэсамі земства.

Плямёны, якія складалі старажытную Русь, павінны былі адрозніваща адно ад другога шмат якімі этнаграфічнымі асаблівасьцямі, выражаўшыхся ў розных мясцовых гаворках, звычаях, рэлігійных перакананнях, рознай ступені культуры, у розных гандлёвых інтарэсах, нават, верагодна, у такіх дробязях як адзенне, спосабы і прыёмы палявання і г. д. Якімі б нязначнымі не здаваліся б нам гэтыя асаблівасьці, але яны мелі ўплыў на разрозненнасць плямён, у асаблівасьці, калі звярнуць увагу на тое, што велічэзныя прасторы, непраходныя лясы і балоты і пры гэтым недаверлівыя адносіны аднаго племені да другога – рыса характэрная для ўсіх малаадукаваных народаў, увесь час перашкаджалі блізкаму знаёмству і зліццю плямён. Пры гэтым трэба мець на ўвазе характэрную рысу ўсіх славян – заводзіць спрэчкі паміж сабой і інш.; усе гэтыя нязгоды паміж плямёнамі летапісец харатэрызуе славамі "бысць нестраенне". Але пакуль плямёны жылі дробнымі абшчынамі, пакуль яны яшчэ не развіліся да такой ступені, каб стварыць дзяржаўнае пачынанне, народнае жыццё ні ў чым не праяўлялася. З IX ст. розныя абставіны, адна за другой, прымушаюць рускія плямёны да дзейнасьці: барацьба з варагамі, з'яўленне на ўсёй прасторы

[246] Адзначым яшчэ меркаванне Вас. Пассека, які ў з'явах удзельнага перыяду бачыў "устрывожанае сямейнае пачуццё", Чытанні Маскоўскага Тавар. Гіст. І Стар. Рас., 1868 год., кн. ІІІ, р. 9.

дзяржаўнай улады, частае наведванне паўночных славян да паўднёвых і наадварот, барацьба за ўладу першых князёў, паходы на Грэцыю, Хазарыю, на Каўказ і інш., нарэшце, прыняцце хрысціянскай рэлігіі і разам з ёю пісьмовасьці, адным словам – усе гэтыя з'явы прымусілі рускія плямёны прачнуцца. Такім чынам, адбылося ўзбуджэнне ў асяроддзі рускіх плямён да дзейнасьці разумовай і дзяржаўнай, з'яву, якую б мы назвалі адраджэннем плямён. Першымі пад такі рух падпалі тыя плямёны, якія знаходзіліся ў больш блізкіх стасунках з Грэцыяй: Кіеўскія Паляне і Ільменскія Славяне і Палачане. Потым на падмосткі палітычнага жыцця выходзяць: Валынь, Тураў, Севяране, Смаляне і г. д. Як следствства такога праяўлення мясцовага народнага жыцця пад час удзельна-вечавога перыяду, мы заўважаем наступныя з'явы: 1) развіццё і ўзмацненне веча, як выразніка народнай волі ў справах як знешніх так і ўнутраных, 2) барацьба гарадоў з прыгарадамі, якая была адлюстрваннем агульнага адраджэння плямён, 3) бараць земстваў, 4) развіццё сістэмы зямель, г. зн. плямёны гуртуюцца каля сваяго галоўнага цэнтру, вялікакняжага гораду, пры гэтым усякая зямля, у сваю чаргу, дзеліцца на дробныя ўдзелы. Што да князёў, то ў іх барацьбе мы назіраем наступныя выпадкі: 1) барацьба князёў за радавыя (барацьба Манамахавічэй і Ольгавічэй) і сямейныя інтарэсы, 2) барацьба князёў за асабістыя крыўды і незадавальненні. 3) барацьба князёў за інтарэсы зямель і княстваў, напрыклад гандлёвыя і інш., 4) з'яўленне і барацьба за сталы князёў-ізгоеў. У першых двух выпадках князі ваявалі толькі са сваімі дружынамі, пры гэтым земства ім рэдка дапамагала і нават адмаўляла ў дапамозе.

Вось, на наш погляд, галоўныя рысы ўдзельна-вечавога парадку. Для яго тлумачэння, як нам здаецца, трэба разглядаць сукупнасць усіх гэтых рыс, а не якую-небудзь адну, напрыклад, радавыя адносіны князёў і толькі такі падыход можа дастаткова высветліць значэнне гэтага перыяду.

Да гэтага трэба дадаць яшчэ адно меркаванне. На працягу некалькіх стагоддзяў, калі доўжыўся наш удзельна-вечавы перыяд, пры шматлікасьці і разнастайнасьці плямён, якія насялялі Русь, рознага іх культурнага ўзроўню, інтарэсаў і г. д. удзель-вечавы парадак меў свае відазмяненні. Пакажам хаця б на тое, што розныя пакаленні князёў не маглі заўсёды дзейнічаць па аднаму і таму ж прынцыпу, хоць бы і па радавому прынцыпу: адзін князь мог мець свае погляды на ўладу, на сваё становішча, на кіруемы ім удзел і г. д., якія былі адрознымі ад поглядаў іншага. З другога боку, і землі, гледзячы на ўмовы ў якія яны былі пастаўлены, мелі розныя разуменні аб княжай і народнай уладзе: у адным горадзе пераважала веча, у другім князь і г. д. Усё гэта найшло адлюстраванне на падзеях удзельнага перыяду.

Першапачаткова князі ў удзелах былі прышлымі. Князь са сваёю дружынай пераходзіў із аднаго гораду ў другі, уяўляючы сабой часовую ваенную і судовую ўладу. Як следства частай перамены князёў і іх выключнага значэння ў краіне, павінна была з'явіцца народная ўлада для пастаяннага кіравання ўнутранымі справамі, што і выявілася ў павелічэнні значэння веча.

Аднак, прыблізна з палавіны XII ст. князі перастаюць хадзіць з аднаго стала на другі і настолькі зжываюцца з кіруемымі імі плямёнамі, што княжая ўлада

перадаецца нашчадкам. Яшчэ пры жыцці князь стараецца назначыць і ўладкаваць сабе пераемніка. Такім чынам княжыя лініі уладкоўваюцца ў той ці іншай зямлі, у сваіх вотчынах; землі, са свайго боку, моцна прытрымліваюцца якой-небудзь княжай лініі. З гэтага часу інтарэсы князя і яго зямлі станавяцца не падзельнымі.

Землі Полацкіх і Смаленскіх Крывічэй канчаткова вылучаюцца ў першай палове XII ст. Смаленскае княства вылучаецца з пачаткам княжання Расьціслава Мсціславіча. Полацкае княства, як мы бачылі, вылучылася яшчэ пры Уладзіміры і было, наколькі можна мяркаваць па летапісных дадзеных, дастаткова самастойным. Аднак, мы бачылі, што Усяслаў Брачыславіч амаль усё сваё жыццё правёў у барацьбе за самастойнасць сваёй зямлі, у той час калі Кіеўскія князі імкнуліся падпарадкаваць яе. Гэтая барацьба працягвалася і пасьля смерці Усяслава з яшчэ большай жорсткасьцю. Полацкая зямля падзяляецца на ўдзелы, але барацьбу з Кіевам усе вядуць аднадушна. Канец гэтай барацьбы і паўнае адасабленне можна лічыць з 1137 году, з вяртаннем Полацкіх князёў з высылкі.

Вяртаючыся зноў жа да адраджэння плямён, якія насялялі Беларусь і да з’яўлення ў іх асяроддзі дзяржаўнага пачынання, патрэбна заўважыць, што яно далёка не аднолькава і не адначасова з’явілася ў Смалян, Палачан і Дрыгавічэй. Раней за іншых дзяржаўны пачатак выпрацавалі Полацкія Крывічы, аб чым мы ўжо гаварылі. За імі выступілі Дрыгавічы з цэнтральным горадам Туравам і пазней іх, у першай палове XII ст. – Смаляне. Да выяўлення поўнай самастойнасьці Смаленскай зямлі, г. зн. да пачатку княжання Расьціслава Мсціславіча, пры якім Смаленскае княства стала цалкам незалежным, у Смаленску часта перамяняліся князі. Прасачыць за іх унутранай дзйнасьцю немагчыма праз адсутнасць дадзеных і пагэтаму, каб не перарываць апавяданне, нам давядзецца абмежавацца сухім пералікам іх імён.

Амаль тое ж прыходзіцца зрабіць з Тураўскай вобласьцю.

Атрымаўшы самастойнага князя яшчэ пры Уладзіміры Святаславічы Святаполка, Тураў некаторы час займае значнае становішча паміж гарадамі Кіеўскага княства. Так, пасьля Святаполка І Уладзіміравіча, там сядзеў старэйшы сын і пераемнік Яраслава – Ізяслаў да 1054 году, калі ён заняў Кіеўскі стол[247]. Пасьля смерці Яраслава Турава-Пінская вобласць засталася за Ізяславам. Прычына такога становішча Турава была ў тым, што ў гэты час галоўнейшым і значнейшым суседам Русі была Польшча, бліжэйшы шлях да якой быў менавіта праз Тураўскую вобласць. Седзячы ў памежнай вобласьці, або валодаючы ёю, князь заўсёды пасяваў заключыць саюз з Польшай або Венгрыяй, якія і самі ахвотна ўступалі ў саюз з Рускімі князямі. Так мы бачым, што Святаполк І атрымаў дапамогу ад Польшы, сын яго, вялікі князь Святаполк ІІ у 1097 заключыў саюз з Ляхамі супраць Давыда Ігаравіча і скарыстаў дапамогу Венгерскага караля Каламана.

---

[247] Іпат., 114.

Пад час смерці Яраслава ў Смаленску мы бачым упершыню самастойнага князя; то быў Вячаслаў Яраславіч, нарадзіўшыся ў 1034 годзе[248]. Ён быў жанаты на Одзе, дачцы графа Штадскага Леапольда і меў ад яе аднаго сына Барыса[249]. Аднак Вячаслаў хутка памёр, 23 гады ад нараджэння, ў 1057; яго жонка Ода паехала на радзіму, забраўшы з сабой і Барыса, які рос і выхоўваўся ў Саксоніі; ён з'явіўся на Русі толькі каля 1077 году, калі аб ім успамінаюць летапісы. Замест Вячаслава на Смаленскі стол быў накіраваны, па рашэнню старэйшых братоў, Ігар, які княжыў да гэтага часу ва Ўладзіміры на Валыні[250]. Час яго нараджэння невядомы; наогул, аб ім мы амаль нічога не ведаем, як і аб яго папярэдніку на Смаленскім стале. Можна толькі здагадвацца, што ён быў жанаты на Кунігундзе, Арламінскай графіні, якая пасьля яго сьмерці ў 1060 годзе з'ехала ў Германію і там адружылася з нейкім прынцам[251].

Пасьля смерці Ігара (1060 год), тры старэйшыя князі – Кіеўскі князь Ізяслаў і яго браты Святаслаў і Усевалад падзялілі Смаленскае княжэнне паміж сабой[252]. Здаецца, што гэты падзел патрэбна разумець толькі ў сэнсе падзелу даходаў з краіны, але не падзелу геаграфічнага; ва ўсякім разе, далейшая гісторыя гэтага не падцвярджае, ды і, наогул, у рускіх князёў не было ў звычаі тэрытарыяльнага падзелу якога-небудзь племені. Смаленская воласць не доўга знаходзілася ў невызначаным стане пад уладай трох князёў. Пры Ўладзіміры Манамаху мы бачым, што яна знаходзілася ў цеснай сувязі з Пераяслаўскім княствам, у якім княжыў бацька Манамаха Ўсевалад. Больш таго, Тураў, здаецца, таксама некаторы час быў пад уладай Усевалада. Менавіта, пасьля выгнання Ізяслава із Кіева, Святаслаў, стаўшы Кіеўскім князем, заставіў за сабой Чарнігаў. Бяспрэчна, ён павінен быў нейкім чынам узнагародзіць свайго брата Усевалада; яму, верагодна, і дасталася Тураўскае княжэнне. Так, Уладзімір Усеваладавіч хадзіў ваяваць за Тураўскі стол з ляхамі і, перазімаваўшы ў Тураве, вясной хадзіў да бацькі ў Пераяслаў, адтуль зноў у Тураў[253]. Калі памёр Святаслаў, князь Кіеўскі, Усевалад паміры́ўся са старэйшым братам, выгнаннікам Ізяславам і перавёў свайго сына Ўладзіміра із Турава, як валоданне Ізяслава, на папярэдні стол у Смаленск (у 1077 годзе[254]).

Тураў, верагодна, застаўся за Ізяславам, для якога ён меў значэнне, як прамы шлях для адносін з Польшай. Наўзамен Турава, Усевалад атрымаў Чарнігаў, пры гэтым браты Святаславічы: Алег і Давыд, былі абвешчаны ізгоямі і пазбаўлены бацькаўскага стала. Такі ж лёс напаткаў і сына Вячаслава Барыса, які з'явіўся каля гэтага часу на Русі. Маладыя ізгоі не думалі адмаўляцца ад сваіх правоў на кіраванне рускімі гарадамі. Яны з'явіліся са шматлікім войскам сцепнякоў і ў 1078 годзе захапілі Чарнігаўскую воласць. Аднак, у тым жа годзе,

---

[248] Іпат., 105.
[249] Іпат., стр. 105, 113, 114.
[250] Іпат., 114.
[251] Крамзін, Гісторыя Дзяржавы Расійскай, т. ІІ, стр.38.
[252] Крамзін, Гісторыя Дзяржавы Расійскай, т. ІІ, стр.38.
[253] Цвярскі лет. (П.З.Р.Л. т. XV), стр 158.
[254] Лаўрэн лет., стр. 238, 236.

аб’яднанае войска старэйшых князёў перамагло пад Чарнігавым ізгоеў, пры гэтым быў забіты Барыс Вячаслававіч і вулікі князь Ізяслаў. Усевалад заняў Кіеўскі стол і, як следства, адбылося новае размяркаванне князёў па ўдзелах. Яраполку, малодшаму сыну Ізяслава, была аддадзена Тураўская вобласць, але толькі ў дадатак да Валыні[255], Уладзімір Манамах перайшоў са Смаленску ў Чарнігаў.

Такім чынам Манамах сядзеў на двух сталах; ва ўсякім разе вядома, што калі Усяслаў Полацкі напаў на Смаленск, Уладзімір пагнаўся за ім з Чарнігаўшчыны. Адсюль можна заключыць, што Ўладзімір не пераставаў быць Смаленскім князем, на што захавалася ўказанне ў адной пазнейшай крыніцы[256].

Тураў пры Ўсеваладзе згубіў сваё становішча. Гэты князь не меў сувязей з захадам, падобна Ізяславу, і таму Тураў для яго не меў вялікага значэння. Ён аддаў яго Яраполку, з якім быў, відаць, спачатку ў сяброўстве. Так Яраполк аднойчы правёў у яго Паску. Больш таго, калі ён быў прагнаны сваімі пляменікамі Расьціславічамі із удзела, Усевалад неадкладна дапамог пляменіку Яраполку, паслаўшы з войскам свайго сына Ўладзіміра, які і вярнуў яму папярэдне занімаемы ім стол[257]. Аднак такая згода доўжылася не вельмі доўга. Яраполк надумаўся паўстаць супраць дзядзькі: паміж імі адбыліся, верагодна, нейкія непарузуменні, аб якіх летапіс не гаворыць; яна тлумачыць справу тым, што Яраполк паслухаўся злых дарадчыкаў[258]. Уладзімір Манамах, якога паслаў Усевалад, захапіў Уладзімір Валынскі і ўзяў у там у палон маці і жонку Яраполка, які збег пры набліжэнні ворага ў Польшчу. Аднак, ён хутка памірыўся з вялікім князем і зноў заняў свой стол. Праз некаторы час, калі ён быў на шляху ў Знянігарод; яго забіў нейкі Нерадзец. Прычына забойства невядома, але забойца збег да Рурыка Расьціславіча, чым і выклікаў вялікае падазрэнне на апошняга (1087 год)[259].

У наступным годзе пасьля смерці Яраполка, яго брат Святаполк, які княжыў да гэтага часу ў Ноўгарадзе, перайшоў на Тураўскае княжэнне[260]. На гэта яго натхніла, верагодна, жаданне быць бліжэй да Кіеўскага стала, так як ён застаўся старэйшым у княжым родзе. Другой прычынай, якая натхніла яго на гэта, магла быць тая, што ён, занімаючы бацькоўскае месца, мог аднавіць бацькавы сувязі з Польшай і Венгрыяй; у будучым, як вядома, ён карыстаўся дапамогай як адной так і другой. Пры гэтым наўгародцы наогул не любілі гэтага сквапнага князя і ў далейшым яны гаварылі, што каліб не сын Святаполка, якога хацелі пасадзіць у іх, быў бы нават з дзвума галовамі, то і тады яны не пажадалі б

[255] Нікан. лет. Стр. 107.

[256] Іпат. лет., стр. 143.; Уваскрас. Лет. (П.З.Р.Л. т. VII). Стр 3.

[257] Іпат. лет., стр. 144.

[258] Больш падрабязна пра гэта апавядае Стрыйкоўскі. Адзін дарадца Ўсевалада параіў апошняму накіраваць на Яраполка свайго сына Ўладзіміра (вегародна, як следства якога-небудзь непарузумення ці недаверу). Той жа дарадца пераконвае Яраполка бегчы хутчэй ў Польшчу, гаворачы: “ты не давярайся сваім саветнікам і войску, але бяжы хутчэй ў Польшчу, як зрабіў бацька Ізяслаў”, стр. 171-172. Калі гэта так, то, відавочна, тут праглядаецца нейкая інтрыга, якія часьцяком былі ў тыя часы.

[259] Іпат., стр. 144. 145.

[260] Іпат., стр. 145.

прыняць яго. У 1093 годзе Святаполк, пасьля смерці Ўсевалада, перайшоў на Кіеўскае княжэнне, захаваўшы Тураў за сабой. Праз нейкі час, а менавіта ў 1095 годзе, Давыд Святаславіч канчаткова зацвердзіўся ў Смаленску, дзе ён пракняжыў да Любечскага з’езду (1097 год[261]). Пасьля гэтага з’езду, на якім было вырашана, каб кожны князь валодаў бацькоўскім удзелам, Давыд Святаславіч з братам Алегам занялі Чарнігаў, Мурам і Растоў, а Ўладзімір зноў заняў Смаленскі стол[262] і Пераяслаўль. Аднак ў Смаленску, праз нейкі час, мы бачым сына Манамаха – Святаслава. Аб гэтым князю мы не шмат чаго ведаем. Вядома што ў сваёй маладосьці ён быў закладнікам у аднаго з Палавецкіх ханаў і адзін раз хадзіў у паход на Полаўцаў (1107 год). На Смаленскім стале ён быў да заняцця яго бацькам Уладзімірам Кіеўскага стала (113 год), калі быў пераведзены ў Пераяслаўль, дзе і памёр у наступным годзе (1114 год[263]). Калі Ўладзімір Усеваладавіч зацвердзіўся на вялікакняскім стале, адбылася новая змена князёў: у Смаленску пачаў княжыць яго сын Вячаслаў[264]. Такі парадак, здаецца, прадаўжаўся да самой смерці (1125 год) гэтага князя. Ва ўсякім разе, мы ведаем, што толькі ў 1128 годзе, г. зн. пры княжанні Мсціслава Ўладзіміравіча, Вячаслаў ужо княжыў у Тураве, а Расьціслаў Мсціславіч – у Смаленску.

Пасьля княжэння Святаполка II Ізяславіча, значэнне Тураўскай зямлі канчаткова падае. Прычына гэтага магчыма тая, што сувязі з палякамі і венграмі паслабляюцца. Польшча згубіла сваю магутнасць, якую набыла пад час кіравання першых сваіх каралёў: яна была далёка ўжо не такім моцнай дзяржавай пад час Балеслава Крывавустага (1122-1139); ён абясіллiў яе цалкам, падзяліўшы на ўдзелы. Дробныя ўдзельныя князі, занятыя сваімі хатнімі справамі, не маглі быць для рускіх князёў надзейнымі хаўруснікамі. Пры гэтым жыццёвыя інтарэсы Русі пачынаючы з Уладзіміра Манамаха да канца XII ст. пераносяцца да Кіева і на правы бераг Дняпра. Русь усе свае намаганні накіравала на барацьбу з качавымі ордамі Полаўцаў. У іх жа асяроддзі князі знаходзілі верных хаўрусікаў і наймітаў. Як следства такога становішча, Турава-Пінская вобласць, хаця і атрымлівае пры Вячэславе Ўладзіміравічы поўную незалежнасць ад Кіеўскага князя, але губляе сваё значэнне і апускаецца да ступені дробнага ўдзелу. Пры гэтым яна дробіцца на некалькі княстваў. Ужо ў 1128 годзе мы ведаем асобнага Клёцкага князя Вячэслава. Але, бяспрэчна, што ўдзелаў было значна больш: заставаліся яшчэ нашчадкі Ізяслава Яраславіча: Мсціслаў, Ізяслаў, Брачыслаў і Юрый, удзелы якіх, хаця і невядома дзе ў дакладнасьці, але знаходзіліся недзе ў басейне Прыпяці. Такім чынам, мы бачым, што да сьмерці Манамаха Тураў і ўсё Прыпрыпяцце амаль выключна знаходзіліся пад уладай старэйшай лініі Яраславічэй – нашчадкаў Ізяслава.

[261] Іпат. лет., стр. 160, 161, 164; Наўгарод лет. I, стр. 118; Уваскрэс лет., стр. 8; Нікан. Лет., стр. 124, 125, 127.

[262] Іпат., стр. 181.

[263] Іпат. лет., стр. 199.

[264] Іпат. лет., стр. 198.

Усялаў Брачыславіч Полацкі аставіў пасьля сябе шэсць сыноў: Рогвалада (Іпацеўскі летапіс, стр. 211, 218), Давыда, Барыса (Наўгародскі летапіс, стр. 124, Іпат. лет., стр. 211), Расьціслава (Ітап. Лет., стр. 218), Глеба і Рамана (Іпат. лет., стр. 204). Сваімі заваёвамі Усяслаў значна павялічыў свае ўладанні; але пасьля яго смерці, сіла і значэнне Полацкага княства хутка падаюць. Прычына такога падзеня – падзел княства на ўдзелы. Невядома, каму з Усяслававых сыноў дастаўся той ці іншы ўдзел, а таксама менавіта якія былі ўдзелы. Можна толькі заўважыць, што ў Полацку сеў Давыд[265], у Менску - Глеб[266], у Ізяслаўлі - Брачыслаў[267]. Самымі значнымі былі ўдзелы Менскі і Полацкі. Аб межах апошняга мы нічога не ведаем; да Менску ж належалі гарады: Ворша, Копысь (зараз уездны горад Магілёскай губерніі[268]). Аб іншых удзелах, а таксама іх князях мы ведаем вельмі мала.

Галоўны ўдзел Полацкай зямлі – Полацк, у якім княжыў Давыд Усяславіч, знаходзіўся ў цесным хаўрусе з астатняй Руссю. Так, гэты Полацкі князь хадзіў разам з усімі князямі ў 1103 годзе на Полаўцаў[269]. Ён не адмовіўся ад хаўрусу з Кіеўскімі князямі і тады, калі быў вымушаны ісьці на роднага брата ў Менск[270].

Не спакойны Глеб Менскі пачаў рабіць напады на суседнія вобласьці, На Дрыгавічэй і Смалян, якія тады знаходзіліся пад уладай Святаполка Кіеўскага. Апошні, каб пакараць клапатлівага суседа накіраваў у 1104 годзе на Менск ваяводу Пуцяту; да кіеўскага войска далучыліся: смаленскае пад кіраўніцтвам сына Ўладзіміра Манамаха Яраполка, Алег Святаславіч, і брат Глеба, Давыд. Але аб’яднане войска вярнулася із Менскай вобласьці без поспеху[271]. Між іншым Глеб не ўтаймаваўся; ён прадаўжаў рабаваць суседнія землі, забіраў у палон жыхароў, паліў гарады і вёскі.

У 1116 годзе Глеб напаў на зямлю Дрыгавічэй, моцна спустошыў яе паўночныя акраіны і спаліў Слуцк. Уладзімір папярэдзіў яго, але ён не звяртаў увагу на пагрозы і сам дакараў вялікаму князю. Тады Манамах вырашыў пакончыць з неспакойным суседам. Ён самастойна з войскам выправіўся на Менск, узяў з сабой сваіх сыноў, Давыда Святаславіча і Ольгавічэй. Напад быў зроблены з розных бакоў. Князь Смаленскі Вячаслаў Уладзіміравіч узяў Воршу і Копысь, гарады суседнічаючыя са Смаленскай вобласьцю; Давыд і Яраполк, сын Уладзіміра, узялі і аддалі “на шчыт”, г. зн. на рабаванне Друцк. На галоўны горад княства Менск, дзе і знаходзіўся сам вінаваты ў паходзе Глеб, накіраваўся сам Уладзімір Манамах. Глеб зачыніўся ў горадзе. Не спадзяючыся хутка ўзяць горад прыступам, Кіеўскі князь цвёрда вырашыў прымусіць яго здацца голадам. З гэтай мэтай ён пачаў будаваць сабе хату ў лагеры. Глеб, пабачыўшы, што Уладзімір сур’ёзна рыхтуецца да асады горада, пачаў з ім перамовы аб міры. Уладзімір, як

[265] Іпат. лет., стр. 183, 211, 218; Лаўрэн лет., стр. 210.
[266] Іпат. лет., стр. 185; Лаўрэн лет., стр. 270 і інш.
[267] Іпат. лет., стр. 210;
[268] Гэта відавочна із паходу 1116 году, - гл. Іпат. лет., стр. 208.
[269] Іпат. лет., стр. 183.
[270] Іпат. лет., стр. 185.
[271] Іпат. лет., стр. 185.

выслаўляецца летапісец, сжаліўся, што праліваецца кроў хрысціянская ў дні вялікага паста і прыняў мірныя ўмовы. Глеб выйшаў з гораду з дзецьмі і дружынай, пакланіўся вялікаму князю, дамовіўся аб міры, абяцаў быць паслухмяным Манамаху. Зрабіўшы свае загады, прачытаўшы павучанні Глебу, Уладзімір аддаў яму назад Менск, а сам вярнуўся ў сваю вобласць[272].

Аднак, хаця і не згадваецца аб чым дамовіліся Менскі і Кіеўскі князі, але з наступных паведамленняў можна заключыць, што Ворша і Копысь з гэтага часу назаўсёды засталіся належачымі Смаленскаму княству[273]. Акрамя таго моцна пацярпелі застане: жыхары гэтага горада былі ўзяты ў палон Яраполкам і адведзены ў Пераяслаўскую вобласць, дзе імі быў пабудаваны горад Жэлды.

Дарэчы, Глеб не доўга выконваў мірныя дамовы. Каля 1119 году Ўладзімір зноў пайшоў на Менск, на гэты раз узяў горад, запалоніў Глеба і прывёз яго ў Кіеў, дзе той і памёр у тым жа годзе. Менскае княства на нейкі час засталося ў валоданні Манамаха і яго сыноў[274].

Завалодаўшы Менскам Манамах, як здаецца, аддаў яго свайму ўнуку Ізчславу[275].

Пасьля смерці Манамаха, пад час княжэння ў Кіеве яго сына Мсціслава, паміж Полацкімі князямі і астатняй Руссю разгарэлася новая вайна. На гэты раз паход быў накіраваны супраць усіх Полацкіх князёў і асабліва супраць ранейшага хаўрусніка і сваяка Манамахавічэй – Давыда Ўсяславіча Полацкага. Прычыны гэтага паходу не вядомы, хаця іх паследуючых падзей можна здагадацца, што Давыд адмовіўся ўдзельнічаць у агульнарускіх справах – у паходах на Полаўцаў і, верагодна, не прызнаў вялікакняскай улады Мсціслава. Як бы там ні было, але ў 1127 годзе вялікі князь сабраў амаль усю Русь у паходзе на Полацк. Цікава, што як на гэты, так і на іншыя паходы на Полацк збіраліся амаль усе князі, ахвотней чым у паходы на Полаўцаў. На жаль, немагчыма зразумець, праз недахоп звестак, прычыну такой з’явы.

У гэты паход князі накіраваліся не ўсе разам, але па частках, на розныя гарады Крывічскай зямлі. Так, на Ізяслаўль накіравалася 4 князі: Вячаслаў із Турава, Андрэй із Уладзіміра (Валынскага), Усевалад Яраславіч із горада Клёцка. Усевалад Ольгавіч, князь Чарнігаўскі, з братамі накіраваўся на Стрэжаў да горада Барысава.

Сын вялікага князя Ізяслаў Курскі і ваявода Ян Вайцішыч з войскам Торкаў накіраваліся на Лагожск (мястэчка Лагойск Менскай губерніі). Расціслаў Смаленскі, другі сын Мсціслава, накіраваўся на Друцк. Усім гэтым князям быў дадзены загад напасьці на пазначаныя населеныя пункты ў адзін дзень, менавіта 4 жніўня. Але Ізяслаў напаў на Лагожск на дзень раней, узяў горад і паланіў жыхароў. Тут ён прастаяў два дні, выпадкова ўзяў у палон Брачыслава, Ізяслаўскага князя і войска Лагаджан, якое ён вёў на дапамогу бацьку. Гэты князь, выправіўшыся ў паход да бацькі, збіўся з дарогі, напужаўся і трапіў прама

[272] Іпат. лет., стр. 203.
[273] Грамата Расьціслава Мсціславіча (Хр. Уладзіміркага-Буданава, вып. I).
[274] Іпат. лет., стр. 206.
[275] Летапіс Даніловіча, стр. 122.

ў рукі Ізяслава. Гэты апошні, узяўшы з сабой здабычу, палонных і Брачыслава, накіраваўся да Вячаслава Ўладзіміравіча, які ў гэты час ладзіў аблогу моцна супраціўляўшагася Ізяслаўля. Жыхары гэтага горада, бачучы, што іхны князь Брачыслаў і Лагаджане знаходзяцца ў стане праціўніка і што ім не робіцца ніякай крыўды, вырашылі таксама здацца, але папярэдне патрабавалі ад Вячаслава клятву, што іх горад не будзе парабаваны. Вячаслаў клятву даў, але выканаць яе не змог. Вечарам, каб ваяры не заўважылі і не ўварваліся ў горад, туды ўвайшлі толькі ваявода Вараціслаў князя Андрэя і тысяцкі Вячаслава Янка з невялікай колькасцю отракаў. Калі ж на світанні войска пабачыла, што горад здаўся, яно самавольна ўварвалася туды і пачалося рабаванне; ваяводы нават не змаглі выратаваць маёмасць жонкі Брачыслава, дачкі Мсціслава. У гэты ж час супраць палачан выступіла і Наўгародскае войска, на чале з князем Усеваладам Мсціславічам; яно накіравалася да Неклачу. Калі Палачане пабачылі, што не могуць змагацца з усёй Руссю, то на вечы вырашылі прагнаць вінаватага ў гэтым няшчасьці Давыда, а на яго месца пасадзілі Рогвалада. З такім рашэннем яны накіраваліся да Мсціслава, які згадзіўся з рашэннем веча, заключыў мір і накіраваўся ў Кіеў[276]. Але Полацкія князі нават і не думалі лічыць сябе абавязанымі выконваць умовы мірнай дамовы. Калі Мсціслаў прыслаў зваць іх у паход на Полаўцаў, яны не толькі не падпарадкаваліся, але выслалі пасланцаў з насмешкамі. Мсціслаў хацеў зараз жа пакараць неслухаў, але яго затрымала вайна на поўдні. Скончыўшы яе, ён пайшоў на поўнач, захапіў у палон усіх Полацкіх князёў: Рогваладавічаў Васіля і Яна (сам Рогвалад, верагодна, ужо памёр) і Усяславічэй: Святаслава, Давыда і Расьціслава. Адзін з Усяславічэй, Барыс, памёр да выгнання ў 1129 годзе, а другі Раман – 1114 годзе[277]. Усіх іх ён прывёў у Кіеў і адсюль выслаў на трох ладдзях у Грэцыю, дзе ўсе гэтыя князі былі лагодна прыняты Імператарам і паступілі да яго на службу[278].

Полацк атрымаў у валоданне Ізяслаў Мсціславіч. Дарэчы, Полацкія Ізяславічы хутка з'яўляюцца ў сваіх родных вотчынах землях; менавіта ў 1132 годзе ў Полацку з'яўляецца Васілька Святаславіч, унук Усяслава. Калі пасьля смерці Мсціслава, Ізяслаў із Полацка перайшоў у Пераяслаўль, пакінуўшы замест сябе Святаполка, свайго брата, Палачане скарысталіся нагодай для вызвалення сябе ад залежнасьці чужой княжай лініі; яны прагналі Святаполка і пасадзілі на стол Васілька Святаславіча[279].

Гэты князь, верагодна, пасьпеў ужо вырнуцца з выгнання ці, можа быць, зусім не быў высланы разам з бацькай, як малалетні. У 1140 годзе вярнуліся назад і яшчэ два із князёў (імёны не пазначаны[280]), із Царыграду; ці вярнуліся астатнія князі – невядома. Пасьля вяртання із выгнання Полацкіх князёў, іх землі ў поўным складзе (акрамя Воршы і Копыса) былі вызваленны ад улады Кіеўскіх князёў. Аднаўленне папярэдняга парадку ў Полацку адбылося са згоды астатніх

---

[276] Іпат. лет., стр. 210-211; Лаўрэн лет., стр. 282-283.
[277] Іпат. лет., стр. 211. Уваскасенскі лет., стр. 23.
[278] Іпат. лет., стр. 211, 217, 218.
[279] Лаўрэн. лет., стр. 286; Цвярскі лет. Стр. 197. Нікан. Лет., стр. 157.
[280] Іпат. лет., стр. 247.

рускіх князёў; прыбыўшыя князі жывуць у міры з астатнімі князямі і Манамахавічамі і Ольгавічамі Северскімі[281].

Такім чынам аднавіўся папярэдні парадак у Полацкай зямлі; разам з гэтым скончылася векавая барацька з Кіевам за самастойнасць.

Выкажам яшчэ адно меркаванне адносна гэтай упартай барацьбы.

Пасьля смерці Манамаха, яго нашчадкі зацвярджаюцца ў землях Тураўскай і Смаленскай, імкнучыся падпарадкаваць і Полацкія валасьці. Акрамя таго, Манамахавічы валодалі землямі Уладзіміра-Валынскімі, Пераяслаўскімі, Растова-Суздальскімі, спрабуючы не выпусціць із сваіх рук таксама Вялікі Ноўгарад. Першае пакаленне Манамахавічаў з асаблівай руплівасьцю змагалася за землі на правым баку Дняпра, якімі быў акружаны Кіеў, спрабуючы не выпусціць са сваіх рук ніводнаго гораду. Але ўжо Мсціслаў, а можа быць і яго бацька Уладзімір, не мог не зразумець, што ён толькі тады зможа цвёрда замацавацца на захадзе, толькі тады можа разлічваць на пастаянны ўплыў на заможны Ноўгарад, калі пазбавіцца аб небяспечнага ворага на поўначы – Полацкіх князёў. Неперарыўная барацьба, прыкладаў жорсткасьці якой няма ў нашай старажытнай гісторыі, барацьба Манамаха з Полацкімі князямі, не мае іншых падстаў, акрамя жадання аб’яднаць у адну тэрыторыю Смаленскую і Растова-Суздальскую землі з Кіевам і Дрыгавічамі і, такім чынам, падпарадкаваць Ноўгарад. Бязспрэчна, старая, ледзь не эпічная, прычына барацьбы Яраславічэй з Рогваладачамі тут не магла мець месца. Уладзімір Манамах, помсцячы за ўсякі напад на Смаленскія землі, таксама раўніва адстойвае і Тураўскія. Ён не пасьпеў, а можа не адважыўся забраць удзелы ў Рогваладавічаў; але паспеў, па меншай меры, пазбавіць іх выхаду да Дняпра, забраўшы Воршу і Копысь. Забраўшы гэтыя гарады ён змог, аддаліць палачан ад вялікага воднага шляху, зменшыць іх гандаль і узмацніць гандаль сваіх абласьцей. Яго сын Мсціслаў выявіўся больш рашучым за свайго бацьку. Падстава для барацьбы, якую выказвае летапіс, жадаючы замаскіраваць чыста асабістыя памкненні дзейнага прдстаўніка Манамахава рода, падстава барацьбы як следства таго, што “Рогвалажы ўнуцы уздымаюць меч”, мае значна больш глыбокі сэнс. Мсціслаў адным рашучым ударам хацеў зрабіць тое, што яго бацька не змог здзейсніць доўгай барацьбой. Ён праганяе Полацкіх князёў і на іх месца садзіць найбольш дзейнага прадстаўніка із сваіх сыноў - Ізяслава, найболей здольнага падтрымаць памкненні свайго бацькі. Яшчэ не паспеў ён зацвердзіцца ў Полацкіх валасьцях, як Кіеўскі князь здзяйсняе вялікі паход на Літву. Што гэта за Літва – із абставін паходу не зразумела, не відаць і прычыны паходу. Але апошняя будзе зразумелай, калі ўспомніць, што Полацкія князі знаходзіліся з літоўскімі народамі ў пастаянных зносінах, што гэтыя народцы, ва ўсякім разе суседнія, знаходзіліся ў падпарадкаваным стане да Полацкіх князёў, што пасярод іх жылі крывічы-каланісты. Гэта змешанае літоўска-рускае насельніцтва, відаць, не жадала падпарадкоўвацца новаму князю і,

[281] Усевалад узяў за свайго сына Святаслава дачку Васілька, Ізяслаў аддаў сваю дачку за Барыса Рогваладавіча. Іпат. лет., стр. 224.

карыстаючыся наступіўшай мітуснёй, імкнулася да абасаблення. Не без верагоднасьці, можна таксама сцвярждаць, што сюды, на ўскрайкі зямлі, збегла частка палачан, незадаволеных новымі парадкамі, прыхільнікі Рогваладавічаў інезалежнасьці і, верагодна, са сваімі князямі, із якіх не ўсе былі высланы і якіх народны голас зноў узняў пры першым жа зручным выпадку. Справа ўтрымаць за сабой Полацкую вобласць Манамахавічам не ўдалася і не ўдалася таму, што гэтаму перашкодзілі як ўнутраныя прычыны – само насельніцтва, так і знешнія абставіны. Пасьля смерці Мсціслава пачаліся частыя перамяшчэнні Манамахавічэй з аднаго стала на другі, бязладдзі пры няўдалым кіраванні Яраполка. Але ў далейшым мы пабачым, што тая ж самая барацьба Манамахавічэй з Полацкам прадаўжалась, толькі на іншых падставах і што Манамах у асобе свайго ўнука Расьціслава знайшоў надзейнага пераемніка.

Мы рагзледзелі пачатковую гісторыю Смаленскага, Тураўскага і Полацкага княстваў. У ёй заўважаюцца два розныя памкненні: памкненне першых Кіеўскіх князёў сканцэнтраваць рускія землі пад сваёй уладай і затым, калі Русь дастаткова згуртавалася, адваротны напрамак – дэцэнтралізацыю. Падрабязнасцей із перыяду складання рускіх зямель пад уладай Кіеўскага князя мы амаль не ведаем; аднак, наколькі можна мяркаваць па урыўкавых дадзеных, гэта аб’яднанне не заўсёды адбывалася мірным шляхам, на што паказвае барацьба Ўладзіміра Святога з Полацкам, з Радзімічамі і інш., хаця большасць плямён, не паспеўшых стварыць у сябе дзяржаўных пачаткаў, пад уздзеяннем знешніх абставін, падпарадкавалася добраахвотна. Затым пачынаецца ў гісторыі Русі адваротны рух – імкнене асобных дэмаграфічных адзінак да дэцэнтралізацыі, да стварэння ў сябе самастойных дзяржаўных адзінак. Тураўскае княства не абасаблялася дастаткова доўгі час; Смаленская зямля вылучалася паступова, без адкрытай барацьбы з Кіевам; з часу княжання Расьціслава Мсціславіча яна станавіцца цалкам самастойнай зямлёй са сваёй асобнай княжай лініяй Расціславічэй. Насупраць, Полацкая зямля вытрымала векавую барацьбу з Кіевам за сваю самастойнасць.

## II.

На пачатку княжання ў Кіеві Мсціслава Ўладзіміравіча, мы бачым на Тураўскім стале  яго малодшага брата Вячаслава, а на Смаленскім – сына Расціслава.

Невядома калі нарадзіўся князь Тураўскі; із яго папярэждняга жыцця мы ведаем, што ён ужо ў 1096 годзе хдзіў на дапамогу свайму брату Мсціславу супраць ізгоя Алега[282]; затым у 1107 годзе ён удзельнічаў у паходзе ўсіх князёў на Полаўцаў[283], а крыху пазьней мы сустракаем яго ўжо на Смаленскім стале (з 1113

[282] Іпат. лет., стр. 166-7.
[283] Іпат. лет., стр. 186.

году[284]). Праз тры гады пасьля гэтага ён па загаду свайго бацькі Манамаха здзейсніў паход на Дунай з ваяводай Фамой Раціборавічам[285]. Прычына паходу – жаданне Манамаха падтрымаць дамаганні на Візантыйскі стол брата царэвіча Лявона - Васіля, унука Манамаха. Вайна была няўдалай і Вячаслаў, адыйшоўшы ад Дарастолу, вярнуўся назад[286]. Всь і усё што мы ведаем пра Вячаслава да заняцця ім Тураўскага стала; менавіта калі ён заняў гэты стол летапісы не ўдакладняюць, але пад час паходу Мсціслава на Полацкую вобласць у 1128 годзе, Вячаслаў ужо быў Тураўскім князем[287]. Яго пераход на Тураўскае княжэнне са Смаленскага магчыма можна аднесьці да часу заняцця Мсціславам Кіеўскага стала і адбыўшайся потым перамене сталоў, г. зн. да 1125 года. Да гэтага ж года, верагодна, адносіцца і заняцце Смаленскага стала Расьціславам Мсціславічам, так як і гэтага апошняга мы сустракаем са Смаленскім палком у згаданным паходзе на Полацк.

Патрэбна заўважыць, што Тураўская зямля ў гэты час складалася з двух удзелаў – асабіста Тураўскага і Клечскага, дзе княжыў Вячаслаў Яраславіч, унук Святаполка[288]. Ці доўга існаваў гэты ўдзел – невядома, таму што пра гэтага князя летапісы больш не ўзгадваюць.

З пачаткам княжання Яраполка Ўладзіміравіча ў Кіеве (1133 год) адбываецца новая змена сталоў. Па заведзенаму парадку, Пераяслаўскае княжэнне занімаў бліжэйшы пераемнік вялікага князя. А такім пераемнікам, не маючы дзяцей Яраполк, верагодна, хацеў зрабіць свайго пляменіка Ізяслава Мсціславіча, пагэтаму вывеў яго із Полацку і пасадзіў у Пераяслаўль[289]. Але такая перавага пляменіка перад дзядзькамі (Вячаславам, Андрэем і Юр’ем) вызвала незадавальненне сярод князёў і Яраполк вымушаны быў “з нуждею” вывесьці пляменіка із Пераяслаўля і аддаць яго старэйшаму пасьля сябе Вячаславу. У якасьці кампенсацыі Ізяславу, які згубіў за гэты час Полацкія ўладанні, акрамя Менску, вялікі князь аддаў яму Тураў і Пінск, “і мноства дароў: жэмчуг, злата, срэбра, рызы, коні, даспехі і ўшаноўваў яго шмат”[290].

Але Вячэславу не сядзелася ў Праяслаўлі. Там быў патрэбны князь не з такім характарам як у Вячэслава; барацьба з Полаўцамі, з Чарнігаўскімі князямі патрабавала пастаяннай дзейнасьці, якой Вячаслаў заўсёды аддаваў перавагу ціхаму жыццю. Вось чаму ён “пачаў лішацца” Пераяслаўля, хадзіў з нейкай нагоды то у Разань, адкуль зноў вярнуўся ў Пераяслаўль і, нарэшце, прагнаўшы Ізяслава із Турава, сноў сеў там[291].

Нядоўгае княжанне Яраполка (1133-1139 гады) было часам пастаяннай барацьбы із-за ўдзелаў, так як гэты князь сваім аддаваннем перавагі пляменікам перад дзядзькамі, сваёй няздольнасьцю абараніць інтарэсы сваёй сям’і,

---

[284] Іпат. лет., стр. 198.
[285] Іпат. лет., стр. 204.
[286] Карамзін, II, 91.
[287] Іпат. лет., стр. 210.
[288] Ibidem: “Вячаслава Яраславіча із Клечска” паслаў Мсціслаў.
[289] Васкр. Лет., р. 29. Нікан., р. 157. Іпат., 212.
[290] Нікан., р. 157-8.
[291] Ibid., р. 158. Іпат., 213.

узбуджаў пастаянныя незадавальнннні і сваркі. Як толькі Яраполк памёр, Вячаслаў адразу ж зрабіў спробу, як старэйшы пасьля яго, сесьці на Кіеўскі стол. Але гэта, як вядома, яму не ўдалося: прыйшоўшы праз 20 дзён Усевалад Ольгавіч прымусіў яго вярнуцца ў свой Тураў[292], ён "стварыся мній", згодна з летапісным выразам.

Усевалад Ольгавіч, зацвердзіўшыся на Кіеўскім стале, мэтай сваёй палітыкі паставіў дэвіз divide et impera. Ён, набліжаючы да сябе адных із Манамахавічэй, спрабаваў разяднаць гэтую лінію і, у той жа час, не даць магчымасьці Ольгавічам і Давыдавічам аб'яднацца з Манамахавічамі. Толькі дзякуючы такой палітыцы ён змог утрымацца ў Кіеві. Спачатку ён хацеў адным махам паслабіць Манамахавічаў, "іскаше пад Расціславам Смаленску, а пад Ізяславам Уладзіміра"[293], але не паспеў яшчэ Ўсевалад зкіраваць свой удар на Смаленск, як быў прымушаны памірыцца з Манамахавічамі, "здумаў, яжэ яму без іх нельга быці".

Жадаючы крапчэй замацавацца ў Кіеві, Усевалад разумеў неабходнасць валодання сваімі землямі, а найбольш зручнай з іх для авалодання была Тураўская. Ён загадаў сказаць Вячэславу: "сядзешы во Кіеўскай воласьці, а мне дастоіць; а ты пайдзі ў Пераяслаўль, вотчыну сваю". Вячаслаў аддаў Тураў без барацьбы, хаця вялікі князь падтрымаў сваё патрабаванне войскам, "пасла на Вячаслава"[294]. У Тураў у той жа час быў пасаджаны яго сын Святаслаў. Такім чынам, Усевалад Ольгавіч, імкнучыся зацвердзіцца на блізкіх землях, выпускаў аддалены і меней для яго важны Пераяслаўль; больш таго, пасылаючы туды Манамахавіча, ён добра разумеў, што Ольгавічы і Давыдавічы не будуць задаволены такім размеркаваннем. Так і здарылася, апошнія вырашылі "нам самім сабе пашукаці" і напалі на Вячаслава ў Пераяслаўлі; аднак аб'яднаныя сілы Усевалада, Ізяслава і Расьціслава Мсціславічэй, якія з розных бакоў напалі на Северскія воласьці, прымусілі згадзіцца на мір родзічаў вялікага князя. Расьціслаў пад час гэтай барацьбы хутка выправіўся са Смаленскім войскам, напаў па дарозе, пры першых жа вестках аб нападзе Ольгавічэй на Вячэслава, на Радзімічскую воласць і папаліў яе ўсю разам з горадам Гом'і (Гомель). Хаўруснікі прымусілі змірыцца Северскіх князёў; але валоданне Дрыгавічскай зямлёй дало магчымасць Усеваладу раз'яднаць інтарэсы праціўнікаў, задаволіць іх патрабаванні і ў той жа час не даць ім магчымасьці набыць новыя землі: Усевалад сваім пляменікам Давыдавічам даў Бярэсцій, Дарагічын, Ушчыж і Арміну (два апошнія на паўночнай Валыні), брату Ігару Гарадзеч, Гюргаў і Рагачоў, а Святаславу – Клечаск і Чартарыеск[295].

Але ў тым жа 1142 годзе Вячаслаў зноў, са згоды Усевалада, перадаў свой Пераяслаўскі стол Ізяславу, а сам паехаў у Тураў[296]. На жаль, летапіс ніводным намёкам не паказвае на прычыны гэтых пастаянных пераходаў Вячаслава ў

---

[292] Іпат. лет., стр. 217.
[293] Іпат. лет., стр. 218.
[294] Іпат. лет., стр. 222.
[295] Іпат. лет., стр. 223.
[296] Ibidem.

Тураў. Гэтыя прычыны маглі быць чыста суб’ектыўнымі, маглі быць следствам характару самаго князя, мала прыставанага да бурнай дзейнасьці, якая была неабходна ў Пераяслаўлі, асабістыя сімпатыі, жаданне жыць мірна маглі цягнуць яго да жыцця ў Тураве. Але вельмі верагодна, тут трэба бачыць адлюстраванне агульных адносін князёў да сваёй валасьцей у палове XII ст. У гэты час князі пачынаюць “асядаць” у сваіх валасьцях: Юры канчаткова асядае ў Растова-Суздальскай зямлі і доўга не ўмешваецца ў спрэчку аб вялікім княжэнні, Расціслаў у Смаленску, Андрэй Уладзіміравіч у Пераяслаўлі, Ольгавічы і Давыдавічы, пры ўсіх пераменах не ўпускаюць сваіх вотчын і інш.; паняцце пра вотчыны ўсё мацней авалодвае князямі. Відавочна, што гэта апошняя прычына вымусіла Вячаслава вярнуцца ў Тураў; ён там асеў, звыкся з воласьцю, верагодна заняўся пашырэннем яе гандлю і дабрабыту, чым займаўся Юры ў сваіх валасьцях, таксама даўга не прынімаўшы ўдзел у справах паўднёвай Русі.

Мірныя адносіны паміж Манамахавічамі і Ольгавічамі не былі шчырымі і трымаліся толькі таму, што абодвум бакам было выгадна іх падтрымліваць. Ізяслаў Мсціслававіч добра разумеў, што пры першым зручным выпадку Ўсевалад можа парушыць мірныя адносіны паміж імі. Вось чаму, хаця ўсе Манамахавічы і трымаліся хаўрусу з вялікім князем, хаця мы і бачым із разам у паходзе на Валадзімірка Галіцкага ў 1144 годзе і ў 1146 годзе[297], аднак яшчэ ў папярэднім годзе Ізяслаў палічыў патрэбным накіравацца да Юрыя ў Суздаль з мэтай заключэння хаўрусу супраць Усевалада; але апошні не быў створаны; тады ён пабываў у свайго брата ў Смаленску і ў Святаполка ў Ноўгарадзе – з тою ж самай мэтай. Адначасова з гэтым ён шукае хаўруснікаў сярод Полацкіх князёў, аддае сваю дачку за Рогвалада Барысавіча[298].

У такім не вызначаным стане, паміж мірам і вайной, знаходзіліся справы Мсціславічаў, як раптам памёр Усевалад, аставіўшы Кіеўскі стол свайму брату Ігару. Ізяслаў быў гатовы да вайны, хутка пайшоў на апошняга і захапіў Кіеў пасьля ўпартай барацьбы. Гатуючы хаўрус на выпадак разрыву з Усеваладам, ён паспеў канчаткова заключыць яго толькі з братам Расьціславам. З Юр’ем хаўрус не адбыўся, а да Вячаслава гэты князь, верагодна, і не звяртаўся з хаўрусніцкімі прапановамі. Гэтая апошняя абставіна прывяла да неадклкднага разрыву паміж дзядзькай і пляменікам. Пры новым перадзеле сталоў, Ізяслаў спяшаўся, акрамя таго, паладзіць з Давыдавічамі, ён набліжае да сябе Ўсевалада, сына Святаслава і цалкам ігнаруе дзядзьку Вячаслава. Ўсё гэта вымусіла апошняга пачаць варожыя дзеянні супраць пляменіка. Летапіс прама гаворыць, што ён не толькі спадзяваўся на сваё старшынство, але выступіў па жаданню баяраў, прадстаўнікоў кіруемай ім зямлі. Ён хутка заняў, перш за ўсё, тыя гарады сваёй вобласьці, якія былі забраны ў яго Усеваладам, г. зн. Рагачоў, Бярэсце, Клечаск і інш. і, карыстаючыся абставінамі, пайшоў далей, захапіў Уладзімір-Валынскі, пасадзіўшы там свайго пляменіка, сына Андрэя Пераяслаўскага. Такія дзеянні выклікалі рашучы адпор з боку Ізяслава. Яго хаўруснікі, Расьціслаў Смаленскі і

[297] Іпат. лет., стр. 255,228.
[298] Іпат. лет., стр. 224.

Святаслаў Усеваладавіч, выправіліся на Тураўскую зямлю і захапілі сам горад, у якім вялікі князь пасадзіў свайго сына Яраслава. Што баярства было галоўным зачыншчыкам апісанай барацьбы, відавочна із таго, што на некаторых із іх, верагодна найбольш дзейных, вялікі князь выказаў свой гнеў тым, што вывеў із Турава япіскапа Акіма і пасадзіў Жыраслава Яванковіча[299].

Пад час наступіўшай барацьбы Ізяслава са Святаславам Ольгавічам, затым з Юр'ем і з Давыдавічамі, самым значным хаўруснікам Кіеўскага князя быў Смаленскі князь Расьціслаў.

Прычына такога цеснага хаўрусу лёгка праглядаецца ў тым, што яны былі роднымі братамі, значыць іх інтарэсы былі блізкімі. Акрамя таго, само геаграфічнае становішча Смаленскай і Кіеўскай абласьцей, як у ваенным, так і ў гандлёвым дачыненнях, падказвала неабходнасць цеснага хаўрусу двух братоў. Кіеў быў галоўным месцам гандлю ўсёй паўднёвай Русі, а таксама сюды збіраліся тавары із Грэцыі і грэчаскіх калоній на беразе Чорнага мора. Адсюль тавары расцякаліся па ўсёй Русі і ў асаблівасьці шмат ішло ў заможны гандлёвы Ноўгарад, які, ў сваю чаргу, запяспечваў паўднёвымі таварамі паўночную Русь, суседнюю з Ноўгарадам, Волжскіх Хазар і ў асаблівасьці вёл значны гандаль з нямецкімі гарадамі. Смаленск знаходзіўся на шляху гэтых дзвюх артэрый старажытнай Русі. Ён і сам браў значны ўдзел у гандлі, у асаблівасьці паўночнымі вырабамі. Пагэтаму інтарэсы Смаленска былі непарыўна звязаны з інтарэсамі Кіева і Ноўгарада. Мірныя адносіны з паўночным і паўднёвым цэнтрамі гандлёвых адносін тагачаснай рускай прасторы, натуральна, павінны былі быць мэтай Смаленскай вобласьці. Пагэтаму мы бачым, што Смаленскія князі заўсёды трымаліся цесных хаўрусных адносін і з Ноўгарадам і з Кіевам, даражылі гэтымі адносінамі; відавочна, падтрымліваць мірныя адносіны з далёкай і беднай Суздальскай вобласьцю, размешчанай у баку ад галоўнага у той час гандлёвага шляху – Дняпра, не адпавядала інтарэсам Смаленскага князя, у асаблівасьці, калі захаванне такіх мірных адносін магло быць падставай да разрыву з Кіевам і цесна з ім злучаным Ноўгарадам.

Акрамя таго, становішча Смаленска ў ваенным плане патрабавала мірных адносін з Кіевам. На поўдні Саленскай зямлі, у асаблівасьці каля Дняпра засяроджваліся значнейшыя гандлёвыя кропкі, гэтыя ж мясьціны былі найбольш шчыльна заселены і, як следства, у выпадку ваенных дзеянняў з гэтага боку, самыя лепшыя і заможныя тэрыторыі Смаленскай зямлі адразу падвяргаліся рабаванню. Між іншым на ўсходніх межах, якія суседнічалі з уладаннямі Юрыя Суздальскага і яго хаўруснікаў, менавіта па рэчках Протве і Вугры, вобласць Крывічэй была мала населенай і беднай, у следстве адсутнасьці гандлёвых шляхоў.

І так, мы бачым, што, галоўным чынам, тры акалічнасьці ўтрымлівалі Расьціслава ў хаўрусе са сваім братам Ізяславам: роднасныя сувязі, гандлёвае і ваеннае становішча Смаленскіх Крывічэй; акрамя таго сюды трэба дадаць і

[299] Іпат. лет., стр. 234-235.

характар кіравання князя Расьціслава, аб чым мы яшчэ будзем гаварыць наперадзе.

Пад час паследуючай барацьбы князей за Кіеўскі стол, Смаленскае княства знаходзілася ў найбольш спрыяльных умовах, параўнальна з іншымі рускімі княствамі; яно не зведала навалы непрыяцеляў і рабаванняў, што давялося выпрабаваць усім астатнім рускім княствам. Толькі два разы яго ўсходнія акраіны, г. зн. самыя бедныя, адчулі на сабе напад непрыяцеля. Менавіта ў самым пачатку барацьбы, па загаду Юрыя, Святаслаў Ольгавіч спустошыў верхавіны Протвы, дзе жыў невялікі народзец Голядзь[300]; гэтая Голядзь уся была зведзена ў палон войскам Святаслава (1147 год). Другі раз, у тым жа годзе, зведалі набег верхавіны Вугры ад сцепнякоў Полаўцаў і Таксобічэй, пад кіраваннем ваявод Судзяміра Кубечыча і Гарэна[301]. Больш нападаў на Смаленскую зямлю не было.

Такім чынам, Смаленская зямля амаль не пацярпела ад Чарнігаўскіх князёў. Але Расьціслаў, як асобна, так і ў хаўрусе з Ізяславам шмат разоў праходзіў з войскам па Чарнігаўскай зямлі, спусташаючы і рабуючы, нашчэнт разбураючы яе гарады. Так, ён у тым жа годзе паспеў спаліць суседні Чарнігаўскі заможны і важны горад Любеч (зараз мястэчка Чарнігаўскай губерніі Гарадніцкага ўезду). Пры гэтым ён, па яго асабістых словах, шмат ваяваў, г. зн. моцна спустошыў суседнія землі, шмат зла зрабіў Ольгавічам. Пасьля спусташэння Любеча, ён паслаў да брата Ізяслава, які спусташаў ваколічы самаго Чарнігава, паведамленне аб сваіх посьпехах і просьбу пачакаць яго, каб яны ўдваіх маглі маглі падумаць аб далейшых ваенных дзеяннях[302]. Па парадзе Расьціслава, абодва аб'яднаныя войскі накіраваліся ў паўднёвыя землі Чарнігаўскага княства з мэтай прымусіць Ольгавічэй да бойкі. Але апошняе яны не змаглі выканаць. Між іншым, яны паспелі парабаваць некалькі гарадоў: Усяволаж, Белавеж, Унявеж, Бахмач і забраць у палон іх жыхароў. З нагоды наступіўшай вясны князі былі вымушаны скончыць ваенныя дзеянні і накіраваліся ў Кіеў. Адсюль, па парадзе Ізяслава, Расьціслаў накіраваўся да сябе ў Смаленск, каб там, у хаўрусе з Наўгародцамі, сустрэць Юрыя, калі б ён надумаў зрабіць напад[303]. Аднак нападу не было, Юры прайшоў міма Смаленскай зямлі.

Мы не будзем сачыць за ходам барацьбы Ізяслава з Юрыем із-за Кіева, у якой удзельнічалі нашы князі Расьціслаў і Вячаслаў. У гэтай барацьбе ўдзельнічала ўся Русь і пагэтаму дасьледванне гэтага часу ёсць прадмет агульнарускай гісорыі. Мы ўжо паказалі прычыны, праз якія Расьціслаў выявіўся верным хаўруснікам Ізяслава. Смаленская зямля не была поўнасьцю зацікаўлена

---

[300] Іпат., 240. Па падобнасьці гучання з прускімі Галіндамі, Смаленскую Голядзь на Протве звычайна лічаць роднаснай гэтаму літоўскаму племені. Але, якім чынам маглі трапіць туды літоўцы, ніхто не змог патлумачыць, таму што крыніцы не даюць ніякіх тлумачэнняў. Гл., напрыклад Салаўёва “Гісторыя Дзяржавы Расійскай” т. I, р. 77. Барсаў “Нарысы Расійскай гістарычнай геаграфіі” р. 43 і інш. Рабіць такое заключэнне зыходзячы толькі з падобнасьці гучання, нам здаецца занадта смелым; верагодней за ўсё, што Голяддзю называлася мясцовасць чыста Крывічская.

[301] Ibid., 242.

[302] Іпат. лет., стр. 251.

[303] Іпат. лет., стр. 253.

ў гэтай барацьбе і пагэтаму амаль нічога не згубіла. Зараз мы звернем увагу толькі на асабістыя адносіны двух братоў – хаўруснікаў пад час першага перыяду гэтай барацьбы, г. зн. да першага выгнання Ізяслава із Кіева.

Расьціслаў быў самым моцным хаўруснікам Ізяслава; акрамя таго, яны былі братамі, уладальнікамі зямель вельмі моцна звязаных эканамічна; гэтымі абставінамі вызначалылася тое, што яны моцна трымаліся адзін за аднаго на працягу ўсёй барацьбы і пры гэтым трымаліся як роўныя хаўруснікі. Насуперак тагачаснаму звычаю, калі вялікі князь меў маральны аўтарытэт над удзельным, калі першы не пасылаў за парадай да апошняга, мы бачым у адносінах Расьціслава і Ізяслава поўную раўнасць і павагу адзін да аднаго. У ваенных дзеяннях князі раюцца паміж сабой; “пабачым, што дасць нам Бог”, гавораць яны і збіраюцца на агульную нараду. Ва ўсім яны дзейнічаюць як роўныя: “ідоста”, “слышаўся”, “паслата” – гаворыць пра іх летапісец[304].

Ізяслаў кожны раз дазнаецца меркавання Расьціслава, перш чым пачаць тыя ці іншыя дзеянні. Ізяслаў “нача думаці з братам сваім”[305]. Так, калі Северскія князі прыслалі да Ізяслава прасіць мір, ён адказаў ім: “я пашлю да брата Расьціслава, разам з ім вырашу і тады прышлю да вас пасланцаў”. Расціслаў даў параду брату мірыцца і той прыняў параду[306]. Браты паведамлялі адзін аднаго пра ўсе свае здабычы. Характар адносін самы задушэўны: паведамляючы пра свае поспехі пад Чарнігавым, Ізяслаў пытаецца пра здароўе брата: “і табе, браце, прашаю, ці ў здароўі ясі і што ці тама Бог дапамагае”[307]. Пасланец Расьціслава пачынае рэч да Ізяслава: “браце! Кланяюся ці ся. Ты ясі мяне старэй, як ты ўгадаешы, а яз у тым гатовы есць”[308]. Асабліва характэрна сустрэча братоў у Смаленску. Ізяслаў і Расьціслаў “пахваліста Бога бачыўшася брата ў здароўі і прэбыста ў вялуцай любові і ў вяселлі з мужы сваімі і з Смаляны”. Браты рабілі падарункі адзін аднаму – Ізяслаў вырабамі рускай зямлі (Кіеўскай) і царскіх земель, Расьціслаў – ад Верхніх зямель і ад Вараг[309]. Такое становішча Смаленскага князя мае вялікае значэнне: яно паказвае і даказвае поўную самастойнасць яго зямлі і яго магутнасць. Сваімі адносінамі да Расьціслава, як да роўнага хаўрусніка, Ізяслаў і разам з ім і другія князі зацвердзілі ў вачах усяго тагачаснага рускага сьвету поўную незалежнасць Смаленскай зямлі.

Як вядома, першы прыяд барацьбы Манамахавічэй за Кіеў скончыўся тым, што Юры захапіў Кіеў, а Ізяслаў быў прагнаны і зышоў на Валынь, ва Ўладзімір, Расціслаў пайшоў у Смаленск.

Не такімі былі адносіны паміж Ізяславам і яго дзядзькай Вячаславам. За ўвесь першы перыяд барацьбы Манамахавічэй летапіс аб ім успамінае не больш за тры разы, ды і то як бы выпадкова, паказваючы, што і полк (г. зн. войска)

[304] Іпат. лет., стр. 252.
[305] Іпат. лет., стр. 267.
[306] Іпат. лет., стр. 256.
[307] Іпат. лет., стр. 255.
[308] Іпат. лет., стр. 256.
[309] Іпат. лет., стр. 259.

Вячаслава быў у ліку войск Ізяслава[310]. Відавочна, што пакрыўджаны пляменікам дзядзька, хаця і прымірыўся па неабходнасьці, уступаючы яму як па розуму так і па магутнасьці, але не браў дзейнага ўдзелу ў вайне. Князі аб ім як быццам бы забыліся, ігнаравалі яго існаванне і радавое старшынство; маладыя князі дзейнічаюць не дазнаючыся яго парад, нават без яго асабістага ўдзелу: да Ізяслава прыходзіць толькі яго полк. Із такіх адносін паміж пляменікам і дзядзькай можна зрабіць выснову, што яны не ладзілі паміж сабой; верагодна, як Вячаслаў і выказваецца ў будучым, Тураўскі князь не мог дараваць больш моцнаму і здольнаму пляменіку сваёй ганьбы – выдалення з Кіеўскага стала; ён маўчаў толькі таму, што нямогласць яго краіны, не жаданне нішчыць у войнах яе апошнія сродкі, а, таксама, адсутнасць энэргіі і жадання дзейнічаць у самога князя, не дазволілі яму ўступіць у барацьбу. З другога боку і пляменікі, якія, магчыма, мелі і нейкія іншыя падставы для незадавальнення дзядзькам, не звярталі ўвагу на апошняга, больш спадзяючыся на сябе, любоў да сябе народа і асабісты розум, чым на аўтарытэт слабога старога дзядзькі.

Натуральна, што і Вячаслаў не быў шчырым хаўруснікам для пляменікаў Ізяслава і Расьціслава; ён толькі чакаў зручнага выпадку каб разысьціся з імі. Такі выпадак хутка надышоў, калі Юры прагнаў Ізяслава і захапіў Кіеўскі вялікакняжы стол. Вячаслаў і Юры зараз жа заключылі хаўрус. Юры быў малодшым братам Вячаслава, але ўсёж для апошняга было менш крыўдна знаходзіцца ў падпарадкаванні малодшага брата чым пляменіка, які, да таго ж, і адносіўся да яго з пагардай. Браты хутка паладзілі і Юры, як пабачым, адносіўся з большай павагай да свайго старэйшага брата, раіўся з ім і інш. Адным словам, два сыны Манамаха склалі паміж сабой такі ж самы хаўрус, як і іх пляменікі Мсціславічы.

Ледзь толькі Юры паспеў замацавацца ў Кіеві (1149 год), заключыць мірную дамову з Чарнігаўскімі князямі, пры гэтым аднаму із іх Святаславу Ольгавічу ён аддаў Слуцк, Клецк і ўсходнюю частку Дрыгавічэй[311], як Ізяслаў сабраў войска і, ў хаўрусе з каралямі польскім і венгерскім, выступіў на Кіеў. Ад гэтага паходу першым павінна было пацярпець Тураўскае княства, так як Ізяслаў выступіў із суседняй Валынскай зямлі. Пагэтаму Вячаслаў, дазнаўшыся аб набліжэнні ворага, паслаў сказаць Юр'ю: "ці ты аддай Ізяславу, што ён хоча, ці ідзі сюды з войскам бараніць маю зчмлю. Ізяслаў мне гаворыць: будзь ты мне замест бацькі, ідзі княжыць у Кіеў, а з Юр'ем я не магу ўжыцца; калі ты не схочаш прыняць мяне з любоўю (г. зн. заключыць са мной хаўрус) і не пойдзеш княжыць у Кіеў я спалю тваю воласць. Зараз брат прыязджай, пабачым што нам дасць Бог, дабро ці зло; калі ж ты брат не прыедзеш, то не крыўдуй на мяне (г. зн. я магу парушыць наш з табою хаўрус), але каб мая воласць не была спалена"[312].

Юры, сабраўшы вялікае войска, не марудзячы выступіў на дапамогу брату; абодва хаўруснікі зышліся ў Перасопніцы (зараз мястэчка на рэчцы Струбле ў Валынскай губерніі). Здаецца вайна абяцала быць вельмі жорсткай, але

[310] Іпат. лет., стр. 351, 254.
[311] Іпат. лет., стр. 268.
[312] Іпат. лет., стр. 269.

абставіны хутка прымусілі адзін і другі бок памірыцца. Менавіта, іншаземныя хаўруснікі Ізяслава, часткова баючыся вялікага войска Юр'я, часткова зыходзячы са сваіх хатніх абставін, вырашылі памірыць спрачаючыхся князёў. Яны выправілі пасланнікаў да Юр'я і Вячаслава, просячы іх памірыцца з пляменікам. Дядзькі адказалі, што калі яны хочуць міру, то няхай зыйдуць са сваімі войскамі, а яны самі дамовяцца з Ізяславам; Палякі і Венгры сышлі. Аднак князі не змаглі прыйсьці да згоды ў пытанні аб наўгародскай даніне, належачай Ізяславу; вайна разгарэлася зноў. Справа ішла да бойкі каля Луцку, калі ў справу ўмяшаўся Ўладзімір Галіцкі. Ён пачаў схіляць дзядзек да міру і даравання пляменіка. Пасля доўгіх перамоваў, хаця сыны і Ольгавічы не раілі Юр'ю мірыцца, Уладзімір змог схіліць да міру перш за ўсё Вячаслава; ён схіліўся да міру і любові, таму што, па выказванню летапісца, ён быў "не злабівы сэрцам, хваліў слаўнага Бога і памятаў пісанне". Ён пачаў угаворваць брата: "брат, мірыся; калі ты хочаш сысьці не давяршыўшы справу, то табе нічога, а маю воласць Ізяслаў спаліць".[313].

Мір быў заключаны. Прыйшоўшы ў Кіеў, Юры збіраўся перадаць вялікакняжаскі стол Вячаславу, але баяры ўспрацівіліся такому жаданню князя, яны гаварылі: "брату твайму не ўтрымаць Кіеў, не будзе яго ні табе ні тваяму брату". Партыя Вячаслава была, відавочна, яшчэ вельмі слабая. Як вынік усяго гэтага, Юры сам застаўся ў Кіяві, а Вячаслава накіраваў у Вышгарад[314].

Юры прапанаваў вялікакняжы стол Вячаславу не з адной толькі братняй любові; да такога рашэння яго прымушалі абставіны. Вячаслаў быў старэйшым у княжым родзе, пры гэтым гэта быў міралюбівы князь, які клапаціўся аб інтарэсах сваёй зямлі; усе гэтыя якасьці павінны былі згуртаваць вакол яго партыю паміж князямі і народам. Такая партыя была, верагодна, слабая, але ўсётакі нагадвала пра сябе пры ўсякім зручным выпадку. Адзін летапіс прама сведчыць, што сыны і баяры Юр'я не дазволілі яму пасадзіць у Кіеў старэйшага брата. Калі апошні сеў у Вышгарадзе, яго партыя павялічылася, верагодна, як следства павелічэння незадаволенасьці Юр'ем, якога Кіяўляне наогул не вельмі шанавалі. Яны пачалі таемна змаўляцца паміж сабой, каб пасадзіць Вячаслава ў Кіеў, "любілі убы яго, прастаты яго радзі", паясняе летапіс[315]. Узросшая партыя Вячаслава ў будучым, як пабачым, нават паспела прывесці, пад час смуты, свайго князя ў Кіеў, але ён не змог утрымацца на стале: пасьля прыбыцця ў Кіеў Ізяслава партыя апошняга перамагла, а Вячаслаў вярнуўся ў Вышгарад. Такім чынам, на карысць Ізяслава гаварылі розум і незвычайная энергія, рысы, якія былі ўласьцівы гэтаму князю, а за Вячаславам у некарым родзе стаяла дзяржаўнае права. Гэта, відавочна, разумеў і Ізяслаў, калі прапаноўкаў яму, пасьля сваёй паразы, заняць вялікакняжы стол. Такія ж меркаванні не былі чужымі і для Юр'я, калі ён хацеў перадаць Кіеў брату; да таго ж Суздальскі князь, які прыйшоў із далёкай краіны, быў малавядомы Кіяўлянам, меў вельмі нязначную партыю ў Кіяві, так што тут яму было вельмі небяспечна і цяжка ўтрымацца; акрамя таго, яго цягнула на

---

[313] Ibid., 270, 274.
[314] Ibid., 275.
[315] Нікан., 277

поўнач, дзе ён вырас і да якога быў звычны, падобна да Вячаслава, якога заўсёды цягнула ў Тураў.

Абставіны склаліся так, што Ізяслаў на пачатку наступнага году (1150) захапіў Кіеў, Юры ўцёк адтуль. Тады Вячаслаў, які знаходзіўся ў Вышгарадзе, з дапамогай сваёй партыі, сеў на Кіеўскі стол. Але супраціўная, Ізяслававa партыя, паведамляла Ізяслава аб дзеяннях яго дзядзькі і пры гэтым гаварыла, што Вячаслава яна не хоча. Ізяслаў даслаў пасланніка сказаць дзядзьку: “я цябе зваў у Кіеў, але ты тады не схацеў; а зараз едзь да Вышгараду”. Пакрыўджаны дзядзька адказаў: “сын! Калі хочаш забіць мяне, то забі, а я не паеду”. Некаторыя дружыннікі раілі Ізяславу забіць дзядзьку, так як абодва князі знаходзіліся ў горадзе, але ён адкінуў такую параду – пайшоў сам да дзядзькі і сказаў: “бацька! кланяюся табе, нельга нам тут з табой дамаўляцца. Бачыш мноства сабраўшагася народу? Яны задумваюць на цябе не добрае. Едзь у свой Вышгарад; адтуль мы заключым з табой дамову”. Вячаслаў вымушаны быў пакарыцца і з’ехаў[316].

Вы бачылі, што ў гэты час падзяляўся на тры партыі, якія падтрымлівалі трох князёў: Юр’я, Вячаслава і Ізяслава. Князь, які абапіраўся на адну із гэтых партый, не мог быць упэўнены ў сваёй магутнасьці. Заставаўся толькі адзін сродак – аб’яднаць дзве партыі. Ізяслаў, як дальнабачны палітык, так і зрабіў. Ён сам з баярамі выправіўся ў Вышгарад да дзядзькі, назваў яго бацькам і прапанаваў заняць Кіеў. “Я, - гаварыў пляменік, - пасылаў да цябе, прапануючы Кіеў, і гаварыў, што з табой магу жыць, а з братам тваім Юр’ем не магу ўжыцца; я цябе шаную, як бацьку і гавару табе зараз: ты мне бацька, Кіеў твой, едзь туды”. Вячаслаў згадзіўся, князі цалавалі хрэст на тым, што Ізяслаў будзе лічыць Вячаслава бацькай, а Вячаслаў Ізяслава сынам[317].

Аднак, у гэтым жа годзе Вячаслаў і Ізяслаў на некалькі месяцаў вымушаны былі аддаць Кіеў Юр’ю; ён у гэты час пасадзіў у Тураве, Пінску і Перасопніцы свайго сына Андрэя[318]. Але ў тым жа годзе Юры і яго сыны былі канчаткова прагнаны на поўнач. Ізяслаў зноў завалодаў Кіевам і паслаў сказаць Вячаславу: “бацька! кланяюся табе, Бог забраў у мяне бацьку Мсціслава, дык будзь ты мне за бацьку; папярэдне я саграшыў перад табою, а зараз каюся; потым саграшыў, так як не аддаў табе пашаны пасьля перамогі над Ігарам і каля Тумашча; зараз, бацька, каюся ва ўсім перад Богам і перад табою; калі ты мяне, бацька, даруеш, то і Бог мяне даруе. Зараз, бацька, даю табе Кіеў, едзь туды і сядзь на стол твайго бацькі і твайго дзядзькі”[319]. Вячаслаў прыняў прапанову пляменіка, назваў яго сынам і братам, цалаваў хрэст і накіраваўся ў Кіеў. У Кіяві абставіны склаліся яшчэ больш на карысць Ізяслава.

Стары дзядзька размеў, што самастойна ён не зможа кіраваць Кіеўскім княствам. Пагэтаму ён сказаў пляменіку: “сын! Памажы табе Божа за тое, што ты даў мне гонар, як бацьку; я табе, сыне, гавару: я ўжо стары, усім кіраваць не магу, дык будзем жа разам кіраваць у Кіяві; калі нам давядзецца каго-нібудзь

[316] Іпат. лет., стр. 277.
[317] Іпат. лет., стр. 278.
[318] Ibid., 281.
[319] Ibid., 289.

судзіць, ці хрысьціян, ці паганых, то ідзем разам; дружына мая і полк мой будзе для нас абодвух, ты ж кіруй; куды нам можна будзеісьці абаім, пойдзем разам, а калі нельга, то ты хадзі са сваім палком і з маім”[320]. Такім чынам, адносіны паміж дзядзькай і пляменікам прывялі да самых станоўчых вынікаў і далі абодвум магчымасць кіраваць большай часткай Русі да самой смерці апошняга.

За ўвесь час барацьбы паміж Юр’ем і Ізяславам, пасьля яго ўцёкаў з Кіева і да вяртання, мы не сустракаем імені Расьціслава Смаленскага. Пакуль барацьба вялася на Валыні, а Кіеў быў у руках ворага, гэты князь не мог пакінуць сваю зямлю сярод непрыяцеляў і перабрацца па тэрыторыі непрыяцеля на дапамогу брату; аднак паміж імі існаваў мір і згода. Пагэтаму, як толькі справы пайшлі на лад, Вячаслаў паслаў сказаць свайму пляменіку ў Смаленск: “Вось брат, Бог аб’яднаў нас с тваім братам, а з маім сынам Ізяславам; ён, авалодаўшы зноў Рускай зямлёй, даў мне гонар і пасадзіў мяне ў Кіяві. Я табе, сын, гавару: як мне сын брат твой Ізяслаў, так і ты; пагэтаму я зараз гавару табе, сын, прыйсьці сюды, паглядзець, што нам дасць Бог”. Са свайго боку Ізяслаў паслаў сказаць брату: “Шмат разоў ты раіў мне аддаць гонар дзядзьку і бацьку свайму; вось зараз Бог прывёў мяне ўРускую зямлю і я зацвердзіў твайго і майго дзядзьку ў Кіяві дзеля цябе і дзля ўсёй Рускай зямлі. Зараз я гавару табе: там у цябе, па воле Бога, ёсць у Ноўгарадзе твой і мой сын Яраслаў, у цябе ж і Смаленск. Распарадзіся там, прыходзь сюды, паглядзім, што нам дасць Бог”[321]. Такія рэчы даказваюць, што Расьціслаў не пакідаў хаўрусу з братам і дзядзькай, моцна ўплываў на іх збліжэнне, што ён не мог прымаць удзел у вайне толькі таму, што да такога прымусілі яго абставіны.

Няма чаго і гаварыць, што Расьціслаў Мсціславіч з радасьцю паспяшаўся да братоў у Кіеў; ён сабраў шматлікае Смаленскае войска. Усе тры князі, які заключылі паміж сабой, так сважам, трыумвірат, сустрэліся ў Кіяві і былі, па словах летапісца, “у вялікім вяселлі і ў вялікай любові”. Гэты хаўрус быў настолькі моцным і прытым заснаваны на раўнапраўных адносінах, што Руская зямля, як тады гаварылі, мела трох князёў: Вячаслава, Ізяслава і Расьціслава.

Юры паспяшаўся пачаць вайну і падышоў да самаго Кіева, пры гэтым хаўрусныя князі сталі навокал Кіева: Расьціслаў з сынам Раманам перад Жыдоўскімі варотамі, Вячаслаў – каля Залатых Варот, а Барыс Гарадзенскі - каля Ляцкіх. Перш чым пачаць ваенныя дзеянні, Вячаслаў, вядомы сваім міралюбствам, спрабаваў дамовіцца з Юр’ем. Ён накіраваў да яго пасланца з цікавым зваротам; гэты зварот шмат што тлумачыць у яго лёсе і яго адносінах, у асаблівасьці яго падатлівасць, яка хутчэй за усё была следствам характару князя, а не следствам яго нямогласьці, як жадаюць бачыць шмат хто з гісторыкаў. Мы прывядзем гэты зварот цалкам: “Едзь да брата Юр’я, - гаврыў стары князь пасланніку, - брата ад мяне цалуй; а вы браты і сыны Расьціслаў і Ізяслаў, слухайце, пры вас выпраўляю. Так скажы брату майму: шмат разоў, брат, гаварыў я табе і Ізяславу, абаім вам, не пралівайце крыві хрысьціянскай, не

[320] Ibid., 290.
[321] Іпат. лет., стр. 292.

губіце Рускай зямлі; гэтым я вас стрымліваў, а не патрабаваў свайго за тое, што вы мяне пакрыўдзілі і першы і друг раз зняважылі. Я маю палкі і моц, што Бог мне даў, але я дзеля Рускай зямлі і хрысціян, не разумеў гэтага, але і яшчэ раз вам паказваю, што калі Ізяслаў ехаў на бойку з Ігарам, ён так сказаў: "Я Кіева сабе не шукаю, але ў мяне ёсць бацька і брат старэйшы Вячаслаў, яму і шукаю". Гэта ён гаварыў, ідучы біцца, а калі Бог яму дапамог, ён Кіеў узяў сабе, ды яшчэ забраў у мяне Тураў і Пінск, - так Ізяслаў мяне пакрыўдзіў. Ды і ты брат, калі ехаў біцца з Ізяславам да Пераяслаўля, таксама гаварыў: "я сабе Кіява не шукаю, але ў мяне ёсць старэйшы брат і бацька, для яго шукаю"; а калі Бог табе дапамог, ты ўзяў Кіеў сабе, ды яшчэ забраў у мяне Перасопніцу і Дарагабуж і гэтым ты мяне пакрыўдзіў, а мне даў Вышгарад. Але я не патрабаваў усё гэта дзеля Рускай зямлі і хрысьціян, ды яшчэ вас спрабаваў памірыць, а вы мяне не пачулі, але ты гэтага не зрабіў ні для мяне, ні, так сказаць, для Бога. Ты гаварыў мне: "не магу пакланіцца малодшаму". Ізяслаў два разы не стрымаў свайго слова, але зараз, завалодаўшы Кіявам, пакланіўся мне, даў мне гонар і ў Кіеў пасадзіў, назваў мяне бацькам, а я яго сынам. Ты гаварыў, што не паклонішся малодшаму, але я старэйшы за цябе і не мала, а шмат, таму што я ўжо быў барадаты, калі ты нарадзіўся; калі ты не хочаш прызнаць маёй старэйшасьці, то няхай Бог будзе з намі!"[322]. Гэты зварот шмат што тлумачыць у характары самаго Вячаслава; нам давядзецца яшчэ вярнуцца ў будучым да яго, а зараз працягнем апавяданне.

Як следства ўпартасьці Юрыя, мір не адбыўся; аднак Суздальскі князь зведаў паразу ад хаўруснікаў і вымушаны быў адысьці ад Кіева ў напрамку на Галіч, адкуль ішоў яму на дапамогу з войскам князь Уладзімір. Юры пазбягаў бойкі, але хаўрусныя князі так моцна яго пераследавалі, што прымусілі да бойкі і перамаглі. Такім чынам была завершана барацьба за Кіеў з Суздальскім князем. Пасьля гэтага Расьціслаў накіраваўся ў свой Смаленск, а Вячаслаў з Ізяславам замацаваліся ў Кіяві.

Прайшло не шмат часу, хаўрусныя князі толькі што паспелі заключыць мірныя дамовы з варожымі ім князямі Ольгавічамі і Давыдавічамі, як Юры зноў пачаў вайну. Ён мог, выйшаўшы із Суздаля, напасьці ці на Смаленскія валоданні, ці на Чарнігаўскія землі хаўрусніка вялікага князя – Ізяслава Давыдавіча. Пагэтаму Ізяслаў Мсціслававіч паслаў брату ў Смаленск сказаць: "У цябе, брат, там Ноўгарад моцны і Смаленск; назбіраўшы сілы, пасцеражы сваю зямлю; калі Юры пойдзе на тваю воласць, я да цябе прыду, калі ж ён міне яе, то прыходзь да мяне"[323]. Выявілася, што Юры знайшоў больш зручным напасьці на Чарнігаў, мінаваўшы Смаленск; пагэтаму туды ж паспяшаўся са сваім войскам і Расьціслаў. Аднак, пасля нерашучых тут дзеянняў, Юры вярнуўся да сябе ў Суздаль. Тады нашы хаўруснікі вырашылі так: Расьціслаў паспяшаўся ў сваю Смаленскую зямлю, каб абараняць яе ад Юрыя[324], аставіўшы свайго сына з палком на дапамогу Ізяславу, Вячаслаў, якому праз старэчы ўзрост, ужо цяжка былоісьці ў

[322] Іпат. лет., стр. 297-8.
[323] Іпат. лет., стр. 314.
[324] Іпат. лет., стр. 316.

паход, накіраваўся ў Кіеў, а пры войску застаўся Ізяслаў. І на гэты раз усе мерапрыемствы хаўруснікаў скончыліся добра.

Ледзь толькі Ізяслаў паспеў скончыць вайсковыя дзеянні і зацвердзіцца ў Кіяві, як раптоўна яго напаткала смерць (1154 год). Стары Вячаслаў, адчуваючы сваю няздольнасць кіраваць Кіеўскай воласьцю, пазваў пляменіка свайго Расьціслава Масціславіча са Смаленска. Калі апошні, прыбыўшы ў Кіеў, сустрэўся з дзядзькай, апошні сказаў яму: “Я ўжо стары і не магу ўсім кіраваць; пагэтаму даю табе тое ж, што меў твой брат; ты ж дай мне гонар, як бацьку, як і брат твой даваў; а вось мой полк і мая дружына – кіруй імі”. Расьціслаў прыняў умовы дзядзькі[325]. Першым актам дзейнасьці новага вялікага князя была аддача Турава-Пінскай вобласьці Святаславу Ўсеваладавічу[326].

Расціслаў вымушаны быў спешна направіцца з войскам да Пераяслаўля. Пад час гэтага паходу стары Вячаслаў, які заставаўся ў Кіяві, памёр; вечарам ён піў і гуляў разам з дружынай, пасля лёг спаць і ўжо не падняўся. Калі вестка аб гэтым прыйшла да Расьціслава, апошні пакінуў войска, хутка прыбыў у Кіеў, каб ушанаваць у апошні раз старога князя. Ён пахаваў яго і ўсю яго маёмасць раздаў манастырам і бедным[327].

Вячаслаў Уладзіміравіч памёр у глыбокай старасьці. Год яго нараджэння невядомы; але ўжо ў 1096 годзе ён, па загаду бацькі, хадзіў з войскам на дапамогу брату; калі яму тады было каля 20 гадоў, то ён памёр, як мінімум, на 80-ым гаду жыцця (1154 год).

Пісьменнікі звычайна малююць князя Вячаслава князем няздатным, бяздзейным, прыладай у руках баяр. Аднак, згадзіцца з гэтым у поўнай меры нельга. Праўда Вячаслаў пазбягаў неспакойнага Пераяслаўскага княжання і пераходзіў у свой спакойны Тураў; ён не імкнуўся заняць вялікакняжы стол, хаця меў на яго права, як старэйшы ў родзе; ён вельмі неахвотна пачынае вайну і адмаўляецца ад заяў на свае правы нават тады, калі Ізяслаў і Юры прама прапануюць яму заняць Кіеўскі стол. Аднак гэтыя рысы яшчэ далёка не паказваюць на поўную няздольнасць Вячаслава. Із яго адносін да Турава мы заўважаем моцную прывязаннасць да гэтага гораду; верагодна былі нейкія іншыя прычыны, акрамя адасобленага размяшчэння гэтага горада, якія вабілі туды Вячаслава. Мы ўжо мелі нагоду паказаць, што не адзін ён у гэты час вылучаецца прывязаннасьцю да кіруемай ім краіны: такія ж рысы характэрызуюць і Расьціслава Смаленскага, і Юр’я Суздальскага і сына апошняга Андрэя. Вячаслаў, відавочна, больш любіў ціхую ўнутраную працу, чым ваенныя буры; так, стаўшы Кіеўскім князем, ён працаваў над унутраным парадкам, аддаўшы ваенныя справы Ізяславу і Расьціславу і ў дзейнасьці на гэтым накірунку ён заслужыў сабе народную любоў кіяўлян. Калі Вячаслаў і не імкнуўся да вялікакняжага стала, то на гэта былі важкія прычыны. Ён меў двух моцных, разумных і славалюбівых праціўнікаў: Ізяслава і Юр’я; калі б ён распачаў упартую

---

[325] Іпат. лет., стр. 324.

[326] . Ibidem.

[327] Іпат. лет., стр. 325.

барацьбу, яму прыйшлось бы мець справу з адным і другім па асобку, ці нават разам. Яго ж зямля была параўнальна невялікай, яе насельніцтва ніколі не вылучалася ваяўнічасьцю і прытым не бачыла для сябе ніякай асаблівай выгады ў здабыванні для князя Кіеўскага стала. Тураў не вылучаўся вялікай гандлёвай дзейнасьцю і яго інтарэсы зусім не былі так цесна звязаны з Дняпром і Кіевам, каб для яго было важна мець там свайго князя.; затым, звычайна Кіеўскія князі аддавалі Тураў другім, рэдка астаўляючы сабе што мог бы зраыіць і Вячаслаў. І так, за што стаў бы праліваць сваю кроў Дрыгавіч? Між іншым, для князя было б вельмі цяжка, нават немагчыма, весьці барацьбу без падтрымкі якой-нібудзь зацікаўленай вобласьці; калі ж, пры гэтым, краіна, як у дадзеным выпадку Тураў, бедная, то наёмнага войска сабраць няма за што; ды і спадзявацца на такое войска, ці на выпадковую дапамогу таго ці іншага горада, азначала адразу ж напалавіну прайграць справу. Як жа магла Турава-Пінская вобласць падтрымаць свайго князя ў імкненні да Кіеўскага стала, калі яна не магла самастойна адбіцца ад Ізяслава і Вячаслаў не аднойчы прасіў Юр'я прыйсці хутчэй яму на дапамогу. Вячаслаў, бяспрэчна, усё гэта разумеў. Характар Вячаслава Ўладзіміравіча адлюстроўваецца ва ўсіх яго ўчынках і словах. Ён любіў свой Тураў і клапаціўся аб яго бяспецы; дзеля гэтага ён часта зночіў нават пагарду. Згодна са словамі летапісу, ён быў схільны да любові і міру і не злабівы сэрцам, пры гэтым ён быў чалавекам глыбока веруючым і набожным. Шануючы мір, ён не раз спрабаваў памірыць варагуючых сваіх братоў; угаворваючы іх прымірыцца, ён нагадваў ім, што яны руйнуюць войнамі Рускую зямлю, што дзеля хрысьціян і Рускай зямлі яны павінны заключыць мір. Сазнаючы згубныя наступствы вайны, ён заўсёды папярэдне спрабаваў памірыць варагуючыя бакі; на бойку вырашаўся толькі ў крайнім выпадку; ён гаварыў сваім пляменікам перад бойкай з Юр'ем: "браты і сыны! Ад свайго нараджэння я не люблю кровапраліцця; але мой брат давёў мяне да гэтага і калі ўжо так прыходзіцца, то няхай нас судзіць Бог"[328]. Лепш за ўсё Вячаслава характэрызуе яго прамова, звернутая да Юр'я, якую мы прывялі цалкам. Із яе бачна, што ён з горыччу ўсведамляе крыўды, якія зрабілі яму брат і пляменік, усведамляе, што ён мог бы адпомсціць ім, так як мае і сваё войска; і зараз, калі ён аб'яднаўся з Ізяславам, калі для яго прыйшоў момант помсты Юр'ю, гэты выдатны князь больш за ўсё прыкладае намаганняў на тое каб памірыць варагуючыя бакі. Прыняўшы ўсё гэта да ўвагі, мы вельмі сумняваемся ў справядлівасьці характарыстыкі Вячаслава шмат кім з гісторыкаў, у тым ліку і Салаў'ёвым.

Аднак Расьціслаў сядзеў на вялікакняжым стале ўсяго толькі некалькі дзён. Ён зведаў паразу ад Чарнігаўскага князя Ізяслава Давыдавіча і, не адважыўшысь вярнуцца пасьля паразы ў Кіеў, збег у Смаленск. Пад час бегства з поля бойкі ён ледзь не быў забіты; конь яго спатыкнуўся і упаў; ворагі зараз жа абступілі яго, але на дапамогу прыйшоў сын Святаслаў з вялікай колькасьцю дружыны, якія і дапамаглі яму пазбавіцца ад ворагаў[329].

---

[328] Іпат. лет., стр. 302.

[329] Іпат. лет., стр. 327.

Пачуўшы пра смерць Вячаслава, Юры Суздальскі выправіўся з войскам на Кіеў. Але па дарозе ён хацеў напасьці на Смаленскую воласць, на ўладанні зараз галоўнага свайго суперніка Расьціслава. Смаленскі князь, толькі што пабіты, не мог весьці з ім барацьбу. Ён, сабраўшы як мага больш войска, пайшоў да мяжы сваёй зямлі, менавіта да Зараю і тут паслаў прасіць Юрыя аб міры: "Отчэ! Кланяюся табе; ты і раней быў добрым да мяне, а я да цябе; кланяюся табе, дзядзька мне – як бацька" – гаварыў ён. Юры згадзіўся на мір, цалаваў на гэта хрэст, гаворачы: "Сапраўды, з Ізяславам я не мог быць, а ты мне брат і сын"[330].

Пасьля прыходу Юрыя ў Кіеў, Тураў быў ім аддадзены сыну Барысу, а Святаславу Ольгавічу – Мазыр[331].

Пакуль новы вялікі князь умацоўваўся на сваем стале, ён накіраваў да Расьціслава ў Смаленск, прызываючы яго як свайго галоўнага хаўрусніка. Смаленскі князь хутка сабраўся. У гэты ж час прыехала ў Смаленск, па дарозе із Суздаля ў Кіеў, жонка вялікага князя. Расьціслаў ганарова сустрэў княгіню і разам з ёю накіраваўся да Юрыя ў Кіеў[332].

Аднак Расьціслаў із ворага не мог зрабіцца сябрам Юрыя. Ён памірыўся з ім таму, што быў прымушаны абставінамі; пагэтаму ён, пры першым жа зручным моманце, пакінуў яго. У тым жа 1155 годзе Расьціслаў знайшоў сабе хаўруснікаў у Разанскіх князях, якім узмацненне Юрыя было таксама не выгадна[333]. Але да 1158 году гэты хаўрус трымаўся ў тайне, калі больш дзейны Ізяслаў Давыдавіч не выступіў адкрыта супраць Юрыя; Расьціслаў накіраваў яму на дапамогу свайго сына Рамана[334]. Аднак, з прычыны нечаканай смерці Юрыя, справа не дайшла да барацьбы; Ізяслаў без перашкод заняў вялікакняскі стол.

На пачатку княжання Ізяслава мы бачым Тураўскае княства пад уладай Юр'я Яраславіча, унука Святаполка II. Невядома дзе княжыў гэты князь да гэтагу часу, але Тураўскім княствам ён заваладаў, відавочна, супраць жадання новага вялікага князя. Можна здагадвацца, што гэты князь валодаў Бярэсцем і верхавінамі Прыпяці і адтуль захапіў Тураў пад час смерці Юрыя, выгнаўшы сына апошняга Барыса. Ізяслаў Давыдавіч абяцаў Тураў унуку Манамаха Ўладзіміру Мсціславічу і пагэтаму, сабраўшы войска, пайшоў выганяць Юр'я Яраславіча. З ім выправіліся і саюзныя войскі: Яраслаў Луцкі, Яраполк Андрэеевіч, Рурык Расьціславіч із Смаленска, таксама некаторыя Полацкія князі і Бярэндзічы. Гэта вялікае войска абложыла Тураў і стаяла каля яго 10 тыдняў. Пад час аблогі сцепнякі Бярэндзічы папалілі і парабавалі наваколлі Пінску і усё пабярэжжа верняй Прыпяці. Бачучы немагчымасць даўгага процістаяння такой сіле, князь Юрый Яраслававіч пачаў прасіць аб міры. Ізяслаў не згаджаўся і патрабаваў вяртання Турава і Пінска; але ў сувязі з пачаўшымся морам коней хаўруснікі

---

[330] Іпат. лет., стр. 338.
[331] Іпат. лет., стр. 329, 331.
[332] Іпат. лет., стр. 330.
[333] Іпат. лет., стр. 332.
[334] Іпат. лет., стр. 336.

вымушаны былі зняць аблогу, пры гэтым Ізяслаў не заключаў мір з Тураўскім князем[335].

Пасьля смерці апошняга Манамахавіча, Юр'я, Расьціслаў, як бяспрэчна старэйшы ў родзе Манамаха, меў права на Кіеўскі стол; пры гэтым Расьціслаў меў моцную партыю ў Кіяві, дзе яго ўжо ведалі і дзе, наогул, аддавалі перавагу нашчадкам Манамаха Ольгавічам. Пагэтаму Расьціслаў і заняў Кіеў пры першым жа зручным выпадку. Ён ужо раней увайшоў у зносіны са сваімі пляменікамі Ізяславічамі, сынамі яго брата і калі апошнія перамаглі Ізяслава Давыдавіча, яны запрасілі Расьціслава заняць Кіеў. Ён згадзіўся і прыйшоў у Кіеў 12 красавіка 1160 году. Ізяслаў Давыдавіч павінен быў скарыцца; дарэчы ў помсту за сваё выгнанне, ён у тым жа годзе зрабіў напад на Смаленскую вобласць і разам з Полаўцамі папаліў і парабаваў шмат пасяленняў[336].

Пасьля пераходу Расьціслава ў Кіеў, на Смаленскі стол сеў яго сын Раман.

Разглядаючы ўдзел Смаленска ў барацьбе за Кіеўскі стол, мы ўжо не раз мелі выпадак адзначыць, што палітыка Расьціслава на ўвесь час гэтай барацьбы галоўнейшым чынам схілялася да таго, каб папярэдзіць напады на сваю воласць. Расьціслаў першы імкнуўся напасьці на Чарнігаўскую вобласць і тым самым папярэдзіць напад на сваю. Але самае важнае значэнне гэтай барацьбы заключаецца ў тым, што гэты князь змог дабіцца незалежнасьці для сваёй воласьці, павялічыць яе дабрабыт, так што не дарма летапіс называе Смаленскае княства ў канцы XII ст. "вялікім". Але акрамя зацверджання незалежнасьці, палітыка Расьціслава ішла далей: ён імкнуўся пашырыць сваё княства тэрытарыяльна, ці, ва ўсякім разе, павялічыць свой уплыў у суседніх слабейшых княствах. У гэтых адносінах цікава яго палітыка ў адносна Ноўгарада і Полацкіх княстваў.

Адносіны Расьціслава Мсціславіча з Ноўгарадам і спроба заснаваць там сваю партыю адносіцца яшчэ да пачатку яго княжэння ў Смаленску. У кааліцыі 1137 года, складзенай супраць Наўгародцаў, як наступства таго, што яны не хацелі прыняць да сябе князя Святаполка Мсціславіча, які княжыў пасьля смерці свайго брата ў Пскове, удзельнічалі разам з Кіяўлянамі, Палачанамі, Суздальцамі і Смаляне[337]; для Расьціслава было натуральна падтрымліваць у Ноўгарадзе партыю Манамашычэй. Наўгародцы, як вядома, вымушаны былі прагнаць Святаслава Ольгавіча ў наступным 1138 годзе. Тады Смаляне захапілі яго па дарозе і трымалі некаторы час пад вартай у Смядынскім манастыры, які знаходзіўся каля Смаленска[338]. Вядома, што ў гэты час у Ноўгарадзе адбывалася моцная барацьба партый, пакуль, нарэшце, у ім не зацвердзіўся Святаполк Мсціславіч[339], брат Расьціслава (у 1142 годзе), калі партыя Мсціславічэй перамагла.

---

[335] Іпат. лет., стр. 337.
[336] Іпат. лет., стр. 344, 348.
[337] Наўгарод. лет., 131.
[338] Ibidem.
[339] Ibidem., 134

Пад час знаходжання апошняга ў Ноўгарадзе, Расціслаў меў магчымасць стварыць тут сабе моцную партыю, якая ў будучым запяспечыла яму ўплыў; Святаполк, верагодна, знаходзіўся пад час барацьбы Ізяслава з Юр'ем у больш ці менш падначаленым становішчы да Расьціслава. Ізяслаў, у сваёй вядомай прамове да Кіяўлян з нагоды паходу на Юр'я, гаварыў: "а брат Расьціслаў тама ся з намі сачмець, яць ідзе да мяне са Смаляны і Наўгародцы"[340]. У іншым выпадку Ізяслаў пасылае да Расьціслава: "а там нарадзі Наўгародцы і Смаляне, яць стрымаць Гюргія"[341]. Гэта было ў 1147 годзе, пад час княжання Святаполка ў Ноўгарадзе. Ізяслаў, даючы такую параду брату, бяспрэчна ведаў, што той меў уладу "нарадзіць" Наўгародцаў, хаця апошнія былі не лёгкія на паходы. Агульнасць інтарэсаў з Кіевам і Смаленскам вымушала Наўгародцаў трымаць у сябе Святаполка, якога яны не любілі "злобы яго радзі".

Такім чынам, Смаленская партыя ў Ноўгарадзе павялічвалася, яна павялічвалася і як следства ўплыву Смаленскага князя і як следства таго, што апошняе княства ўсё больш больш мацнела, як матэрыяльна так і ў ваенных адносінах, а яго князь станавіўся старэйшым князем на Русі, дастаткова паспяхова наладжваў дыпламатычныя адносіны, сам стаў першым прэтэндэнтам на Кіеўскі стол. Усё гэта ставіла Ноўгарад ва ўсё большую і большую залежнасць ад Смаленска, асабліва калі яшчэ ўспомніць геаграфічнае становішча ободвух абласьцей.

Пагэтаму не дзіўна, што пры першым жа зручным выпадку Наўгародцы адразу ж выбіраюць сабе князем самаго Расьціслава, выгнаўшы Яраслава. Смаленскі князь з'явіўся ў Ноўгарадзе, не паспеў прывесьці яго ў парадак, памірыць спрачаючыяся партыі, як павінен быў выправіцца ў Кіеў, каб заняць стол пасьля смерці брата Ізяслава. Ён аставіў сына свайго Давыда, але грамадзяне прагналі яго, верагодна, ён не змог справіцца з хваляваннямі ў горадзе. Летапіс тлумачыць прычыну непрыязні Наўгародцаў на Смаленскіх князёў тым, што "нествары ім раду, але боле раздря"[342].

Заціхшая на час барацьба партый, зноў разгрэлася. Цікава, што Мсціславічы строга прытрымліваліся адной і той жа палітыкі ў Ноўгарадзе, пачынаючы са Ўсевалада. Апошні, як вядома, быў прагнаны Наўгародцамі за тое, што "смердаў не блюдзе"; значыць, ён падтрымліваў баярства; варожая партыя, атрымаўшы перавагу, выгнала князя і парабавала дамы шмат каго з баяр. Але наступныя Мсціславічы прытрымліваліся той жа палітыкі. Калі пачалася барацьба партый у 1157 годзе пры Мсціславе Юр'явічу, то гандлёвая старана была за яго і са зброяй у руках спрабавала абараніць свайго князя. Але другая частка Ноўгараду, Сафійская, галоўным чынам прадстаўленая заможным баярствам,

---

[340] Іпат. лет., стр. 243.

[341] Іпат. лет., стр. 245, 255.

[342] Наўгародскі лет., р. 140. Наўрад ці праўдзівае ў гэтым выпадку паведамленне Цвярскога летапісу, які называе астаўленага ў Ноўгарадзе сына Расьціслава Раманам (р. 222), якога, як старэйшага, бацька астаўляў пасьля сябе ў Смаленску. Яшчэ менш праўдзівае паведамленне Ніканаўскага летапісу, які прама гаворыць, што Наўгародцы "пасадзіша Рамана", зусім не згадваючы пра прыезд самаго Расьціслава. Нікан., р. 198

быўшая за Расьціслава, зараз атрымала перавагу і узяла сыноў гэтага князя Святаслава і Давыда. Такім чынам, заняцце Расьціславам Ноўгарада ў 1154 годзе, калі ён “раздра” горад, можа быць і было няўдалым таму, што ён пачаў жорстка праследаваць супраціўную баярскую партыю. На гэты раз Расціслаў быў асцярожней. З’явіўшыся праз тры дні пасьля сыноў у горад, Расьціслаў паспеў, відавочна, памірыць партыі, прывесьці ў парадак вобласць: “і не бысць зла нічтожэ”, выказваецца летапісец[343]. Хутка Расьціслаў зноў выправіўся ў свой удзел, аставіўшы ў Ноўгарадзе Святаслава, у Таржку Давыда, для абароны ўсходніх межаў ад Юрыя. Але тут можа праглядацца і іншая, больш глубокая мэта: ці не планаваў Расьціслаў із часовага ўладання гэты горад паступова зрабіць пастаяннай часткай Смаленскай тэрыторыі, як ён зрабіў гэта з Віцебскам.

Але прымірэнне партый было не доўгім. Ўлагоджваючы баярства, Святаслаў выклікаў абурэнне чэрні. Веча паслала сказаць князю: “не можам трымаць двух князёў; выведзі свайго брата Давыда із Новага Тарга”. Святаслаў, “не верадзя ім сэрцы”, выправіў брата ў Смаленск. Але гэта была толькі падстава. Новае веча вырашыла ўзяць пад варту самаго князя. Яго папярэдзілі, але збегчы ён не паспеў. Тады Наўгародцы зачынілі яго ў бані пад ахову, жонку выправілі ў Варварынскі манастыр, дружыну перахапалі, закавалі ў ланцугі і парабавалі маёмасць. Праз некаторы нязначны прамежак часу князь быў выпраўлены пад стражай у Ладагу, адкуль ён паспеў збегчы ў Полацк, а тамашнікнязь Рогвалад праводзіў яго да Смаленска. Расціслаў, даведаўшыся пра лёс сына, выдаў загад схапіць Наўгародцаў якія былі ў Кіяві і пасадзіць іх у пограб, дзе 14 із іх памёрлі за адну ноч[344].

Між іншым, Наўгародцы звярнуліся за князем да Андрэя Юравіча.

Але праз год Расьціслаў змог дабіцца таго, што Андрэй вывеў свайго пляменіка із Ноўгарада і там зноў пасаджаны Святаслаў, але ўжо “на ўсёй яго волі”[345]. Уплыў Расціслава на Наўгародцаў пачаў памяншацца. Ды гэта і не дзіўна: залагоджваючы баярства, Расьціслаў “раздзіраў” Наўгародцаў. Безумоўна, як вялікі князь Кіеўскі, які валодаў пры гэтым і Смаленскай зямлёй, ён зараз мог у хаўрусе з Андрэем прымусіць Наўгародцаў прыняць Святаслава “на ўсёй яго волі”. Але гэтым ён не знішчаў “раздзірання”, таму што прадаўжаў трымацца той жа самай традыцыйнай палітыкі. Хутка зноў спатрэбілася асабістае ўмешванне Расьціслава ў Наўгародзкія справы. Верагодна, Святаслаў трымаўся там слаба і бацька хацеў падтрымаць яго сваім асабістым аўтарытэтам. У 1166 годзе ён выправіўся ў Ноўгарад і пазваў “на парад” агнішчан, грыдзей і купцоў[346]. Із гэтага відаць, што пералічаныя слаі насельніцтва былі незадаволены яго сынам, складалі апазіцыю, з патрабаваннямі якой патрэбна было лічыцца; між іншым, агнішчане, грыдні і купцы і складалі нізшую і сярэднюю, не шляхетную частку насельніцтва, процілеглую баярству. Характар Смаленскай палітыкі падцверджваецца яшчэ і тым, што калі ў наступным годзе Наўгародцы

[343] Наўгар., 142
[344] Іпат. лет., стр. 350. Наўгарод., 143.
[345] Наўгарод., 144.
[346] Ibid., p. 146.

выправіліся супраць Яраслава, то яны папярэдне забілі значнейшых удзельнікаў процілеглай партыі, якія здзяснялі “перавет” пасадніка Захарыя і бірыча Незду[347].

І на гэты раз паездка Расьціслава не была паспяховай. Як вядома, на адваротным шляху ў Кіеў ён памёр, а сын быў вымушаны ў наступным жа годзе пакінуць Ноўгарад, пры гэтым пачалася сур’ёзная барацьба са Смаленскімі князямі. Але да гэтага мы яшчэ вернемся.

Цяжэй высветліць якую із партый падтрымліваў Расьціслаў у Полацкай зямлі. Летапіс узгадвае толькі, што ён дапамагаў таму ці іншаму князю, а пра характар палітыкі Полацкіх князёў вядома так мала, што вызначыць накірунак палітыка Расьціслава - цяжка. Можа быць, што ён і ў гэтым выпадку прытрымліваўся тых жа самых асноў, што і ў Ноўгарадзе і вылучаў тых із князёў, якія трымаліся баярскай партыі. Як бы тое ні было, але імкненне Расьціслава ўмешвацца ў справы Полацкай зямлі хілілася да падпарадкавання сваяму ўплыву гэтай зямлі і да таго, каб карыстаючыся нямогласьцю яе князёў, адцягнуць да Смаленска частку тэрыторыі.

Нельга не звярнуць увагу на тое, што Расьціслаў, не гледзячы на ўсе поспехі свайго брата Ізяслава ў барацьбе за вялікакняжы стол, ніколі не атрымліваў ад брата новых валасьцей, гарадоў, тады як павелічэнне вобласьці было пастаянным следствам усякага поспеху ў старажытнай Русі. Думаць аб безудзячнай дапамозе Смаленскага князя няма падстаў. Але мы бачым, што ў яго барацьбу з Ноўгарадам іншыя князі ўмешваліся мала, а Ізяслаў толькі падтрымліваў. З іншага боку, Мсціславічы не ўмешваліся ў Полацкія справы Расьціслава і толькі Ольгавічы зрабілі спробу супрацьпаставіць тут свой уплыў памкненням Смаленскага князя. Пагэтаму, нам здаецца, што Расьціслаў не жадаў карыстацца пасьля поспехаў разам са сваім хаўруснікам тымі абласьцямі (паўднёвымі і валынскімі), якія больш цягнулі да Кіеўскага княжэння і якія не маглі пашырыць яго тэрытрыю, а па дамове з братам пакіраваў свае высілкі на Ноўгарад і Полацк, дзе яму ніхто не перашкаджаў.

Расьціслаў у сваіх дамаганнях на Полацк выяўляецца пераемнікам свайго бацькі Мсціслава і дзядзькі Манамаха. Але тыя імкнуліся адным націскам знішчыць гэта самастойнае ўладанне, Расьціслаў жа зразумеў, што такім дзеянні менш за ўсё надзейныя. Перамена ў поглядах на Полацк належыць не аднаму толькі Расьціславу; яе, як здаецца, падтрымліваў і яго брат Ізяслаў і, выдаўшы ў 1143 годзе сваю дачку за Рогвалада Барысавіча[348], ён пракладаў шляхі да, так сказаць, легальнага ўмяшання Мсціславічаў у справы вобласьці. Сапраўды, Рогвалад кіраваў не без падтрымкі Мсціславічаў, бо калі ён быў прагнаны ў 1151 годзе Полацкім вечам, апошняе звярнулася за падтрымкай да Святаслава Ольгавіча[349], баючыся моцных заступнікаў прагнанага князя. Святаслаў быў тады ў хаўрусе з Юр’ем і ў варожых адносінах з Мсціславічамі[350]. Праз некалькі гадоў

[347] Ibid., p. 147.

[348] Іпат. лет., стр. 224.

[349] Іпат. лет., стр. 308.

[350] Да гэтага году адносіцца наведванне Юр’ем Ноўгарад-Северскага і бліскучы прыём, які зрабіў яму Святаслаў. Іпат. лет., стр. 307.

абставіны перамяніліся. Ізяслаў Давыдавіч паспеў зацвердзіцца на Кіеўскім стале і, збіраючыся ваяваць з Юр’ем, заключыў хаўрус з Расьціславам Мсціславічам і Святаславам Ольгавічам[351]. Не без праўдападобнасьці можна выказаць думку, што Северскія князі вырашылі адступіцца ад заступніцтва Палачан. На самай справе, мы бачым, што той жа Рогвалад Барысавіч “ад Святаслава Ольгавіча” пайшоў шукаць сабе воласьці і паспеў прагнаць Расьціслава Глебавіча із Полацка[352]. Расьціслаў Мсціславіч сабраў усе войскі для дапамогі Рогваладу, выправіў сваіх сыноў Рамана і Рурыка са Смалянамі і Наўгародцамі і нават пайшоў было сам, але па дарозе архіепіскап Наўгародскі Аркадзій угаварыў яго вярнуцца[353]. Расьціслаў не толькі аднавіў Рогвалада на Полацкім стале, але і зацвердзіў яго старэйшасць над іншымі князямі вобласьці.

У наступным 1160 годзе мы зноў бачым дапаможны атрад Расьціслава ў войску Рогвалада, які хадзіў на Менск[354]. Як вядома, гэты Рогвалад дапамог Святаполку Расьціславічу пад час яго ўцёкаў з Ноўгарада.

На пры канцы свайго жыцця поспехі Расьціслава былі такімі, што яго сын Давыд валадарыў у Віцебску[355], адкуль мог падтрымліваць свой уплыў на ўсю вобласць. Ён дапамагае Ўсяславу Васількавічу супраць Валадара[356]. Такімі былі поспехі Смаленска ў Полацкай вобласьці.

Шукаючы хаўруснікаў паміж дробнымі князямі, як у Полацку, дзе ён мог быць хутчэй за ўсё заступнікам, чым роўным, Расьціслаў “цалаваў хрэст на ўсёй любові” з Разанскімі князямі, якія “імяхуць і атцэм сабе”[357]. Гэты хаўрус меў вялікае значэнне для Смаленскага князя: ён паслабляў Юрыя.

У 1167 годзе памёр Расьціслаў Мсціславіч, год яго нараджэння не вядомы, але ён памёр глыбокім старцам, таму што ўжо ў 1128 годзе хадзіў у паход і, значыць, яму было не менш чым 20 гадоў. Перад смерцю ён хадзіў у Ноўгарад, мірыў Наўгародцаў са сваім сынам Святаславам, а па дарозе завітаў у Смаленск. Смаляне памяталі свайго любімага князя і пагэтаму амаль за 300 вёрст народ выйшаў яго сустракаць, потым яму на сустрач выйшлі яго ўнукі і Смаленскі князь Раман разам з япіскапам Мануілам; сустракаць яго выйшаў амаль не ўвесь горад. Адтуль ён накіраваўся ў Тарапец; адчуваюцы сябе хворым, ён паклікаў Наўгародцаў і сына ў Лукі і тут памірыў іх. На адваротным шляху князь моцна захварэў і па прыбыццю ў Смаленск настолькі занямог, што яго сястра Рагнеда раіла застацца ў Смаленску, але князь загадаў везьці сябе ў Кіеў; ён спяшаўся туды, каб, калі яшчэ дазволіць здароўе, прыняць пастрыг у любімы манастыр. Аднак ён не дайшоў да Кіева і памёр у вёсцы Заруб[358].

Мы  не адзін раз звярталі ўвагу на рысы характару гэтага незвычайнага князя. Мы бачылі, што ён пераважна клапаціўся пра дабрабыт сваёй Смаленскай

---

351 Іпат. лет., стр. 336, 337, 341.
352 Іпат. лет., стр. 339.
353 Ibid., p.  340.
354 Ibid., p. 346.
355 Ibid., p. 359.
356 Ibid., p. 360.
357 Ibid., p. 332.
358 Ibid., p. 361-4.

зямлі; маючы на ўвазе гэта, ён часьцяком саступаў іншым, толькі б не наклікаць бяду на сваю зямлю. Ён пазбягаў такіх вайн, якія б маглі прывесьці да нашэсця непрыяцеля і спустошэння яго зямлі; дзеля гэтага ён паміраўся з Юр'ем, пакорліва знёс тое, што Ізяслаў Давыдавіч сеў на Кіеўскі стол, хаця мог і аспрэчыць гэта. Мы бачылі, што ён толькі часова саступіў і Юрыю і Ізяславу, але толькі для таго каб пазбегнуць нашэсьця на сваю краіну, а, між іншым, і аднаго і другога збіраўся скінуць чужымі рукамі. Пад час барацьбы свайго брата Ізяслава, ён выступаў з войскам са сваёй зямлі толькі тады, калі ёй не пагражала небяспека, у адваротным выпадку выпраўляўся за межы сваёй зямлі толькі для таго каб папярэдзіць нашэсце. Мы бачылі, як разумна быў разлічаны яго хаўрус з Ізяславам: ён прынёс вялікую карысць яго краіне. У той час, калі іншыя землі спусташаліся, гублялі гандлёвыя сувязі, Смаленск, знаходзячыся ў мірных адносінах з Ноўгарадам, дзе княжыў сын Расьціслава Святаслаў, а таксама з Кіевам, не зведваючы спусташэнняў, мог свабодна пашыраць свой гандаль. Нарэшце, Расьціслаў дасягнуў вялікакняскай улады так, что Смаленская зямля нічога не страціла – выпадак адзінкавы ў тагачаснай Русі.

Усе гэтыя дзеянні Расьціслава Мсціславіча прывялі да таго, што пачынаючы з яго часу Смаленскае княства станавіцца цалкам самастойным і моцным княствам і па гандлю раўняецца з Ноўгарадам. Ужо ў яго час уся Смаленская зямля прыносіла князю даход больш чым 3000 грывен; яна мела больш чым 50 гарадоў[359].

Із іншых рыс характкру Расьціслава Мсціслаўіча асабліва выдаецца яго пабожнасць; летапісец дастаткова доўга спыняецца на гэтым. Расьціслаў заўсёды планаваў пастрыгціся ў манастыры святога Феадора ў Кіяве; але яго адгаварыў яго духоўнік, святар Сямён і ігумен Палікарп. Леіапісец апавядае, што князь часта пасціўся, шанаваў манахаў і святарства. Помнікам яго пабожнасьці стала заснаванне ў Смаленску епархіі ў 1137 годзе, што мела, дарэчы, і палітычнае значэнне; першым япіскапам быў скапец Мануіл[360]. Епархіяльнай Багародзічнай царкве ён аддаў дзесяціну сваіх прыбыткаў і некалькі вёсак.

Тураўская зямля ужо к палове XII ст. пачала драбіцца і прыходзіць у заняпад. Яна цесна далучаецца да Кіева і князі дробяць яе для задавальнення патрабаванняў розных князёў. Мы ўжо бачылі, што Ўсевалад Ольгавіч, пасылаючы Вячаслава ў Пераяслаўль, прама гаварыў яму: "сядзіш у Тураве, а мне дастоіць".

Мы ўжо пазначалі значэнне, якое меў Тураў у папярэднім стагоддзі, але зараз ён яго губляў. Ужо ў 1128 годзе, пры Мсціславе, як мы бачылі, Клечаск з'яўляўся ўдзельны горадам, у якім княжыў Вячаслаў Яраславіч, які не меў іншых удзелаў[361]. Усевалад Ольгавіч ужо раздае Дрыгавічскія гарады: Бярэсцій, Рагачоў, Дарагічын, Клечаск сваім братам[362]. У 1199 годзе Юры аддае Слуцк і Клечаск

[359] Грамата Расьціслава аб стварэнні епархіі.
[360] Іпат. лет., стр. 512.
[361] Ibid., p. 210.
[362] Іпат. лет., стр. 223.

Святаславу Ольгавічу[363]. Вячаслаў у той час заставаўся ў Тураве, але цэнтрам княства быў суседні Валынскі гарадок – Перасопніца, куды Юры прыходзіў да Вячаслава[364]. Гэты апошні Валынскі гарадок пад час усобіц пачынае набываць большае значэнне, чым Тураў, князі спрабуюць перанесьці туды цэнтр зямлі. Гэта зразумела, бо Перасопніца была важным стратэгічным пунктам супраць Валынскай і Галіцкай зямель. Седзячы тут князь мог перашкодзіць князям пазначаных зямель спусташаць Тураўскую і Кіеўскую землі, назіраць за усімі перамяшчэннямі ворагаў. Вось чаму Юры аддаў Тураву-Пінскую воласць самаму смеламу і дзейнаму са сваіх сыноў Андрэю, пры гэтым апошні сеў у Перасопніцы[365]. Ольгавічы не аднойчы за апошні час кіравалі асобнымі Дрыгавічскімі гарадамі: у 1154 годзе Расьціслаў, першы раз зацвердзіўшыся ў Кіяві, аддаў Тураў і Пінск Святаславу Ўсеваладавічу[366], у 1155 годзе Юры аддаў Святаславу Ольгавічу Мазыр[367], хутка, верагодна, ім пакінуты, бо Ізяслаў Давыдавіч праз чатыры гады зноў прапаноўваў яму гэты горад[368].

Такім чынам, Тураўская зямля, меўшая ў папярэднім стагоддзі дастаткова важнае значэнне, быўшая важнейшай часткай Кіеўскай, пераходзіць да Вячаслава, старэйшага Манамахавіча і, зыходзячы з аналогі, магла б атрымаць значную, ці нават поўную самастойнасць. Але Вячаслаў не паспеў умацаваць яе; прычыну адсутнасьці поспеху часткова трэба бачыць у тым, што гэты князь не аставіў нашчадка, отчынай якога б зрабілася Тураўшчына, як землі іншых Манамахавічаў. Між іншым, Тураўшчына засталася без прамога вотчыннага нашчадка (ў старажытна-рускім сэнсе); Кіяўскія князі, як больш моцныя, але ў той жа час часовыя ўладальнікі вялікакняскіх зямель, спрабуюць не выпускаць са сваіх рук гэтую вобласць, якая выкарыстоўвалася імі для залагоджвання сваіх хаўруснікаў.

Толькі на пачатку другой палавіны XII ст. мы бачым спробы аддзяліць Тураўскую зямлю. Ініцыятар гэтага руху з'явіўся звонку і хаця, як здаецца, карыстаўся падтрымкай насельніцтва, але ён пачаў рашучыя дзеянні, калі княжыя ўсобіцы паменшыліся, калі Русь, знясіленная доўгай барацьбой, скончыла ўсе свае вялікія рахункі. Гэты рух падняў Юры Яраславіч.

Светаполк Ізяславіч, як вядома, меў чатырох сыноў (Мсціслава, Яраслава, Брачыслава і Ізяслава). Трое із іх памёрлі, не пакінуўшы нашчадкаў; месцы княжання Брачыслава і Ізяслава невядомы. Яраслаў, вядомы як актыўны памагаты бацькі ў зносінах з Вуграмі, княжыў ва Ўладзіміры на Валыні, доўга змагаўся з Манамахам за сваё княжэнне і нарэшце загінуў у гэтай барацьбе. Ён пакінуў двух сыноў – Вячаслава і Юр'я. Першага мы бачым Клецкім удзельным князем пад час паходу 1128 года Мсціслава на Полацк. Верагодна і Юры валодаў якім-небудзь нязначным удзелам падобна брату ў Прыпрыпяцці да свайго

---

[363] Ibid., p. 268.
[364] Ibid., p. 270.
[365] Ibid., p. 281.
[366] Ibid., p. 324.
[367] Ibid., p. 331.
[368] Ibid., p. 341.

з'яўлення ў Тураве. Аб ім мы ведаем толькі, што ён у 1144 годзе адружыўся з дачкой Усевалада Ольгавіча[369].

У 1158 годзе мы бачым Юр'я Яраславіча ужо ў якасьці Тураўскага князя. Як ён завалодаў Туравам - невядома. Але гэты горад не быў яго вотчынай і, верагодна, ён выкарыстаў выпадак, які склаўся у канцы княжэння Юрыя Растоўскага ў час заняцця Кіева Ізяславам Давыдавічам. На самай справе, у 1155 годзе Туравам валодаў сын Растоўскага князя Барыс[370]. Цяжка ўявіць каб Растоўскі князь, завалодаўшы Кіявам, выпусціў гэты горад са сваіх рук, як следства барацьбы ці добраахвотна. Ва ўсякім разе, Ізяслаў Давыдавіч лічыў незаконным валоданне Туравым Юр'ем Яраславічам і, жадаючы прыцягнуць на свой бок моцных Манамахавічаў, вырашыў аддаць Тураў аднаму з іх, Уладзіміру Мсціславічу. Але зараз заўважаецца цікавая з'ява ў гэтай вобласьці. Не гледзячы на тое, што Юры некалькі разоў пасылаў да Ізяслава з мірнымі прапановамі, Ізяслаў не хацеў адступаць і дабіваўся Турава і Пінска. Ён прастаяў 10 тыдняў, не паспеў узяць горад і вярнуўся, не заключыўшы мірнай дамовы[371].

Нельга не звярнуць увагу на тое, што на Тураў выправіліся самыя разнародныя элементы старажытнай Русі, рэдка быўшыя ў хаўрусе паміж сабой і выправіліся пад кіраўніцтвам Давыдавіча, не вельмі ўдала спраўляўшагася з тагачаснай палітыкай. Відавочна ў Тураўскай зямлі адбываўся нейкі асобы рух, супраць якога ішлі князі. Пагэтаму няма нічога неверагоднага, што ў гэты час быў моцны ўздым народнага духу ў Дрыгавічскай зямлі; Юры княжыў не толькі з іх згоды, але, можа быць, і па іх запрашэнню, што даказваецца тым, што гэты князь меў моцную падтрымку і ў настуныя часы – з'ява, якую мы раней не заўважаем у гэтай зямлі.

Вялікі князь, не заваяваўшы Тураў, як здаецца, паспеў забраць некаторыя ўскрайнія гарады, напрыклад Мазыр, які ён прапанаваў Святаславу[372].

З пераходам Кіеўскага стала да Расьціслава, варожыя адносіны з Туравам не скончыліся. Юры Яраславіч напаў на суседнія Валынскія землі, заваяваў Пуціўль, Выр, але, здаецца, вярнуўся з нязначным поспехам[373]. Уладзіміра-Валынскія князі Мсціслаў, Яраслаў і Яраполк Ізяславічы, Уладзімір і Яраполк Андрэявічы зноў напалі на Тураў, прастаялі пад ім паўтары тыдні, але вярнуліся без усякаха поспеху[374]; і толькі пад 1162 годам у летапісе занесена паведамленне аб тым , што Расьціслаў прымірыўся з Юр'ем[375]. Манамахавічы з гэтага часу назаўсёды прымірыліся з Юр'ем Яраславічам. Першым актам гэтага прымірэння было адружанне сына Яраслава Ізяславіча Ўсевалада з дачкой Юр'я Малфрыдай[376] у 1167 годзе.

---

[369] Іпат. лет., стр. 227.
[370] Іпат. лет., стр. 329.
[371] Іпат. лет., стр. 337-8.
[372] Іпат. лет., стр. 341.
[373] Іпат. лет., стр. 346.
[374] Іпат. лет., стр. 349.
[375] Іпат. лет., стр. 356.
[376] Іпат. лет., стр. 361.

Гэта апошняе паведамленне аб Тураўскім князі і калі ён памёр, невядома. Але мірныя адносіны з астатнімі князямі яго сыны не перарывалі. Так, мы бачым у 1168 годзе яго сына Глеба з войскам у паходзе пад Канеў разам з астатнімі князямі[377]. Праз два гады ў паходзе на Полаўцаў удзельнічае Светаполк Юр'евіч[378], у тым жа паходзе бы і яго брат Ян[379]. Святаплк браў удзел у паходзе Мсціслава Ізяславіча на Кіеў у 1171-2 годзе[380]. Падобную службовую ролю Юр'явічы маюць і ў наступныя часы, да канца стагоддзя. Летапіс не гаворыць аб іх унутранай дзеёнасьці, нават не ўзгадвае якім удзелам кожны з іх валодаў. Часам проста называюцца князямі Тураўскімі і Пінскімі. Такім чынам, гэтыя князі былі па загаду Андрэя ў складзе яго войска пры спусташэнні Кіева[381]. Князь Пінскі Яраслаў са сваім братам князем Дуброўніцкім (гарадок у поўночнай Валыні) былі ў паходзе на Полаўцаў з Рурыкам Расьціславічам у  1183 годзе[382]. Юр'явічы былі таксама ў радстве з Расьціславічамі, былі шурынамі Рурыка[383].

Мы ўжо згадвалі імёны сыноў Юр'я; гэта былі: Святаполк, Глеб, Ян, Яраслаў і Яраполк[384]. Можна пазначыць удзелы траіх із іх. Тураўскім князем быў Святаполк, ва ўсякім разе каля 1183 году: у гэтым годзе ў яго ў Тураве гасьцяваў Уладзімір Яраславіч Галіцкі, якога прагнаў бацька[385]. Святаполк памёр у 1190 годзе[386]. Яраслава летапіс называе князем Пінскім, як мы ўжо бачылі, а Глеба – Дуброўніцкім; апошні памёр у 1195 годзе[387].

Яраполк таксама меў нейдае дачыненне да Пінску; ва ўсякім разе, яго вяселле, у якім браў удзел Рурык Расьціславіч, адбывалася ў гэтым горадзе; магчыма ён кіраваў ім пасьля смерці Яраслава.

На гэтым здарэнні абрываюцца звесткі нашага летапісу аб Тураўскай вобласьці ў другой палове XII ст. Гэтыя звесткі вельмі сціплыя. Яны даюць нам толькі ўказанне на тое, што на пачатку другой паловы гэтага стагоддзя Тураўская зямля, шляхам зацятай барацьбы, паспела здабыць сабе асобную лінію князёў Юр'явічэй, нашчадкаў Ізяслава Яраславіча. Але слабая сама па сабе гэтая воласць яшчэ больш паслабляецца падзеламі на ўдзелы, хаця да яе і адышоў ад Валыні ўдзел Дуброўніцкі. Юравічы ладзяць з князямі астатняй Русі, але знаходзяцца ў падпарадкаваным становішчы да тых з іх, якія ў дадзены момант асабліва мацнеюць.

Зусім у іншым становішчы ў канцы XII ст. была Смаленская зямля. Мы ўжо гаварылі, што Расьціслаў Мсціславіч шмат чаго зрабіў для самастойнасьці свайго княства; ён замацаваў гэтую самастойнасць сваім асабістым уплывам сярод

---

[377] Іпат. лет., стр. 361.
[378] Іпат. лет., стр. 369.
[379] Іпат. лет., стр. 370.
[380] Іпат. лет., стр. 324-5.
[381] Іпат. лет., стр. 391.
[382] Іпат. лет., стр. 426.
[383] Іпат. лет., стр. 448, 466.
[384] Іпат. лет., стр. 452.
[385] Іпат. лет., стр. 428.
[386] Іпат. лет., стр. 448.
[387] Іпат. лет., стр. 466.

князёў і тым, што ён быў і памёр вялікім князем Кіеўскім; у царкоўных справах ён зрабіў Смаленск незалежным, стварыўшы кафедру; у эканамічных адносінах пры ім Смаленская зямля дасягнула значных поспехаў, таму што, як мы ўжо не аднойчы гаварылі, ён уладкаваў свае справы так, што пад час самых моцных княжых усобіц – менавіта пад час барацьбы паміж Манамахавічамі – яго княства сусім не пацярпела ні ад нашэсьця знешніх ворагаў, ні ад частых замежных паходаў. Усё гэта мела вялікае значэнне, калі прыняць да ўвагі, што іншыя землі, акрамя Суздальскай, Разанскай і часткова Галіцкай былі моцна спустошаны.

У наступнай пасьля яго сьмерці гісторыі Смаленскай зямлі, мы заўважаем вельмі цікавы факт: гэта княства не толькі не пацярпела ад падзелаў, але нават наадварот, далучыла да сябе суседнія воласьці – Віцебскую і Вышгародскую. Разумныя і разважлівыя Расьціславічы паспелі замацавацца ў іншых княжэннях; адзін толькі Раман Расьціславіч, як старэйшы, застаўся ў Смаленску, Рурык княжыў у Белгарадзе і на Валыні ў Оўручы, Давыд у Вышгарадзе, які праз гэта далучыўся да валоданняў Смаленскіх князёў, Святаслаў у Ноўгарадзе і Мсціслаў у Тарапцы.

Расьціславічы трымаюцца мудрай палітыкі свайго бацькі: неахвотна ўдзельнічаюць у міжусобных войнах, спрабуюць памірыць варагуючых князёў, па гаспадарчы кіруюць сваімі валасьцямі. Іх асабістыя адносіны да падначаленых валасьцей былі такімі, што пра кожнага з іх летапіс захаваў цёплыя словы. Яны ўвасаблямі амаль адзінкавы ў старажытнай Русі прыклад вялікай княжай сям'і ў якой ніколі не было сварак і спрэчак паміж братамі, у якой браты трымаліся дружна адзін з адным. Як следства такой палітыкі яны хутка набылі пераважаючае становішча ў справах паўднёвай і заходняй Русі: голас аднаго із братоў – быў голасам усіх Расіславічаў. Пад канец гэтага стагоддзя яны, агульнымі намаганнямі, дасягаюць таго, што становяцца валадарамі ўсяго левабярэжжа Дняпра і нават прымушаюць Ольгавічэй, старадаўніх ворагаў Манамахавічэй, прызнаць іх уладу.

Пасьля смерці Расьціслава, яго сыны праманавалі заняць Кіеўсі стол Мсціславу Ізяславічу. Аднак яны з ім доўга не ўжыліся. Справа ў тым, што яшчэ да таго як Мсціслаў сеў на Кіеўскі стол, запрашаючыя яго князі дамовіліся значна абмежаваць вялікакняжую ўладу і разабраць воласьці па свайму жаданню. Даведаўшыся пра гэта, Мсціслаў прыйшоў у Кіеў з моцным войскам хаўруснікаў, аблажыў Вышгарад і заняў Кіеў, спрабуючы, такім чынам, прымусіць Расьціславічэй заключыць з ім выгадны для сябе мір[388].

Як і трэба было чакаць у такім выпадку, паміж вялікім князем і Расьціславічамі пачаліся непаразуменні, як следства недаверу аднаго боку да другога. Гэта стала відавочным ужо на другі год вялікага княжэння. Двое баяр, Барыславічы Пятро і Нестар, незадаволеныя Мсціславам, паклёпнічалі на свайго князя перад Рурыкам і Давыдам, сцвярджаючы, што ён хацеў іх схапіць[389]. Шмат намаганняў спатрэбілася Мсціславу, каб разбурыць іх перасцярогі, даказаць

---

[388] Іпат. лет., стр. 365 і наст.
[389] Іпат. лет., стр. 370.

паклёпнасць іх звестак. Аднак іхныя адносіны не ўладкаваліся. Адной з важнейшых падстаў былі Наўгародскія справы[390]; калі ў наступным годзе князь Суздальскі Андрэй Юр’евіч накіраваў свайго сына з войскам на Кіеў на князя Мсціслава Ізяславіча, мы бачым усіх Расьціславічэй у гэтым знакамітым паходзе. Як вядома, вынік гэтага паходу быў такі, што Кіеў упершыню быў разбураны і парабаваны. Вялікім князем Рускім стаў Андрэй Суздальскі і Кіеў з гэтага часу пачынае губляць сваё значэнне.

Князь Давыд Вышгарадскі, верагодна, быў самым зацятым непрыяцелем свайго дзядзькі Мсціслава. Яшчэ пры сваім першым уступленні на Кіеўскі стол, апошні пераважную ўвагу звярнуў на Давыда і толькі тады сеў у Кіеў, калі ўціхамірыў гэтага князя; ён яшчэ раз спрабаваў вярнуцца ў Кіеў у 1172 годзе і, пры гэтым, зноў паспяшаўся аблажыць гэтага князя ў Вышгарадзе, аднак хаўруснікі пакінулі Мсціслава не дачакаўшыся сканчэння аблогі і ён быў вымушаны адысьці[391].

Пасьля таго як Кіеў быў узяты, абставіны на Русі змяніліся. Вялікім князем стаў Андрэй Юр’евіч; гэты князь вядомы сваёй пыхлівасьцю і непрыступнасцю не толькі ў адносінах да баяр, але і да князёў. Ён пачаў кіраваць князямі на Русі з небывалай ганарыстасьцю. Паўставаць не было каму. Князі паасобку былі слабыя, а скласьці хаўрус не атрымалася. Моцнымі былі адны Расьціславічы, але з імі Андрэй ладзіў, абараняў іх інтарэсы і яны былі яго вернымі хаўруснікамі. Так, калі Наўгародцы паўсталі супраць Расьціслава Святаславіча, ён гэтаму працівіўся[392], хаця грамадзяне ўсётакі абралі Рамана, сына Мсціслава Ізяславіча. Святаслаў памёр на Волаку, у вайне з Наўгародцамі, і быў пахаваны ў Смаленску. Нарэшце Андрэй пасылае свайго сына Мсціслава, разам з Рурыкам і Мсціславам, ваяваць Наўгародскую вобласць, каб прагнаць адтуль Рамана. Але апошні, даведаўшыся пра сьмерць свайго бацькі, сам пакінуў Ноўгарад. Тады Андрэй аддаў яго Рурыку, які, выпраўляючыся туды, перадаў сваю зямлю брату Давыду[393]. Дарэчы, Рурык хутка зышоў аддтуль.

Пасьля смерці Кіеўскага князя Глеба, брата Андрэя, апошні перадаў Кіеў Расьціславу Раманавічу, выправіў сказаць братам: “Вы назвалі мяне бацькай, я хачу вам дабра і даю вашаму брату Раману Кіеў”. Выпраўляючыся, Раман пакінуў на княжанні ў Смаленску свайго сына Яраполка[394]. Аднак добрыя адносіны доўжыліся не доўга; князь Андрэй хутка выказаў сваю пыхлівасць і патрабавальнасць. Ён запатрабаваў ад Расціславічэй выдачы трох баяр, на якіх падава абвінавачванне ў атраўленні яго брата Глеба, Расьціславічы адмовіліся і пусцілі баяр ад сябе. Тады Андрэй паслаў небывалы да гэтага часу загад Раману: “Ты не ходзіш у маёй волі з тваімі братамі, дык ідзі з Кіява, Давыд няхай ідзе з Вышгараду; Мсціслаў з Белгараду; вам Смаленск – дзяліцесь ім”. Няма чаго і гаварыць, што Расьціславічы пакрыўдзіліся на такі ганарысты загад. Раман, не

[390] Іпат. лет., стр. 372.
[391] Іпат. лет., стр. 375.
[392] Наўгарод., р. 147.
[393] Іпат. лет., стр. 375.
[394] Іпат. лет., стр. 387.

жадаючы заставацца ў Кіяві, які ўжо не мог даць дастатковай абароны, пайшоў у Смаленск. Аднак браты не разгубіліся. Яны даслалі сказаць князю Андрэю: “Брат! Мы сапраўды назвалі цябе бацькам і хрэст табе цалавалі, а зараз ты вывеў нашага брата із Кіева і нам паказваеш дарогу із рускай зямлі без віны, то няхай будзе з намі Бог і хросная моц”. Андрэй нічога не адказаў на гэтую прамову. Расціславічы зразумелі, што трэба чакаць сур’ёзнай вайны; яны пачалі яе пешымі (1177 год). Выпадкова наехаўшы на Кіеў яны захапілі  Ўсевалада Юр’явіча, брата Андрэя, і яго пляменіка Яраполка і ўсіх баяр; гэтыя князі занімалі Кіеў па загаду Андрэя. Акрамя таго Расьціславічы хадзілі на брата Андрэя Міхайла да Торчаска.

Андрэй, перш чым адважыцца на вайну, паслаў баярына Міхна сказаць Расціславічам: “Не жадаеце быць у маёй волі, ты Рурык ідзі ў Смаленск да брата ў сваю вотчыну. Давыду скажы, - гаварыў ён баярыну, - ты ідзі ў Берладзь (да сцепнякоў), а ў рускай зямлі загадваю табе не быць; Мсціславу скажы: усё заключаецца ў табе, загадваю табе не быць у рускай зямлі”. Калі пасланнік прыбыў да Мсціслава з такім зваротам, то ён загадаў пастрыгці яму бараду і валоссе ў сваёй прысутнасьці. “Ідзі да свайго князя – сказаў пасланніку Мсціслаў, - і скажы яму: да гэтай пары мы лічылі цябе бацькам, але калі ты з такім зваротам прыслаў да мяне не як да князя, а як да падручнага ці да простага чалавека, то рабі што хочаш”[395].

Да гэтай пары Андрэй марудзіў, мяркуючы, што Расьціславічы прыйдуць да яго з павіннай. Але зараз марудзіць было немагчыма. Ён хутка сабраў каля 50 000 вояроў паўночнага войска і выправіў іх пад кіраўніцтвам свайго сына Юр’я і ваяводы Барыса Жыдзіславіча; ён даў ім загад Давыда і Рурыка выгнаць са сваіх вотчын, а Мсціслава ўзяць у палон і прывесьці да яго.

Пад час паходу Суздальскае войска павялічылася за кошт вялікай колькасьці хаўруснікаў: да іх далучыліся ўсе Северскія князі на чале са Светаславам Усеваладавічам, князі Полацкія, Тураўскія і Гарадзенскія.

Раман Расьціславіч, калі гэтае войска праходзіла каля яго зямлі, таксама быў вымушаны выслаць полк са сваім сынам на братоў; ён баяўся выказаць свой хаўрус з братамі таму, што яго зямля магла быць парабавана.

Пры набліжэнні непрыяцеля Расьціславічы пакінулі Кіеў; яны вырашылі абараняцца такім чынам, каб кожны зачыніўся ў сваім горадзе: Рурык у Белгарадзе, Мсціслаў з Давыдавым палком у Вышгарадзе, сам Давыд пасьпяшаўся ў Галіч прасіць дапамогі, што і здзейсніў. Хаўруснікі, перш за ўсё, захапілі Кіеў і частку малодшай дружыны выправілі пад Вышгарад. У першы ж дзень Мсціслаў даў ім бойку, якая нічога не вырашыла. На другі дзень прыйшлі ўсе палкі і пачалася аблога. Пад час аблогі часта здараліся жорсткія сутычкі, ад якіх абложаныя моцна цярпелі. Так прайшло каля 9 тыдняў, калі на Расьціславічаў прыйшоў яшчэ князь Луцкі Яраслаў з Валынскай дружынай. Ён дамагаўся старшынства паміж Ольгавічамі і жадаў патым заняць Кіеў. Але калі яму ў гэтым адмовілі, ён перайшоў на бок Расціславічэй і, павярнуўшы свае палкі, выправіўся на Белгарад. Хаўруснікі, бачучы гэта адступленне і лічачы, што

[395] Іпат. лет., стр. 388, 390.

Яраслаў за іх спінамі аб’яднаецца з Галічанамі і Рурыкам, кінуліся бегчы із пад Вышгараду. Пад час бегства іх шмат утапілася ў Дняпры і загінула ад пераследавання Мсціслава[396].

Такім чынам Расьціславічы выйшлі з вельмі небяспечнага становішча. Гэта здарэнне мела вельмі вялікае значэнне для тагачаснай Русі: яно вызваліла паўднёвую Русь ад ганарыстых дамаганняў Суздальскіх князёў. Патрэбна заўважыць, што ў гэты час амбіцыйны князь Андрэй імкнуўся падпарадкаваць усіх рускіх князёў; ён ужо даўно адышоў ад старажытнага звычаю рускіх князёў: ён не дапускаў да ўдзелу ў справах нікога з баяраў і дружыны і абыходзіўся з імі вельмі жорстка. Ён не толькі праганяў пярэчыўшых яму баяраў, але асьмеліўся прагнаць нават япіскапа Лявона. Князь Андрэй Юр’евіч імкнуўся да неабмежаванай ўлады і над князямі. Тагачасныя князі не мелі дастатковых сродкаў працівіцца; яны былі вельмі слабыя, іх валоданні былі невялікімі і парабаванымі, у саміх не хапала смеласьці; зладзіць хаўрус супраць Андрэя слабы князь не меў магчымасьці, усякі хаўрус баяўся паразы. Мы бачылі, што пасьля разрыву Расьціславічы засталіся адны, без хаўруснікаў, нават брат Раман быў вымушаны выправіць свай полк; а, між іншым, за Андрэем пайшлі ўсі князі. У папярэднія часы значны голас меў Кіеў і яго веча, але пасьля спусташэння, якое мела вялікае значэнне для павелічэння ўлады Андрэя, яго значэнне вельмі знізілася; Кіеўскі стол робіцца толькі ганаровым і даецца князям ці Андрэем ці Расьціславічамі. Само Кіеўскае княства згубіла ўсякае значэнне; яно было падзелена на дробныя часткі: на Вышгарад, Белгарад, Дрыгавічы, Трыполь і інш., якія былі перадавымі ўмацаваннямі Кіеўскага княства. Калі прыняць да ўвагі становішча тачаснай Русі, то перамога Расьціславічэй над Суздальскім князем мела значэнне вызвалення Русі ад яго ўлады. Яна таксама мела ўплыў на забойства князя, якое адбылося ў наступным 1175 годзе. Што да Расчіславічэй, то яны пасьля ўцёку суздальцаў, зноў занялі свае воласьці, аддаўшы Кіеў Яраславу Луцкаму. Яны, верагодна у гэтым жа годзе, памірыліся з Андрэем і нават прасілі яго аддаць Кіеў Раману[397].

У год забойства Андрэя Суздальскага, Раман захапіў Кіеў, аставіўшы ў Смаленску свайго сына Яраслава; малады князь не доўга трымаўся на бацькоўскім стале; не вядома з якой нагоды ён не спадабаўся Смальнянам, але веча прагнала яго ў гэтым жа годзе, запрасіўшы яго дзядзьку Мсціслава[398].

Раман таксама не доўга сядзеў у Кіяві. Паміж Расьціславічамі і Святаславам Усеваладавічам Чарнігаўскім адбылася сутычка, пад час якой Святаслаў хаця і збег перад бойкай, але Расьціславічы, не жадаючы, як заўважае

[396] Іпат. лет., стр. 391-2.

[397] Іпат. лет., стр. 394.

[398] Іпат. лет., стр. 406,407. У гэтым летапісе паведамленне аб заняцці Кіева Раманам пазначана пад канец 1175 году, пасьля паведамлення аб выгнанні Яраполка і прызванні Мсціслава ў Смаленск. Відавочна, што Раман раней пакінуў Смаленск, а потым жыхары прагналі яго сына. Непаслядоўнасць паведамленняў адбылася, верагодна, ад таго, што складальнік браў адно із паведамленняў з іншай крыніцы, напрыклад, паведамленне пра выгнанне із мясцовага Смаленскага летапісу.

летапісец, губіць Рускую зямлю і праліваць хрысціянскую кроў, аддалі Кіеў Святаславу; Раман вярнуўся ў Смаленск (1177 год)[399].

Хутка пасьля апісанных падзей у Смаленску памёр (1180 год) старэйшы із Расьціславічэй Раман, адружаны з 1148 году з дачкой князя Святаслава Ольгавіча[400]. Гэта быў чалавек дужы чалавек з прыгожым тварам; Смаляне шчыра сумавалі па свайму князю, які вызначаўся дабрынёй і незлабівасьцю. Вольнае Смаленскае веча не аднойчы рабіла яму непрыемнасьці; аднойчы нават прагнала, у яго адсутнасць, яго сына Яраполка, але ён пакорліва праносіў крыўды грамадзян. Ён вылучаўся сваёй падатлівасьцю, якая часам нават перашкаджала справе; не гледзячы на тое, што ён, як старэйшы із нашчадкаў Манамаха, мог бы валадарыць у Кіяві, ён не дабіваўся гэтага стала; сам зыходзіў із Кіева, калі бачыў, што яго ўпартасць можа выклікаць знішчальную вайну. Ён, наогул, не вылучаўся ваяўнічасьцю, але адрозніваўся сваёй пабожнасьцю: так, напрыклад, ён пабудаваў у Смаленску каменную царкву Святога Яна[401]; Тацішчаў нават перадае паведамленне, што Раман асабліва прыкладаў намаганні дзеля пашырэння адукацыі, адчыняў вучэльні і інш.[402] Так яго характарэзуюць летапісы.

Смерць Рамана супала з пачаткам барацьбы застаўшыхся Расціславічэй Рурыка і Давыда з Святаславам  Усеваладавічам. Святаслаў, які тады княжыў у Кіяві, выравіўся супраць Суздальскага князя Ўсевалада Юр'евіча за тое, што апошні ўзяў у палон яго сына Глеба. Але ведаючы, што Расьціславічы, у асаблівасьці яшчэ здаўна варожы да яго Давыд Вышгарадзкі, скарыстаюцца гэтай нагодай, каб напасьці на яго, вырашыў папярэдне захапіць Давыда, а Рурыка прагнаць. Для гэтага ён выбраў час, калі Давыд быў з княгіняй і невялікай колькасьцю дружыны на паляванні на беразе Дняпра. Ён таксама быў у гэты час на паляванні. Святаслаў спачатку задумаў напад на стаянку Давыда і яго паланенне. Ён здзейсніў напад на нічога не чакаўшага Давыда, але апошні з жонкай збег у лодцы ў Белгарад, да брата Рурыка. Святаслаў, між іншым, шукаў яго каля Вышгараду. Апошні не адважыўся заставацца далей ў Кіяві і пайшоў у Чарнігаў, каб згуртаваць і прыгатаваць сваіх братоў і родзічэй да маючай адбыцца вайны. Між іншым, Рурык захапіў Кіеў, а Давыд пасьпяшаўся да брата Рамана, дзе чакалі нападу. Па дарозе яго сустрэлі пасланнікі із Смаленску з сумнай весткай пра смерць брата; Давыд пасьпяшаўся і заняў Смаленскі стол (1180 год), аставіўшы ў Вышгарадзе сына Мсціслава[403].

Святаслаў, між іншым, спачатку выправіўся на Суздаль, аставіўшы ў Чарнігаве князёў Яраслава і Ігара. Гэтыя князі адважыліся напасьці на Друцк, дзе княжыў Глеб, сын вядомага нам Рогвалада Барысавіча. Верагодна Друцк знаходзіўся ў той час пад заступніцтвам Смаленскіх князёў. Пагэтаму Давыд са сваім палком пасьпяшаўся да Друцку і зачыніліўся ў горадзе разам з Глебам.

---

[399] Іпат. лет., стр. 409.

[400] Іпат. лет., стр. 258.

[401] Іпат. лет., стр. 417-418.

[402] Гісторыя Расійскай Дзяржавы, т. III, p. 238.

[403] Іпат., p. 416-417.

У гэты час да Яраслава і Ігара далучыліся Полацкія князі: два браты Васількавічы, Брачыслаў Віцебскі і  Ўсевалад Полацкі, Усяслаў Мікуліч Лагожскі, акрамя таго Андрэй Валодшыч, пляменік яго Ізяслаў і Васілька Брачыславіч; Брачыслаў і Ўсяслаў прывялі з сабой натоўпы Ліваў і Літвы. Такім чынам мы бачым, што амаль уся Полацкая зямля выправілася на Друцкага і Смаленскага князёў.

Давыд і Глеб, як толькі хаўруснае войска падыйшло да горада, вырашылі неадкладна даць змаганне Яраславу і Ігару; але тыя чакалі Святаслава з галоўным войскам і таму пазбягалі змагання. Яны спыніліся на нязручным для нападу беразе Друці. Рэчка раздзяляла войскі. Калі-нікалі адбываліся дробныя сутычкі капеўшчыкаў і стралкоў, якія выязджалі на раку. Так прайшоў тыдзень, калі, нарэшце, прыйшоў Святаслаў з Наўгародскім апалчэннем. Ён загадаў неадкладна пераходзіць Друць. Але Давыд зразумеў, што ў яго недастаткова войска для змагання і ноччу збег у Смаленск. Тады Святаслаў пайшоў на горад, але не змог яго ўзяць, толькі папаліў перадавыя ўмацаванні. Пасьля гэтага ён адпусціў Наўгародцаў, а сам сухім шляхам накіраваўся да Рагачова, адкуль на лодках выправіўся ў Кіеў. Рурык, між іншым, даведаўшыся пра адсутнасць поспеху ў брата, перайшоў у Белгарад[404].

Хаця Рурык змог перамагчы войска Святаслава, але ён не пажадаў заняць Кіеў. Як кажа летапіс, ён не ўзганарыўся перамогай але “палюбіў мір больш чым вайну; меў жаданне жыць у браталюбстве, ў асаблівасьці дзеля хрысьціян, кроў якіх пралівалася пад час ўсобіц; ён, параіўшыся са сваімі мужамі, аддаў старшынство Святаславу, а сабе ўзяў усю Рускую зямлю”[405]. Аднак у гэтым праглядаецца дастаткова дальнабачная палітыка Расьціславічэй. Яны аддалі Святаславу толькі Кіеў, а самі завалодалі большай часткай тагачаснай Русі, так што пад іх уладай былі нават бліжэйшыя да Кіева гарады: Вышгарад, Белгарад і Оўруч. Такім чынам, на самай справе, яны былі мацней за Святаслава. Між іншым, калі б яны не аддалі Кіеў, то вайна магла б быць небяспечнай для іх, у хаўрусе са Святаславам была ўся Северская зямля і Полацкая.

З гэтага часу (1180 год) барацьба паміж Расьціславічамі і Святаславам спыняецца  да самой смерці апошняга (1195 год). Русь накіроўвае свае намаганні на барацьбу з сцепнякамі Полаўцамі. Гэтую барацьбу прыйшлося весьці пераважна Рурыку, валоданні якога часцей за ўсё цярпелі ад іх нападаў. Значныя паходы здзяйсняюцца вялікім, як з гэтага часу называе яго летапіс, князем Рурыкам разам са Святаславам, пры гэтым часам ходзяць і больш паўночныя князі. Так, у паходзе 1183 году бралі ўдзел Валынскія і Тураўскія Юравічы: Пінскі Яраслаў, Глеб Дуброўніцкі і Мсціслаў Гародненскі.

Смаленскі князь Давыд рэдка і неахвотна ходзіць у паходы на Полаўцаў. Сцепнякі не маглі нападаць на яго ўладанні,ісьці да іх было дастаткова далёка і пагэтаму ён нават ухіляецца ад паходаў. Так, пад час падрыхтоўкі да аднаго з такіх паходаў (1185 год), Святаслаў паслаў зваць Давыда. Той прыйшоў са

---

[404] Іпат. лет., стр. 419.
[405] Іпат. лет., стр. 422.

Смалянамі да Дняпра і стаў каля Трыполля. Але калі спатрэбілася ісці яшчэ далей, то Смаленскія ваяры сабралі веча і не згадзіліся ісьці далей, гаворачы, што яны знясілелі, што паход у глыбіню стэпаў для іх цяжкі і не мае ніякай карысьці і вярнуліся са сваім князем на радзіму[406].

Між іншым, у 1190 годзе памёр Кіеўскі князь Святаслаў Усеваладавіч. Рурык, як старэйшы ў княжым родзе, неадкладна заняў Кіеў і даслаў адтуль паведамленне брату ў Смаленск: "Брат! Мы засталіся старэйшымі за ўсіх у Рускай зямлі, прыязджай да мяне ў Кіеў; трэба будзе падумаць пра рускую зямлю, пра братоў сваіх, племя Ўладзіміра, аб усім мы з табой параімся". У летапісе апісаны прыезд князя ў Кіеў. Давыд са Смалянамі прыехаў у Вышгарад. Рурык пазваў яго да сябе ў Кіеў на абед, пасьля абеду даў яму шмат дароў і выправіў у Вышгарад. Потым запрасіў да сябе Смаленскага князя на абед Расьціслаў, сын Рурыка, у Белгарад. Давыд пабываў і там і атрымаў дары. Давыд, у сваю чаргу, запрасіў на абед свайго брата і пляменікаў і даў ім падарункі; ён зладзіў абед для ўсіх манастыроў, пры гэтым раздаваў шмат міластыні і, нарэшце, у яго абедалі Чорныя Клабукі, сцепнякі, якія жылі на паўднёвай мяжы Русі. Тады і Кіяўляне запрасілі Давыда да сябе на пір, чым далі яму вялікі гонар.

У сваю чаргу і Давыд запрасіў на пір усіх Кіяўлян і даў ім падарункі[407]. Пасьля гэтых піраванняў браты ўзгаднілі справы Рускай зямлі і Давыд паехаў у Смаленск.

На апошняй нарадзе Расціславічэй было, верагодна, узгоднена адно вельмі важнае мерапрыемства. Мы ўжо і раней бачылі, што двое Расьціславічаў валодалі большай часткай тагачаснай Русі. Ім належалі землі на поўнач ад Вышгараду, частка Полацкіх зямель да мяжы Вялікага Ноўгараду; ды і Ноўгарад большай часткай знаходзіўся пад уладай Расьціславічэй: там сядзелі іх сыны. Рурык валадарыў над усёй паўднёвай Руссю, акрамя Кіева і большай часткай Валынскай зямлі, нарэшце, у хаўрусе з ім быў Галіч. Акрамя таго, на паўночны-захад у моцнай Суздальскай зямлі таксама сядзеў нашчадак Манамаха, Усевалад Юр'евіч. Хаця ў апошні час у Кіяві і сядзеў князь із сям'і Ольгавічэй. Але гэтая саступка была карыснай для Расьціславічэй.

Пасьля ж смерці Святаслава, Расьціславічы задумалі канчаткова пазбавіць магчымасьці Чарнігаўскіх князей валадарыць на Кіеўскім стале. Згаварыўшыся з Усеваладам, яны паслалі да старэйшага Ольгавіча Яраслава ў Чарнігаў і да ўсіх Ольгавічэй: "Цалуй нам хрэст с усімі тваімі братамі, што не будзеце дабівацца нашай айчыны Кіева і Смаленска ад нас, ад нашых дзяцей і ад усяго нашага Уладзімірава племені, як дзед наш Яраслаў падзяліў нас: а Кіеў вам не патрэбны"[408]. Гэтага дабіваўся яшчэ Ўладзімір Манамах, спрабуючы утрымаць Кіеў пад началам свайго роду. Яго нашчадкі знайшлі зараз магчымасць выканаць гэты намер. Няма чаго і гаварыць, што Ольгавічам не спадабалася такая прапанова. Аднак яны, саступаючы перад магутнасьцю, згадзіліся

---

406 Іпат. лет., стр. 436.
407 Іпат. лет., стр. 458.
408 Іпат. лет., стр. 462.

падтрымліваць такі падзел зямель толькі да смерці жывых членаў сям’і, не адказваючы за будучыню. Пачаліся спрэчкі, перамовы, самым упартым змагаром за адхіленне Ольгавічаў ад Кіеўскага стала быў Давыд, яго падтрымліваў Усевалад. Ольгавічы пачалі мірыцца не з усімі разам, а па асобку. Перш за ўсіх саступіў Рурык, які абяцаў яшчэ памірыць брата з Ольгавічамі. Рурык аддаў Яраславу Чарнігаўскаму Віцебск. Між іншым, Ольгавічы цалавалі хрэст таксама на тым, што яны не пачнуць вайну, пакуль стан рэчаў не высветліцца, пакуль пасланцы не з’ездзяць да Давыда і Ўсевалада.

Але Яраслаў Чарнігаўскі парушыў апошнюю ўмову, выкарыстаўшы першы ж зручны момант. Гэты выпадак выпаў, калі Рурык, паверыўшы хроснаму цалаванню, распусціў войска і паехаў із Кіява ў Оўруч, па сваіх справах.

Яраслаў Усеваладавіч паслаў сваіх пляменікаў заняць Віцебск, хаця Давыд яшчэ не быў апавешчаны пра гэта. Па дарозе Ольгавічы напалі на Смаленскія землі і пачалі ваяваць. Даведаўшыся пра гэта, Давыд накіраваў супраць Ольгавічэй свайго пляменіка Мсціслава Раманавіча і Разанскіх княжычэй Расьціслава Ўладзіміравіча і свайго зяця Глеба, са Смаленскім палком. На другім тыдні вялікага пасту (1195 год) абодва войскі сустрэліся. Ольгавічы падрыхтаваліся да бойкі, прытапталі вакол сябе снег і чакалі нападу. Смаленскае войска не паспела падрыхтавацца і кінуліся на Севяран і Палачан. Патрэбна заўважыць, што Палачане зноў парвалі хаўрус з Давыдам, жадаючы вызваліцца ад залежнасьці; да іх далучыўся і Друцкі князь Барыс.

Мсціслаў з дружынай напаў на полк Алега Святаславіча, збіў сцягі, пры гэтым сын Алега быў забіты. Міхалка, тысяцкі князя Давыда, са Смалянамі напаў на дружыны Палачан, але быў адбіты; Смаляне пабеглі. Тады Палачане, пакінуўшы іх без пераследу, зайшлі ў тыл палку Мсціслава. Адбылося непаразуменне, бо Мсціслаў, не ведаючы пра ўцёкі Міхалка, пагнаўся за палком Алега; пагналіся таксама і Глеб з Расціславам. Мсціслаў, вярнуўшыся адзін на папярэдняе месца змагання, быў сустрэты Палачанамі і ўзяты імі ў палон. Іншыя князі збеглі ў Смаленск да Давыда. Між іншым, ужо збегшы Алег Святаславіч заўважыў што Палачане перамаглі і вярнуўся да іх; ён вельмі абрадаваўся, пабачыўшы палоннага Мсціслава і выпрасіў яго ў Барыса Друцкага сабе[409]. Радасная для Ольгавічэй вестка аб перамозе была накіравана да Яраслава ў Чарнігаў. Алег, паведамляючы гэта дадаў, каб ён неадкладна сабраўся і паехаў у Смаленскую зямлю; гэта ўяўлялася тым больш зручным і неабходным, што палонныя Смаляне гаварылі Алегу, нібыта браты зараз не вельмі ладзяць. Яраслаў сапраўды сабраўся і ўжо быў у дарозе, калі Рурык прыслаў яму із Оўруча хросныя граматы, абвінавачваючы яго ў невыкананні дамовы і пагражаючы паходам на Чарнігаў, калі ён пойдзе на Смаленск. Яраслаў не паехаў на Смаленск і, бачучы што яму будзе цяжка весьці барацьбу з Расьціславічамі, пачаў усю віну звальваць на Давыда, быццам той дапамог Віцебскаму князю, свайму зяцю. Аднак спрэчка не ўладжвалась. Рурык зваў Усевалада здзейсніць напад на Чарнігаўскага князя; той згадзіўся. Потым Яраслаў прапанаваў выдаць Мсціслава

[409] Іпат. лет., стр. 464-465.

Раманавіча, але ўсётакі князі не памірыліся. Між іншым новы хаўруснік Ольгавічэй Раман Уладзіміравіч напаў на землі Давыда, а апошні, аб'яднаўшыся з Усеваладам Суздальскім, напаў на вобласць Вяцічаў, якія належалі Яраславу, і пачалі яе паліць і рабаваць. Яраслаў пасяшаўся на дапамогу Вяцічам і там пачаў перамовы з Усеваладам і Давыдам. Пасьля доўгіх перамоваў князі памірыліся, хаця Давыд настойваў на працягу вайны; Ольгавічы цалавалі хрэст на тым, што яны не будуць дамагацца пад Рурыкам Кіева, а пад Давыдам Смаленску[410]. Такім чынам, спроба нашчадкаў Манамаха цалкам адхіліць Ольгавічэй ад Кіеўскага стала не здзейснілася.

У наступным годзе 23 красавіка (1197 года) памёр Смаленскі князь Давыд Расьціславіч, ва ўзросце 60 гадоў, пракняжыўшы 18 гадоў у Смаленску. Ён быў пахаваны ў манастыры Барыса і Глеба на Смядыні, дзе сканаў, прыняўшы перад смерцю схіму. Летапіс дабаўляе пра яго, што гэта быў князь набожны; ён пабудаваў у Смаленску царкву архангела Міхаіла. Акрамя таго, мы бачым, што яму нельга адмовіць у ваяўнічасьці і дзейным характары.

Гэтыя апошнія якасьці мелі значэнне ў барацьбе з Ольгавічамі. Ён быў іх паслядоўным ворагам. Гэта барацьба ўзнікла і падтрымлівалася таму, што ён быў асабліва ўпартым прыхільнікам выключнай гегемоніі над Руссю роду Манамахавічаў. Бачучы, што прымусіць Ольгавічаў адмовіцца ад Кіява, а разам з гэтым і ад гегемоніі над Руссю на будучы час немагчыма, ён спрабаваў правесьці гэтую ідэю з дапамогай дыпламатычных перамоў, але здзейсьніц гэта ў яго не атрымалася. Ольгавічы крэпка трымаліся за свае правы на Кіеў; яны мяркавалі, што пасьля смерці сапраўднага вялікага князя Ўсевалада Суздальскага, Кіеў яшчэ можа вярнуць сабе папярэдняе значэнне для Русі. Ва ўсякім разе, нават і ў гэты час Кіеўскі князь усётакі ў сапраўднасьці меў вялікае значэнне ў справах Рускай зямлі, хаця і называў Усевалада бацькам, з. зн. старэйшым. Князь Давыд адрозніваўся цвёрдым характарам і ўладалюбствам, пры гэтым калі нікалі выказваў жортскасць; шмат якія рысы яго характару нагадваюць Андрэя Багалюбскага. Із яго дачыненняў са Смаленскім вечам мы ведаем, што ён не заўсёды ладзіў з ім. Па аднаму паведамленню летапісу, паміж ім і Смалянамі быра вялікая сварка; прысміраючы веча ён быў вельмі жорсткі: шмат хто з ганаровых грамадзян былі пакараны смерцю[411]. Абурэнне Смаленскага веча магло быць следствам як асабістых рыс характару гэтага князя, так і наступствам войн, якія ён вёў з Ольгавічамі за Кіеўскі стол. Барацьба з Ольгавічамі ў вялікай ступені, мела дынастычны характар, не маючай дачынення да інтарэсаў Смаленскай зямлі, а між іншым уцягвала Смалян у барацьбу, пад час якой яна цярпела ад паходаў і нападаў. А Смаляне, між іншым, як мы ведаем, больш прывыклі спакойна сядзець і займацца гандлем. Летапіс малюе яго чалавекам сярэдняга росту і прыгожым[412]. Давыд меў чатырох сыноў: Ізяслава, Канстанціна, і двух Мсціславаў. Такім чынам памёр апошні із Расціславічэй, якія занімалі

---

[410] Іпат., 468-470.

[411] Наўгарод,

[412] Іпат. лет., стр. 471.

Смаленскі стол. Пра лёс Рурыка, дзейнасць якога мела малое дачыненне да Смаленскай зямлі мы гаварыць не будзем; апошнія гады яго жыцця, барацьба з Раманам, пастрыжэнне ў манахі і інш. – агульнавядомы.

Зараз вернемся крыху назад і разгледзім адносіны Расціславічэй з Ноўгарадам і Полацкам. Агульныя асновы іх палітыкі - тыя самыя, што і ў іх бацькі Расьціслава.

Як толькі памёр Расьціслаў, яго сын Святаслаў, княжыўшы тады ў Ноўгарадзе, зразумеў, што заставацца яму тут далей няма ніякай магчымасьці; Наўгародцаў прымусілі прыняць яго і ён разумеў, што як толькі пераменіцца вялікі князь, грамадзяне зробяць усё магчымае, каб пазбавіцца ад нелюбімага князя. Вось чаму Святаслаў тайна паўшоў у Лукі, паслаўшы адтуль свай адказ Наўгародцам. Апошнія сабраліся, каб прагнаць яго са сваёй тэрыторыі, але ён пайшоў у Тарапец, адкуль накіраваўся на верхавіны Волгі, дзе з дапамогай дружыны Андрэя парабаваў Таржок. Яго браты ў хаўрусе з Андрэем вырашылі падтрымаць Святаслава ”сілаю месцячы ў горадзе”. Раман і Мсціслаў папалілі Лукі; перахапілі Наўгародскіх пасланнікаў, якія спрабавалі прайсьці да Мсціслава Ізяславіча ў Кіеў за князем. Нарэшце, Наўгародцы, каб поўнасьцю знясіліць партыю Святаслава, забілі значнейшых яе прадстаўнікоў: пасадніка Захарыя, Нярэвіна і Незду, уступілі ў барацьбу супраць аб’яднаных намаганняў Сздальцаў, Смалян і Палачан (верагодна тых удзелаў полацкай зямлі, якія знаходзіліся пад уплывам Смаленску), іх пасланнікі прабраліся праз заходнія Полацкія ўладанні да Кіева і ў наступным годзе Наўгародцы атрымалі князя – Рамана Мсціславіча[413].

Але кааліцыя князёў супраць Ноўгарада не знікла. Як вядома, гэта быў час барацьбы Андрэя і Расціславічэй з Мсціславам Ізяславічам і спусташэння Кіева. Гэтая барацьба мела дачыненне і да Наўгародцаў, якія былі вымушаны вытрымаць аблогу аб’яднанага войска Суздальцаў, Смальнян, Мурамцаў, Палачан і інш. “і ўся зямля проста Руская”, гаворыць Наўгародскі летапіс. Гэтая аблога скончылася для хаўруснікаў без попеху[414].

Як вядома, Кіеў быў спустошаны, Мсціслаў Ізяславіч страціў магутнасць і Наўгародцы, хаця і абаранілі яго сына, але не змаглі змагацца з дарагавізнай, якая была вынікам варажнечы з Андрэем і Расьціславічамі: яны адмовілі Раману і запрасілі Рурыка Расьціславіча. Апошні застаўся верны палітыцы бацькі і братоў; із яго загадаў відаць, што ён таксама падтрымліваў баярскую партыю: ён пазбавіў пасадніцтва Жыраслава і перадаў яго Янку, сыну таго самага Захарыя, якога Наўгародцы пакаралі смерцю за вернасць Расціславічам. Але Рурык кіраваў у Ноўгарадзе ўсяго некалькі месяцаў, адкуль ён зноў выправіўся ў 1171 годзе на Кіеўшчыну[415].

Аднак, праз нейкі час партыя Расьціславічэй зноў атрымлівае перавагу ў Ноўгарадзе і Наўгародцы звяртаюцца ў 1178 годзе да Рамана з прапановай

---

[413] Наўгарод., 146-7. “І вялікая варажнеча была на Мсціслава ад братоў” заўважае Ітацьеўскі летапіс з нагоды заняцця Ноўгарада Раманам, p. 372.

[414] Наўгарод., 149. Іпат., 382.

[415] Наўгарод., 150.

заняць стол; ён згадзіўся, але ў тым жа годзе зышоў у Смаленск і тады Наўгародцы звярнуліся да яго брата, знакамітага Мсціслава. Апошні доўга не згаджаўся, але, нарэшце, саступіў просьбам грамадзян і перакананням братоў[416]. Яго кароткачасовае княжэнне на новым стале было адзначана ўдалым паходам на Чудзь і Полацк; паход на апошніх быў спынены праз заступніцтва Рамана. Але ва ўнутраных справах і гэты князь быў верны традыцыям папярэднікаў свайго роду: пасьля яго смерці грамадзяне пазбавілі пасадніцтва Завіда Неравініча[417], сына таго Неравініча, якога Наўгародцы пакаралі смерцю за стасункі са Святаславам. Такім чынам і Мсціслаў прытлівайся той жа партыі – баярскай, як і яго папярэднікі.

У тым жа 1148 годзе Мсціслаў Расьціслвіч памёр. Паўднёвы летапіс, які наогул адносіцца з вялікай сімпатыяй да Расьціславічэй, малюе глыбокі сум Наўгародцаў з нагоды страты князя, але паўночны толькі суха паведамляе ад гэтай падзеі. Дарэчы, апавяданне паўднёвага летапісу вылучаецца рытарызмам, хаця і дастаткова праўдзівым, так як на поўдні лепш ведалі гэтага князя-дружынніка[418].

На некаторы час Ноўгарад пераходзіць у рукі Чарнігаўскіх Ольгавічэй, якія і карысталіся яго дапамогай у барацьбе з Давыдам Смаленскім, абараняўшым Друцк[419]. Але Давыд быў у хаўрусе з Усеваладам Растоўскім і Наўгародцы за хаўрус з Ольгавічамі заплацілі жорсткім спусташэннем Таржка[420]. Гэта прымусіла іх зноў звярнуцца да Расьціславічэй, менавіта да Давыда, з прапановай княжання; Смаленскі князь накіраваў туды свайго сына Мсціслава[421]. Але і гэты прадстаўнік ужо трэццяга пакалення Смаленскіх князёў прытліваўся старой палітыкі сваіх папярэднікаў, падтрымліваючы сваю баярскую партыю за кошт іншай часткі насельніцтв. Наўгародцы былі ім не задаволены, адбывалася, верагодна, барацьба партый, следствам якой было тое, што ужо ўпамянуты прыхільнік Смаленскіх князёў Завід Неравініч, зноў абраны пасаднікам, вымушаны быў сысьці з Давыдам у Смаленск[422], а яго брат Гаўрыла быў забіты разам з нейкім Вячай Свенічам[423]. Далейшым следствам барацьбы партый было тое, што ў 1187 годзе Наўгародцы "прагнаша" і самаго князя[424].

---

[416] Наўгарод., 156.Іпат., 411.

[417] Наўгарод., 156.

[418] Наўгарод., 156; вось як малюе гэтага князя Іпацьеўскі летапіс: "плакала над ім усё мноства Наўгародскае і магутныя, і худыя, і жабракі, і убогія, і чарнарызцы, бе бо міласцівы на вся нішчая; і такі разыдошася ў свае дамы. Сій жа благаверны князь Мсціслаў, сын Расьціслава, растам сярждні бе, і тварам лепы, і ўвесь пабожнасьцю ўпрыгожаны і прыстойнымі паводзінамі, і любоў меўшы да ўсіх, пача жа міластыні прыляжашэ, манастыры набдзя, чарняцы суцяша... Бе бо любезны на дружыну і маёнткі не шкадуючы і не і не збіраша злата і срэбра, але даяша дружыні сваёй... не бе бо тое зямлі на Русі, якая б яго не хацела б, не любіла б, але заўсёды бо тасняшацца на вялікя справы", p.414 .

[419] Іпат., 419-20.

[420] Наўгарод., 156.

[421] Наўгарод., 159.

[422] Наўгарод., 160.

[423] Наўгарод., 161.

[424] Наўгарод., 162.

З гэтага часу Ноўгарад пачынае ўсё больш і больш залежаць ад Суздаля, уплыў Смаленскіх князёў памяншаецца, асабліва пасьля смерці Давыда.

У адносінах да Полацку палітыка Расціславічэй імкнулася да таго, каб пашырыць і замацаваць свой уплыў на розныя ўдзелы гэтай зямлі, дапамагаючы то аднаму, то другому із князёў, а, верагодна, і распальваючы варожасць паміж імі. Давыд, які быў галоўным прадстаўніком із Смаленскіх князёў у зносінах з Полацкімі, не толькі ўтрымаў уплыў на гэтую зямлю, якога дасягнуў яго бацька, але яшчэ і пашырыў яго.

Мы ўжо бачылі, што Давыд у 1165 годзе сеў у Віцебску, у канцы XII ст. гэты князь пастаянна ўмешваецца ў справы Полацка, падтрымлівае на гэтым стале Ўсяслава Васількавіча ў процівагу астатнім князям і г. д. Пытанне аб Полацка-Смаленскіх адносінах мы, каб пазбегнуць паўтораў, астаўляем да наступнай главы.

# III.

Вернемся зараз да лёсу Полацкай зямлі.

Барацьба з Полаўцамі пад час княжання Яраполка Ўладзіміравіча, калі вярнуліся із Грэцыі Полацкія князі, наступіўшая пасьля яго сьмерці барацьба ў сям'і Манамахавічэй і іншыя важныя падзеі на паўдні і ўсходзе, амаль цалкам адцягваюць увагу нашых летапісаў ад Полацкіх падзей. Больш шматлікімі паведамленні станавяцца толькі на прыканцы XII ст., ды і то толькі на кароткі час. Вярнуўшыяся князі прытрымліваюцца ўжо цалкам іншай палітыкі, яны спрабуюць падтрымліваць сяброўскія адносіны і з Манамахавічамі і з Ольгавічамі. Так, калі не любімы Наўгародцамі Ўсевалад Мсціславіч у 1137 годзе ішоў з братам Святаполкам цераз Полацк у Ноўгарад, Васілька Полацкі "сам выяха да яго і правядзі яго з вялікім гонарам, запавядзі ж дзеля Бога забы злобу бацькі іх Мсціслава"[425]. Але ў 1140 годзе на Полацк уцякае із Ноўгараду Святаслаў Ольгавіч[426]. У сваім імкненні набыць заступнікаў у асяродзі магутных князёў, Полацкія Ўсяславічы сваячацца і з Ольгавічамі і з Манамахавічамі: у 1143 годзе Ўсевалад адружыў свайго сына з дачкой Васілька Полацкага, а Ізяслаў у тым жа годзе адружыў сваю дачку з Рогваладам Барысавічам[427]. Войска Палачан сустракаецца ў якасьці дапаможнага ў паходах вялікіх князёў; так із войска брала ўдзел у паходзе Яраполка на Чарнігаў у 1138 годзе[428], у паходзе Ізяслава на Тураў у 1157 годзе[429]. Такім чынам, Полацкія князі знаходзяцца ў падпарадкавым становішчы да вялікіх князёў; яны падпадаюць пад уплыў, як мы ўжо бачылі,

[425] Цвярскі лет., (П.З.Р.Л. т. XV), р. 199.
[426] Іпат., 220.
[427] Іпат., 229.
[428] Нікан. (П.З.Л. т. IX), р. 162.
[429] Нікан., 209.

моцных Смаленскіх князёў пры Расьціславе; гэты уплыў пры Давыдзе часова пераходзіць у дастаткова значную залежнасць.

Што да ўнутранага становішча зямлі, то з часоў вяртання Полацкіх князёў да паловы XII ст. летапісы зусім не узгадваюць пра гэты бок жыцця. У 1143 годзе летапіс называе Васількаўну дачкой Полацкага князя і Рогвалада Барысавіча таксама размяшчае ў Полацку. Пагэтаму, хто із князёў, Васілька ці Рогвалад, знаходзіліся тады на Полацкім стале – вызначыць цяжка. Верагодна, апошні замяніў першага каля гэтага часу, так як тытулаванне жонкі сына Ўсевалада Полацкай княжной не азначае, што Васілька быў жывы ў той час і кіраваў гэтым удзелам. Як бы там ні было, але ў 1151 годзе мы на Полацкім стале бачым Рогвалада Барысавіча. Палачане "яша" гэтага князя выслалі ў Менск, а выбралі Расьціслава Глебавіча. Але, разумеючы што Рогвалад мог знайсці сабе заступнікаў, яны ў той жа час наладзілі стасункі са Святаславам Ольгавічам і аддаліся пад яго заступніцтва "яко меці яго бацькам сабе і хадзіці ў яго паслушанні"[430].

Рогвалад хутка вызваліўся із пад варты ў Менску і ў 1159 годзе ўжо з'яўляецца ў Слуцку, які тады належаў Святаславу Ольгавічу і пры дапамозе гэтага апошняга, з яго войскам накіраваўся ў Друцк. Як Святаслаў із заступніка Расьціслава зрабіўся яго ворагам і аказаў дапамогу яго ворагам, мы ўжо распавялі. У Друцку ў гэты час княжыў сын Расьціслава Глеб. Пры набліжэнні Рогвалада яго партыя ў Друцку ўзяла перавагу; да Driчан далучыліся і Палачане, запрашаючы князя. Яны гаварылі яму: "князь, едзь, не марудзь, мы радыя змагацца за цябе і з дзецьмі!" Больш за 300 прыхільнікаў выехала яму насустрач, астатнія прагналі Глеба, парабавалі яго і яго дружыны маёмасць. Рогвалад зацвердзіўся ў важнейшым із удзелаў. Тады і ў самім Полацку яго прыхільнікі пачалі дзейнічаць на карысць свайго князя. Расьціслаў, між іншым, заўважыўшы хваляванні ў горадзе, сабраў грамадзян, зноў прымусіў іх цалаваць хрэст, а сам з братамі Рогваладам і Валадаром выправіўся на Друцк. Але паход не быў паспяховым, Дручане змаглі адбіцца і варагуючыя князі заключылі мір. Але мір быў не доўгі. Палачане зноў "свет зел свяшчаша"; яны накіравалі пасланцаў да Рогвалада, заахвочваючы яго ісьці на Полацк, павініліся за свой папярэдні з ім ўчынак і абяцалі выдаць яму Глебавічэй. На наступны дзень пасьля веча, грамадзяне запрасілі Расьціслава, які знаходзіўся тады ў прыгараднай вёсцы Бельчыцы, на нараду ў горад на той падставе, што маюць да яго нейкую справу. У сапраўднасьці яны хацелі арыштаваць князя. Калі апошні выправіўся і быў ужо

[430] Іпат., 308. У Васкраснскім летапісе пад 6654 годам занесена паведамленне "а Глеба ўзялі з Разані на Дручаск" (П.З.Р.Л., т. VII, р. 242). Узгаданы тут Глеб – сын Расьціслава Разанскага, прагнаны ў гэтым годзе Андрэем Багалюбскім. Затым пад 6667 годам зноў знаходзім паведамленне6 "Дручане Глеба ад сябе прагнаша, а ў сябе пасадзіша Рогвалада Барысавіча, унука князя Юр'я Даўгарукага, а Глеб ідзе зноў на Разань" (Ibid.) Гэта паведамленне змяшчаецца ва ўрыўку "Пачатак Гасудароў праваслаўных". Непаразуменне, якое тут адбылося з імёнамі князёў, зразумела: паўночны кампілятар сустрэўшы пад 6667 годам паведамленне аб выгнанні Глеба Расьціславіча Дручанамі, суаднёс гэтага Глеба з сынам вядомага яму князя Разанскага. а пад 6654 годам паведамленне аб выгнанні гэтага апошняга дапоўнім сваімі мяркаванямі, аб тым, што прагнанаму Глебу Дручане прапанавалі свой стол, а дзе жылі гэтыя Дручане, ён, без сумнення, не ведаў.

